З. Ф. САЎКА

# Правілы левапісу,

## або Што нас чакае, калі новая рэдакцыя «Правілаў беларускага правапісу і пунктуацыі» стане афіцыйным дакументам

### I. СТАТЫСТЫКА ВЕДАЕ ЎСЁ

Для пачатку пазнаёмімся з будоваю і аб'ёмам структурных частак новай рэдакцыі «Беларускага правапісу і пунктуацыі». Для больш упэўненай ідэнтыфікацыі дакумента, у прадмове да рэцэнзіі мы назвалі яго Міністэрскім праектам (далей — проста Праект). Падаецца паводле стану на 27 кастрычніка 2006 г.

Праект складаецца з двух раздзелаў:

**Раздзел I. Арфаграфія: 116 742 (знакаў з прабеламі); 49 % ад агульнага аб'ёму тэксту.**

**Раздзел II. Пунктуацыя: 121 534; 51 %.**

**Разам: 238 276.**

(Вядома ж, лепш было б *раздзелы* назваць часткамі, а *главы* — *раздзеламі*, як гэта было ў папярэдніх рэдакцыях Праекта. Зрэшты, пра мову Праекта мы пагутарым далей.)

Здавалася б, цалкам натуральна, што ў дакуменце, у назве якога ў якасці роўнаўзроўневых называюцца і арфаграфія, і пунктуацыя, — гэтыя дзве складовыя часткі і мусяць быць калі не роўнымі па аб'ёме, то хоць бы супастаўляльнымі. Аднак калі ўлічыць, што (1) арфаграфія патрабуе прынамсі сур'ёзнай карэкцыі (у 1992 г., адказваючы на анкету газеты «Наша слова», 87,8 % рэспандэнтаў адзначылі, што іх не задавальняе сучасны стан беларускага правапісу), а пунктуацыя, хоць і складаная, аднак, збольшага задавальняе карыстальнікаў; (2) у арфаграфічнай частцы прапаноўваюцца заўважныя змены, а ў пунктуацыйнай ніякіх змен не прадугледжваецца, — раздзел «Арфаграфія» мусіў бы быць значна большы, а раздзела «Пунктуацыя» магло б і не быць увогуле.

Прынятыя скароты: **БелСЭ** — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—12. Мн., 1969—1975; **БелЭн** — Беларуская энцыклапедыя. Т. 1—18. Мн., 1996—2004; **СБМ** — Слоўнік беларускай мовы / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Пад рэд М. В. Бірылы. Мн., 1987; **СІС** — А. М. Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў / БелЭн. Т. 1—2. Мн., 1999.

Адным з довадаў на карысць перавыдання «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» быў наступны:

> Книга, изданная в 1959 году, уже давно стала библиографической редкостью и почти недоступна для пользователей[1].

Магчыма, міністр не ведае, што: за мінулае пяцідзесяцігоддзе выйшлі сотні падручнікаў і дапаможнікаў, якія не горш (а часам і лепш) за Звод-1959 дапамагаюць засвоіць правілы пастаноўкі знакаў прыпынку; нават у невялікай перыферыйнай кнігарні вы знойдзеце некалькі кніжак адпаведнай тэматыкі, выдадзеных камерцыйнымі выдавецтвамі. Зрэшты, да раздзела «Пунктуацыя» мы вернемся ніжэй. А цяпер — аб правапісе.

## Структура раздзела «Арфаграфія»

**Глава 1. Правапіс галосных: 13 981 (знакаў з прабеламі).**
**Глава 2. Правапіс зычных: 14 472.**
**Глава 3. Правапіс мяккага знака і апострафа: 5 318.**
**Глава 4. Правапіс абрэвіятур: 5 229.**
**Глава 5. Правапіс некаторых марфем: 22 269.**
**Глава 6. Правапіс вялікай і малой літар: 25 985.**
**Глава 7. Правілы напісання разам, праз злучок і асобна: 27 105.**
**Глава 8. Правілы пераносу: 2 411.**




**Тлумачэнні да дыяграмы**

**Група «Якасць літар»** — наша назва для *глаў* 1—5 «Правапіс галосных», «Правапіс зычных», «Правапіс мяккага знака і апострафа», «Правапіс абрэвіятур», «Правапіс некаторых марфем» (разам: 61 269 знакаў з прабеламі).
**Група «Рэгістр літар»** — наша назва для *главы* 6 «Правапіс вялікай і малой літар».

[1] А. Радзькоў. БелТА. 2006. 30 жніўня.

Найперш звяртаюць на сябе ўвагу наступныя моманты:
1) наяўнасць не традыцыйнай для падобнай літаратуры структурнай часткі «Правапіс марфем», які, да таго ж, аб'ёмам значна перавышае любую з *глаў* групы «Якасць літар»;
2) правапіс раздзяляльных сродкаў вылучаны ў асобную *главу*, хоць звычайна матэрыял адпаведнага зместу падаецца ў частцы «Правапіс зычных»;
3) гіпертрафія *главы* 6 «Правапіс вялікай і малой літар»;
4) *главы* 5—7 значна аб'ёмнейшыя за 1—4.

Аналізуючы Праект, будзем рухацца не лінейна — ад *главы* да *главы*, а ад самага балючага.

# II. ТАТАЛЬНАЕ АКАННЕ

## II.1. Страчаныя сімвалы

Аканне ў спалучэнні **-іо**

*Мы предлагаем распространить закон аканья на все слова: «трыа», «адажыа», «Токіа».*

Виктор Ивченков[2]

### Сутнасць праблемы

Адзначым адразу, дарма В. Іўчанкаў накрэсліў гэтыя словы на сцягу Праекта, зрабіўшы іх сімвалам зменаў, бо:

a) большасць беларусаў нават не ведае, што абазначаюць згаданыя лексемы, гэта абсалютная моўная перыферыя: слоў *тры**о***, *адажы**о***, а пагатоў *Токі**о*** (менавіта праз **о** яны замацаваныя ў цяперашнім правапісе) няма ні ў водным выпуску «Частотнага слоўніка беларускай мовы»[3], гэта значыць ні ў адным стылі яны не ўваходзяць у першыя 20 тысяч (прыкладна столькі лексем трапіла ў кожны з выпускаў) найбольш ужывальных слоў;
b) гэткім чынам аўтары Праекта не столькі супакоілі публіку мізэрнасцю змен, колькі насцеражылі: «Няўжо дзеля нейкага *адажыа* ўсё гэта і прыдумана?! Відаць, там хаваецца нешта яшчэ» (аказалася, што сапраўды хаваецца, але не так шмат, як можна было б меркаваць);
c) правапіс гэтых слоў не рэгулюецца асобнай арфаграмай, а самі яны прыводзяцца ў тэксце параграфа 2 «Літары *о*, *ё*», хоць у словах *тры**а*** і *адажы**а*** няма ні **о**, ні **ё**; больш адпаведным месцам для фармулявання правапісу гэтых лексем было б асоб-

[2] Комсомольская правда в Белоруссии. 2006. 29 жніўня.
[3] Н. С. Мажэйка, А. Я. Супрун. Частотны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1976—1992.

нае правіла пра передачу спалучэнняў «**і + галосны**» (у тым ліку, **іо**) у запазычаннях;

d) гэта ці не самая спрэчная прапанова Праекта;

с) не ўпэўненыя ў сваім рашэнні, аўтары Праекта... прыбралі два з трох слоў-сімвалаў з апошняга, «восеньскага» варыянта Праекта (у «летнім» варыянце яны яшчэ былі). А нацыя ўжо паспела начуцца пра тое, што цяпер *трыо* і *адажыо*, а будзе *трыа* і *адажыа*; пра гэта абвясціў у адмысловым рэпартажы на ўсю Расію («А чиво, пусть знают!») канал НТВ.

Два музычныя тэрміны мусілі сімвалізаваць цяперашнюю складанасць і меркаваную простасць правапісу. Аднак заданні з названымі лексемамі рэдка калі трапляюцца ў тэстах; з іншага боку, яны прапісаны ў кожным даведніку для абітурыентаў, тым больш што яны ўваходзяць у колькасна невялікую, аднак выразна прапісаную ў правілах групу назоўнікаў на **-іо**. Такім чынам, «абвінавачанне» названым тэрмінам у тым, што выключнасць менавіта іх графічнага асваення замінае карыстальнікам мовы быць пісьменнымі, зусім беспадстаўнае.

## Гісторыя праблемы

У актуальным правапісе іншамоўнае канцавое **-іо** асвойваецца мінімальна:

**Пастанова №249 ад 11 мая 1957 г.:** І. а) Ненаціскное **о** перадаваць праз **а** незалежна ад паходжання слова... Выключэнне: пасля галосных канцавое ненаціскное о захоўваецца: *ада́жы**о***, *капры́чы**о***, *сальфе́джы**о***, *тры́**о***; *Анто́ні**о***, *Ма́**о***, *Ца́**о***, *Ся́**о***; *Анта́ры**о***, *Більба́**о***, *Мінда-на́**о***, *Цында́**о***, *То́кі**о***; але: *рады**ё***.

(Усе вылучэнні тлустым і падкрэсліваннем тут і далей — нашы. — **З. С.**)

Сітуацыя, пры якой **-іо** ў сярэдзіне і на канцы слова асвойвалася па-рознаму, не задавальняла Правапісную камісію ТБМ, якая рэкамендавала наступнае рашэнне:

**Камісія ТБМ:** Перадаваць іншамоўныя спалучэнні галосных, першым з якіх з'яўляецца *і* або *ы*, пры дапамозе ўстаўкі *j* (на пісьме абазначаецца праз ётавыя літары *е*, *ё*, *ю*, *я*): *адажы**ё***, *тры**ё***, *імпрэсары**ё***, *Ры**ё***, *Антоні**ё***, *Токі**ё***, *Сільві**ё***, *тры**ю**мф*, *рады**ю**с*, *кансілі**ю**м*, *прэзіды**ю**м*.

Як бачым, гэтаму правілу прапаноўвалася падпарадкаваць не толькі спалучэнне **іо**, але таксама **іu** (праўда, у высновах Дзяржкамісіі ды ў праекце Падлужнага **іu** з правіла вывелі):

**Дзяржкамісія:** На канцы запазычаных слоў пісаць **іё**, **ыё**, а не **іо**, **ыо**: *тры**ё***, *рады**ё***, *рацы**ё***, *сальфеджы**ё***, *Антоні**ё***, *Сільві**ё***, *Ры**ё**-дэ-Жанейра*.

**Праект Падлужнага:** Спалучэнні галосных *іо* пад націскам і *іа* не пад націскам перадаюцца як *іё* (*ыё*), *іё* (*ыя*): *рады**ё***, *тры**ё***, *адажы**ё***, *Токі**ё***, *Ры**ё**-дэ-Жанэйра*; *біёлаг*, *сацыёлаг*, *трыёд*, *шпіён*, *іён*; *біялогія*, *сацыялогія*, *трыяда*, *шпіянаж*, *аўды**я**візуальны*, *вары**я**скапічны*, *вары**я**фільм*. У некаторых словах *іо* (*іа*) захоўваюцца, калі з *іё* слова гучыць немілагучна (*дыоптрыя*, *эфіоп, ніобіевы*)...

Аднак аўтары Міністэрскага праекта адкінулі нават тое, што ўтрымлівалася ў праекце Падлужнага, і прапанавалі самае, на нашу думку, няўдалае рашэнне:

**Міністэрскі праект («летні» варыянт):** § 1. Літара *о* пішацца толькі пад націскам: *год*, *кот*, *скрозь*, *шоўк*, *ко́лас*, *мо́ва*, *до́ўга*, *по́суд*, *аро́л*, *шо́лах*, *плячо́*, *даро́га*, *разго́ртваць*, *дапамо́га*, *дадатко́ва*, *жніво́*, *дэпо́*, *во́дар*, *о́канне*; *о́да*, *о́птам*, *о́рдэн*, *о́фіс*, *о́пера*, *Об*, *Одар*, *Орша*, *Омск*, *Обнінск*, *Осла*, *Оксфард*, *Орск*, *адажы**а***, *тры**а***, *Токі**а***, *Ватэрло**а**...*
§ 3. Спалучэнні галосных *іо* пад націскам і *іа* не пад націскам у сярэдзіне слоў іншамоўнага паходжання перадаюцца як *іё (ыё), ія (ыя): біяло́гія, сацыяло́гія, шпіяна́ж, аўдыявізуа́льны, варыяскапі́чны, варыяфі́льм, ме́дыя,* а таксама *рады**ё**.* Але: *эфіо́п, ніо́бій, ніо́біевы, дыо́птрыя....*

У апошнім, «восеньскім» варыянце *адажы**а*** і *тры**а*** з ілюстрацый зняты, а замест іх з’явілася яшчэ менш зразумелае *партфолі**а*** (у «восеньскім» варыянце гэта § 2.1). Дарэчы, тая лёгкасць, з якою аўтары Праекта ўносяць новыя і новыя змены ў свой твор (а ў гэтым чытач будзе мець магчымасць пераканацца неаднаразова), кідае зерне сумневу ў тым, што дакумент падрыхтаваны сапраўды дасканала.

Учытваючыся ў Праект, раз-пораз ловіш сябе на пачуцці, якое, відаць, перажывае археолаг, абследуючы раскоп. Вось знаходзім... У адпаведнасці з прэцэдэнтамі *Токі**а*** і *партфолі**а*** пішуцца яшчэ два словы: *Ры**а**-Грандэ* (*ры**а*** — рака) (§ 24.1, тут і далей спасылкі на «восеньскі варыянт») і *Ры**а**-дэ-Жанэйра* (§ 24.2). І раптам — два напісанні, якія захаваліся ў больш глыбокім культурным пласце: *Сант-Элі**ё*** (§ 22.1) і *Дзі Віторы**ё*** (§ 22.2) яшчэ з праекта Падлужнага!

Пад *Сант-Элі**ё***, мабыць, маецца на ўвазе італьянскі архітэктар *Антоніо Сант-Элі**я*** (Sant’Eli**a**) — прынамсі так ён завецца ў БелЭн. А вось яшчэ адзін італьянец — *Дзі Віторы**ё*** (Di Vittori**o**) — паўстае ў Праекце ў больш дакладным абліччы.

Мусіць, аўтары Праекта так спяшаліся яго палепшыць, што толкам і не прачыталі, бо інакш выправілі б *Віторы**ё*** на *Віторы**а***.

### Рашэнне праблемы

Прапанова Правапіснай камісіі ТБМ была, несумненна, удалая, бо, дзякуючы ёй, дасягаліся наступныя мэты:

1. Іншамоўныя спалучэнні «**і + галосны**» (**ia**, **ie**, **io**, **iu**) пачалі асвойвацца тоесна — незалежна ад якасці галоснага і месца спалучэння (у сярэдзіне ці на канцы слова) — праз развіццё ўстаўнога ёта, чаго няма ў цяперашнім правапісе (гл. табліцу 1).

2. Іншамоўныя спалучэнні **-io**, **-llo**, **-gno** ды інш. пры беларускім асваенні могуць рэалізоўвацца ў [**jo**] (на пісьме **-ьё**/**-’ё**). Таму афармленне іншамоўнага **-io** праз беларускае **-іё** будзе ўзаемападтрымлівацца напісаннямі: *каудыль**ё*** (caudi**llo**, CIC), *Верок’**ё*** (Verrocch**io**, БелЭн), *Кастáнь**ё*** (Casta**gno**, БелЭн), *Муры́ль**ё*** (Muri**llo**, БелЭн), *Поліль**ё*** (БелЭн, карта «Філіпіны»), *Раналдзінь**ё***[4], *Трухі́ль**ё*** (Truji**llo**, БелЭн);

[4] Звязда. 2006. 16 жніўня.

**Табліца 1.**

| | **ia** (незалежна ад націску) | **ie** (незалежна ад націску) | **io** | | **iu** (незалежна ад націску) |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | сярэдзіна слова (пад націскам) | канец слова (не пад націскам) | |
| **Цяпер** | і**я** / ы**я** | і**е** / ы**е** (у некаторых слоўніках зрэдку і**э**: *ды**э**з*, *ды**э**та*, *спані**э**ль*) | і**ё** / ы**ё** | і**о** / ы**о** (выкл.: *рады**ё***) | і**у** / ы**у** |
| **Камісія ТБМ** | (і**я** / ы**я**) | (і**е** / ы**е**) | і**ё** / ы**ё** | | і**ю** / ы**ю** |
| **Дзяржкамісія** | (і**я** / ы**я**) | (і**е** / ы**е**) | і**ё** / ы**ё** | | (і**у** / ы**у**) |
| **Праект Падлужнага** | і**я** / ы**я** | і**е** / ы**е** | і**ё** / ы**ё** | | і**у** / ы**у** |
| **Міністэрскі праект** | і**я** / ы**я** | і**е** / ы**е** | і**ё** / ы**ё** | і**а** / ы**а** (выкл.: *рады**ё***) | і**у** / ы**у** |

(У дужкі бяруцца звесткі, якія ўтрымліваюцца ў дакументах імпліцытна, г. зн. маюцца на ўвазе.)

3. Спалучэнні **іу**/**ыу** перасталі б складаць выключэнне з правіла аб правапісе **ў**, бо гэтых спалучэнняў проста не было б.

4. Ненаціскное фінальнае спалучэнне **-іо** было вырашана не падпарадкоўваць аканню — на ўзор самага частотнага слова з групы аднатыпных — *радыё*. Гэта, у сваю чаргу, дало б падставу тоесна замацаваць падобныя карані *аўд**ыё***, *эўд**ыё*** ‘ясны, чысты’; да таго ж падобнае напісанне падтрымліваецца іншымі словамі, дзе **ё** пад націскам: *вастр**ыё***, *мум**іё***, ***чыё***, *ніч**ыё***, у тым ліку напісаннямі, дзе ёт — этымалагічны: *Дандр**ыё*** (Dandrilhaud), ***Міё*** (Milhaud).

Такое напісанне ўяўляецца настолькі натуральным, што часам сустракаецца нават у даведачнай літаратуры і афіцыйных дакументах. Гэтак, у СІС знаходзім: *эўдыёметр*, *рэка́мбіё*, у БелЭн — горад *Сен-Брыё* (карта «Францыя»), а ў бланку пасведчання аб заканчэнні музычнай школы (надрукаваны 27.03.79. ПТО «Автотрансистема») так і фігуруе: *сальфеджы**ё***.

Ды і сам В. Іўчанкаў, забыўшыся на напісанае ў Праекце (гл. вышэй: *аўды**я**візуальны*), праілюстраваў будучыя змены ў правапісе словам *аўды**ё**касета*[5]. Ці значыць гэта, што Праект чакаюць новыя дапрацоўкі, дзе словы з **аўдыё-** замацуюць на ўзор слоў з **радыё-**: *аўды**ё**візуальны*?

Правядзенне акання ў **-іо** мела б такія наступствы:

А. Страчваецца фанетычная сувязь з зыходнай формай, слова робіцца непазнавальным, не суадносіцца з прататыпам; асабліва гэта адчувальна ў выпадках з кароткімі словамі, дзе інфарматыўнасць кожнага знака асабліва высокая: *ажы**о*** → *ажы**а***.

[5] КП в Белоруссии. 2006. 29 жніўня.

Тут трэба заўважыць, што прадыктаванае транслітарацыяй (насуперак асноўнаму спосабу — транскрыпцыі) і французскім, а затым рускім пасярэдніцтвам асваенне некаторых слоў, найперш музычных тэрмінаў італьянскага паходжання, прывяло фіналі беларускіх формаў гэтых лексем да глыбокага разыходжання з арыгінальнымі. Пасля правядзення акання адносна кацавога **-о** гэтае разыходжанне толькі павялічыцца:

**Табліца 2.**

| Італьянская форма | Беларускія формы | | | Спрошчаная транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|
| | Цяпер | Пвд пр-та Падлужнага | Пвд Міністэрскага пр-та | |
| agi**o** | *ажы**о*** | *ажы**ё*** | *ажы**а*** | а́джё |
| adagi**o** | *адажы**о*** | *адажы**ё*** | *адажы**а*** | ада́джё |
| arpeggi**o** | *арпеджы**о*** | *арпеджы**ё*** | *арпеджы**а*** | арпэ́дджё |
| disaggi**o** | *дызажы**о*** | *дызажы**ё*** | *дызажы**а*** | дізаґдджё |
| capricci**o** | *капрычы**о*** | *капрычы**ё*** | *капрычы**а*** | капрі́ччё |
| solfeggi**o** | *сальфеджы**о*** | *сальфеджы**ё*** | *сальфеджы**а*** | сольфэ́дджё |

В. Усталяванне раней практычна забароненага спалучэння **іа**/**ыа** (паводле цяперашняга правапісу, **іа** сустракаецца толькі на сутыку асноў у складаных словах: напр., *гум**іа**рабік, пол**іа**міды*) запускае ў дзеянне закон аналогіі: ужо цяжэй будзе растлумачыць, калі *фол**іа***, чаму не *б**іа**логія*.

С. У выпадку з мужчынскімі імёнамі, якія маюць жаночыя адпаведнікі (*Антоні**о*** стане *Антоні**а*** (ён), а яна застанецца *Антоні**я***), узнікае зусім новая, дагэтуль не практыкаваная дыферэнцыйная прыкмета паміж назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду: у форме мужчынскага роду асваенне рэалізуецца праз аканне, а ў форме жаночага роду — праз развіццё ўстаўнога ёта. Такім чынам, мужчынскае і жаночае імёны будуць супрацьпастаўленыя не рознымі гукамі, як у арыгінале (Antoni**o** — Antoni**a**), а выключна паводле прыкметы «адсутнасць—наяўнасць ёта», гэта значыць — характарам і ступенню асваення слова: мужчынскае імя (без пратэтычнага ёта) акажацца менш асвоеным за жаночае. І нарэшце — самае недарэчнае: фіналі арыгінальнай формы жаночага роду і беларускай формы мужчынскага роду **супадуць**: *Antoni**a*** (яна) = *Антоні**а*** (ён). Такім чынам, штучна спараджаецца міжмоўная аманімія ў дзесятках слоў:

**Табліца 3.**

| Арыгінальная форма | | Беларускія формы | | |
|---|---|---|---|---|
| | | ён | | яна |
| ён | яна | Цяпер | Праект | |
| Attavio | Attavia | *Атавіо* | *Атавіа* | *Атавія* |
| Aurelio | Aurelia | *Аўрэліо* | *Аўрэліа* | *Аўрэлія* |
| Basilio | Basilia | *Базіліо* | *Базіліа* | *Базілія* |
| Emilio | Emilia | *Эмíліо* | *Эміліа* | *Эмілія* |
| Eugenio | Eugenia | *Эўгеніо* | *Эўгеніа* | *Эўгенія* |
| Fabricio | Fabricia | *Фабрыцыо* | *Фабрыцыа* | *Фабрыцыя* |
| Julio | Julia | *Хуліо* | *Хуліа* | *Хулія* |
| Lucio | Lucia | *Лючыо* | *Лючыа* | *Лючыя* |
| Mario | Maria | *Марыо* | *Марыа* | *Марыя* |
| Mauricio | Mauricia | *Маурыцыо* | *Маурыцыа* | *Маурыцыя* |
| Rosario | Rosaria | *Разарыо* | *Разарыа* | *Разарыя* |
| Sylvio | Sylvia | *Сільвіо* | *Сільвіа* | *Сільвія* |

**Табліца 4.**

**Некаторыя імёны і назвы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР | ПРАЕКТ |
|---|---|
| Асорыо | Асорыа |
| Бакачыо | Бакачыа |
| Бенволіо | Бенволіа |
| Біо-Біо | Біа-Біа |
| Валенцыо | Валенцыа |
| Грэгорыо | Грэгорыа |
| Д'Анунцыо | Д'Анунцыа |
| Еўстахіо | Еўстахіа |
| Жаліо-Кюры | Жаліа-Кюры |
| Капіо (Лопэ дэ Вэга) | Капіа |
| Кастэліо | Кастэліа |
| Кіо | Кіа |
| Кліо | Кліа |
| Лючэнцыо | Лючэнцыа |
| Мазачыо | Мазачыа |
| Меркуцыо | Меркуцыа |
| Нунцыо | Нунцыа |
| Паладыо | Паладыа |
| Петручыо | Петручыа |
| Пінокіо | Пінокіа |
| Тэлезіо | Тэлезіа |
| Фульвіо | Фульвіа |

## Выключэнні

1. Пытанне арфаграфіі слоў *эфіёп/эфіоп*, *ніёб-/ніоб-* актыўна дыскутавалася яшчэ на Пражскай канферэнцыі для ўнармавання класічнага правапісу (1998), і было пастаноўлена не выводзіць гэтых слоў у выключэнні. Удзельнікаў канферэнцыі перакanала думка Сержука Сокалава-Воюша: вядома, што ў навучальнай літаратуры па беларускай мове ўвага вучняў акцэнтуецца не на правільных напісаннях, а на выключэннях з правілаў, таму як толькі гэтыя нізкачастотныя словы трапяць ва ўсе падручнікі і дапаможнікі ў якасці выключэнняў (*эфіоп*, *ніоб-*), то ў руках гарэзлівых вучняў тут жа ператворацца ў *эфіёп*, *ніёб-*. І тады ўжо ўсе, каму «пашчасціць» карыстацца «ўдасканаленымі» падручнікамі, звернуць увагу на пэўную пікантнасць гучання слоў-выключэнняў.

   Не выводзяцца ж у выключэнні, не перайначваюцца «немілагучныя» для беларускага вуха: *летапісцы*, *у місцы*, формы загаднага ладу дзеясловаў *рахаваць* і *страхаваць*, матэматычны тэрмін *абсцыса*, назва індыйскага горада *Срына-*

*гар*, прозвішча *Сракоўскі*, імёны па бацьку *Алегаўна* і *Людвігаўна*. Сарамлівасць не ўтрымала рэдактараў БелЭн ад таго, каб правесці аканне ў назве перуанскага горада *Піска* (*Pisco*); праўда, уругвайскага горада *Chuy* на карце так і не паказалі.

2. Што да слова *дыоптрыя* (у ТСБМ: *дыёптрыя*, у СБМ і СІС: *дыёптр*), то так яно павінна пісацца не з прычын пазалінгвістычных, а паводле правіла:

**Міністэрскі праект:** § 2.4. На стыку прыстаўкі і кораня захоўваецца *ыэ: дыэтан, дыэлектрык.*

Застаецца пашырыць гэтае правіла на большую колькасць выпадкаў: **бі-**: *біандрыя*, *біакс*; **брахі-**: *брахіантыкліналь*; **ды-**: *дыаміны*, *дыамафос*; **квазі-**: *квазіоптыка*; **полі-**: *поліагрэгатны*, *поліалефіны*; **тры-**: *трыэдр*; *ампіокс*, *гуміарабік*. А частку **ды-** трэба адрозніваць ад часткі **дыя-**: *дыягназ*, *дыялог*, *дыяспара*.

3. Асобная гісторыя са словамі *дыёд*, *трыёд*, *іён* (у цяперашнім правапісе: *іон*) і вытворнымі. Два першыя словы, паводле на абзац вышэй выкладзенага правіла, мусілі б пісацца праз **о** (di-od, tri-od), аднак напісанні праз **ё** ўжо можна лічыць традыцыйнымі, і ў імя стабільнасці іх не варта было б рушыць.

На развітанне з гэтым раздзелам адзначым вельмі важны момант, які традыцыйна з фармулёўкі правілаў пра спалучэнні «**і + галосны**» выпускаецца: гутарка вядзецца пра становішча **пасля зычных**. Бо **на пачатку слова** і **пасля галосных** названыя спалучэнні маюць іншае фанетычнае значэнне, а значыць пры беларускім асваенні павінны рэалізоўвацца (і звычайна рэалізоўваюцца) інакш. Адзінае выключэнне зроблена для кораня ***io**n*, гэта значыць, замест фанетычна найбліжэйшага ***ё**н* (як ***io**d-*, ***io**t*(a) → ***ё**д*, ***ё**т*), пад уплывам транслітараванага рускага **ио**н — цяпер ён мае несістэмную форму ***іо**н*. Праўда, бачыць у такім асваенні выключна рускамоўны дыктат было б несправядліва. Тэрмін *ён* быў бы аманімічным займенніку *ён* — аднаму з самых частотных слоў у беларускай мове. Таму дзеля пазбягання аманіміі патрабавалася іншае рашэнне — *іён*, якое прапаноўвалася яшчэ на пачатку 1990-х, трапіла ў праект Падлужнага, а з яго — у Міністэрскі:

**Міністэрскі праект:** § 2.2. Літара *ё* пішацца пад націскам: *біёлаг*, *сацыёлаг*, *трыёд*, *шпіён*, *іён*.

Нам застаецца салідарызавацца з такімі рашэннямі, хоць фармулёўка і размеркаванне матэрыялу мусілі б быць карэнным чынам перапрацаваныя.

А спалучэнні «**і + галосны**» на пачатку слова і пасля галосных мы разгледзім значна ніжэй.

## II.2. Востраў Маа

### Аканне ў канцавым спалучэнні «галосны + ненаціскны **о**»

Напісанне *Ватэрлоа* (гл. вышэй) замест усталяванага *Ватэрлоо* — абсалютная інавацыя Міністэрскага праекта. Праект Падлужнага ў гэтым пытанні заставаўся на пазіцыях цяперашняга правапісу:

**Табліца 5.**

**Некаторыя імёны і назвы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР | ПРАЕКТ |
|---|---|
| Байляньцзя**о** | Байляньцзя**а** |
| Ба**о** | Ба**а** |
| Барне**о** | Барне**а** |
| Більба**о** | Більба**а** |
| В**о**я**о** | В**оя****а** або Ва**я****а** |
| Галіле**о** | Галіле**а** |
| Га**о** | Га**а** |
| Да**о** | Да**а** |
| Ла**о** | Ла**а** |
| Ле**о** | Ле**а** |
| Ля**о** | Ля**а** |
| Мака**о** | Мака**а** |
| Мантэвідэ**о** | Мантэвідэ**а** |
| Ма**о** | Ма**а** |
| Мiндана**о** | Мiндана**а** |
| Мя**о** | Мя**а** |
| Рамэ**о** | Рамэ**а** |
| Ся**о** | Ся**а** |
| Та**о** | Та**а** |
| Ца**о** | Ца**а** |
| Ціча**о** | Ціча**а** |
| Цында**о** | Цында**а** |
| Ця**о** | Ця**а** |
| Ча**о** | Ча**а** |
| Чжа**о** | Чжа**а** |
| Чжа**о**да**о** | Чжаода**а** або Чжа**а**да**а** |
| Чырчэ**о** | Чырчэ**а** |
| Янша**о** | Янша**а** |

**Праект Падлужнага:** § 3. Літара *о* пішацца ў невялікай групе слоў, уласных імён і геаграфічных назваў іншамоўнага паходжання для абазначэння ненаціскнога гука [о] пасля галосных *о*, *а* ў канцы слоў: *мака**о***, *Ватэрло**о***, *Більба**о***, *Ма**о***, *Ся**о***, *Ца**о***, *Рамэ**о***.

Праўда, насуперак фармулёўцы, правіла фактычна пашыранае і на выпадкі з [эо]: ***Рамэо***. Трэба заўважыць, што яшчэ ў «летнім» варыянце Міністэрскага праекта «археалагічныя раскопкі» дазвалялі знайсці рэшткі праекта Падлужнага без акання ў названых спалучэннях:

**Міністэрскі праект («летні» варыянт):** Дадатак. § 17. Не змяняюцца пры скланенні... іншамоўныя прозвішчы з націскнымі і ненаціскнымі канцавымі *о* (*ё*), *э* (*е*), якія знаходзяцца пасля галоснага ці мяккага знака: ... *Бідла**о***, *Галіле**о***, *Ма**о***...

Мусім заўважыць, і тут ёсць прыклад на захаванне спалучэння [эо]: *Галіле**о***.

Як мы ўжо адзначалі, з «восеньскага» варыянту Міністэрскага праекта «Дадатак» знік, таксама знікла і правіла правядзення акання ў азначанай пазіцыі. Аднак *Ватэрло**а*** засталося (ці ўжо засталáся?), што дае падставу меркаваць: аўтары Праекта не адмовіліся ад сваёй ідэі.

## Небяспекі

А. Горшага прыкладу для ілюстравання чарговых заваёў акання на тэрыторыі іншамоўнага ненаціскнога **-о**, чым *Ватэрло**а***, прыдумаць было немагчыма: справа ў тым, што ў шэрагу моў (напр., у англійскай, галандскай, эстонскай, фінскай, фламандскай) падвойнае напісанне галосных літар выкарыстоўваецца для пазначэння даўжыні адпаведных галосных гукаў і пры транслітарацыі падобных назваў падвойнае напісанне захоўваецца, гэта спараджае ілюзію існавання двух асобных галосных, а значыць — двух складоў. І калі гэты доўгі гук мае няшчасце быць націскным, на адной з двух літар ставіцца націск.

Такім чынам, у назве фламандскага горада *Waterl**oo*** падвойнае **оо** абазначае адзін гук — доўгі

[ō], а аўтары Праекта правялі аканне ў другой палове адзінага і непадзельнага **о**. Калі ўжо было жаданне вывесці гэтае слова з выключэнняў, варта было ўжыць для яго асваення не транслітарацыю, а транскрыпцыю, як гэта звычайна робіцца ў дачыненні падвойных напісанняў галосных у лексіцы англійскага паходжання: *Ватэрл**о*** (як напр., *Look* → *«Лук»*). На карысць такога рашэння грае і той факт, што назва пачаткова аднайменнага горада ў ЗША транскрыбуецца з англійскай як *Уотэрл**у*** (БелЭн, карта «Аява»), дзе **оо** (доўгі [u:]) перадаецца адной літарай **у**.

Можна пайсці іншым шляхам — для падобных транслітараваных напісанняў з доўгім **оо** зрабіць выключэнне і не праводзіць у іх акання, незалежна ад таго — націскныя яны ці не: напр., *Найс**оо***, *Т**оо**мас* (з эст. Nais**oo**, T**oo**mas; у эстонскай мове націск заўсёды прыпадае на першы склад).

В. Трэба прызнаць, прапанавая мена сапраўды амаль не адаб'ецца на апелятыўнай лексіцы (не ўласных імёнах): *мака́**о*** → *мака**а***, *радэ́**о*** → *радэ**а***, і назвы народаў: *мя**о*** → *мя**а***, *ла**о*** → *ла**а***, хоць у апошнім выпадку, калі замацаваць *ла**а***, карыстальніку будзе незразумела, адкуль узяліся *ла**о**сцы* замест чаканых *ла**а**сцаў*, і чаму *Лаос*, а не *Ла**а**с*? Такім чынам, не цяжка прадбачыць, што ў выпадку прыняцця гэтай ідэі за правіла ў свеце імён, прозвішчаў, геаграфічных назваў наступствы будуць сур'ёзныя.

Пасля правядзення акання доўгія словы яшчэ будуць пазнавацца, а вось у кароткіх (якіх асабліва шмат у кітайскай мове) адбудзецца:

1) страта фанетычнай сувязі з зыходнай формай, што зробіць беларускія формы непазнавальнымі (гл. табліцу);
2) утварэнне амонімаў: напр., імёны *Le**o*** (мужчынскае) і *Le**a*** (жаночае) супадуць у *Ле**а***;
3) узнікненне новых непажаданых асацыяцый: напр., кіт. *Ма**о** Цзэ-дун* → ***Маа*** і эст. maa 'зямля, краіна', якое сустракаем у дзесятках эстонскіх прозвішчаў і тапонімаў, прыкладам, у прозвішчы пісьменніка *Эна Вэтэ**маа*** або ў назве вострава *Саарэ**маа*** (saar(e) 'востраў').

## II.3. Паўзучая рэвалюцыя

### Аканне ў фіналях **-эр**, **-эль**

*…любыя зьмены ў правапісе справа складаная і далікатная... работа павінна быць вельмі карпатлівая, усё павінна быць дасканала выверана.*

Аляксандр Лукашанец[6]

Няхай гэтыя пажаданні не толькі дэкляраваліся, але і сапраўды сталі б галоўным прынцыпам аўтараў Праекта. Не сталі. Асабліва ярка гэта выявілася ў наступнай гісторыі.

[6] Наша Ніва. 2006. 1 верасьня.

## Настойлівасць, вартая лепшага выкарыстання

Адна з чатырох інавацый, якая прапаноўвалася яшчэ Правапіснай камісіяй ТБМ і ў выніку трапіла ў Міністэрскі праект:

**Правапісная камісія:** Пашырыць аканне ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ненаціскныя *-ар* (з *-er*) і *-аль* (з *-el*): *карцар*, *прынтар*, *грэйдар*, *дэбаркадар*, *лідар, дэкодар, фламастар, ваўчар* — як *характар*; *шніцаль*, *шпаталь*, *шпіндаль* — як *буталь.*

На першы погляд, цвярозая прапанова, якая спрыяе замацаванню на пісьме спецыфічных рысаў беларускай мовы, што цалкам кладзецца ў нацыяналістычную канцэпцыю моўнага пурызму.

Аднак, пралічыўшы наступствы паслядоўнага правядзення гэтага правіла, яго аўтар Вінцук Вячорка неўзабаве пасля вылучэння гэтай ідэі, адмовіўся ад яе:

> У словах іншамоўнага паходжаньня не пад націскам, як правіла, пішуцца фіналі **-эр, -эль, -энт**: *дэбаркадэр*, *грэйдэр*, *катэр*, *райсфэдэр*, *тэстэр*, *сканэр*; *барэль*, *грыфэль*, *дросэль*, *кабэль*, *ніпэль*, *пудэль*, *штэпсэль*; *парлямэнт*, *рэглямэнт*.
>
> АЛЕ ў даўно асвоеных словах, а таксама пасьля шыпячых і **ц** ў вымаўленьні гэтых фіналяў замацоўваецца аканьне і яны пішуцца **-ар, -аль, -ант**: *бугальтар*, *майстар*, *ровар*, *хедар*, *швэдар*, *ваўчар*, *карцар*, *плюнжар*, *розэнкройцар*; таксама добра асвоенае *кампутар*; *гэбаль*, *шархубаль*, *шніцаль*, *бушаль*; *атрамант*, *лямант*.
>
> * Сяньня гэтая артаграма не паддаецца адназначнай кадыфікацыі. У выданьнях, якія пішуць тарашкевіцай, фіксуюцца дублетныя напісаньні *лідэр* — *лідар, парлямэнт* — *парлямант* і пад. Відаць, з хадою адаптацыі запазычаньняў напісаньні з аканьнем пашырацца, і мадэль аформіцца як асноўная. Аднак працэс гэты ня будзе пашырацца бясконца. Так, слова *катэр* цяжка ўніфікаваць, бо ўзьнікне аманімія з словам *катар* (хвароба). Парушылася б таксама ідэнтыфікацыя перадусім кароткіх — двухскладовых — запазычаньняў, дзе кожны гук мае большую інфармацыйную нагрузку: *сэтэр, унтэр, табэль*[7].

Аднак А. Падлужнаму ідэя прыпала да густу і з яго падачы трапіла ў выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі:

**Дзяржкамісія:** Канцавыя спалучэнні асновы *-эр*, *-эл(ь)* іншамоўных слоў перадаваць у ненаціскным становішчы праз *-ар*, *-ал(ь)*: *ваўчар*, *ордар*, *містар*, *камп'ютар*, *карцар*, *світар*, *шніцаль*, *шпіндаль*, *міталь*, *шпаталь*, *форталь*, *Картар*, *Геншар*, *Гендаль*, *Карал.*

Затым прапанова перацякла ў праект самога Падлужнага, праўда, з дзвюма паказальнымі стратамі: 1) звузілася кола выпадкаў, у якіх праводзілася аканне: быў выведзены фармант **-эл**; 2) з ілюстрацый былі зняты ўласныя назвы:

**Праект Падлужнага:** § 8.3. Ненаціскныя фіналі *-эль*, *-эр* у запазычаных словах перадаюцца як *-аль*, *-ар: шніцаль*, *шпіндаль*, *шпаталь*, *міталь*, *форталь*, *карцар*, *грэйдар*, *лідар*,

[7] Правапіс: Спроба сучаснае нармалізацыі // Спадчына. 1995. №5.

*камп'ютар, пэйджар, рэйсфедар, эспандар, тэндар, ордар, мeнэджар, фюрар, фарватар, альма-матар, кратар, прэсвітар.*

У Міністэрскі праект гэтая арфаграма перайшла без змен (§ 4.6), толькі зніклі два словы з ілюстрацый: *шпіндаль* і *фюрар*. Праўда, у іншых арфаграмах ёсць ілюстрацыі на ўласныя назвы: *Одар* (§ 2.1), *Юпітар* (§ 24.1).

## Генезіс «арацыі»

Арфаграфічную інавацыю **-эр**, **-эль** → **-ар**, **-аль** мы для зручнасці назвалі «арацыяй».

Ідэя «арацыі» грунтуецца на натуральным з гледзішча беларускай фанетыкі пераходзе ненаціскнога **э** ў **а**. І калі паслядоўнае адлюстраванне гэтага працэсу на пісьме ў дачыненні ўласнабеларускай лексікі ўтрывалілася ў нашай мове і не выклікае пярэчанняў, то ў іншамоўнай лексіцы, якая будуецца на іншых фанетычных прынцыпах, гэтая мена звычайна не паказваецца, бо татальнае аканне вядзе да істотнай змены найбольш важнага, юрыдычна значнага для сучаснай рэчаіснасці боку тэксту — графічнага. Што да фанетыкі ненаціскнога **э**, то ён можа рэалізоўвацца некалькімі спосабамі: [э], [э^а], [а^э] і нават [а] — без графічнага адлюстравання. Праўда, невялікая колькасць некароткіх слоў «паспела» замацавацца ў форме праз **а**. Як ні дзіўна, гэтая група выключэнняў у Праекце не згадваецца, таму мы палічылі патрэбным падаць яе ў найбольш поўным выглядзе (праўда, без вытворных): *адр**а**с*, ***а**дукацыя*, ***а**каном*, *аранж**а**рэя*, *атрам**а**нт*, *бухалт**а**р*, *бут**а**ль*, *бюстгальт**а**р*, *вэкс**а**ль*, *галант**а**рэя*, *ганд**а**ль*, *д**а**кляраваць* 'абяцаць', *д**а**лікатны*, *зэд**а**ль*, *кандыт**а**р*, *клейст**а**р*, *кух**а**ль* (тут замацавана яшчэ адна мена: **ф** → **х**), *лат**а**рэя*, *літ**а**ра*, *лям**а**нт*, *майст**а**р*, *мом**а**нт*, *р**а**монт*, *ров**а**р*, *ронд**а**ль*, *с**а**крэт*, *с**а**кр**а**тар*, *т**а**стамент*, *характ**а**р*, *хед**а**р*, *ч**а**бурэк*, *ш**а**віёт*, *ш**а**рхубель*, *ш**а**ўрон*. Аканне пасля мяккіх зычных (яканне) замацавалася ў яшчэ меншай колькасці слоў: *дз**я**журны*, *кал**я**ндар*, *л**я**ўкас*, *л**я**ўконія*, *с**я**ржант*, ***я**нот*, ***я**фрэйтар*, ***я**хідна*, а таксама ў шэрагу імёнаў *Ал**я**ксандр*, *Ал**я**ксей*, *Вал**я**нцін*, *Панц**я**лей*, *С**я**ргей*, ***Я**гор*, ***Я**ўген*, ***Я**ўсей*, ***Я**ўхім*, ***Я**ўстах* і інш.

Аднак у некаторых словах зыходны **э** рэалізаваўся ў **ы**, што разбурае ўяўленні пра **а** як адзіную перспектыву для ненаціскнога іншамоўнага **э**: *бр**ы**зент*, *др**ы**зіна*, *інж**ы**нер*, *канц**ы**лярыя*, *пласт**ы**р*, *р**ы**сора*, *ц**ы**р**ы**монія* і не характэрнае для сённяшняй мовы *р**ы**зіна* (і гэтага спіса няма ў Праекце).

Паводле граматыкі Тарашкевіча, **о** і **э** ў запазычаннях аканню не падлягаюць. У 1920-я гады аканне пачалі праводзіць адносна іншамоўнага **о**, што пазней было кадыфікавана. А вось правядзенне акання ў дачыненні **э** палічылі немэтазгодным. На жаль, аўтары Праекта пачалі рэвізію гэтага найважнейшага правіла беларускага правапісу, прапанаваўшы правядзенне «арацыі».

Трэба прызнаць, што **аканне аб'ектыўна зацяняе этымалогію слова, ускладняе яго ідэнтыфікацыю, зніжае тэрміналагічныя магчымасці мовы**. На гэта звяртаў увагу яшчэ Уладзімір Дубоўка ў часе дыскусіі аб правядзенні акання ў дачыненні ненаціскнога **о** ў запазычаннях: два розныя тэрміны — ***a**nthologia* (зборнік) і ***o**ntologia* (філасофскае вучэнне) — супадаюць у адной лексеме: ***а**нталогія*. Ад сябе дададзім, што тое ж адбылося, напрыклад, з тэрмінам *к**а**лар**ы**метр*: (1) *c**a**lorimet(e)r*

‘прылада для вымярэння цяпла’ і (2) *colorimet(e)r* ‘прылада для вымярэння колеру’, з прыметнікам *эр**а**тычны*: (1) ад грэчаскага *ερωτικος/er**o**tikos* і (2) ад лацінскага *err **a**ticus* ‘вандроўны’ — у тэрміне *эратычныя валуны* (CIC); з прозвішчамі французскіх мастакоў ***Манэ́***, якіх цяпер па-беларуску адрозніваюць толькі імёны — Эдуар (Eduard Manet) і Клод (Claude Monet).

(Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ўзнікненне аманіміі з прычыны несупадзення фанетычных сістэм мовы-донара і мовы-рэцыпіента, — з’ява звычайная ў любой мове. Што да беларускай мовы, то ў нас далёка не заўсёды «вінавата» аканне (напр.: англійскія імёны ***A***b [**æ**b] і **E**b [**e**b] → ***Эб***, B**a**t [b**æ**t] і Be**th** [be**θ**] → ***Бэт***, M**a**ry [mɛərɪ] і M**o**ray [mə:rɪ] (нароўні з варыянтамі [mʌrɪ]) → *Мэры*, For**t** [fɔ:t] і For**th** [fɔ:**θ**] → ***Форт***, французскія назвы Ch**ai**r [ʃɛr] і Ch**e**r [ʃ**e**r] → *Шэр*). З іншага боку, беларускія назвы пры трансляванні на іншыя мовы таксама могуць аманімізавацца: імя ***Іван*** і назва вёскі ***Івань*** → Iva**n**. Пазбегчы такіх скажэнняў можна пры ўмове ўжывання ў лацінскаграфічным асяроддзі стандартызаваных, незалежных ад канкрэтнай мовы напісанняў (Iva**n**, Iva**ń**) паводле правілаў беларускай лацінкі, якія былі афіцыйна прыняты ў 2000 г.[8].)

Аднак «цягнік паехаў»: **о** падлягае аканню ва ўсіх пазіцыях, апроч канца слова перад галосным. Межы выкарыстання **э** у агульных рысах заставалася нязменнымі з рэформы 1933 г. не толькі ў запазычаннях, але і ва ўласнабеларускіх складаных словах. І нездарма — такім чынам быў дасягнуты баланс у правядзенні акання.

Калі ўжо праводзіць «арацыю», то толькі пазіцыйна абмежаваўшы яе становішчам пасля шыпячых, **дз**, **ц**, і толькі ў агульнай лексіцы, бо большасць такіх слоў ужо кадыфікавалася з **а**: *ваўч**а**р*, *глетч**а**р*, *дыспетч**а**р*, *пэйджж**а**р*, *рыц**а**р*, *буш**а**ль*, *гіц**а**ль*, *пэндз**а**ль*, *фельч**а**р*, *шніц**а**ль*. Такім чынам, пералічаныя словы можна было б вывесці з выключэнняў і «ўзаконіць» іх напісанне на агульных падставах — праз спецыяльнае правіла.

## Наступствы «арацыі»

У выніку «арацыі» цэлы шэраг слоў набудзе нязвыклы графічны выгляд, што пацягне за сабою:

a) змену, скажэнне аблічча слоў, а значыць — ускладненне ідэнтыфікацыі ў тэксце: напр., шырокавядомыя імёны: *Гюнтэр* (Günt**e**r) → *Гюнт**а**р*, *Пітэр* (Pet**e**r) → *Піт**а**р*, прозвішчы нямецкага рэфарматара Марціна Лютэра (Luth**e**r) → *Лют**а**р* і аўстрыйскага беларусіста Германа *Бідэра* (Bieder) → *Бід**а**р* (цікава, ці будзе ён вітаць такое «ўдасканаленне» свайго прозвішча?), знаёмыя з савецкай эпохі прозвішчы кампазітара Блант**а**ра і авантурыста Бенд**а**ра. Словы робяцца непазнавальнымі, найперш кароткія, у якіх ступень інфарматыўнасці кожнай літары асабліва высокая: *патэр* (лац. pat**e**r) → *пат**а**р*. Такая мена супярэчыць галоўнай сучаснай тэндэнцыі ў асваенні іншамоўнай лексікі — імкненню максімальна адлюстроўваць гучанне слова ў мове-крыніцы, не выходзячы за межы фанетыкі ўласнай мовы;

b) утварэнне новых амонімаў (амографаў, амафонаў), падрабязней гл. ніжэй;

c) узніканенне разбежнасці ў ступені асвоенасці, а адсюль і ў перадачы на пісьме

[8] Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. №8/4488.

таго самага фарманта па-рознаму — нават у межах аднаго і таго ж слова, бо адзін раз фармант будзе знаходзіцца на канцы слова, другі — у сярэдзіне: напр., **er** у прозвішчах *Вундэрэр* (нямецкі падарожнік Wunderer) → *Вундэр**а**р*, *Додэрэр* (аўстрыйскі пісьменнік Doderer) → *Додэр**а**р*;

d) узнікненне «фальшывых сяброў карыстальніка» — непажаданых асацыятыўных сувязяў: напр., пасля правядзення «арацыі» ў імі *Петэр* (Peter) → *Пет**а**р*, узнікае пачуццё, што гэта няправільна напісанае імя *Пётр.* Новая ненацыскная фіналь **-ар** пад уплывам уласнабеларускага фарманта **-ар**, звычайна нацыскнога (*ганч**а́р***, *гаспад**а́р***, *плятк**а́р***, *штук**а́р***), можа атрымліваць акцэнт на фіналі і ўваходзіць у асацыятыўныя сувязі з зусім іншымі словамі, што робіць разуменне тэксту яшчэ складанейшым, а часам і немагчымым: *картар* — карты, картаваць; *кратар* — кратаць; *каўтар* — каўтаць. Назва ракі ў штаце Мантана *Паўдэр* (Powder) → *Паўд**а**р* успрымаецца як «палова дару». Часам узнікае і камічны эфект:

e) страту графічнай і фанетычнай сувязі паміж тымі ж самымі фіналямі **-er**, **-el** і нават паміж аднакаранёвымі словамі — у залежнасці ад:
— цвёрдасці-мяккасці папярэдняга зычнага: *па**та**р* — *па**ц**еры* (ад лацінскай назвы малітвы «Войча наш» — Pater noster), адкуль і *пацеркі* (перабіраюцца на ружанцы ў часе чытання малітвы);
— нацыску; варыянтныя напісанні, якія адрозніваліся мінімальна, пачынаюць «разлятацца» — адрозніваецца яшчэ больш: напр., *фортэль* і *фартэль* супрацьпастаўленыя акцэнтуацыйна, што рэалізавалася ў адрозненне адной літарай, а цяпер яны ўжо будуць адрозніваецца дзвюма літарамі: *фартэ́ль*, але *фо́рт**а**ль*;
— нацыску, звязанага з паходжаннем слова: разбурэнне груп аднатыпных утварэнняў з аднолькавымі фармантамі, г. зн. этымалагічна тоесныя **-er**, **-el** у германскіх і французскай мовах будуць мець рознае аблічча, бо ў англійскай, нямецкай і інш. мовах, як ненацыскныя, падлягуць «арацыі», а ў французскай, як на-

**Табліца 6.**

**Словы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС, БелЭн) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| адапт**эр** | адапт**ар** |
| азотабакт**эр** | азотабакт**ар** |
| альма-мат**эр** | альма-мат**ар** |
| альт**эр** эга | альт**ар** эга |
| аўтагрэйд**эр** | аўтагрэйд**ар** |
| аўтсайд**эр** | аўтсайд**ар** |
| афрыканд**эр** | афрыканд**ар** |
| барт**эр** | барт**ар** |
| бар**эль** | бар**аль** |
| баў**эр** | баў**ар** |
| бліст**эр** | бліст**ар** |
| брандмаў**эр** | брандмаў**ар** |
| бранд**эр** | бранд**ар** |
| бранякат**эр** | бранякат**ар** |
| бруд**эр** | бруд**ар** |
| брыд**эль** | брыд**аль** |
| брыд**эр** | брыд**ар** |
| брэкват**эр** | брэкват**ар** |
| буст**эр** | буст**ар** |
| вакод**эр** | вакод**ар** |
| вальт**эр** | вальт**ар** |
| ват**эр** | ват**ар** |
| відэарэкорд**эр** | відэарэкорд**ар** |
| віндроў**эр** | віндроў**ар** |
| вінчэст**эр** | вінчэст**ар** |
| газгольд**эр** | газгольд**ар** |
| гальванакаўт**эр** | гальванакаўт**ар** |
| гангст**эр** | гангст**ар** |
| гастарбайт**эр** | гастарбайт**ар** |
| гелерт**эр** | гелерт**ар** |
| генд**эр** | генд**ар** |
| гет**эр** | гет**ар** |
| грунд**эр** | грунд**ар** |
| грэйд**эр** | грэйд**ар** |
| гунт**эр** | гунт**ар** |
| дрыфт**эр** | дрыфт**ар** |
| дрэгст**эр** | дрэгст**ар** |
| дыпт**эр** | дыпт**ар** |
| дэбаркад**эр** | дэбаркад**ар** |
| дэтанд**эр** | дэтанд**ар** |
| дэфібр**эр** | дэфібр**ар** |

**Словы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС, БелЭн) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| кагер**э**р | кагер**а**р |
| калеопт**э**р | калеопт**а**р |
| камп'ют**э**р | камп'ют**а**р |
| карт**э**р | карт**а**р |
| кат**э**р | кат**а**р |
| катэт**э**р | катэт**а**р |
| каўт**э**р | каўт**а**р |
| кікстарт**э**р | кікстарт**а**р |
| кільват**э**р | кільват**а**р |
| класт**э**р | класт**а**р |
| клафт**э**р | клафт**а**р |
| крат**э**р | крат**а**р |
| крофт**э**р | крофт**а**р |
| кут**э**р | кут**а**р |
| лід**э**р | лід**а**р |
| ліст**э**р | ліст**а**р |
| ліхт**э**р | ліхт**а**р |
| манадэтанд**э**р | манадэтанд**а**р |
| манчэст**э**р | манчэст**а**р |
| маркшэйд**э**р | маркшэйд**а**р |
| мерт**э**ль | мерт**а**ль |
| мід**э**ль | мід**а**ль |
| міст**э**р | міст**а**р |
| міт**э**ль | міт**а**ль |
| орд**э**р | орд**а**р |
| паліпт**э**р | паліпт**а**р |
| пат**э**р | пат**а**р |
| патэрност**э**р | патэрност**а**р |
| перыпт**э**р | перыпт**а**р |
| пойнт**э**р | пойнт**а**р |
| польд**э**р | польд**а**р |
| порт**э**р | порт**а**р |
| правайд**э**р | правайд**а**р |
| пратапрэсвіт**э**р і протапрэсвіт**э**р | пратапрэсвіт**а**р і протапрэсвіт**а**р |
| прэсвіт**э**р | прэсвіт**а**р |
| псеўдадыпт**э**р | псеўдадыпт**а**р |
| псеўдаперыпт**э**р | псеўдаперыпт**а**р |
| ротэнфюр**э**р | ротэнфюр**а**р |
| рут**э**р | рут**а**р |
| рэйд**э**р | рэйд**а**р |
| рэйсфед**э**р | рэйсфед**а**р |

цïскныя, захаваюцца нязменнымі. Гэтак, імя кінаакцёра Макса Ліндэра, прачытанае на англійскі манер — з націскам на першым складзе (прынамсі так яно падаецца ў БелЭн), паводле Праекта, павінна пісацца як *Ліндар*, аднак калі ўлічыць, што ён француз (а значыць націскны — апошні склад), то напісанне павінна застацца нязменным — *Ліндэ́р*;

f) знікненне важнай ідэнтыфікацыйнай прыкметы (ненацïскны **э** — выразны паказнік іншамоўнасці слова), што прыводзіць да сістэмнага парушэння найвышэйшага парадку: размыванне і далейшага скасавання аднаго з асноўных прынцыпаў беларускага правапісу — размежавання ўласнай і запазычанай лексікі; разбурэнне правіла захавання **э** ў запазычаннях інспіруе аканне і ў іншых выпадках, дзе сустракаецца ненацïскны **э**. Да чаго гэта прывядзе, можна пазнаёміцца ўжо цяпер — у «самвыдаце» «Духахрам: Аляктронная ведамка беларускага пісьменніка» Лявона Вашка: ***а****міграцыя*, *р****а****дахтар*;

g) змену некаторых шыльдаў на вуліцах беларускіх гарадоў, а значыць — фінансавыя выдаткі: напр., *вуліца Ландэра* → *вуліца Ланд****а****ра*.

## Аманімія як вораг разумення

Калі б аўтары Праекта прыслухаліся да Вячоркавых засцярог, узяўшы за ўзор А. Падлужнага, што быў уважлівым чытачом спадчынаўскай публікацыі, — то зразумелі б, якая небяспека чакае нашу мову ў выпадку правядзення «арацыі». Большасць слоў, у якіх прадугледжваюцца змены, — гэта тэрміны.

> Важнай асаблівасцю тэрміналогіі з'яўляецца тое, што ў складзе ўпарадкаванай тэрмінасістэмы не павінна быць мнагазначнасці, аманіміі, сінаніміі... Гэтыя семантычныя з'явы ... у пэўнай ступені абмяжоўваюць дакладнасць тэрміналогіі. Вось чаму спецыяльна-навуковае і лінгвістычнае ўпарадкаванне з'яўляецца асноўнай задачай тэрміналагічнай работы[9].

[9] Беларуская мова: Энцыклапедыя / Пад рэд. А. Я. Міхневіча. С. 569.

Аднак якраз аманімізацыі лексікі і спрыяе «арацыя»:

### Узнікненне **поўных амонімаў**
(слоў, якія адрозніваюцца толькі значэннем)

*ка́т**э**р* ‘тып судна’
*ка́т**а**р* ‘насмарк’ → *ка́т**а**р*

*ста́т**э**р* ‘палова унцыі; манета’
*ста́т**а**р* ‘частка электрарухавіка’ → *ста́т**а**р*

### Узнікненне **амафонаў** (слоў з аднолькавым гучаннем, але розным значэннем)

| | | |
|---|---|---|
| *ка́т**э**р* ‘тып судна’ | → | *ка́т**а**р* |
| *Ка́т**а**р* (краіна) | → | *Ка́т**а**р* |

### Узнікненне **амографаў**
(слоў з аднолькавым напісаннем, але розным значэннем)

| | | |
|---|---|---|
| *ліхт**э**р* ‘тып баржы’ | → | *ліхт**а**р* |
| *ліхта́р* ‘асвятляльная прылада’ | → | *ліхта́р* |
| *пе́д**э**ль* ‘судовы служка’ | → | *пе́д**а**ль* |
| *педа́ль* (веласіпеда) | → | *педа́ль* |
| *Га́йд**э**р* (горад у ЗША) | → | *Га́йд**а**р* |
| *Гайда́р* (прозвішча рускіх пісьменніка і палітыка) | → | *Гайда́р* |
| *Га́нт**э**р* (англійскі матэматык і астраном) | → | *Га́нт**а**р* |
| *Ганта́р* (ад *гантар* ‘майстар, які вырабляе гонту’) | → | *Ганта́р* |

Гэтак зніжаецца здольнасць мовы выкарыстоўвацца ў навуцы і тэхніцы, а значыць — мець гістарычную перспектыву.

Дарэчы, «арацыя» ў Праекце ілюструецца толькі дзвюма ўласнымі назвамі: *Од**а**р* і *Юпіт**а**р*, першая з іх — больш чым няўдалая, бо:

**Словы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС, БелЭн) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| рэкорд**э**р | рэкорд**а**р |
| рэпіт**э**р | рэпіт**а**р |
| світ**э**р | світ**а**р |
| сет**э**р (СБМ) і сэт**э**р (СІС) | сет**а**р або сэт**а**р |
| скват**э**р | скват**а**р |
| скут**э**р | скут**а**р |
| спічрайт**э**р | спічрайт**а**р |
| спрынт**э**р | спрынт**а**р |
| старт**э**р | старт**а**р |
| стат**э**р | стат**а**р |
| стэнд**э**р | стэнд**а**р |
| сфінкт**э**р | сфінкт**а**р |
| тайм-чарт**э**р | тайм-чарт**а**р |
| трансміт**э**р | трансміт**а**р |
| трэйд**э**р | трэйд**а**р |
| тэлетайпсет**э**р | тэлетайпсет**а**р |
| тэнд**э**р | тэнд**а**р |
| тэрмакаўт**э**р | тэрмакаўт**а**р |
| уітленд**э**р | уітленд**а**р |
| унт**э**р | унт**а**р |
| фарват**э**р | фарват**а**р |
| фід**э**ль | фід**а**ль |
| фід**э**р | фід**а**р |
| філіст**э**р | філіст**а**р |
| фініш**э**р | фініш**а**р |
| фламаст**э**р | фламаст**а**р |
| флат**э**р | флат**а**р |
| фолд**э**р | фолд**а**р |
| форт**э**ль | форт**а**ль |
| фотасет**э**р | фатасет**а**р |
| фотаэміт**э**р | фотаэміт**а**р |
| фрыгольд**э**р | фрыгольд**а**р |
| фрытрэд**э**р | фрытрэд**а**р |
| фухт**э**ль | фухт**а**ль |
| фюр**э**р | фюр**а**р |
| хескер-шрэд**э**р | хескер-шрэд**а**р |
| цугунд**э**р | цугунд**а**р |
| чарт**э**р | чарт**а**р |
| чэст**э**р | чэст**а**р |
| шарфюр**э**р | шарфюр**а**р |
| шпат**э**ль | шпат**а**ль |

1) гэта кароткае слова, таму ў ім асабліва важна захаваць зыходную форму (праўда, сітуацыю крыху ратуе націскны **о**, які паказвае на месца націску);
2) слова асацыюецца з даволі пашыраным прозвішчам *Одар* і вялікай арганізацыяй ОДАР (Office of Disability Adjudication and Review), у пошукавай сістэме Google на Odar — 270000 згадак і ніводная, вядома ж, не асацыюе *Одар* з ракою *Одэр*;
3) карціна ўскладняецца яшчэ тым, што ў шматнацыянальную кампанію *Одараў* трапляюць і ўсе *Odor*'ы з першым націскным складам.

## Няяснасці

### А. Лёс вытворных

У «арацыйнай» арфаграме (§ 4.6) нічога не гаворыцца пра вытворныя словы, таму можна меркаваць, што пераход **-эль**, **-эр** > **-аль**, **-ар** у іх не адбываецца:

Разбежнасці паміж аднакарэннымі словамі, якія выявяцца ў выніку правядзення «арацыі»

*Адэнаў**а**р*, але *Аў**э**рбах*, хоць у абодвух словах утрымліваецца тая самая частка *au**e**r*

*барт**а**р*, але *барт**э**рны*

*баў**а**р*, але *баў**э**рскі*

*спрынт**а**р*, але *спрынт**э**рскі*

*Бід**а**р* (Bied**e**r), але *бід**э**рмаер* і *Бід**э**рмаер* (Biedermaier), *Бід**э**рман* (Bied**e**rman)

*Вестмінст**а**р* (Westminst**e**r) — раён Лондана, дзе размяшчаецца *Вестмінст**э**рскае абацтва*

*Вінд**аль*** (Windel), але *Вінд**эль**банд* (Wind**e**lband)

*Вінт**а**р* (Wint**e**r), але *Вінт**э**рштэйн* (Wint**e**rstein)

*Вуст**а**р* (Worcest**e**r), але *Вуст**э**ршыр* (Worcest**e**rshire)

*Гайд**аль*** (Heid**e**l), але *Гайд**эль**берг* (Heid**e**lberg)

*гангст**а**р*, але *гангст**э**рскі*

*генд**а**р*, але *генд**э**рны*

*лід**а**р*, але *лід**э**рскі*, *лід**э**рства*

*Лют**а**р* (Lut**e**r), але *лют**э**ране*, *лют**э**ранскі*, *лют**э**ранства*

**Словы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС, БелЭн) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| шпінд**э**ль | шпінд**а**ль |
| шрэд**э**р | шрэд**а**р |
| шрэд**э**р | шрэд**а**р |
| штабсшарфюр**э**р | штабсшарфюр**а**р |
| штатгальт**э**р | штатгальт**а**р |
| штруд**э**ль | штруд**а**ль |
| штурмбанфюр**э**р | штурмбанфюр**а**р |
| экспанд**э**р | экспанд**а**р |
| эміт**э**р | эміт**а**р |
| эспанд**э**р | эспанд**а**р |
| юпіт**э**р | юпіт**а**р |

**Табліца 7.**

**Некаторыя імёны і назвы, у якіх прадугледжваюцца змены**

| ЦЯПЕР | ПРАЕКТ |
|---|---|
| Адэнаў**э**р | Адэнаў**а**р |
| Бенд**э**р | Бенд**а**р |
| Бід**э**р | Бід**а**р |
| Блант**э**р | Блант**а**р |
| Вальт**э**р | Вальт**а**р |
| Вестмінст**э**р | Вестмінст**а**р |
| Вінд**э**ль | Вінд**а**ль |
| Вінт**э**р | Вінт**а**р |
| Вінчэст**э**р | Вінчэст**а**р |
| Вундэр**э**р | Вундэр**а**р |
| Вуст**э**р | Вуст**а**р |
| Гайд**э**ль | Гайд**а**ль |
| Гайд**э**р | Гайд**а**р |
| Генд**э**ль | Генд**а**ль |
| Генш**э**р | Генш**а**р |
| Герд**э**р | Герд**а**р |
| Гёд**э**ль | Гёд**а**ль |
| Глост**э**р | Глост**а**р |
| Грот**э**р | Грот**а**р |
| Гюнт**э**р | Гюнт**а**р |

### Некаторыя імёны і назвы, у якіх прадугледжваюцца змены

| ЦЯПЕР | ПРАЕКТ |
|---|---|
| Джынджэр | Джынджар |
| Дзюрэр | Дзюрар |
| Дэлавэр | Дэлавар |
| Карпентэр | Карпентар |
| Картэр | Картар |
| Клемперэр | Клемперар |
| Ланкастэр | Ланкастар |
| Лоўэр | Лоўар |
| Лэндэр | Лэндар |
| Маўэр | Маўар |
| Мёсбаўэр | Мёсбаўар |
| Ноэль | Ноаль |
| Одэр | Одар |
| Ольстэр (Ульстэр, Алстэр) | Ольстар (Ульстар, Алстар) |
| Паўдэр | Паўдар |
| Петэр | Петар |
| Пітэр | Пітар |
| Рочэстэр | Рочэстар |
| Рыхтэр | Рыхтар |
| Таўэр | Таўар |
| Уайтуотэр | Уайтуотар |
| Уінчэстэр | Уінчэстар |
| Уолтэр | Уолтар |
| Уотэр | Уотар |
| Фальстэр | Фальстар |
| Фасбіндэр | Фасбіндар |
| Фёрстэр | Фёрстар |
| Форстэр | Форстар |
| Фостэр | Фостар |
| Чэленджэр | Чэленджар |
| Шапенгаўэр | Шапенгаўар |
| Шнайдэр | Шнайдар |
| Шрэдэр | Шрэдар |
| Шустэр | Шустар |
| Шэдэль | Шэдаль |
| Шэхтэль | Шэхталь |
| Эксітэр | Эксітар |
| Юпітэр | Юпітар |

*мюнстар* і *Мюнстар* (Münster), але *Мюнстэрскі ўніверсітэт*

*патар* (pater), але *патэрналізм*, *патэрналістычны*

*чэстар* і *Чэстар* (chester, Chester), але *Чэстэртан* (Chesterton)

*Шнайдар* (Schneider), але *Шнайдэрман* (Schneiderman)

*унтар*, але *унтэртон*, *унтэршарфюрар*, *унтэрштурмфюрар*

*Уотар*, але *Уотэрс*, хоць гістарычна другое слова — прыналежная форма першага

*фюрар*, але *фюрэрскі*

*Шрэдар* (Schroeder), але *шрэдэрыя*, *шрэдэрыела*

А калі аўтары Праекта ўсё ж такі вырашаць праводзіць «арацыю» ў вытворных словах? Паспрабуем пралічыць наступствы такога рашэння на прыкладзе дэрыватаў слова *ватэр* ‘прадзільны варштат’ → *ватар* і аднакарэнных лексем. Якім чынам будуць пісацца такія словы, як *кільватар* і *фарватар*, ясна. А вось што рабіць з лексемамі, дзе **-эр** — не фіналь:

*ватэрвейс* ‘палубная масніца’ → *ватарвейс*?

*ватэржакет* ‘металургічная печ’ → *ватаржакет*?

*ватэрклазет* → *ватарклазет*?

*ватэрлінія* → *ватарлінія*?

*ватэрмашына* ‘=ватэр’ → *ватармашына*?

*ватэрпас* → *ватарпас*?

*ватэрпруф* ‘непрамакальная тканіна’ → *ватарпруф*?

*ватэрпола*, *ватэрпаліст* → *ватарпола*, *ватарпаліст*?

дый тое жа *Ватэрлоа* → *Ватарлоа*?

Падобны працэс мусіць адбывацца і ў дачыненні аднакарэнных назве *Уотэр*/*Уотар* (Water), этымалагічна тоеснай слову *ватэр*/*ватар* (water):

*Уотэрберг* ‘гара і нацыянальны парк у Намібіі’ (Waterberg) → *Уотарберг*?

*Уотэрберы* ‘горад у ЗША’ (Waterbury) → *Уотарберы*?

*Уотэрвіл(ь)* ‘горад у Ірландыі’ (Waterville) → *Уотарвіл*? Ці *Уотарвіль*? (У Праекце гэта не прапісана.)

*Уотэртаўн* ‘горад у ЗША’ (Watertown) → *Уотартаўн*?

Ці *Уотартаун*? (Аб правапісе **у/ў** гл. наступны нумар «ARCHE»)

*Уотэртон* ‘ледавік у ЗША’ (Waterton) → *Уотартон*? Ці *Уотартан*? (У Праекце гэта не прапісана.)

*Уотэрфорд* ‘гарод у Ірландыі’ (Waterford) → *Уотарфорд*? Ці *Уотарфард*? (У Праекце гэта не прапісана.)

Праўда, «арацыю» ў вытворных і аднакарэнных падпільноўваюць свае падводныя камяні:

1) паспаліты карыстальнік ня здолее без дапамогі слоўніка правільна напісаць слова з **-эр-**, **-эль-** не на канцы слова, бо для гэтага яму спатрэбіцца самастойна зрабіць марфемны разбор слова, збудаваць словаўтваральны ланцуг і на падставе такога аналізу вызначыць, ці пэўнае слова — вытворнае ад слова з фіналлю **-эр**, **-эль** (напр., *Вест-эрален*, ці *Вестэ-рален*, ці *Вестэр-ален?*). Дададзім, што адзіны поўны арфаграфічны слоўнік (СБМ) выйшаў у 1987 годзе і на сёння, нягледзячы на 10-тысячны наклад, з’яўляецца бібліяграфічным рарытэтам. Няма падстаў быць аптымістам і спадзявацца хуткага перавыдання слоўніка. У выніку — карыстальнікі яшчэ гады і гады будуць заставацца ў няведанні, што пісаць на месцы колішніх **-эр-**, **-эль-**. Такім чынам, новы правапіс ня спросціцца, а спародзіць новыя разбежнасці і няяснасці;
2) калі пры вызначэнні вытворнасці таго ці іншага слова абапірацца на факт, што ў мове існуе падобнае слова, але на фіналь **-эр**, **-эль** карацейшае, гэтым закладаецца магчымасць наступнай рэвізіі ўжо ўсталяванага напісання, у якім правялі «арацыю»: напр., тое ж прозвішча *Вундэрэр—Вундэрар* прыйдзецца пісаць па-іншаму (Вундарар), калі раптам у нас стане вядомы чалавек з прозвішчам *Вундэр—Вундар*;
3) у працэс змен будуць уцягнуты вялікія масівы лексікі, чаго — можна быць упэўненым — ніяк не планавалі ініцыятары распрацоўкі новай рэдакцыі правілаў.

### B. Ці спы́ніць «арацыю» злучок?

У Праекце ёсць наступная арфаграма, якая пакідае нас у неўразуменні:

§ 32.2. Пішуцца праз злучок складаныя назоўнікі: ... з пачатковымі часткамі ... *унтэр-* ...: *унтэр-афіцэр*...

Як інтэрпрэтаваць напісанне *унтэр* замест чаканага *унтар*? Ці значыць гэта, што пры напісанні праз злучок «арацыя» перад злучком адбывацца не будзе?

*сетар* (або сэтар), але *сетэр-гардон* ці *сетар-гардон* (або *сэтэр-гардон* ці *сэтар-гардон*), *сетэр-лаверак* ці *сетар-лаверак* (або *сэтэр-лаверак* ці *сэтар-лаверак*)?

*Лоўар*, але *Лоўэр-Хат* ці *Лоўар-Хат*?

*Спайдэр-мен* ці *Спайдар-мен*?

*Уотэр*, але *Уотэр-Велі* (або *Валі*, або *Вэлі*) ці *Уотар-Велі*?

### C. Артыклі і прыназоўнікі на раздарожжы

Ці закранае «арацыя» ненаціскныя службовыя словы:

1) арабскія артыклі *эль*, *эр* → *аль*, *ар* (калі аўтары Праекта хочуць быць паслядоў-

ными, то ім застаецца толькі падпарадкаваць уласнаму правілу і гэтыя словы, бо ў іх склады *эль*, *эр* з'яўляюцца і пачатковымі, і канцавымі, прынамсі такою логікаю кіраваліся аўтары, фармулюючы арфаграму § 3.1: «Літара *э* пішацца: у пачатку выклічнікаў *э*...»): *Баб-эль-Мандэбскі праліў* → *Баб-**а**ль-Мандэбскі*, *Махамед эль-Куні* → *Махамед **а**ль-Куні*, *Эль Грэка* → ***А**ль Грэка, **Э**ль-Кувейт* → ***А**ль-Кувейт*, ***Э**р-Рыяд* → ***А**р-Рыяд*;

2) іспанскі і італьянскі прыназоўнік *дэль* → *д**а**ль*: *Калонія-дэль-Сакрамента* → *Калонія-д**а**ль-Сакрамента*, *Кастэль-дэль-Монці* → *Каст**а**ль-д**а**ль-Монці*;

3) нямецкі артыкль *дэр* → *д**а**р*; у Праекце згадваюцца два імі з *дэр* замест эвентуальных *д**а**р*: *Ван дэр Мейлен, фон дэр Гольц* (§ 32.5). Ці *дэр* не падлягае «арацыі», ці проста аўтары розных частак не пазнаёміліся з тым, што напісалі калегі ў сваіх раздзелах, а агульнай рэдактуры дакумента, каб «выраўняць» правапіс, не было? (Пра такія выпадкі ў Праекце падрабязней мы напішам пазней.)

## У якасці рэзюме

Прапанавая арфаграма аказалася не настолькі бяскрыўднай і простай для рэалізацыі, бо:

1) для яе рэалізацыі карыстальнік павінен ведаць, націскная ці не фіналь **-эр**, **-эль** у тым або іншым слове, і калі з апелятывамі (агульнай лексікай) крыху прасцей, то для адлюстравання на пісьме анамастыкі патрабуецца немалая эрудыцыя;
2) дзеля захавання сістэмнасці патрабуецца экстрапаляванне «арацыі» на вытворныя і аднакаранёвыя словы, што, як аказалася, уяўляе сабой яшчэ большую праблему;
3) нічым не абмежаванае правядзенне акання ў запазычаннях адрывае іншамоўную лексіку ад арыгінальнай формы, што замінае мове выконваць яе асноўныя функцыі, а значыць — быць канкурэнтаздольнай.

Правапіс — вельмі далікатны арганізм, як біяцэноз: нават нязначнае парушэнне ў адным з элементаў сістэмы выклікае ланцуговы абвал усёй структуры. У свой час А. Падлужны — у якасці рэакцыі на ўсталяванне ў Полацку помніка літары **ў** — выказаў думку, што **ў** — лішняя ў нашай азбуцы. Уявіце, як змяніўся б наш правапіс, калі б праект складаўся з усяго аднаго пункта:

> У беларускай мове літара **ў** (нескладовае) не выкарыстоуваецца (або не выкарыстоваецца, або не выкарысто**вы**ваецца).

# ⌘ МОВА

**З. Ф. САЎКА**

# Правілы левапісу,

## або Што нас чакае, калі новая рэдакцыя «Правілаў беларускага правапісу і пунктуацыі» стане афіцыйным дакументам*

## [II. ТАТАЛЬНАЕ АКАННЕ]

### II.4. Мангалы супраць манголаў

Аканне ў складаных словах

#### А. Як ёсць цяпер: канфлікт паміж правілам і практыкай

Рэдакцыя беларускай арфаграфіі 1957—1959 гг. унармавала правапіс складаных слоў з дзвюма асновамі, прыняўшы дасціпнае (прынамсі на першы погляд), аднак вельмі няпростае для ўжывання правіла:

**Пастанова СМ БССР ад 11 мая 1957 г.:** V.1. а) Складаныя словы з націскам на першым складзе другой часткі пішуцца як простыя: *вадаспад*, *палявод*, *шаўкапрад*, *гарбаносы*, *чарнавокі*, *прастадушны*, *саракаградусны*, *разнастайны*, *мнагабор'е*, *зламысны*, *дабраякасны*, *недабраякасны*, *навабранец*, *флатаводзец*, *малатабоец*, *канапляводства*,

* Працяг. Пачатак у №1—2.

Прынятыя скароты: **БелСЭ** — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—12. Мінск, 1969—1975; **БелЭн** — Беларуская энцыклапедыя. Т. 1—18. Мінск, 1996—2004; **БСЭ** — Большая Советская Энциклопедия. Т. 1—51. Москва, 1949—1958; **БЭ** — Большая энциклопедия. Т. 1—62. Москва, 2006; **КарБелСЭ** — Беларуская ССР: Кароткая энцыклапедыя. Т. 1—5. Мінск, 1978—1981; **РБС, 1937** — Руска-беларускі слоўнік / АН БССР; Інстытут літаратуры, мастацтва і мовы; Пад рэд. А. Александровіча. Менск, 1937; **САУІ** — Слоўнік асабовых уласных імён / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Уклад. М. Р. Суднік. Мінск, 1965; **СБМ** — Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Пад рэд. М. В. Бірылы. Мінск, 1987; **СІС** — А. М. Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў / БелЭн. Т. 1—2. Мінск, 1999; **ЭГБ** — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мінск, 1993—2003.

*сал**а**марэзка*, *г**а**лаваломка*, *ск**а**распелка*, *м**а**л**а**камер*, *Д**а**бралюбаў*, *Л**а**маносаў*, *Ст**а**летаў*, *Н**а**вазыбкаў*, *Ч**а**рнаручча*.
б) Калі ў другой частцы складанага слова націск падае не на першы склад, тады ў першай частцы з'яўляецца пабочны націск і пад ім аднаўляецца этымалагічнае **о**: *т**о**рфабрыкет*, *с**о**ртаабмен*, *д**о**макіраўніцтва*, *в**о**даразмеркаванне*, *к**о**рмаздабыванне*, *б**о**екамплект*, *пр**о**станародны*, *жыв**ё**лагадоўчы*, *ст**о**працэнтны*, *мн**о**гастаночнік*, *шыр**о**кадаступны*, *св**о**еасаблівы*, *выс**о**каідэйны*, *т**о**нкасуконны*, *Н**о**варасійск*, *Г**о**рназаводск*.

(Тут і далей усе вылучэнні тлустым і падкрэсліванні — нашы. — **З. С.**)

Але ж практыка ўжывання гэтага правіла (назавем яго «правілам націску ў другой частцы») паказала яго нежыццёвасць. Яно свядома і несвядома парушаецца не толькі ў бягучых тэкстах, а нават у акадэмічных слоўніках (усе прыклады — з СБМ, вертыкальная рыса абазначае мяжу між часткамі складанага слова):

1. Аканне **не праводзіцца**, хоць націск прыпадае **на першы** склад другой часткі — дзеля захавання графічнай і фанетычнай сувязі **з утваральнай асновай**, напр.: *асн**о**ва|тво́рны*, *зб**о**жжа|склад*, *к**о**кса|га́завы*, *к**о**лера|му́зыка*, *н**о**ва|спе́чаны*, *руж**о**ва|тва́ры*; у тым ліку ў словах без інтэрфікса (злучальнага галоснага): *хл**о**р|во́цатны*. Некаторыя асновы на практыцы ніколі ў складаных словах не выступаюць у ненаціскной форме — незалежна ад месца націску ў другой частцы, напр.: *мова|ве́д*, *мова|зна́ўчы*, *мова|тво́рац*; *сваб**о**да|лю́б*, *сваб**о**да|лю́бны*, *сваб**о**да|лю́бства*, *сваб**о**да|мы́снасць*, *сваб**о**да|мы́сны*; *сл**о**ва|блу́дства*, *сл**о**ва|спі́с*, *сл**о**ва|тво́рчы*.

І сапраўды, асабліва цяжка правільна ідэнтыфікаваць складовыя часткі ў выпадку, калі **о** апынаецца сярод іншых **а** (інакш — пры правядзенні акання — першая частка слова выглядала б як набор складоў з **а**): *паўн**о**чна|мо́рскі*, а не ~~*паўн**а**чнаморскі*~~; *паўн**о**чна|ру́скі*, а не ~~*паўн**а**чнарускі*~~; *паўт**о**рна|ро́дзячая*, а не ~~*паўт**а**рнародзячая*~~; *прав**о**за|здо́льнасць*, а не ~~*прав**а**заздольнасць*~~;

У тых жа ўмовах і з тых жа меркаванняў у першай аснове захоўваецца **ё**: *вертал**ё**та|но́сец*, а не ~~*верталетаносец*~~, бо *вертал**ё**т*; *жыв**ё**ла|во́д*, а не ~~*жывелавод*~~, бо *жыв**ё**ла*, *каз**ё**нна|ко́штны*, а не ~~*казеннакоштны*~~, бо *каз**ё**нны*. Складальнікі СБМ у некаторых выпадках так і не здолелі вызначыцца, ці — насуперак правілу — захоўваць **ё**, і падалі абодва варыянты: *ц**е**мнаво́кі* і *ц**ё**мнаво́кі*, *ц**е**мналі́сты* і *ц**ё**мналі́сты*, але толькі *ц**ё**мнагры́вы*. Падобнае знаходзім і ў СІС: *хі**е**надо́кса*, але *хі**ё**насфе́ра* і *хі**ё**нафі́лы*.

Трэба прызнаць, аўтары рэдакцыі 1957—1959 гг. пакінулі сабе «пралаз», які — пры патрэбе — даваў магчымасць на законных падставах пакідаць зыходны **о**.

**Пастанова-1957:** V.1. Заўвага 1. У першай частцы некаторых слоў можа выразна праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны націск падае на першы склад другой часткі. У такім выпадку этымалагічнае **о** на пісьме аднаўляецца: *аз**о**тнакіслы*, *г**о**рнарудны*, *зб**о**жжаздача*, *зб**о**жжаўборка*, *др**о**бнатвары*, *др**о**бнаўласніцкі*, *усх**о**дазнаўства*, *раб**о**тадавец*, *п**о**пелаўлоўнік* і некаторыя іншыя.

**Звод-1959:** § 6.2. … ***о*** захоўваецца … у некаторых вузканавуковых тэрмінах, асабліва ў тых выпадках, калі з літарамі ***о***, ***а*** звязваецца сэнсавае адрозненне, напрыклад у хіміі: ***о****рсін* і ***а****рсін*, *окс****о*** і *окс****а*** і інш.

2. Аканне **праводзіцца**, — хоць паводле асноўнага прынцыпу не павінна праводзіцца, бо націск прыпадае **не на першы** склад, — дзеля захавання графічнай і фанетычнай сувязі з аднакаранёвымі словамі, дзе аканне **адпавядае заяўленаму правілу**, напр.:

***а**рта|дакса́льны*, бо ***а**ртадо́кс*, хоць < **o**rtho- ‘правільны’
*гіст**а**рыя|графі́чны*, бо *гіст**а**рые́граф* і *гіст**а**рыягра́фія*, хоць *гісто́рыя*
*п**а**лі|графі́чны*, бо *п**а**лігра́фія*, хоць < p**o**ly- ‘шмат’
*стр**а**ба|скапі́чны*, бо *стр**а**баско́п*, хоць < str**o**bo- ‘круціцца’
*ф**а**на|метры́чны*, бо *ф**а**но́метр* і *ф**а**наме́трыя*, хоць < ph**o**no- ‘гук’

І для такіх напісанняў аўтары рэдакцыі 1957—1959 гг. таксама пакінулі сабе «шчылінку»:

**Пастанова-1957:** V.1. Заўвага 2. Першая частка складаных прыметнікаў пішацца так-жа[1], як і першая частка назоўнікаў, ад якіх гэтыя прыметнікі ўтварыліся: *марфалогія — марфалагічны*, *м**а**награфія — м**а**награфічны*, *хр**а**налогія — хр**а**налагічны*.

Аднак і тут лексікографы схібілі, не правёўшы паслядоўна і гэтай заўвагі (усе прыклады — з СБМ):

*г**а**малагі́чны*, аднак і *г**о**малагі́чны*, хоць толькі *г**а**мало́гія*
*г**а**мапласты́чны*, аднак і *г**о**мапласты́чны*, хоць толькі *г**а**мапла́стыка*
*ік**а**награфі́чны*, аднак і *ік**о**награфі́чны*, хоць толькі *ік**а**награ́фія*
*п**о**літэхні́чны*, хоць *п**а**літэ́хніка*
*ф**а**награфі́чны*, аднак і *ф**о**награфі́чны*, хоць толькі *ф**а**награ́фія*
*шкл**а**графі́чны*, аднак і *шкл**о**графі́чны*, хоць толькі *шкл**а**гра́фія*

Пры такім асваенні ўскладняецца і без таго няпросты працэс семантычнай ідэнтыфікацыі. Вось некалькі пар каранёў, якія адрозніваюцца толькі галосным **а~о**:

| | | |
|---|---|---|
| ***а**кс-* ‘дошка; вось, вал, полюс’ | ≠ | ***о**кс-* ‘кіслы’ |
| *г**а**ма-* (выпраменьванне) | ≠ | *г**о**ма-* ‘падобны’ |
| *г**а**на-* ‘бляск’ | ≠ | *г**о**на-* ‘семя’ |
| *кр**а**н-* ‘журавель (у студні); кран’ | ≠ | *кр**о**н-* ‘карона’ |
| *м**а**на-* ‘разрэджаны’ | ≠ | *м**о**на-* ‘адзін’ |

[1] На той момант часціцы **ж**(**а**) і **б**(**ы**) пісаліся праз злучок.

*па**ра**-* ≠ *п**о**ра-*
*по**т**(а)-* ≠ *п**а**та-* 'хвароба'
*с**а**ма-* ≠ *с**о**ма-* 'цела, цялесны'

Усё яшчэ больш заблытваецца тым, што асобныя карані — аманімічныя і без праўдзення акання:

*г**а**ла-* 'соль': *г**а**лагенез*
*г**а**ла-* 'малако': *г**а**лактоза*
*г**а**ла-* 'урачыстасць': *г**а**ла-канцэрт*
*г**а**л(а)-* 'гал': *г**а**ламанія*
≠ *г**о**ла-* 'увесь': *г**о**лаcметабалія*

У выніку слова *г**а**лаграфі́чны* (бо *г**а**лагра́фія*), замацаванае насуперак асноўнаму правілу, аднак паводле заўвагі 2 (гл. вышэй: Пастанова-1957. V.1), — асацыюецца не з *гола*-, што адпавядала б праўдзе, а з чатырма іншымі, *ужо* аманімічнымі міжсобку, каранямі, з якімі не мае ні графічнай, ні семантычнай сувязі.

3. Аканне **праводзіцца**, бо слова **не ўспрымаецца як складанае**: *п**а**ртамане́т* (варыянт: *п**а**ртмане́т*) замест адпаведнага правілу ~~*по̀рта|мане́т*~~ (~~*по̀рт|мане́т*~~); *м**а**тацыклет* (відаць, па аналогіі з выключэннем *м**а**тацыкл*) замест адпаведнага правілу ~~*мо̀та|цыкле́т*~~, тым больш што частка *мота-* мусіць пісацца нязменна — незалежна ад націску (адпаведную арфаграму са Зводу-1959 гл. ніжэй).

Зрэшты, ёсць выпадкі, калі праўдзенне акання немагчыма растлумачыць нічым: ***а**рніта|філі́я*, хоць < **ó**rni(tho)s; *п**а**лі|тэхніза́цыя* (нароўні з *п**о**літэхнізацыя*), дзе націск прыпадае ажно на трэці (!) склад другой часткі слова, — хоць *п**о**лі|тэхні́зм*, *п**о**лі|тэхні́чны*, дзе націск — усяго на другім складзе другой часткі.

4. Аканне **паказваецца**, хоць націск прыпадае **не на першы** склад, — на ўзор **ненаціскной** утваральнай асновы, напр.:

*г**а**л**а**вакружэ́нне*, а не ~~*го̀лава|кружэ́нне*~~ ці ~~*гало̀ва|кружэ́нне*~~, бо *г**а**л**а**ва́*
*м**а**л**а**казаво́д*, а не ~~*мало̀ка|заво́д*~~ ці ~~*мо̀лака|заво́д*~~, бо *м**а**л**а**ко́*
*см**а**лакурэ́нне*, а не ~~*смо̀ла|курэ́нне*~~, бо *см**а**ла́*

Напісанні ў адпаведнасці з «правілам націску ў другой частцы» нярэдка выклікаюць у карыстальнікаў дыскамфорт, бо ўзнікаюць непажаданыя асацыяцыі — нават ва ўласнабеларускай лексіцы, напр.: *т**а**нканогі* — у каго ногі, як у *т**а**нка*? Або *м**а**шкаедны* — той, хто есць *М**а**шак*? А што ўжо казаць пра запазычанні, дзе паслядоўнае праўдзенне акання часам робіць першую частку складанага слова непазнавальнаю. Напрыклад, у лексеме *аз**а**насфера* з цяжкасцю пазнаецца *аз**о**н*, у лексеме *шортг**а**рн* — *г**о**рн* (абодва прыклады — з СІС).

Цікавая гісторыя атрымалася з двума падобнымі прозвішчамі складанай будовы, хістанні ў напісанні якіх назіраюцца ў выданнях нават таго самага выдавецтва. У экіпажы героя ВАВ Гастэлы быў стралок, у розных энцыклапедыях названы па-рознаму — то *Ск**а**рабагатым* (КарБелСЭ, ЭГБ), то *Ск**а**рабагат**ав**ым* (БелСЭ, БелЭн;

усюды арт. «Гастэла»). Праўда, ва ўсіх выпадках — праз **а** ў першай частцы. Аднак у БелЭн прозвішчы такіх асобаў, як спявак Віктар *Ск**о**рабагатаў* і танцор балету Кірыла *Ск**о**рабагаты* (у адпаведных аднайменных артыкулах), падаюцца праз **о**. Такім чынам, нават у адным і тым жа выданні тыя самыя прозвішчы аказаліся напісанымі па-рознаму.

«Правіла націску ў другой частцы» аказалася складаным не толькі для «энцыклапедыстаў», але і для мовазнаўцаў, нават для цэлых мовазнаўчых калектываў, якія складалі кадыфікацыйную літаратуру — слоўнікі і даведнікі. Напрыклад, у СБМ замацавана «няправільная», аднак пазнавальная форма *н**о**таграфія*, а ў СІС абедзве — і *н**о**таграфія*, і *н**а**таграфія*. Праўда, пададзены яны ў розных месцах, без узаемных спасылак, аднак з самастойнымі дэфініцыямі. Міжволі складаецца ўражанне: аўтар СІС нават не падазраваў, што замацаваў адно і тое ж слова па-рознаму. Затое ў СБМ вырашылі, каб не схібіць, прыняць абодва варыянты іншых слоў: *н**а**вакаін* і *н**о**вакаін*, *т**а**рфакрошка* і *т**о**рфакрошка*. А вось на наступным слове аўтары СБМ і СІС не згадзіліся: у СБМ прынялі *кр**о**ншнэп*, а ў СІС — *кр**а**ншнэп*.

Нават у лінгвістычнай тэрміналогіі, дзе, здавалася б, паводле вызначэння ўсё мусіла б адпавядаць заяўленым прынцыпам, «правіла націску ў другой частцы» парушаецца: напр., уласнабеларускі тэрмін *мн**о**жна|лі́кавы*; іншамоўныя тэрміны: ***а**йк|а*$_1$*-ні́*$_2$*-мі-ка*, ***а**йк|а*$_1$*-ні́*$_2$*-мі-я* ад грэчаск. ***o**ikos* ‘жытло’ мелі б пісацца як ~~*ойканіміка*~~, ~~*ойканімія*~~ (лічбамі $_1$ і $_2$ абазначаны склады ў другой частцы слова).

Відавочную слабасць і практычную невыканальнасць «правіла націску ў другой частцы» ўсведамляў і А. Падлужны. Аднак замахнуцца на сам прынцып яго група не насмелілася і, каб неяк зняць вастрыню супярэчнасці паміж правілам і яго рэалізацыяй (дакладней — парушэннем), паўтарыла ў сваім праекце агаворку са Зводу-1959:

**Праект Падлужнага:** § 10. ... У першай частцы некаторых складаных слоў можа выразна праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны націск падае на першы склад другой часткі. У такім выпадку пад пабочным націскам у гэтых словах пішацца *о*: *мал**о**чнакіслы*, *аз**о**тнакіслы*, *ф**о**сфарнакіслы*, *зб**о**жжаздача*, *м**о**вавед*, *м**о**вазнаўства* (і вытворныя), *манг**о**лазнаўства*, *манг**о**лавед*, *усх**о**дазнаўства*, *раб**о**тадавец*, *мат**о**разборачны*, *н**о**вавынайдзены*, *кал**о**нлічба*, *іг**о**лкаскурыя*, *ф**о**ндасховішча*, *в**о**семсот*. Напісанне падобных слоў вызначаецца слоўнікам.

(Усе ілюстрацыі — з СБМ, апроч *іг**о**лкаскурыя*, *н**о**вавынайдзены*; у СБМ: *ігласкурыя*, *іг**о**лкафільтр*, *н**а**вавынайдзены*.)

З аднаго боку, група Падлужнага ўзаконіла парушэнні правіла, ужо праведзеныя ў слоўніках. З другога — яна «зрабіла дзірку ў законе», каб пазней, пры складанні новага арфаграфічнага слоўніка, мець легальныя падставы пакідаць этымалагічнае **о** паводле свайго «моўнага пачуцця» і інтуіцыі. Не здаволіўшыся з фармулёўкі ў сваім праекце, А. Падлужны звяртаецца да гэтай балючай праблемы ці не ў апошняй сваёй публікацыі, імкнучыся (1) максімальна расшырыць межы выключэнняў з правіла, (2) падаць шырэйшую аргументацыю такога развязання і (3) засцерагчы сваіх наступнікаў ад безагляднага правядзення акання ў складаных словах:

…*о* захоўваецца, калі першай часткай складанага слова з'яўляецца *зб**о**жжа-*, *сл**о**ва-*, *м**о**ва-*, *пр**о**ці-*, *в**о**ка-*: *зб**о**жжасховішча*, *сл**о**ватворчасць*, *м**о**вазнаўства*, *пр**о**цілеглы*, *пр**о**ціборства*, *в**о**камгненна* (выключэнні *вакамер* і *вакамерны*). Літара *о* захоўваецца і тады, калі напісанне *а* вядзе да страты сувязі з аднакарэннымі словамі ў іншых пазіцыях: *абар**о**наздольнасць* (*абар**а**на-* ?), *п**о**стфактум*, *п**о**стскрыптум* (параўн.: *п**о**стындустрыяльны*, *п**о**стмадэрнізм*), *г**о**рналыжны* (*г**а**рна-* ?), *в**о**дналыжнік* (*в**а**дна-* ?), *к**о**няферма* (параўн. назва птушкі *к**а**ня*), *манг**о**лавед* (*манг**а**ла-* ?), *к**о**ласазнавец* (*к**а**ласа-* ?), *усх**о**дазнаўства* (*усх**а**да-* ?) і г. д., *пры**о**дазнаўства* (*пры**а**да-* ?), *мар**о**застойкі* (*мар**а**за-* ?)… Захоўваюць *о* таксама першыя часткі складаных слоў *ф**о**та-*, *м**о**та-*, *к**о**нтр-*, *шт**о**-*…[2]

Як бачым, абвешчаныя ў Зводзе-1959 прынцыпы «не працуюць», — у гэтым пераконвае амаль паўстагоддзя яго «дзеяння». Таму ў будучыні, калі складуцца больш спрыяльныя ўмовы для ўнармавання беларускага правапісу, гэтыя прынцыпы трэба было б змяніць.

## В. Як будзе паводле Праекта: складанасці з семантычнай ідэнтыфікацыяй

Хоць сустаршыня міністэрскай камісіі А. Лукашанец часта падкрэслівае практычную тоеснасць праекта Падлужнага і Міністэрскага праекта, аднак знаёмства з адпаведнай арфаграмай новай рэдакцыі пераконвае ў адваротным:

**Міністэрскі праект:** § 5.2. … Літара *о* захоўваецца, калі першай часткай складанага слова з'яўляюцца *сл**о**ва-*, *в**о**ка-*, *шт**о**-*: *сл**о**ватво́рчасць*, *в**о**камгне́нне*, *шт**о**дзённы*, *шт**о**ме́сяц*, *шт**о**ко́львек*, *шт**о**го́д*.

Як бачым, новы Праект не толькі не пашырае сектара выключэнняў, а, — насуперак рэдакцыі 1957—1959 гг., насуперак акадэмічным і энцыклапедычным выданням, насуперак праекту Падлужнага, нарэшце, насуперак моўнай практыцы, — звужае «прасвет», зводзячы яго да трох каранёў. Усё — у імя «скарачэння колькасці выключэнняў».

Чаму выключэнні зроблены ў дачыненні менавіта гэтых асноў? З часткаю *сл**о**ва-* ўсё ясна: яна можа «блытацца» са *сл**а**ва-*. Але чаму выбар прыпаў менавіта на *в**о**ка-* і *шт**о**-*, якія — у адрозненне ад дзесяткаў іншых асноў — не ўступаюць у аманімічныя дачыненні, інакш кажучы, нават калі і правесці аканне, застаюцца больш-менш пазнавальнымі?

А як жа быць з сотнямі іншых складаных слоў, у якіх — дзеля пазнавальнасці — «правіла націску ў другой частцы» не праводзілася?! У Праекце не прадугледжваецца ніякіх «пралазаў» ці «шчылінак» для таго, каб захаваць зыходныя **о**/**ё** ў першай частцы.

Такім чынам, паводле Праекта, трэба будзе пісаць, напр.: *б**а**гпомач* (замест ранейшага *б**о**гпомач*), *кал**а**нтытул* (замест *кал**о**нтытул*), ***а**стготы* (замест ***о**стго-*

[2] Падлужны, А. Традыцыі ва ўдасканаленні беларускага правапісу // Роднае слова. 2005. № 8. С. 45.

*ты*), *х**а**рмайстар* (замест *х**о**рмайстар*). Калі ж абвешчаныя ў Праекце змены будуць праводзіцца паслядоўна, татальнае аканне ператворыць дагэтуль знаёмыя словы ў рэбусы. Здагадайцеся, што б гэта магло азначаць:

*аз**а**табактар* (замест *аз**о**табактэр*)
*здар**а**ўядайны* (замест *здар**о**ўедайны*)
*насяк**а**маедны* (замест *насяк**о**маедны*)
*п**а**льскамоўны* (замест *п**о**льскамоўны*)
*перап**а**нчатакрылы* (замест *перап**о**нчатакрылы*)

Новае афармленне будзе не толькі зацямняць семантыку складаных слоў, але і спрыяць іх няправільнаму ўспрыманню — праз узнікненне новых, «фальшывых» асацыяцый, напр.:

*б**о**рмашына* → *б**а**рмашына* (бар-аўтамат?)
*г**о**фмаршал* → *г**а**фмаршал* (адмірал? < нямецк. H**a**ff ‘затока’ або маршал-разява? < нямецк. g**a**ffen ‘вылупіцца (пра разяву)’)
*гр**о**смайстар* → *гр**а**смайстар* (майстар стрыгчы траву? < нямецк. Gr**a**s ‘трава’)
*зд**о**льнадзейны* → *зд**а**льнадзейны* (які дзейнічае *зд**а**ля*?)
*к**о**рмазмешвальнік* → *к**а**рмазмешвальнік* (ад *к**а**рма*? няўдачлівы прадказальнік лёсу?)
*к**о**рнпапера* → *к**а**рнпапера* (ад *к**а**рны*, *к**а**ра*?)
*кр**о**камер* → *кр**а**камер* (прылада для вымярэння колькасці *кр**а**канняў*?)
*кр**о**нпрынц* → *кр**а**нпрынц* (*прынц кр**а**на* на ўзор *каралевы бензакалонкі*?)
*м**о**цнадзейны* → *м**а**цнадзейны* (*м**а**цаць* + *надзейны*?)
*н**о**нканфармізм* → *н**а**нканфармізм* (ад *н**а**на-*, як у *н**а**натэхналогіі*?)
*п**о**стсавецкі* → *п**а**стсавецкі* (ад *п**а**ста*?)
*р**о**лікадром* → *р**а**лікадром* (ад *р**а**лі*?)
*р**о**тэнфюрэр* → *р**а**тэнфюр**а**р* (правадыр рады? < нямецк. R**a**t ‘рада’)
*т**о**нстудыя* → *т**а**нстудыя* (*т**а**нцавальная студыя*?)

Шырэй карціна магчымых змен рэпрэзентуецца ў табліцы 1.

Таксама нічога не гаворыцца пра словы з часткамі *м**о**та-*, *ф**о**та-*, якія, паводле Зводу-1959, мусілі пісацца нязменна:

**Звод-1959:** § 18. ...захоўваюць у першай частцы ***о*** таксама словы на: ***фота-*** (*ф**о**така́ртка*, *ф**о**тако́пія*, *ф**о**тазды́мак*, *ф**о**тарэ́туш*, *ф**о**тасу́вязь*, *ф**о**така́мера*, *ф**о**таві́стаўка*, *ф**о**тапле́нка*, *ф**о**тасі́нтэз*, *ф**о**татэ́хніка* і г. д.; але *ф**а**тагра́фія* і вытворныя ад яго); ***мота-*** (*м**о**тапо́езд*, *м**о**тало́дка*, *м**о**такро́с*, *м**о**таго́нкі*, *м**о**така́да* і г. д.; але: *м**а**таво́з*, *м**а**тацы́кл* і вытворныя)...

На практыцы да гэтай групы далучыліся словы з часткамі *к**о**нтр-* і *пр**о**ці-*, што знайшло замацаванне ў акадэмічных слоўніках.

Такім чынам, чатыры з пяці згаданых частак (апроч *што-*) аўтары Праекта не

ўключылі ў выняткі, а значыць, наканавалі ім змяніць аблічча на больш цьмянае (гл. табліцу 2).

### C. Словы з трыма і большай колькасцю асноў

Рэдакцыя 1957—1959 гг. прадугледжвала правядзенне акання на месцы **о** толькі ў складаных словах з дзвюма асновамі. У словах з трыма і большай колькасцю асноў **о** захоўваецца — незалежна ад месца націску.

**Пастанова-1957:** V.1. в) Калі складаныя словы маюць у сваім складзе больш за дзве часткі, то кожная з гэтых частак пішацца як асобна ўзятае слова: *парав**о**заваг**о**набудаўнічы* і інш.

У Зводзе-1959 павялічылася колькасць прыкладаў і дадалося тлумачэнне:

**Звод-1959:** Калі складаныя словы маюць у сваім саставе больш за дзве часткі, то кожная частка пішацца як асобна ўзятае слова. Напрыклад, напісанне слова *парав**о**заваг**о**нарамонтны* можна праверыць праз напісанне слоў: *парав**оз***, *ваг**он***, *рам**о**нт*: *авіямат**о**рабудаванне* — праз *авія*, *мат**о**р*, *будаванне*; *аэраф**о**тапрыбор* — праз *аэра*, *ф**о**та*, *прыбор*.

«Традыцыйнае» правіла было паўторана ў праекце Падлужнага амаль слова ў слова (§ 17). А з Міністэрскага праекту прыбралі «непатрэбнае», на думку яго аўтараў, тлумачэнне:

**Міністэрскі праект**: § 5.7. Калі складаныя словы маюць у сваім складзе больш за дзве часткі, то кожная з іх пішацца як і асобна ўзятае слова: *парав**о**заваг**о**нарамонтны, авіямат**о**рабудаванне, аэраф**о**тапрыбор.*

Пры параўнанні фармулёвак з розных рэдакцый звяртае на сябе ўвагу вернасць у ілюстрацыях «паравозавагоннай» тэматыцы.

Табліца 1. **Некаторыя складаныя словы, правапіс якіх зменіцца ў выніку прыняцця Праекта**

| ЦЯПЕР (пвд СБМ) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| аз**о**таген | аз**а**таген |
| аз**о**такіслы | аз**а**такіслы |
| аз**о**цістакіслы | аз**а**цістакіслы |
| асн**о**ватворны | асн**а**ватворны |
| бл**о**кпост | бл**а**кпост |
| г**о**рналыжны | г**а**рналыжны |
| г**о**фмайстар | г**а**фмайстар |
| д**о**нкіхот | д**а**нкіхот |
| жыв**ё**лабойны | жыв**е**лабойны |
| зб**о**жжаздача | зб**а**жжаздача |
| зб**о**жжапульт | зб**а**жжапульт |
| з**о**ркалётчык | з**а**ркалётчык |
| іг**о**лкафільтр | іг**а**лкафільтр |
| к**о**жнадзённы | к**а**жнадзённы |
| к**о**ксахімія | к**а**ксахімія |
| к**о**леразнаўства | к**а**леразнаўства |
| кр**о**нцыркуль | кр**а**нцыркуль |
| літ**о**ўскамоўны | літ**а**ўскамоўны |
| м**о**ватворца | м**а**ватворца |
| м**о**цнатокавы | м**а**цнатокавы |
| нерв**о**вахворы | нерв**а**вахворы |
| н**о**вастнораны | н**а**вастнораны |
| т**о**нмайстар | т**а**нмайстар |
| т**о**нфільм | т**а**нфільм |
| т**о**рфакокс | т**а**рфакокс |
| ф**о**кстэр’ер | ф**а**кстэр’ер |
| ф**о**ндаёмісты | ф**а**ндаёмісты |
| хвар**о**батворны | хвар**а**батворны |
| хл**о**рвоцатны | хл**а**рвоцатны |
| х**о**разнаўства | х**а**разнаўства |
| хр**о**мавакіслы | хр**а**мавакіслы |
| электр**о**награфія | электр**а**награфія |
| яп**о**назнаўства | яп**а**назнаўства |

Табліца 2. **Складаныя словы з часткамі *контр-*, *мота-*, *проці-*, *фота-*, правапіс якіх не залежыць ад «правіла націску ў другой частцы»**

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| к**о**нтрамарш | к**а**нтрамарш |
| к**о**нтргайка | к**а**нтргайка |
| к**о**нтрмеры | к**а**нтрмеры |
| к**о**нтрміна | к**а**нтрміна |
| к**о**нтрпара | к**а**нтрпара |
| к**о**нтрфорс | к**а**нтрфорс |
| м**о**табол | м**а**табол |
| м**о**табот | м**а**табот |
| м**о**тагонкі | м**а**тагонкі |
| м**о**тадром | м**а**тадром |
| м**о**тазборачны | м**а**тазборачны |
| м**о**таклуб | м**а**таклуб |
| м**о**такрос | м**а**такрос |
| м**о**тапоезд | м**а**тапоезд |
| м**о**тапомпа | м**а**тапомпа |
| м**о**таралі | м**а**таралі |
| м**о**таролер | м**а**таролер |
| м**о**тасані | м**а**тасані |
| м**о**таспорт | м**а**таспорт |
| м**о**тачасць | м**а**тачасць |
| м**о**ташлем | м**а**ташлем |
| пр**о**ціатамны | пр**а**ціатамны |
| пр**о**ціборства | пр**а**ціборства |
| пр**о**цівага | пр**а**цівага |
| пр**о**цівірусны | пр**а**цівірусны |
| пр**о**цігліставы | пр**а**цігліставы |
| пр**о**цігніласны | пр**а**цігніласны |
| пр**о**цідзейны | пр**а**цідзейны |
| пр**о**цідымны | пр**а**цідымны |
| пр**о**ціззянне | пр**а**ціззянне |
| пр**о**цізносны | пр**а**цізносны |
| пр**о**цілеглы | пр**а**цілеглы |
| пр**о**цілежны | пр**а**цілежны |

Ілюстрацыі *паравозавагонабудаўнічы*, *паравозавагонарамонтны* — шчаслівае супадзенне: у апошніх частках *-рамо́нтны*, *-будаўні́чы* націск прыпадае не на першы склад. Таму «паравозавагонныя» словы са звяздоўскага лексікону сталінскіх часоў працягваюць сваё трыумфальнае шэсце па падручніках, хоць усе беларускія паравозы ўжо і не будуюцца, і не рамантуюцца, а дзесяцігоддзямі стаяць «на вечным прыколе» на станцыі Негарэлае. Ніжэй у адпаведным месцы мы падамо яшчэ колькі прыкладаў таго, што ілюстрацыйны матэрыял у Праекце нярэдка рэпрэзентуе рэаліі былых эпох.

Праўда, у фармулёўцы Зводу-1959 ёсць дзве некарэктнасці:

a) слова *паравоз* ужо мае складаную будову, таму тлумачэнне мусіла б выглядаць наступным чынам: «*паравозавагонарамонтны* можна праверыць праз напісанне слоў: *пара*, ***воз***, *ваг**о**н*, *рам**о**нт*»;
b) ілюстрацыі з *ф**о**та-* не паказальныя, бо гэтая частка незалежна ад усяго мусіць пісацца нязменна.

Што да самой арфаграмы, то з ёй зусім бяда — часцей яна не выконваецца, чым выконваецца. Вось усяго некалькі прыкладаў з СБМ і СІС:

*амперв**а**льтметр* замест *ампѐр|в**ȍ**льт|ме́тр* < в**о**льт
*антрапам**а**рфалогія* замест *а̀нтрапа|м**ȍ**рфа|ло́гія* < m**ó**rphe
*ге**о**л**а**гаразведка* замест *гѐ**а**|л**ȍ**га|разве́дка* < ge, l**ó**gos
*палеаз**а**алогія* замест *па̀леа|з**ȍ**а|ло́гія* < z**ó**on
*псіхас**а**цыялогія* замест *псі̀ха|с**ȍ**цыя|ло́гія* < s**ó**cio
*этнак**а**смалогія* замест *э̀тна|к**ȍ**сма|ло́гія* < c**ó**smos
*фотат**а**паграфія* замест *фота|т**ȍ**па|гра́фія* < t**ó**pos

І нават у словах з *-ф**о**та-*:

*астраф**а**таметрыя* замест *а̀стра|ф**ȍ**та|ме́трыя*
*хронаф**а**таграма* замест *хрȍна|ф**ȍ**та|гра́ма*

Праўда, матывы парушэння «правіла трох частак» (так мы назавем згаданую арфаграму) даволі

празрыстыя: канфлікт паміж двухасноўнымі і шматасноўнымі словамі. Таму і пішуцца:

*антрапас**а**цыялогія*, як *с**а**цыялогія*, хоць < s**ó**cio
*геахр**а**налогія*, як *хр**а**налогія*, хоць < chr**ó**nos
*імунам**а**рфалогія*, як *м**а**рфалогія*, хоць < m**ó**rphe
*марф**а**налогія*, як *ф**а**налогія*, хоць < ph**ó**nos

Пра тое, што аўтары Праекта і не думаюць датрымліваца ўласных устанаўленняў, сведчаць напісанні *аўтам**а**такрос* (крос з аўтаматамі?), *аэраф**а**таздымка* (абодва прыклады — з § 31.1) замест чаканых, здавалася б, *аўта|м**о**та|крос, аэра|ф**о**та|здымка* (так у СБМ).

### D. Неўразуменні

Аўтары Праекта прадэманстравалі незвычайную лапідарнасць у асвятленні правапісу складаных слоў (ніяк не параўнаць з правіламі напісання вялікай літары). Яны пакідаюць патэнцыйных карыстальнікаў — а гэта ўсе, хто піша і будзе пісаць па-беларуску, хоць бы на ўроках беларускай мовы, — у неўразуменнях, як мяркуецца пісаць:

1) элементы *контр-*, *пост-*, *прота-*, *фор-* і пад.:
   — у Праекце ёсць напісанні (праўда, не ў тых *главах*, што прысвечаны складаным словам) *к**а**нтрагент*, *п**а**ст-*, *п**а**стпазіцыя* (§ 31.1), якія пярэчаць СБМ: *к**о**нтрагент, п**о**стпазіцыя*;
   — слоў з элементамі *пр**о**та-* ў Праекце няма, у СБМ: *пр**о**табеларускі*, *пр**о**тагісторыя*, *пр**о**тадыякан*, *пр**о**таславяне*;
2) часткі *святл**о**-*, *шкл**о**-*, *ус**ё**-*, дзе складанасць — у вызначэнні статусу *-**о**-/-**ё**-*: гэта элемент асновы ці злучальны галосны? Ад вырашэння гэтага пытання залежыць правапіс адпаведных галосных;
3) словы, другая частка якіх пачынаецца з **-ў-**. У Зводзе-1959 злучальны **е** ў такіх лексемах яканню не падлягаў: *вогн**е**ўстóйлівы*, *зерн**е**ўбóрачны* (СБМ), аднак у Праекце знаходзім узаемавыключальныя ілюстрацыі: *вогн**е**ўстóйлівы* (§ 5. «Літары *о, э, а* ў складаных словах»), але *зерн**я**ўбóрачны* (§ 7. «Правапіс *е, я, ё* ў складаных словах»). Цана

Табліца 2. *Працяг.*

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| пр**о**цілодачны | пр**а**цілодачны |
| пр**о**цімінны | пр**а**цімінны |
| пр**о**цімоўка | пр**а**цімоўка |
| пр**о**цімоўца | пр**а**цімоўца |
| пр**о**цінакіпны | пр**а**цінакіпны |
| пр**о**ціпотавы | пр**а**ціпотавы |
| пр**о**ціракавы | пр**а**ціракавы |
| пр**о**цірэжучы | пр**а**цірэжучы |
| пр**о**цісонечны | пр**а**цісонечны |
| пр**о**цістаўленне | пр**а**цістаўленне |
| пр**о**цісутаргавы | пр**а**цісутаргавы |
| пр**о**цітанкавы | пр**а**цітанкавы |
| пр**о**ціціск | пр**а**ціціск |
| пр**о**цічумны | пр**а**цічумны |
| пр**о**цішокавы | пр**а**цішокавы |
| пр**о**ціяддзе | пр**а**ціяддзе |
| пр**о**ціядзерны | пр**а**ціядзерны |
| ст**о**вежавы | ст**а**вежавы |
| ст**о**градусны | ст**а**градусны |
| ст**о**клетачны | ст**а**клетачны |
| ст**о**свечкавы | ст**а**свечкавы |
| ст**о**сільны | ст**а**сільны |
| ст**о**тонны | ст**а**тонны |
| ст**о**тысячны | ст**а**тысячны |
| ф**о**табомба | ф**а**табомба |
| ф**о**таген | ф**а**таген |
| ф**о**таздымка | ф**а**таздымка |
| ф**о**такадр | ф**а**такадр |
| ф**о**такамера | ф**а**такамера |
| ф**о**такартка | ф**а**такартка |
| ф**о**таклуб | ф**а**таклуб |
| ф**о**таконкурс | ф**а**таконкурс |
| ф**о**такопія | ф**а**такопія |
| ф**о**таметрыя | ф**а**таметрыя |
| ф**о**танарыс | ф**а**танарыс |
| ф**о**таоптыка | ф**а**таоптыка |
| ф**о**таплёнка | ф**а**таплёнка |

Табліца 2. *Заканчэнне.*

| ЦЯПЕР (пвд СБМ, СІС) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| ф**о**тасет**э**р | ф**а**тасет**а**р |
| ф**о**тасінтэз | ф**а**тасінтэз |
| ф**о**тастат | ф**а**тастат |
| ф**о**тастудыя | ф**а**тастудыя |
| ф**о**тастэнд | ф**а**тастэнд |
| ф**о**тасфера | ф**а**тасфера |
| ф**о**тасхема | ф**а**тасхема |
| ф**о**татаксіс | ф**а**татаксіс |
| ф**о**татрофы | ф**а**татрофы |
| ф**о**татыпія | ф**а**татыпія |
| ф**о**татыпны | ф**а**татыпны |
| ф**о**татэка | ф**а**татэка |
| ф**о**татэхніка | ф**а**татэхніка |
| ф**о**тафілы | ф**а**тафілы |
| ф**о**тафільм | ф**а**тафільм |
| ф**о**тафініш | ф**а**тафініш |
| ф**о**тафобія | ф**а**тафобія |
| ф**о**тафобы | ф**а**тафобы |
| ф**о**тафон | ф**а**тафон |
| ф**о**тафоры | ф**а**тафоры |
| ф**о**тахімія | ф**а**тахімія |
| ф**о**тахромія | ф**а**тахромія |
| ф**о**тахроніка | ф**а**тахроніка |

праблемы, паводле падлікаў па СБМ, — 26 лексем;

4) злучальны **е** перад злучком. Ці падлягае ён яканню, калі другая частка пачынаецца з націскнога складу? Вось у БелЭн не мелі адказу на гэтае пытанне, таму ў адным выпадку правялі яканне: *Заходн**я**-Ціўкаўскае радовішча*, а ў другім — не: *Усходн**е**-Рымская імперыя*;

5) словы, якія пачынаюцца на прыстаўны **в** + **о**, — ці страцяць яны прыстаўны пры мене **о** → **а** (бо фанетычныя ўмовы для развіцця прыстаўнога зікнуць).

| | | |
|---|---|---|
| ***во**зеразнаўства* | → | ***а**зеразнаўства* ці ***ва**зеразнаўства*? |
| ***во**кіснартутны* | → | ***а**кіснартутны* ці ***ва**кіснартутны*? |
| ***во**цатнакіслы* | → | ***а**цатнакіслы* ці ***ва**цатнакіслы*? |
| ***во**гн**е**ўстойлівы* | → | ***а**гн**е**ўстойлівы* ці *в**а**гн**е**ўстойлівы* ці ***а**гн**я**ўстойлівы* ці ***ва**гн**я**ўстойлівы*? |

6) словы накшталт *«Фт**о**радэнт»* (§ 30)? Калі менавіта так, то якім правілам Праекта такое напісанне дыктуецца?

Агульная недасканаласць комплексу правілаў, якія рэгулююць арфаграфію складаных слоў і, як вынік, непаслядоўнасць у іх выкананні мусілі б насцярожыць аўтараў Праекта. І калі ўжо яны не мелі рацыянальнай прапановы наконт прынцыповай змены правапісу складаных слоў, то лепш бы не мяшаліся ў гэтае самае складанае пытанне беларускай арфаграфіі, пакінуўшы ўсё без змен. На жаль, гэтак не сталася.

## II.5. Слова на развітанне з татальным аканнем

Для нас беларуская мова — гэта не яшчэ адна кваліфікацыйная дысцыпліна для сістэмы адукацыі, а інструмент штодзённага ўжытку. Нам хацелася б выкарыстоўваць яе ў як мага большай колькасці сітуацый. Мы маем перадаць яе нашчадкам як асноўны, максімальна універсальны сродак самарэалізацыі. А бяздумнае спрашчэнства, абгрунтаванне патрэбаю паспяховай «тэстаздачы», ніяк не можа спрыяць развіццю мовы, пашырэнню сфер яе ўжывання, яе лепшай будучыні.

Спадзяемся, ніжэйпададзеныя развагі будуць не лішнія пры выпрацоўцы прынцыпаў асваення іншамоўнай лексікі на сённяшнім этапе эвалюцыі мовы.

1. Мусім прызнаць, што беларуская мова належыць да **меншых** моў, якія адрозніваюцца ад моў **большых** не толькі колькасцю носьбітаў, — яны займаюць меншую палову узуальных ніш, інакш кажучы, выкарыстоўваюцца далёка не ва ўсіх сферах ужывання мовы, а значыць — больш залежаць ад вонкавых чыннікаў, ад іншых, большых моў.

   Большыя мовы аб'ектыўна канкуруюць ва ўплыве на меншыя мовы. З развіццём вонкавых камунікацый учорашні рэгіянальны лідэр (у нашым выпадку — руская мова) саступае першынство канкурэнтам (заходнееўрапейскім мовам, найперш англійскай). Прадбачыць, хто стане лідэрам моўнага ўплыву заўтра, немагчыма. Таму неабходна выпрацаваць максімальна універсальныя прынцыпы трансляцыі іншамоўных фактаў на беларускую глебу — каб чым найменш залежаць ад бягучых ваганняў геапалітыкі і кан'юнктурных меркаванняў.

2. Кожная нацыя на раннім этапе свайго развіцця імкнецца самасцвердзіцца ў мове і праз мову, акрэсліўшы такім чынам сваю «нацыянальную тэрыторыю» — абсяг сваёй дамінацыі. Аднак што добра для падлеткавага самасцвярджэння — не заўсёды добра для дарослага жыцця. Пры асваенні іншамоўнай лексікі трэба ўсведамляць, што час гарэзіяў і свавольства мінуў — нацыя пасталела.

3. Чым большая колькасць пунктаў асваення[3] і чым вышэйшая ступень іх універсальнасці, тым цяжэй, а ў вялікім шэрагу выпадкаў — немагчыма, карэктна зрабіць т. зв. *адваротны пераклік*, г. зн. аднавіць зыходную форму — форму, якую мела лексема ў мове-крыніцы. Да таго ж носьбіту трэба ведаць не толькі правілы асваення (*пераліку*) іншамоўных фактаў на ўласную мову, але мець дастаткова ведаў і матэрыялу для адваротнага пераліку. Калі ж правілы асваення складаныя і пунктаў асваення шмат, аблічча запазычання настолькі адрываецца ад зыходнай формы, што аднавіць яе паспаліты носьбіт проста не здольны. Гэта прыводзіць да самаізаляцыі мовы. **Для меншай мовы**, носьбіты якой спрэс білінгвы (або полілінгвы), што валодаюць і большаю моваю (большымі мовамі) ды штодзень стаяць перад выбарам, *якую* мову ўжыць у кожным канкрэтным выпадку, — **самаізаляцыя спрыяе яе пераходу ў групу мёртвых**.

   У гэтай сітуацыі, калі ўжо ўводзіць новы пункт асваення ці пашыраць раней уведзены на новыя пазіцыі, то матывы такой змены павінны быць вельмі сур'ёзныя.

4. Нельга блытаць правапісу з транскрыпцыяй. **Фанетызацыя пісьма павінна праводзіцца толькі ў тым выпадку, калі яна спрыяе *беларускай арфаэпіі***, іншымі словамі, ***захаванню правілаў беларускага вымаўлення***. Калі ж мена не працуе на такую задачу, яна будзе непатрэбнаю. Далейшае правядзенне акання на пісьме — як мы яго назвалі, «татальнае» аканне — ніяк не спрыяе ўмацаванню правільнага беларускага вымаўлення, бо нам не пагражае оканне. Калі і паказваць рэальную фанетыку, то ў зусім іншых выпадках.

[3] Пункты асваення — гэта, напр., змякчэнне большасці зычных перад **е**, перадача падвойных зычных адной літарай, правядзенне дзекання і цекання, перадача нямецкага спалучэння **dt** праз **т**.

Што да лёсу ненаціскнога **о**/**ё**, то ў Праекце зусім праігнаравана адна праблема. Невялікая паводле колькасці выпадкаў, яна ўсё ж такі важная, бо тыпалагічна звязана з вялікай групай слоў. Гутарка пра **о** на канцы іншамоўных слоў у становішчы перад ётам.

Вось варыянты перадачы канцавога спалучэння «**й** + ненаціскны **о**»:

— **-йо** — у БелЭн: *Ага́йо*, *Гірланда́йо*, *О́йо*;
— **-ё** — нярэдка ў практыцы: англійскі беларусіст *Пітэр Мэ́ё* (Ма**уо**), японскі мастак *То́ё Ода Сэсю* (абодва прыклады — з БелЭн), і нават у некаторых падручніках: *Ага́ё*[4], *Гірланда́ё*, *О́ё*;
— **-йа** — калі праводзіць аканне, як гэта робяць аўтары Праекта амаль ва ўсіх выпадках: *Ага́йа*, *Гірланда́йа*, *О́йа*;
— **-я** — калі быць паслядоўным у правядзенні прынцыпу: [йа] на пісьме перадаецца ётаванай літарай **я** (а гэты прынцып абвешчаны і рэалізаваны ў Праекце ў § 15.3: ***Я****га́нэсбург*, ***Я****кага́ма*, пра што падрабязнейшая гутарка наперадзе): *Ага́я*, *Гірланда́я*, *О́я*.

Зрэшты, аўтары рэдакцыі 1957—1959 гг. таксама капітулявалі перад гэтым пытаннем, адсылаючы да гіпатэтычнага слоўніка[5]. Аднак, мяркуючы па адзіным прыкладзе, які асвятляе цікавую для нас пазіцыю (*Агайо*, § 28), кадыфікатары схіляліся да захавання **о**.

Так, праблема ненаціскнога **о**/**ё** выходзіць за межы разгледжаных у Праекце выпадкаў. Калі б аўтары Праекта ўсведамлялі яе аб'ём, то, магчыма, адмовіліся б ад татальнага акання. Асабліва відавочнаю робіцца тэндэнцыя захоўваць зыходны [о] пры азнаямленні з практыкай перадачы іншамоўнай лексікі не ў навучальных, а ў рэальных тэкстах. Ніжэй мы падаем выпадкі захавання **о**/**ё** ў запазычаннях — незалежна ад месца націску (агульная лексіка — паводле СІС, БелЭн, уласная — паводле БелЭн[6]):

*А́ксельр**о**д* (БелЭн, Дадатак; параўн. *Аксельро́д* у 1 т.)
*А́ндэрсен-Не́кс**ё***
*Ан**ё*** (арт. «Вестэрален», меркаванае месца націску — на першым складзе)
*Ву́алі**ё**кі* (БелЭн, Дадатак)
*Ге́льмг**о**льц*
*Г**ё**йг**ё**ль*
*Г**о**генло́э*, *Г**о**генцо́лерны*, *Г**о**геншта́уфены*
*г**о**нфаланье́р*
*Г**о**с**ё*** (арт. «Японія», 18 : 292)
*г**о**спіталье́ры* (слова простай будовы)
*г**о**хуа́*
*Гру́дз**ё**ндз*
*дз**ё**ма́н*
*Дзь**ё**ндзь**ё**ш* (карта «Венгрыя», меркаванае месца націску — на першым складзе)

[4] Капылоў, І. Л.; Рапацэвіч, С. Я.; Атрахімовіч, М. А. Правапіс беларускай мовы: Асноўныя правілы і практычныя заданні. Мн., 2006. С. 16.

[5] Такі слоўнік (СБМ) і сапраўды з'явіўся... праз 30 гадоў пасля прыняцця Пастановы-1957 і праз 28 гадоў пасля публікацыі Зводу-1959; праўда, і ён не адказаў на мноства пытанняў — у тым ліку і таму, што вельмі скупа і фрагментарна рэпрэзентаваў геаграфічныя назвы, а асабовых імён у ім не было ўвогуле.

[6] Лічбы абазначаюць том і старонку ў БелЭн; калі такой спасылкі няма, адпаведнае напісанне — у аднайменным артыкуле.

*Дзінцэнг**о**фер*

*Ін**ё**ню́*

*Каралільё* (карта «Куба», меркаванае месца націску — на **і**)

*Караол-Дз**ё**бё*, *Кош-Дз**ё**бё* (карта «Кыргызстан»)

*К’е́ркег**о**р*

*к’**ё**кенме́дынгі*

*Кі**ё**ў* (карта «Чэхія», меркаванае месца націску — на **і**)

*Кірхг**о**ф*

*К**о**нёрчык* (4 : 77)

*К**о**сёр* (карта «Данія»)

*Ла́герл**ё**ф*

*Лангё* (арт. «Вестэрален», меркаванае месца націску — на першым складзе)

*Л**ё**гсцёр* (карта «Данія»)

*Л**о**рдкіпанідзе*

*Ль**ё**рэнтэ* (меркаванае месца націску — на першым **э**)

*Ма́льмё*

*Мансанільё* (карта «Куба», меркаванае месца націску — на **і**)

*м**о**ндыялізм* (слова простай будовы)

*М**о**цартэ́ум*

*НАТ**О*** (ва ўсёй БелЭн; напр., у арт. «Разанаў», 18 : 442; насуперак Праекту: *НАТ**А***, § 25.1)

*Н**ё**іскі*

*н**о**тагéя*

***О***’*Бра́ен*, ***О***’*Ко́нар*, ***О***’*Ко́нел*, ***О***’*Ніл*, ***О***’*Хігінс*

*оп**о**я́з*

*Пе́ц**ё**фі*

*Просце**ё**ў* (арт. «Чэхія», меркаванае месца націску — на **о**)

*пру́дэрп**о**ст*

*Рас**ё**м**о**н* (арт. «Акутагава»)

*Р**о**жав**ё**льдзі* (4 : 78)

*Ро́зенг**о**льц*

*Са́йгё*

*Се́ні**ё**р*

*с**ё**гу́н*

*С**ё**дэрстрэ́м* (4 : 78)

*С**ё**л**ё**ты* (4 : 78)

*С**ё**ра́*

*с**о**любілізі́цыя* (слова простай будовы)

*Тромсё* (карта «Нарвегія»; меркаванае месца націску — на **о**)

*Трухільё*

*Хадселё* (арт. «Вестэрален», меркаванае месца націску — на першым складзе)

*Х**ё**льсінг**ё**р* (карта «Данія»)

*Хінё* (арт. «Вестэрален», меркаванае месца націску — на першым складзе)

*Ходмез**ё**вашархей* (карта «Венгрыя», меркаванае месца націску — на першым складзе)

*Ць**ё**нвіль* (карта «Францыя»; меркаванае месца націску — на **і**)

*Чэске-Будзе**ё**віцы* (карта «Чэхія», меркаванае месца націску — на **у**)

Кавалерыйская атака на **о**/**ё** не мае апоры ў практыцы і не грае на карысць беларускай мове.

# III. АПАФЕОЗ ХАОСУ

## III.1. Даўна з даўнтаўна паслалі ў накдаўн

Правапіс **ў** зменіцца, але застанецца «загадкавым»

Кожны паспяховы шкаляр ведае: пасля галосных ненаціскны **у** пераходзіць у **ў**. А выдатнік яшчэ ведае, што гэты пераход не адбываецца:

— на пачатку ўласных назваў;

— на пачатку запазычанняў;

— у сярэдзіне і на канцы некаторых запазычанняў, ДЗЕ **У** ЎТВАРАЕ СКЛАД.

Толькі вось на пытанне: дзе ж, пры збегу якіх зорак адбываецца сакрамант складаўтварэння **у**? — не могуць упэўнена адказаць нават акадэмікі...

Але пачнём з удач Праекта.

Прафесары А. Лукашанец і В. Іўчанкаў у сваіх інтэрв'ю сцвярджалі: Праект спрашчае правапіс **ў**. Гэта сапраўды так, калі гутарка ідзе пра выпадкі з **у** на пачатку запазычанняў (гл. табліцу 3).

Табліца 3.

| ЦЯПЕР (Звод-1959) | ПРАЕКТ |
|---|---|
| § 82. ***У*** не скарачаецца: ... 3. ... у пачатку слоў іншамоўнага паходжання...: *праменні* ***у****льтрафіялетавыя*, *дзяржаўны* ***у****ніверсітэт*... | § 14.1. Нескладовае ў пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем пасля галосных.<br>Пры чаргаванні [у] з [ў]: на пачатку слова (калі гэтае слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): *на* ***ў****весь дзень (ад* ***у****сіх), моцны* ***ў****дар (ад* ***у****дару), хацела* ***ў****зяць (хацеў* ***у****зяць), сонца* ***ў****зімку (месяц узімку), крыкі «****ў****ра» (крык «****у****ра»), для* ***ў****ніята (з* ***у****ніятам), ва* ***ў****ніверсітэце (перад* ***у****ніверсітэтам), на* ***ў****звей-вецер (сцяг* ***у****звіўся), ледзьве* ***ў****чуў (раптам* ***у****чуў)...* |

Як бачым, цалкам разумная прапанова — не вылучаць групы запазычанняў, а падпарадкаваць іх асноўнаму правілу, бо сапраўды, чым адрозніваецца вымова **у**/**ў** у выпадках: *пра ўнука* і *пра ўнікальны экспанат*, *ва ўстанове* і *ва ўніверсітэце*?! Такім чынам, карыстальніку не трэба будзе развязваць часам няпростае пытанне: уласнабеларускага ці іншамоўнага паходжання слова, якому не пашанцавала пачынацца з **у-**?

Аднак астатнія хібы рэдакцыі 1957—1959 гг. — што датычаць пазіцыі ў сярэдзіне слова — засталіся ў Праекце нявыпраўленымі.

**Звод-1959:** § 82.3. [***У*** не скарачаецца] ... ў сярэдзіне [слоў іншамоўнага паходжання] пасля галосных перад зычнымі, калі **у** ўтварае самастойны склад: *прэзіды****у****м*, *кансілі****у****м*, *рады****у****с*, *ра****у****нд*, *стра****у****с*, *кло****у****н*, *со****у****с* і інш. Калі ж **у** ў сярэдзіне слова самастойнага склада не ўтварае, тады яно скарачаецца: *а****ў****дыторыя*, *а****ў****дыенцыя*, *па****ў****перызацыя*, *бра****ў****нінг*, *ма****ў****зер*.

Тут мы сутыкаемся з загадкавай фармулёўкай: «калі **у** ўтварае самастойны склад». Аднак калі вы паспрабуеце знайсці ўмовы «ўтварэння самастойнага склада», вас чакае фіяска: ніякіх уцямных тлумачэнняў ні ў навучальнай, ні ў навуковай літаратуры вы не знойдзеце — іх проста няма. А падручнікі ў новых і найноўшых выданнях — нароўні з загадкавым складаўтварэннем **у** — працягваюць спасылацца яшчэ і на «літаратурнае вымаўленне», нібы ёсць нейкае спецыфічнае дыялектнае вымаўленне **ў** (у паўднёва-заходніх гаворках на месцы **ў** сустракаецца **в**: *крывда* замест *крыўда*, аднак гэта не дае падстаў сцвярджаць, што ў розных рэгіёнах Беларусі **ў** вымаўляюць па-рознаму).

У нейкай ступені абгрунтаваным можна лічыць захаванне **у** ў лацінізмах на **-ium**, **-ius**, бо ў дыфтонгу **iu** функцыю нескладовага элемента выконвае **i**, а не **u**[7]. Таму ў такіх словах, як, напрыклад, ad**iu**nctus, con**iu**nctus спалучэнне **iu** прадаецца не праз ~~**-іу-/-ыу-**~~ (~~*каніунктывіт*~~, ~~*адыункт*~~,), а праз **'ю**: *ад'юнкт*, *кан'юнктывіт* (вымаўляецца як [йу]).

Яшчэ ў 1992 г. Правапісная камісія ТБМ вылучала сістэмную прапанову падпарадкаваць **-іу-/-ыу-** агульнаму правілу: ліквідаваць «зеўранне» (або «зіянне» — «збег галосных») праз **устаўны** ёт (гл. першую частку публікацыі):

*кансіл**ію**м* [і**й**у] < consil**iu**m, як *аксі**ё**ма* [і**й**о] < ax**io**ma, *рэкві**е**м* [і**й**э] < requ**ie**m
*прэзід**ыю**м* [ы**й**у] < presid**iu**m, *тр**ыю**мф* [ы**й**у] < tr**iu**mph, як *ід**ыё**ма* < id**io**ma [ы**й**о]
*рад**ыю**с* [ы**й**у] < rad**iu**s, як *іш**ыя**с* [ы**й**а] < isch**ia**s, *тр**ыя**с* [ы**й**а] < tr**ia**s.

На жаль, да гэтай прапановы не прыслухаліся. Аднак прэцэдэнт такога афармлення можна знайсці ў СІС: *псалтэр**ыю**м* < psalter**iu**m.

Да групы выключэнняў-лацінізмаў на **-ус**, **-ум** трэба дадаць словы на **-уш** паходжаннем з **-ус**: *дыярыу**ш***, *Клаўдыу**ш***.

Выпадкаў з іншымі галоснымі (г. зн. апроч **-і/-ы** перад **-ум/-ус**) у СБМ — гэта без вытворных, але разам са *страусам* пад *соусам* (якія, дарэчы, прыйшлі з нямецкай і французскай моў адпаведна[8]) — усяго толькі 10! Дый тое ў адным з іх пішацца **ў**: *анчо**ў**с*. У СІС «выпадкаў з іншымі галоснымі» крыху больш, аднак і тут не назіраецца чаканага адзінства ў адстойванні складовасці **у** ў спалучэнні «**галосны + -ус**»: *васіле**ў**с*.

Сярод выключэнняў у Зводзе-1959 аказаліся словы, у якіх **у**, несумненна, — **нескладовы** элемент: *раунд*, *страус*, *клоун*, *соус*. Вядома ж, мы прызнаем той факт, што на якасць і колькасць **у/ў** уплывае фанетычнае акружэнне: напр., перад санорным[9], асабліва канцавым, **ў** будзе вымаўляцца даўжэй за той жа **ў** перад шумным. Таму ў мове малапісьменных людзей можна сустрэць вымаўленне [дыназа**ва**р], [кло**ву**н], хоць здараецца і [стра**ву**с].

Але ж у адных словах «складовасць» і «літаратурнасць вымаўлення» дазваляюць дыфтангічнаму **у** (г. зн. ненаціскному **у** ў становішчы пасля галосных) скарачацца, у другіх — не, хоць пазіцыя ў іх тая самая:

Чаму *ска**ў**цкі*, але *ка**у**цкіянскі* (так прынамсі ў СБМ, хоць у БелЭн: *Ка**ў**цкі*)?
Чаму той жа *шлагба**у**м*, але *Ба**ў**ман*, хоць і той і другі — ад нямецк. Ba**u**m 'дрэва', дзе **u** — **нескладовы** элемент дыфтонга?

[7] Нидерман, М. Историческая фонетика латинского языка. М., 2004. С. 25. Арыгінал: Max Niedermann. Précis de phonétique historique du latin. Paris, 1945.

[8] *Страус* паходзіць ад грэчаск. strouthion 'птушка', дзе ўвогуле няма склада **-ус**, а *соус* ад франц. sauce, якое вымаўляецца без усякага **-у-** — [so:s], таму, напрыклад, па-польску так і ёсць — sos.

[9] Санорныя (**в, в', л, л', м, м', н, н', р**, а таксама **й** і нават **ў**) — зычныя гукі, пры ўтварэнні якіх голас рэзка пераважае над шумам. Яны супрацьстаяць астатнім зычным — шумным, ва ўтварэнні якіх, у адрозненне ад санорных, шум адыгрывае большую ролю і якія маюць апазіцыю па звонкасці~глухасці.

Чаму *брудэргаўз* (< анг. h**o**u**se), але *пакгауз* (< нямецк. Ha**u**s)? Няўжо ў англійскім дыфтонгу [au] **u** — нескладовае, а ў нямецкім [au] **u** — складовае? Чаму *баўгауз*, дзе той самы дыфтонг **au** перадаецца рознымі спосабамі — спачатку праз **ў**, потым праз **у**?

Чаму *пакгауз*, але *пакгаўзны*?

Чаму *фаўн*, але *фауна* — калі абодва словы паходзяць з таго самага кораня: *Faunus* — гэта бог палёў і лясоў, а *Fauna* — жаночы варыянт таго самага?

Чаму ў СІС — *каузалгія*, *каулепра*, а ў БелЭн — *каўзалгія*, *каўлепра*?

Нарэшце, чаму ў тым жа СІС: то *джоўль*, то *джоуль* (арт. «кіладжоуль»), то *наўме́н*, то *но́умен*, а ў БелЭн — *нау́мен*?

Як бачым, складальнікі слоўнікаў і даведнікаў стараліся творча развіваць пастулаты Зводу-1959 і «на сваю руку» дадалі да шэрагу выключэнняў новыя лексемы, крытэрыі ўключэння якіх у гэту групу — абсалютная загадка (пвд СБМ і СІС): *абля́ут*, *дрэдно́ут*[10], *лака́ут*, *ра́ут*, *са́уна*, *трэшко́ут*, *ча́уш* ды інш., у тым ліку ўласныя назвы (пвд БелЭн): *Бауру́*, *Паустоўскі*, *Фа́уст* (арт. «Гётэ») ды інш. Мо такім чынам лексікографы і энцыклапедысты спрабавалі падстрахавацца: «Хто яго знае, як тыя **у** вымаўляюцца ў іншаземцаў! Гэта ж экспертаў трэба запрашаць, высвятляць, як у кожным канкрэтным выпадку гучыць **у** — доўга ці каротка». А напішаш так, як па-руску, — заўсёды можна прыкрыцца аўтарытэтам мовы старэйшага брата...

Але ўжо зусім нематываванымі выглядаюць напісанні з **у** складовым пасля галосных на канцы слова (!), што пярэчыць (1) асновам беларускай фанетыкі, (2) самому Зводу-1959, дзе **пра выключэнні на канцы слова нічога не сказана і яны ніяк не праілюстраваны**. Затое сярод ілюстрацый знаходзім форму: *Какчэтаў*[11] — з **ў** нескладовым на канцы! Таму ўзнікаюць новыя пытанні:

Чаму *пагляда**ў** на Кракат**а**у*?

Чаму *ята**ў** на Алата**у***?

Чаму *шмат спра**ў** у Біса**у***?

Чаму *перакладаў для Ланда**у***?

Чаму *мудрэ**ў***, але *Папандрэ**у***[12]?

Чаму *бра**ў** у фра**у***?

Чаму *ішо**ў** на шо**у***?

Чаму *да**ў***, але Герард *Да**у***?

Чаму *крыча**ў***, але *ча**у**-ча**у***?

Чаму *аджы**ў***, але *джы**у**-джыцу*?

[10] Паводле БелЭн: *дрэдноўт*.

[11] Звод-1959. Заўвага да § 12 (с. 22).

[12] Паказальна, што ў т. 12 БелЭн (2001) — *Папандрэу*, а ў выпраўленнях да ўсяго выдання (Т. 18. Кн. 1. С. 470. 2006) — *Папандрэў*.

Нарэшце, чаму *Какчэ__таў__* (СБМ) і *__Таў__кум*[13], але *Ала__тау__*[14], *Какшал__тау__*[15], *Кара__тау__*[16], *Тэмір__тау__*[17], *Халык__тау__*[18], калі ў іх склад уваходзіць тая самая частка *таў* ‘гара’?

І вось ужо нават у некаторых падручніках узнікае наступнае «правіла» (хоць падстаў для такой кадыфікацыі Звод-1959 — а гэта галоўны правапісны дакумент, гэта закон! — не дае):

Літара *у* (складовае) захоўваецца: ... у канцы іншамоўных слоў: *Ала-Та**у***, *Ланда**у***»[19].

Занадта смелая заява, асабліва на фоне асвечаных аўтарытэтам БелЭн напісанняў:

*Брэсла**ў***, *Бюла**ў***, *Вірха**ў***, *Дэса**ў***, *Лена**ў***, *Лінда**ў***, *Накска**ў***, *Паса**ў***, *Ранда**ў***, *Фрайбург-ім-Брайсга**ў***, *Цвіка**ў***, *Цыта**ў***.

Праўда, і ў самой БелЭн даходзіць да абсурду:

ДАХА́**У** (Dachau), канцэнтрацыйны лагер на тэр. Германіі ў 1933—45. Створаны на ўскраіне г. Даха**ў**...

Легалізаванае Зводам-1959 і развітае ды замацаванае слоўнікамі бязладдзе ў напісанні **ў** нескладовага ў запазычаннях каштавала слёз не адной абітурыенцкай душы, якая не паступіла ва універсітэт, бо не ведала, што трэба пісаць *шоу*, хоць **у** ў гэтым слове вымаўляецца таксама, як у слове *ішоў*. Аднак дасведчаныя рэпетытары раілі: **у** пасля галосных у запазычаннях пішацца там, дзе **у** — і ў рускай мове: руск. *шлагба**у**м* — бел. *шлагба**у**м*, а калі па-руску **в**, то пішы **ў**: руск. *ко**в**бой* — бел. *ка**ў**бой*. Праўда, і тут бываюць прыкрыя выключэнні: руск. *скаут*, але бел. *ска**ў**т*, руск. *га**у**бица*, але бел. *га**ў**біца*, а таксама заўсёды на пачатку слова — ***аў-***: руск. ***ау**диенция*, але бел. ***аў**дыенцыя*. То і гэтае няпісанае «правіла» не заўсёды ратавала.

Мудрагелістыя казкі пра спантанныя прыступы складовасці і пра непрадказальнае ў сваіх рэалізацыях літаратурнае вымаўленне, відавочна, прыдуманы былі, каб стварыць візію хоць нейкага тлумачэння. Праўда, трэба прызнаць, апошнія 70 гадоў правапісная кадыфікацыя і практыка развіваліся ў бок усё шырэйшага ўжывання **ў** (гл. табліцу 4). Таму, здавалася б, распрацоўка новай рэдакцыі правапіснага зводу — выдатная нагода спыніць гэты парад бязглуздасці і аблегчыць жыццё ўсім — і мовазнаўцам, якім не прыйшлося б хавацца за квазітлумачэнні, і карыстальнікам, якім стала б значна прасцей быць пісьменнымі.

Аднак жа не!

[13] БелЭн, карта «Цянь-Шань».

[14] БелЭн, аднайменны артыкул.

[15] БелЭн, арт. «Какшаал-Тоо».

[16] БелЭн, карта «Казахстан».

[17] БелЭн, аднайменны артыкул.

[18] БелЭн, карта «Цянь-Шань».

[19] Агароднікава, С. В. Беларуская мова: Арфаграфія. Марфалогія. Сінтаксіс. Мн., 2006. С. 9.

Табліца 4.

| Руская форма | Беларускія формы | |
|---|---|---|
| | РБС (1937) | ЦЯПЕР (пвд СБМ, 1987) |
| а**у**диенция | а**у**дыенцыя | а**ў**дыенцыя |
| а**у**дитория | а**у**дыторыя | а**ў**дыторыя |
| а**у**кцион | а**у**кцыён | а**ў**кцыён |
| га**у**птвахта | га**у**птвахта | га**ў**птвахта |
| ка**у**зальность | ка**ў**зальнасць | ка**у**зальнасць |
| ка**у**чук | ка**у**чук | ка**ў**чук |
| па**у**за | па**у**за | па**ў**за |
| эксга**у**стер | эксга**у**стэр | эксга**ў**стар |

**Тлумачэнне да табліцы**

Фонам вылучаны выпадкі асваення праз **ў**.

**Міністэрскі праект:** § 14.3. Гук [у] не чаргуецца з [ў] у запазычаных словах, якія канчаюцца на *-ум, -ус*: *прэзідыум*, *кансіліум*, *радыус*, *страус*, *соус* і вытворных ад іх; а таксама ў словах *даун, раунд, Браун.*

Вось жа частка выключэнняў засталася тая ж, частка знікла, але з'явіліся новыя. Хоць ёсць і становучы момант: правіла падае вычарпальны спіс «нерэгулярных» (г. зн. акрамя слоў на **-ум**, **-ус**) выняткаў — усяго толькі 3!

Чым жа так заслужыліся *даун*, *раунд* і *Браун*, што іх вывелі ў выключэнні? Іх аб'ядноўвае:

1) пазіцыя **у** — пасля **а** перад **н** у закрытым складзе;
2) паходжанне — усе англіцызмы (down, round, Brown, хоць апошняе можа быць і нямецкага паходжання: Braun);
3) вымаўленне: ва ўсіх трох словах — дыфтонг [aʊ], найбліжэйшы беларускі адпаведнік якога — дыфтонг [а**ў**].

Дзеля справядлівасці мусім адзначыць, што ў Праекце ёсць наступнае правіла:

§ 14.1. Нескладовае ў пішацца … на канцы склада: *па**ў**-за, ма**ў**-зер, ка**ў**-чук, а**ў**-кцыён, а**ў**-дыенцыя, а**ў**-дыякасета, а**ў**-ра.*

(Між іншага заўважым, узнікае сумнеў у карэктнасці складападзелу слова *аўкцыён.*)

Гэтая арфаграма, здавалася б, і сапраўды дае падставу для напісанняў *раунд*, *Браун*, бо ў пералічаных словах **у** апынаецца не на канцы, а ў сярэдзіне склада. Аднак у сотнях уласнабеларускіх і запазычаных лексем **ў** пішацца менавіта ў сярэдзіне склада, і гэта не толькі нікога не бянтэжыць, а прызнаецца адзіна магчымым варыянтам і ў самім Праекце. Ніжэй мы падалі толькі некаторыя словы і словаформы, у якіх **ў** сустракаецца перад канцавымі зычнымі (уласныя назвы — пвд БелЭн і САУІ):

*акванаўт*, *акіянаўт*, *арганаўт*, *астранаўт*, *аўт*, *аэранаўт*, *Баўтс*, *Белаўз*, *Боўт*, *боўць*, *Боўш*, *Вейдэнбаўм*, *Вітаўт*, *Волма-Слоўст*, *воўк*, *Гаўк*, *Гаўс*, *Гаўф*, *гідранаўт*, *Гінтаўт*, *дзёўб*, *доўг*, *Доўск*, *жоўк*, *жоўць*, *Зеўс*, *змоўч*, *Івана-Франкоўск*, *Іжэўск*, *кадаўб*, *касманаўт*, *Кіраўск*, *Клаўс*, *кляўз*, *коўзь*, *Коўл*, *коўх*, *коўш* і *Коўш*, *лоўж*, *Міндоўг*, *моўк*, *накаўт*, *натоўп*, *Нейгаўз*, *ніўх*, *Паліеўкт*, *паўз* (прыназоўнік і форма мн.л. Р.скл. назоўніка *паўза*), *Плаўт*, *плашкоўт*, *поўз*, *поўх*, *рангоўт*, *Раўд*, *Саўт-Уэст*, *Свярдлоўск*, *скаўт*, *смоўж*, *стоўп*, *стратанаўт*, *тамагаўк*, *тоўк*, *Тызенгаўз*, *тэрапеўт*, *уздоўж*, *фармацэўт*, *Хабараўск*, *чоўп*, *шоўк*, *шпангоўт*, *шчоўк*;

у тым ліку перад санорнымі:

*анкілазаўр*, *архазаўр*, *бакалаўр*, *брантазаўр*, *брахіязаўр*, *Гаўр*, *гігантазаўр*, *джоўль* і *Джоўль*, *Дуўр*, *дыназаўр*, *іхтыязаўр*, *кентаўр*, *лаўр*, *Лефеўр*, *ліўр*, *Луўр*, *мазазаўр*, *манеўр*, *маўр і Маўр*, *мезазаўр*, *мінатаўр*, *Ноўлс*, *палеазаўр*, *Паўлс*, *Паўль*, *плезіязаўр*, *птэразаўр*, *Пфляўбаўм*, *сеўр* і *Сеўр*, *стэгазаўр*, *таўр*, *траўм* (ад *траўма*), *тэлеазаўр*, *Фаўлз*, *шэдэўр*, *Яраслаўль*.

Несумненна, апошнюю частку параграфа 14.1 — пра **ў** на канцы склада — трэба здымаць з дзвюх прычын: a) імпліцытна закладзены ў ім прынцып **звычайна не выконваецца**; b) арфаграма проста лішняя: усе выпадкі напісання спалучэнняў «галосны + **у**» ў сярэдзіне слова пералічаны ў першай палове параграфа 14.1.

Прапанова пісаць *даун*, *раунд*, *Браун* не толькі ўваходзіць у супярэчнасць з сістэмаю асваення іншамоўных фактаў у беларускай мове, але і рэвізуе афармленне тых слоў і літарных спалучэнняў, якія ўжо замацаваліся з **ў**:

| | | |
|---|---|---|
| *даун* | АЛЕ | *хвароба Даўна* і *графства Даўн*, *даўнтаўн*, *лаўн-тэніс*, *накдаўн*, *фаўн*, знакамітая вуліца *Даўнінг-стрыт*, *фізік Чарлз Таўнс*, гарады *Луіза-Даўнс*, *Брыджтаўн*, *Джорджтаўн*, *Фрытаўн* ды сотні іншых *-таўнаў*; |
| *раунд* | АЛЕ | інжынер *Генры Раўнд*, паэт *Эзра Паўнд*, *кампаўнд*, *кампаўндаванне*, *кампаўндаваць, кампаўндавацца*, *паўндаль*, *ньюфаўндленд* і востраў *Ньюфаўндленд*, *саўнд-трэк* і горад *Оўэн-Саўнд*, канадская тундра *Барэн-Граўндс*, горы *Блу-Маўнтынс*, тры гарады з назваю *Маўнт-Плезант*, індзейскі санктуарыум *Эфіджы-Маўндс*; |
| *Браун* | АЛЕ | ў БелЭн — восем (!) *Браўнаў*, а яшчэ *Універсітэт Браўна* (г. Провідэнс, штат Род-Айленд), *браўнінг* з *Браўнінгам*, а ў СІС — *бераўніт* (< Bera**u**n) з *браўнітам* (< Bra**u**n), але ніводнага *Брауна.* |

Як бачым, аўтары Праекта не адмовіліся ад флёру таямніцы і працягнулі сумную традыцыю цямніць там, дзе ўсё ясна.

## III.2. Недарэабілітаваная літара:
**э** ў запазычаннях будзе пісацца часцей

### А. Ці гавораць беларусы *бэ* і *мэ*?

Існуе ўяўленне, што беларускай мове спалучэнні «цвёрды зычны + [э]» не ўласцівы, хіба толькі **дэ**, **тэ**, дый тое, як адзначаў у 1939 г. вучоны сакратар Інстытута літаратуры і мовы (ІЛМ) Акадэміі навук БССР К. Гурскі, ніхто так не гаворыць. У 1939 г. ІЛМ падрыхтаваў новую рэформу (а не рэдакцыю) беларускага правапісу. Пра яе накіраванасць можна меркаваць з наступнага фрагмента адзінай публікацыі, якая дае цэласнае ўяўленне аб меркаваных зменах:

**Аб Праекце 1939 г.:** Праект прапануе змяніць правапіс іншамоўных спалучэнняў di, ti, de, te. Прапануецца перадаваць іх праз «ді», «ті», «де», «те», а не «ды», «ты», «дэ», «тэ», паколькі апошні тып напісання не адпавядае вымаўленню ў жывой мове; у жывой мове ніхто не гаворыць «акрэ**ды**тыў», «**тэ**лефон». З другога боку, напісанне «дз» і «ц» у такіх словах відазмяніла-б корань слова. Між тым як большасць слоў гэтай групы з'яўляецца тэрмінамі, г. зн. словамі з дакладным значэннем[20].

Іншая справа — [э] пасля зацвярдзелых[21]: ***чэ**рава вя**чэ**рала* ды ***рэч** з ва**чэ**й п**рэ**ч*, і пасля мяккіх: *на**дзенеце** на **зеле**наваты **мезенец*** [на**дз'эн'эц'э** на **з'эл'э**наваты **м'эз'эн'**эц].

Як вядома, у славянскіх мовах гістарычна існавала моцная тэндэнцыя да гармоніі складу. Гэта значыць, пярэдняму галоснаму[22] папярэднічаў мяккі (або памякчаны) зычны, таму сярод іншых дазваляліся спалучэнні «мяккі зычны + **э**»: [б'э], [в'э], [г'э], [д'э], [з'э], [м'э], [н'э], [п'э], [с'э], [т'э] і да т. п. Аднак на беларускай глебе пад уплывам якання, якое дазволіла спалучэнні «мяккі зычны + **а**»[23], гэтая тэндэнцыя значна аслабела. Магчыма, таму і сталі дазволенымі датуль забароненыя спалучэнні, у тым ліку «цвёрды зычны + **э**»: [бэ], [вэ], [гэ], [дэ], [зэ], [мэ], [нэ], [пэ], [сэ], [тэ]. Што асабліва важна, у адрозненне ад рускай мовы, у беларускай гэтыя спалучэнні сустракаюцца не толькі ў запазычанай лексіцы, але і ва ўласнай — як у апелятывах (у агульных назвах, гл. табліцу 5), так і ва ўласных назвах (гл. табліцу 6). Таму можна сцвярджаць: у беларускай мове тэндэнцыя да гармоніі складу выяўляецца прынцыпова слабей, чым у рускай, што і адлюстроўваецца на пісьме.

[20] Гурскі, К. Праект паправак да беларускага правапіса // Звязда. 1939. 9 чэрвеня. Ні сам праект рэформы, ні стэнаграма яго абмеркавання з удзелам П. Панамарэнкі і Я. Коласа ніколі не публікаваліся. Як бачым, практыка «засакрэчвання» тэкстаў праектаў беларускага правапісу мае ўжо сваю традыцыю.

[21] Зацвярдзелыя — група зычных, якія не маюць мяккіх пар; у яе ўваходзяць усе шыпячыя ([ж], [ш], [дж], [ч]), а таксама [р], [ц], [дз].

[22] Пярэднія галосныя — [і], [э], а таксама [ě] (≈ [æ], у старaславянскім пісьме абазначаўся літараю «яць» — ѣ), якія ў беларускай літаратурнай мове супаў з [э].

[23] Калі быць дакладным, на месцы /а/ ў выніку акамадацыі да папярэдняга мяккага выступае яго варыянт пярэдне-сярэдняга раду [ȧ].

Табліца 5.

**Пашыранасць спалучэнняў «цвёрды зычны + *э*» ў апелятыўнай лексіцы рускай і беларускай моў**[24]

| Спалучэнні | Руская мова[25] | Беларуская мова: Уласнабеларускія словы (пвд СБМ) | Беларуская мова: Запазычаныя словы (пвд СБМ і СІС) |
|---|---|---|---|
| **бэ** | 1 выпадак: ***бэ**р* | *а**бэ**лтух*, ***бэ**бахі*, ***бэ**йбус*, ***бэ**каць*, ***бэ**рсаць* | *а**бэ**віль*, *а**бэ**рак*, *а**бэ**ржа*, ***бэ**ж(авы)*, ***бэ**з*, ***бэ**лька*, ***бэ**р*, ***бэ**ра*, ***бэ**сціць*, ***бэ**та*, *дуб**э**льт*, *з**бэ**йсаць*, *фана**бэ**рыя*, *ца**бэ**рак* |
| **вэ** | ніводнага выпадку | ***вэ**дзгаць*, *к**вэ**цаць*, *(на)ч**вэ**рыць*, *ч**вэ**рць* | *бра**вэ**рка*, ***вэ**люм*, ***вэ**рхал*, *хай**вэй***, *ц**вэ**гаць*, *ш**вэ**ндацца* |
| **гэ** | ніводнага выпадку | ***гэ***, ***гэ**ны*, ***гэ**ты* | ***гэ**бель* |
| **дэ** | 1 выпадак: *у**дэ**(ге)* | *вуз**дэ**чка*, *сар**дэ**чны*, *сю**дэй**/ю*, *сю**дэ**ма*, *ту**дэй**/ю*, *ту**дэ**ма*, *хала**дэ**ча* | рэгулярнае асваенне іншамоўнай лексікі: ***дэ**льта*, *ма**дэ**ль*, *па-**дэ**-**дэ*** і тысячы іншых |
| **зэ** (ут. л. д**зэ)** | ніводнага выпадку | — | *бе**зэ***, *ван**дзэ**лак*, ***зэ**даль*, ***зэ**т*, *камі**зэ**лька*, *мі**зэ**рны*, *фа**зэ**нда*, *эк**зэ**мпліфікацыя*, *эк**зэ**ргія*, *эк**зэ**рсіс* |
| **мэ** | 2 выпадкі: ***мэ**р*, ***мэ**тр* | ***мэ**каць*, *за**мэ**дзгаць*, *згла**мэ**здаць* | *га**мэ**рня*, *макра**мэ***, ***мэ**бля*, *мэдысан*, ***мэ**р*, ***мэ**(н)длік*, ***мэ**та*, ***мэ**тлахі*, ***мэ**тр*, *тра**мэ**тэс* |
| **нэ** | 1 выпадак: *пле**нэ**р* | — | *а**нэ**лярыя*, *атэ**нэ**ум*, *бру**нэ**лька*, *кай**нэ***, *ке**нэ**ль*, *кід**нэ**пінг*, *к**нэ**ль*, *мулі**нэ***, ***нэ**ндза*, *пле**нэ**р*, *рытур**нэ**ль*, *тур**нэ***, *тур**нэ**пс*, *хаба**нэ**ра*, *ш**нэ**к*, *ш**нэ**ка*, *ш**нэ**лер* |
| **пэ** | 1 выпадак: ***пэ**р* | ***пэ**цкаць* | *ім**пэ**т*, ***пэ**йсы*, ***пэ**ндзаль*, ***пэ**р*, ***пэ**ўны*, *шкар**пэ**тка*, *ш**пэ**йза*, *ш**пэ**лях* |
| **сэ** | ***сэ**ндвич* (= сандвич), ***сэ**р* | ***сэ**рца* | *а**сэ**сар*, *ба**сэ**тгорн*, *ба**сэ**тля*, *гар**сэ**т*, *гля**сэ***, *медрэ**сэ***, *па**сэ**сар*, *пуль**сэ**тка*, *скан**сэ**н*, ***сэ**нс*, ***сэ**р*, ***сэ**цэсія*, *ша**сэ***, *э**сэ*** |
| **тэ** | *кара**тэ***, ***тэ**к* ‘горный козел’ | *бра**тэ**рскі*, ***тэ**паць*, *чы**тэ**льны* | рэгулярнае асваенне іншамоўнай лексікі, напр.: *андан**тэ***, *ан**тэ**на*, ***тэ**ма* і тысячы іншых |
| **фэ** | ніводнага выпадку | ***фэ*** | *аўтада**фэ***, *ку**фэ**рак*, ***фэ**ст*, *эрызі**фэ*** |

**Заўвагі да табліцы**

1. Ва ўласнарускай лексіцы **э** ў становішчы пасля зычнай сустракаецца выключна ў мінімальнай колькасці гукаперайманняў, напр.: *ни **бэ** ни **мэ***, а таксама ў гутарковай форме часціцы *так-с* — ***тэ**к-с*.
2. Рускі матэрыял: у табліцу ўключаны выпадкі, дзе спалучэнне «цвёрды зычны + **э**» сустракаецца ў межах адной асновы без прыстаўкі. У іншых пазіцыях яно сустракаецца часцей: на стыку прыстаўкі і кораня (*а**н**|**э**нцефалия*, *дву**х**|**э**тажный*, *квин**т**|**э**ссенция*, *о**т**|**э**кзаменовать*, *пос**т**|**э**мбриональный*, *пре**д**|**э**кзаменационный*, *ра**з**|**э**такий*, *су**б**|**э**тнический*, ***с**|**э**кономить*); у абрэвіятурах (*ка**в**|**э**скадрон*, *ко**м**|**э**ск* (*командир эскадрона* або *эскадрильи*), ***н**|**э**|п*, *поли**т**|**э**кономия*); у словах, утвораных шляхам перадачы гучання ініцыяльных абрэвіятур (*и*|***тэ***|*эр*|*овец*, *э**с**|**э**с*|*овец*).

[24] Пададзеныя ў табліцы беларускія прыклады — выключна з літаратурнай мовы, а некаторым беларускім дыялектам спалучэнне «цвёрды зычны + **э**» характэрнае ў значна большай ступені: ***тэй*** ‘той’, *мала**дэй*** ‘малады’.

[25] Паводле выдання: Новый толково-словообразовательный словарь русского языка: Более 123 тыс. статей / Под ред. Т. Ф. Ефремовой. М., 2000.

Табліца 6.

**Беларускія ўласныя назвы са складамі *бэ*, *вэ*, *дэ*, *зэ*, *мэ*, *нэ*, *пэ*, *сэ*, *тэ***

| Прозвішчы | Айконімы (назвы населеных пунктаў) | Гідронімы (назвы рэк, азёраў, балот) |
|---|---|---|
| *Бу**тэ**віч* | *Аг**дэ**мер* Драгічынскага раёна | *Ца**пэ**рка* Клецкага раёна |
| **Дэ**біш | *А**дэ**льск* Гродзенскага раёна | *Абс**тэ**рна* ў Мёрскім раёне |
| Ру**дэ**нка | *Бар**бэ**раўка* Старадарожскага раёна | ***Сэ**клы* ў Браслаўскім раёне |
| Сві**дэ**рскі | *Бар**тэ**ніха* Валожынскага раёна | ***Сэ**рвач* (3 аб'екты) у Віцебскай і Мінскай абласцях |
| С**тэ**льмах | *Бар**тэ**лі* Ашмянскага раёна | ***Тэ**кліц* Лепельскага раёна |
| С**тэ**сік | *Бу**тэ**леўшчына* Барысаўскага раёна | |
| С**тэ**цкі | *Вай**тэ**лі* Маладзечанскага раёна | |
| **Тэ**вель | *Ві**дэ**йкаўшчына* Валожынскага раёна | |
| **Тэ**раўскі | *Вялікая **Сэ**рвач* Вілейскага раёна | |
| **Тэ**шык | *Галян**дэ**рня* Навагрудскага раёна | |
| *Ш**пэ**т* | *Гі**нэ**лі* Воранаўскага раёна | |
| | ***Дэ**гісі* Смаргонскага раёна | |
| | *Жар**нэ**лі* Астравецкага раёна | |
| | *За**мэ**чак* (частка Заслаўя) Мінскага раёна | |
| | ***Зэ**льва* Гродзенскай вобласці | |
| | *Ла**бэ**ншчына* Мінскага раёна | |
| | *Ла**тэ**ўка* Іўеўскага раёна | |
| | *Ра**пэ**йкі* Лідскага раёна | |
| | *Руда**мэ**йка* Смалявіцкага раёна | |
| | *С**тэ**цкаўшчына* Дзяржынскага раёна | |
| | ***Тэ**льмы* Брэсцкага раёна | |
| | ***Тэ**ўлі* Кобрынскага раёна | |
| | *Ха**дэ**лі* Шчучынскага раёна | |

Аднак гэтая асаблівасць беларускай фаналагічнай сістэмы (дазволенасць спалучэння «цвёрды + **э**») вельмі асцярожна рэалізоўваецца на пісьме, і ў запазычаннях на месцы, здавалася б, чаканай літары **э** часцей мы бачым... **е**.

Не сакрэт, што ў пераважнай большасці моў свету няма апазіцыі паводле цвёрдасці-мяккасці і зычныя ў іх вымаўляюцца збольшага цвёрда. Справядлівае гэта сцверджанне і для еўрапейскіх моў — асноўнай крыніцы запазычвання ў беларускую. Такім чынам, **захаванне зыходнай цвёрдасці зычных дапамагала б больш дакладна перадаваць гучанне запазычанай лексікі на беларускай глебе**. І калі ўжо ў беларускай мове, у адрозненне ад рускай, дазваляецца спалучэнне «цвёрды + **э**», ёсць падстава паслядоўна праводзіць у беларускім пісьме галоўны прынцып асваення іншамоўнай лексікі — транскрыбаваць у межах фанетычнага набору мовы-рэцыпіента.

Пад уплывам рускага «мяккага» напісання і вымаўлення складоў **бе**, **де**, **зе**, **ме**, **не**, **пе**, **се**, **те** ў запазычаннях разбураецца беларускае літаратурнае вымаўленне нават там, дзе на пісьме трывала замацавалася **э**:

> Цэлы рад замен націскных галосных спалучаецца з менай па цвёрдасці-мяккасці: [бэ] на [б'е], [ты] на [ц'і], [дэ] на [дзе], [сэ] на [с'е]. Трэба вымаўляць *бэ́жавы* (не *бе́жавы*), *баты́ст* (не *баці́ст*), *кадэ́т* (не *кадзе́т*)...[26].
>
> Пэўныя разыходжанні існуюць і пры вымаўленні нескланяльных іншамоўных прозвішчаў, імёнаў і геаграфічных назваў: Ла[мэ́] і Ла[м'е], Бі[зэ́] і Бі[з'е], Хор[хэ] і Хор[х'е], Фрун[зэ] і Фрун[з'е]. Відавочна, у гэтых выпадках трэба было б скласці асобны арфаэпічны слоўнік для гэтай катэгорыі слоў[27].

Мінула пятнаццаць гадоў з моманту, як прагучала гэтая прапанова, а слоўніка няма і ў блізкім часе не прадбачыцца. Таму варта было б хоць у межах зводу арфаграфічных правілаў выпрацаваць і прыняць адпаведныя арфаграмы, у якіх вызначаліся б асноўныя прынцыпы як графічнага, так і фанетычнага асваення іншамоўнай лексікі. А як вынікае са структуры Праекта, запазычанні, правапіс якіх мог бы рэгулявацца асобнымі правіламі, нават не выведзены ў асобную групу.

## В. Чаму *е* з'ядае *э*

Літары **э** ў беларускай мове не пашанцавала: хоць з'явілася яна ў нашым алфавіце яшчэ ў XV ст.[28], нават у сучасным пісьме **э** ў запазычаннях «дыскрымінуецца». Прычына відавочная — **уплыў на беларускі правапіс рускай графікі**.

Каб разабрацца нарэшце, чаму так нешчасліва склаўся лёс **э**, нам прыйдзецца зрабіць глыбокі экскурс ў гісторыю рускай графікі.

### Пазіцыя на пачатку слова:
### па-беларуску пішацца так, як і па-руску

Яшчэ са школьнай парты мяне бянтэжыў традыцыйны для падручнікаў беларускай мовы, але ад гэтага не менш дзіўны, пачатак правіла, прысвечанага правапісу **э**. Як пазней высветлілася, такі «запеў» паўтараецца ці не ва ўсіх беларускіх кадыфікацыйных тэкстах. Адкуль узялася такая нялюдская фармулёўка?! Адказ прыходзіць сам сабою, калі параўнаць фармулёўку нашага, найноўшага (!), Праекта з рускім правапісным зводам 120-гадовай (!) даўніны (гл. табліцу 7).

Так, зрабіць рашучы крок насустрач **э** не дае арыентацыя на адзін з асноўных прынцыпаў рускай арфаграфіі, сфармуляваны напрыканцы XIX ст. у першым кады-

[26] Выгонная, Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. Мн., 1991. С. 196.

[27] Тамсама. С. 198—199.

[28] З 1498 г., у тым ліку ў запазычаннях: *комэта*, ***фэсть*** («Аповесць пра Атылу», XVI ст.), ***тэстаменть*** (Статут ВКЛ 1588 г.) (Булыка, А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мн., 1970. С. 41—42).

Табліца 7.

| Праект (беларуская мова), 2006 | «Русское правописаніе» Грота, 1885 |
|---|---|
| § 3.1. Літара *э* пішацца: у пачатку выклічнікаў ***э***, ***эге***, ***эге-ге***, ***эй***, ***эх;*** пасля прыстаўнога *г* у слове ***гэты*** і вытворнага ад яго *(дагэтуль)*, а таксама ў выклічніках ***гэ***, ***гэй***... | 83. Въ собственно-русскихъ словахъ звукъ *э* встречается только въ началѣ немногихъ междометій, мѣстоименій і нарѣчій: ***экъ***, ***эхъ***, ***эво***; ***этотъ***, ***этакій***, ***экій***, ***этакъ***, ***эстолько***... |

фікацыйным зборы рускай мовы — «Русское правописаніе» абруселага немца Якаба (Якава Карлавіча) Грота: **ва ўласнарускай лексіцы літара *э* практычна не сустракаецца**. А вось у беларускай мове **э** ўжываецца ў дзесятках тысяч слоў і ў сотнях тысяч словаформаў — пасля зацвярдзелых.

Гротава праца заставалася асноўным падручнікам рускай арфаграфіі аж да рэформы правапісу 1917—1918 гг. (апошняе, 22-е, выданне кнігі з'явілася ў 1916 г.). Паказальна, што ў Грота правапіс **э** апісваецца толькі ў раздзеле «Правописаніе заимствованныхъ словъ»:

**«Русское правописаніе» Грота:** 83. ... эта буква <э> особенно полезна для начертанія нѣкоторыхъ заимствованныхъ словъ, напр.: ***экзаменъ***, ***элементъ***, ***эхо***, ***эпиграмма***, ***элипсъ***, *по**э**зія*, *силу**э**тъ*. Ея употребленіе было бы еще гораздо обширнѣе, если бъ не произошло издавна смѣшеніе двухъ буквъ церковнославянской азбуки (ᵒ и ѥ), вслѣдствіе чего и теперь неточно пишется и произносится множество заимствованныхъ изъ греческаго языка словъ, напр.: ***Е**ва*, ***Е**гипетъ*, ***Е**вдокія*, ***Е**впатій*, ***Е**вропа*, ***е**вангеліе*, ***е**пархія*, ***е**пископъ*, вообще большая часть собственныхъ именъ съ приставками εὖ и ἐπι.

Впрочемъ и наоборотъ буквою *э* иногда начинаются у насъ слова, которыя въ греческомъ имѣютъ предъ начальною гласной густое придыханіе: ***Э**ллада*, ***э**кзаметр* (Ἑλλάς, ἑξάμετρος). Иногда же въ подобныхъ случаяхъ мы пишемъ *е*: ***е**врей* (ἑβραῖος), ***е**ресь* (αἷρεσις), ***Е**лена* (Ἑλένη).

Грот дакладна вызначыў прычыну памылковага (!) напісання **е-** замест правільнага **э-**: грэчаская скарапісная (пазней стараславянская, а далей — царкоўнаславянская) літара **є** на пачатку слова абазначала гук [э], а для перадачы спалучэння [йэ] на славянскай глебе выкарыстоўваўся ётаваны варыянт літары **є** — **ѥ**, дзе [й] абазначаўся элементам ι (і), спалучаным з наступным галосным **є**. Адсюль зразумела, чаму «поўная» назва літары **э** — «**э** адваротнае» (па-руску «**э** оборотное»); праўда, гэта найменне цяпер не ўжываецца. Становіцца ясна, што «обращалась» у **э** літара **є**, якая на момант складання Гротавага правапісу ўжо стагоддзямі абазначала [йэ].

Дарэчы, развіццё гукавога значэння **є-** на пачатку слова з [э] ў [йэ] адбылося паводле аналогіі з яе гукавым значэннем пасля зычных — [ʼэ] (**э** з папярэдняй мяккасцю, інакш — **э** пасля мяккіх), у адпаведнасці з моцнай у рускай мове тэндэнцыяй да гармоніі складу. А сваю сучасную канфігурацыю кірылічная літара **Е** набыла т. зв. Пятроўскай рэформы рускай азбукі 1707—1710 гг., у выніку якой узнікла «гражданская азбука», або проста «гражданка», арыентаваная на лацінскае пісьмо ан-

тыква[29]. На змену шрыфту рускага цара натхнілі вытрыманыя ў традыцыях лацінскіх гарнітур кірылічныя выданні беларуса Галляша Капіевіча-Капіеўскага, надрукаваныя на пачатку XVIII ст. у Галандыі, дзе Пётр з імі і пазнаёміўся.

Каб чытачу было прасцей разабрацца ў гэтых гукава-літарных перыпетыях, падамо тое ж самае ў выглядзе схемы.




**Тлумачэнне да схемы**

Штрыхлінія абазначае ўплыў лацінскай графікі на рускую.

Пра тое, што **є** і **ѥ** ўспрымаліся як адна і тая ж літары, а значыць, іх лёгка было зблытаць, сведчыць хоць бы наступная цытата з аўтарытэтнага дарэвалюцыйнага выдання — царкоўнаславянскага слоўніка протаіерэя Рыгора Дзьячэнкі:

**є**, **ѥ** = шестая буква въ древней русской азбукѣ; въ сочисленіи означаетъ 5…[30]

У адпаведнасці з гэтым змешваннем і словы на **Е**, **Є** і **Ѥ** падаюцца ў агульным алфавітным спісе. У Дзьячэнкавым слоўніку сабраны лексемы з розных крыніц, створаных у розны час, нават у розныя эпохі (гл. табліцу 8); пададзеныя прыклады выразна ілюструюць стыхійнасць асваення іншамоўнага **э-**/**е-**. Паказальны хаос!

Вось адкуль у рускай мове бязладдзе пры перадачы **э** ў іншамоўных словах (найперш у грэцызмах і лацінізмах). Яго слепа скапіявалі беларускія кадыфікатары, замест таго каб замацаваць у нашай мове правільныя формы. Праўда, з выпраўленнем памылковых формаў у рускай мове гэтыя ж формы замацоўваюцца і ў беларускіх слоўніках і энцыклапедыях (гл. табліцу 9).

У традыцыях бяздумнага пераймання вытрымана адпаведная арфаграма Праекта:

**Міністэрскі праект:** § 3.2. У словах іншамоўнага паходжання літары *э*, *е* як пад націскам, так і не пад націскам пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем:
у пачатку слова: ***э́****ра*, ***э****сэ́*, ***э́****ўрыка*, ***э́****пас*, ***э́****тыка*, ***Э****ўклі́д*, ***Э****ўрыпі́д*, ***Э****лі́ста*; але ***е́****гер*, ***е́****рась*, ***е****рэты́к*, ***Е****ўро́па*, ***е****ўрапе́йскі*, ***Е****ўпато́рыя*, ***е****ўпатары́йскі*, ***Е****рэва́н*, ***е****рэва́нец*, ***Е****ўфра́т*…

(Зусім недарэчна выглядае ў шэрагу ілюстрацый лексема ***е****гер*, бо ў мове-крыніцы пачынаецца яна не з **е-** [э], а з **j-** [й]: **J**äger.)

[29] Павленко, Н. А. История письма. Изд. 2, перераб. и доп. Мн., 1987.

[30] Дьяченко, Г. Полный церковнославянскій словарь. М., 1900. С. 164.

Табліца 8.

**Параўнанне царкоўнаславянскіх і рускіх формаў запазычанняў з пачатковым э/е**

| Ц.-сл. літара | Царкоўнаславянская форма (са слоўніка Р. Дзьячэнкі) | Суч. рус. літара | Сучасная руская форма |
|---|---|---|---|
| Е | **Е**вангеліе … | Е е | **Е**вангелие |
| | **Е**фимокъ = нѣмецк. монета … равнялась талеру… | Е е | **е**фимок |
| | **Е**кзорцисты … | Э э | **э**кзорцисты |
| | **Е**ламъ = … область на сѣв.-зап. отъ перс. залива… | Э э | **Э**лам |
| Є, Є̑ | **Є̑**дэ́мъ … = страна въ Азіи, гдѣ былъ рай… | Э э | **Э**дем |
| | **Є̑**лла́да … | Э э | **Э**ллада |
| | **Є̑**кза́рхъ … | Э э | **э**кзарх |
| | **Є̑**гє … какъ частица утвердит<ительная>… | Э э | **э**ге |
| | **Є̑**вфра́тъ … | Е е | **Е**вфрат |
| | **Є̑**ктенїѧ́ … | Е е | **е**ктенья |
| | **Є̑́**ле … | Е е | **е**ле |
| | **Є̑**диноро́дный … | Е е | *устар.* **е**динородный (*совр.* **о**днородный) |
| Ѥ | **Ѥ**диноро́дъ = единородный. | Е е | = **е**динородный |
| | **Ѥ**дє, **Ѥ**дєкый = нѣкто, нѣкоторый. | Э э | **э**дакий |
| | **Ѥ**кати = **Ге**ката, Ѳракійская богиня чародѣйства. | Ге ге | **Ге**ката |

Табліца 9

**Параўнанне характару асваення грэчаскіх εὖ і ἐπι ў рускіх і беларускіх энцыклапедыях**

| Зыходная форма | 1940—1970 гг. | | 1990—2000 гг. | | Праект |
|---|---|---|---|---|---|
| | БСЭ | БелСЭ | БЭ | БелЭн або СІС | |
| **E**picūros | *Эпикур* | *Эпікур* | *Эпикур* | *Эпікур* | ? |
| **E**uphratēs | *Евфрат* | *Еўфрат* | *Евфрат* | *Еўфрат* | *Еўфрат* |
| **E**uclīdēs | *Евклид* і *Эвклид* | *Еўклід* | *Евклид* і *Эвклид* | *Эўклід* | *Эўклід* |
| **E**urīpidēs | *Еврипид* | *Еўрыпід* | *Еврипид* і *Эврипид* | *Еўрыпід* і *Эўрыпід* | *Эўрыпід* |
| **E**uterpē | *Евтерпа* | — | *Евтерпа* і *Эвтерпа* | *Еўтэрпа* | ? |
| **e**piscopos | *епископ* | *епіскап* | *епископ* | *епіскап* | ? |
| **e**unuchos | *евнух* | — | *евнух* | *еўнух* | ? |
| **e**uphoria | *эйфория* | — | *эйфория* | *эйфарыя* | ? |

**Тлумачэнне да табліцы**

Фонам пазначаны выпадкі правядзення **э** на месцы грэчаскага **ε**.

Пазіцыя пасля зычных:
па-беларуску пішацца так, як вымаўляецца па-руску

Інакш склаўся лёс **э** ў становішчы пасля зычных.

**«Русское правописаніе» Грота:** 84. Въ послѣднія десятилѣтія у насъ стали употреблять *э* и послѣ согласныхъ для передачи иностраннаго широкаго **ɛ**: фр. *è*, *ais*, нѣм. *ä* и т. п., напр., въ именахъ: *Бэръ*, *Тэнъ*, *Жервэ*, *Богарнэ*. Для болѣе точной передачи звуковъ можно допустить эту орθографію, но исключительно въ однихъ собственныхъ именахъ; въ нарицательныхъ же, которыя въ каждомъ языкѣ видоизмѣняются по требованіямъ его фонетики, мы не обязаны примѣняться къ тонкостямъ иностраннаго произношенія, и потому въ такихъ словахъ какъ *тема*, *меръ*, *проблема*, употребленіе *э* вместо *е* неумѣстно.

Гротаў правапіс узаконіў стыхійна ўзніклае напісанне **э** ў іншамоўных уласных імёнах, **забараніўшы** літару **э** ў назвах агульных. Тут самы час падаць голас аўтарам Праекта. «Паглядзіце, — могуць сказаць яны, — цяперашнія правілы беларускай арфаграфіі не паўтараюць слепа правілаў рускай, а выяўляюць самастойнасць, адлюстроўваючы жывое беларускае вымаўленне! Бо, напрыклад, па-руску *кафе*, а па-беларуску *кафэ*, ці па-руску *Лопе де Вега,* а па-беларуску *Лопэ дэ Вэга.* І ў Праекце ўсё гэта пацверджана і дакладна прапісана!»

**Міністэрскі праект:** § 3.2. У словах іншамоўнага паходжання літары *э, е* як пад націскам, так і не пад націскам пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем: …
у канцы нязменных слоў, а таксама ўласных імён і геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя л, к, пішацца э: *купэ́*, *рэзюмэ́*, *рэнамэ́*, *кафэ́*, *галіфэ́*, *кашнэ́*, *кабернэ́*, *фрыкасэ́*, *плісэ́*, *каратэ́*, *дэкальтэ́*; *Стру́вэ*, *Мерымэ́*, *Эйвэ́*, *Хасэ́*, *Мо́рзэ*, *Табі́дзэ*, *Брыгва́дзэ*, *Каба-Вэрдэ́*, *Душанбэ́*, *Сан-Тамэ́*; але: *камюніке́*, *сальта-мартале́*, *філе́*, *піке́*.
§ 3.3. Літара *э* ў запазычаных словах пасля губных зычных, а таксама *з*, *с*, *н* пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем. Так, словы *капэ́ла*, *пэ́йджар*, *сурвэ́тка*, *экзэ́мпля́р*, *маянэ́з*, *тунэ́ль*, *сэ́рвіс* пішуцца з *э*, а *меда́ль*, *парла́мент*, *перспекты́ва*, *газе́та*, *сервíз* — з літарай *е*.

Сапраўды, графіка шэрагу апелятываў і імёнаў не супадае, прытым беларускія напісанні дакладней адлюстроўваюць **вымаўленне**. І тут сакрэт раскрываецца проста: усе пададзеныя ў ілюстрацыях словы з **э** (апроч лексемы *сурвэтка*) рэпрэзентуюць **рускае літаратурнае вымаўленне**, у чым можна пераканацца, зазірнуўшы ў рускія арфаэпічныя слоўнікі.

У табліцы 10 мы змясцілі ілюстрацыйны матэрыял з вышэйпададзеных арфаграм Праекта (§ 3.2, § 3.3) і параўналі іх напісанне з вымаўленнем літары **е** ў адпаведных словах рускай мовы. Як бачым, хваліцца няма чым: атрымліваецца, што правапіс беларускай **э** ў запазычаннях залежыць ад гукавога значэння літары **е** ў словах рускай мовы!

Пры ўсёй прыніжальнасці самога факту малпавання беларускім правапісам рускага вымаўлення трэба прызнаць: **сам працэс «рэабілітацыі» *э* ў запазычаннях — несумненна, станоўчы**. Ён спрыяе разумнаму фанетызму беларускага пісьма, што, у сваю чаргу, падтрымлівае беларускую арфаэпічную норму, якая дазваляе спалучэнне «цвёрды + **э**».

Табліца 10.

**Параўнанне напісання і вымаўлення запазычанняў у рускай і беларускай мовах**

| Руская форма | | Беларус. напісанне (Праект) |
|---|---|---|
| **Рус. напісанне** | **Рус. вымаўленне** (вылучанай літары)[31] | |
| *галиф***е** | | *галіф***э** |
| *каберн***е** | | *каберн***э** |
| *кашн***е** | | *кашн***э** |
| *куп***е** | | *куп***э** |
| *майон***е***з* | | *маян***э***з* |
| *п***е***йджер* | | *п***э***йджар* |
| *плисс***е** | **Э** | *пліс***э** |
| *фрикас***е** | | *фрыкас***э** |
| *Мерим***е** | | *Мерым***э** |
| *Сан-Том***е** | | *Сан-Там***э** |
| *Струв***е** | | *Струв***э** |
| *Хос***е** | | *Хас***э** |
| *газ***е***та* | | *газ***е***та* |
| *коммюник***е** | | *камюнік***е** |
| *м***е***даль* | | *м***е***даль* |
| *парлам***е***нт* | | *парлам***е***нт* |
| *п***е***рсп***е***ктива* | **Е** | *п***е***рсп***е***ктыва* |
| *пик***е** | | *пік***е** |
| *сальто-мортал***е** | | *сальта-мартал***е** |
| *с***е***рвиз*[32] | | *с***е***рвіз* |
| *фил***е** | | *філ***е** |

## С. Рэабілітацыя *э* працягваецца, але ніяк не завершыцца

Зацятае ігнараванне спецыфікі беларускай мовы, некрытычнае, сляпое пераймання рускай — не, нават не гістарычна абгрунтаванай традыцыі, а стыхійнай практыкі, якая яшчэ за паўстагоддзя да з'яўлення сучаснага афіцыйнага беларускага правапісу (1885—1933) аргументавана і жорстка крытыкавалася, — замінае беларускай мове

[31] Агульныя імёны — паводле: Иванова, Т. Ф. Новый орфоэпический словарь русского языка. Произношение. Ударение. Грамматические формы / РАН, Институт русского языка. М., 2004; уласныя імёны — паводле: Агеенко, Ф. Л. Собственные имена в русском языке: Словарь-справочник. М., 2001.

[32] «**серви́з**, **-а !** неправ<ильно> [*сэ*]рви́з», і наадварот: «**сервис**, **-а** [*сэ́*] **!** не рек<омендуется> [*се*]рвис» (Орфоэпический словарь русского языка: Произношение, ударение, грамматические формы / РАН, Институт русского языка; Под ред. Р. И. Аванесова. Изд. 6. М., 1997).

быць дакладным і гнуткім тэрміналагічным інструментам, прыдатным для выкарыстання беларускай мовы ў эканамічнай і навукова-тэхнічнай сферах.

Трэба было не бяздумна спісваць з Грота, а ўважліва пазнаёміцца са сфармуляванымі ім прынцыпамі асваення іншамоўнай лексікі:

> ...мы должны дорожить всякимъ имѣющимся у насъ средствомъ точнѣе означать подлинную форму заимствованнаго слова[33].

Менавіта такімі меркаваннямі кіраваўся, прыкладам, вядомы знаўца беларускага слова праф. Фёдар Янкоўскі, які яшчэ ў 1950-х гг. адзначаў:

> Як пісаць — *Шапэн* ці *Шапен*, *Кенэдзі* ці *Кенедзі*, *Насэр* ці *Насер*, ***Нэні*** ці ***Нені***, *пенснэ* ці *пенсне*? Газета «Літаратура і мастацтва» піша то *капэла*, то *капела*. А як жа правільна?
>
> У беларускай мове пішацца *пэўны*, *сэрца*, *бэз*, *асэсар*, ***пэр***, ***нэндза***, ***фэст***, *кафэ*, *камізэлька*. Напісанне ў гэтых словах спалучэнняў *бэ*, *зэ*, *нэ*, *пэ*, *сэ*, *фэ* грунтуецца на беларускім вымаўленні. Мы кажам і пішам: *капэла*, *пенснэ*. Зычныя *п* у слове *Шапэн*, *н* у словах *Кенэдзі*, ***Нэні***, *с* у слове *Насэр* цвёрдыя. Прынцып тут адзіны.
>
> Будзе правільна пісаць: *Насэр* (як і **сэр**, *асэсар*), *Шапэн* (як і ***пэр***, ***пэўны***), *Кенэдзі* (як і ***нэндза***, *кашнэ*, *пенснэ*). Напісанне «Шапен», «Насер» — парушэнне адзінства арфаграфічнай сістэмы[34].

Гэты голас быў пачуты: усе пералічаныя словы замацаваліся ў напісанні праз **э**. Тэндэнцыя да пашырэння спіса слоў, якія афармляюцца праз **э**, выразна выявілася з другой паловы 1980-х гг. і апошнім часам толькі ўзмацняецца. Ёй спрыяе найперш пашырэнне такіх напісанняў у рускай мове, што дае «індульгенцыю» і нашым нармалізатарам. І застаецца толькі вітаць той факт, што Праект падтрымлівае гэтую тэндэнцыю (гл. табліцу 11).

Аднак «рэзервы» для правядзення **э** ў іншамоўнай лексіцы яшчэ ёсць: застаўся вялікі шэраг беларускіх напісанняў з **е**, г. зн. арыентаваных на рускае напісанне, а не на рускае вымаўленне. Не трэба быць празорцам, каб прадбачыць, што наступныя рэдакцыі беларускага правапісу будуць уключаць у «клуб Э» ўсё новыя і новыя словы: тыя, якія па-руску вымаўляюцца праз [э], але з нейкіх прычын (каб не палохаць начальства і публікі?) не трапілі ў папярэднія рэкруцкія наборы ў беларускае войска Э: напрыклад, *энэргія* (цяпер *энергія*) — на ўзор *панэль*, *тунэль*; *сэкс* (цяпер *секс*) — на ўзор *сэнс*; *спартсмэн* (цяпер *спартсмен*) — на ўзор *супермэн* (так у СІС), *Гудмэн* (цяпер *Гудмен*) — на ўзор *Трумэн* (так у БелЭн). А пакуль працягваецца адразанне сабаку хваста па кавалачках — «каб не так балела».

Што да спасылак на беларускае літаратурнае вымаўленне, то правяраць яго па арфаэпічным слоўніку беларускай мовы ніяк **немагчыма**, бо такіх слоўнікаў у прыродзе **не існуе**. Таму фармулёўку згаданых арфаграм з Праекта трэба было б удасканаліць: у фразу «літара *э* ў запазычаннях пішацца згодна з літаратурным вымаў-

[33] Гротъ, Я. К. Цыт. тв. С. 75.

[34] Цыт. паводле: Янкоўскі, Ф. Сучасная беларуская мова. Мн., 1984. С. 174.

Табліца 11

**Дынаміка пазначэння цвёрдасці зычных перад [э] ў запазычаннях**

Апелятывы (агульныя назвы)

| Руская форма | Беларускія формы | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | РБС (1937) | СБМ (1987) | СІС (1999) | БРС-3 (2003) | Праект (2006) |
| — | *вендзіць* | *вэндзіць* | *вэндзіць* | *вэндзіць* | ? |
| *вальдшнеп* | *вальдшнеп* | *вальдшнэп* | *вальдшнэп* | *вальдшнэп* | ? |
| *вексель* | *вексель* | *вэксаль* | *вэксаль* | *вэксаль* | ? |
| — | *гебель* (фуганок) і *гэбаль* (рубанок) | *гэбель* | *гэбель* | *гэбель* | ? |
| *капелла* | *капела* | *капэла* | *капэла* | *капэла* | ? |
| *кафетерий* | — | *кафетэрый* | *кафэтэрый* | *кафетэрый* | ? |
| *мадемуазель* | — | *мадэмуазель* | *мадэмуазэль* | *мадэмуазель* | ? |
| *менеджер* | — | *менеджэр* | *менеджэр* | *мэнэджэр* | *мэнэджар* |
| *Морзе* | *Морзе* | *Морзе* | *морзе* | *Морзэ* | *Морзэ* |
| *несессер* | *несесер* | — | *нэсэсэр* | — | ? |
| *нонсенс* | — | *нонсенс* | *нонсэнс* | *нонсэнс* | ? |
| *панель* | *панель* | *панель* | *панэль* | *панель* | *панэль* |
| *пенсне* | *пенсне* | *пенснэ* | *пенснэ* | *пенснэ* | ? |
| *полонез* | — | *паланез* | *паланэз* | *паланез* | ? |
| *портмоне* | — | *парт(а)манет* | *парт(а)манэт* | *партманет* | ? |
| *резюме* | *рэзюме* | *рэзюме* | *рэзюмэ* | *рэзюмэ* | *рэзюмэ* |
| *реноме* | — | *рэнаме* | *рэнамэ* | *рэнамэ* | *рэнамэ* |
| *(салфетка)* | *сурветка* | *сурвэтка* | *сурвэтка* | *сурвэтка* | *сурвэтка* |
| *сенсорный, экстрасенсорный* | — | *сенсорны* | *сенсорны*, але *экстрасэнсорны* | *сенсорны* | ? |
| *сепия* | *сепія* | *сепія* | *сэпія* | *сепія* | ? |
| *сепсис* | — | *сепсіс* | *сэпсіс* | *сепсіс* | ? |
| *септик* | — | *септык* | *сэптык* | *септык* | ? |
| *септима* | *септыма* | *септыма* | *сэптыма* | *септыма* | ? |
| *сервис* | — | *сервіс* | *сэрвіс, аўтасэрвіс* | *сервіс* | *сэрвіс* |
| *серум* | — | *серум* | *сэрум* | *сэрум* | ? |
| *сервитут* | *сервітут* | *сервітут* | *сэрвітут* | *сервітут* | ? |
| *сет* | — | *сет* | *сэт* | *сет* | ? |
| *сетльмент* | *сетльмент* | *сэтльмент* | *сэтльмент* | *сэтльмент* | ? |
| *сеттер* | — | *сетэр* | *сэтэр* | — | ? |
| *супермен* | — | *супермен* | *супермэн* | *супермен* | ? |
| *туннель* | *тунель* | *тунель* | *тунэль* | *тунель* | *тунэль* |
| *шимпанзе* | *шымпанзе* | *шымпанзэ* | *шымпанзэ* | *шымпанзэ* | ? |
| *шоссейный* | *шасейны* | *шасэйны* | — | *шасэйны* | ? |
| *экзема* | *экзема* | *экзема* | *экзэма* | *экзема* | ? |
| *экземпляр* | *экземпляр* | *экземпляр* | *экзэмпляр* | *экзэмпляр* | *экзэмпляр* |
| *эмфизема* | *эмфізема* | *эмфізема* | *эмфізэма* | *эмфізема* | ? |

Табліца 11. *Працяг.*

Анамастыка (уласныя назвы)

| Руская форма | Беларускія формы | | |
|---|---|---|---|
| | СБМ (1987) | БелЭн (1996—2004) | Праект (2006) |
| *Булонь-сюр-М**е**р* | — | *Булонь-сюр-М**е**р* | *Булонь-сюр-М**э**р*[35] |
| *Душанб**е*** | *Душанб**е*** | *Душанб**е*** | *Душанб**э*** |
| *Йоханн**е**сбург* | *Йаган**е**сбург* | *Йаган**е**сбург* | *Яган**э**сбург* |
| *Кабо-В**е**рде* | — | *Каба-В**е**рдэ* | *Каба-В**э**рдэ* |
| *Рио-де-Жан**е**йро* | *Рыо-дэ-Жан**е**йра* | *Рыо-дэ-Жан**е**йра* | *Рыа-дэ-Жан**э**йра* |
| *Сан-Том**е*** | *Сан-Там**е*** | *Сан-Там**е*** | *Сан-Там**э*** |
| *С**е**н-Жюст* | — | *С**е**н-Жуст* | *С**э**н-Жуст* |
| *Эйв**е*** | — | *Эйв**е*** | *Эйв**э*** |

**Тлумачэнне да табліцы**

Фонам пазначаны выпадкі захавання зыходнай цвёрдасці — афармлення праз літару **э**.

леннем» трэба ўставіць толькі адно слова, каб выйшла: «літара *э* ў запазычаннях пішацца згодна з **рускім** літаратурным вымаўленнем». Мо гэта і мелася на ўвазе?

## III.3. Іосіф Ілыч forever!

### Захаванне арфаграфічных саветызмаў

У прадмове да гэтай рэцэнзіі прызнавалася, што цяперашні правапіс збольшага пазбыўся палітычна матываваных выключэнняў, аднак асобныя рудыментарныя з'явы ўсё ж такі назіраюцца.

Як мы ўжо адзначалі, рэформа 1933 г. уваля новае паняцце — саветызмы (гэта іх афіцыйная назва).

**Пастанова СНК БССР 7 снежня 1933 г.:** Не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканні, а пісаць праз «о» наступныя інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы: *рэв**о**люцыя*, *с**о**вет*, *б**о**льшэвік*, *к**о**муна*, *с**оцы**алізм*, *к**о**мунізм*, *К**о**мінтэрн*, *к**о**мс**о**мол*, *пр**о**летарый*, *п**іо**нер*, з усімі ад іх вытворнымі словамі і новаўтварэннямі, а таксама і слова *Пр**о**фінтэрн*…

…імёны і прозвішчы іншых моў і геаграфічныя назвы не перакладаць як у поўным напісанні, так і ў скарочаным, і пачатковае «о», «в», «т», «сч» ва ўсіх прозвішчах і геаграфічных назвах пісаць праз «о», «в», «т», «сч»: ***В**ладзімір **Ільіч** Ленін*, ***В**. І. Ленін*, ***Іо**сіф Вісар**ыо**навіч Сталін*, ***І**. В. Сталін*, ***О**рдж**о**нікідз**е***, ***Т**ерахаў*, ***Т**ерэк*, ***Т**ерэхоўка*, ***В**ладзікаўказ*, ***В**ладзімірскі*, ***Т**вер* (Звязда. 1933. 9 снежня).

[35] У сапраўднасці ў Праекце падаецца ў адным месцы правільнае (§ 32.3), у другім — памылковае напісанне: *Булонь-сэр-Мэр* (§ 24.2).

З пункту гледжання сістэмы мовы, **саветызмы** — гэта словы, якія не падпарадкоўваюцца шэрагу арфаграфічных і граматычных правілаў дзеля захавання імі большай **сувязі з рускай графікай і словазмяненнем**. З пункту гледжання экстралінгвістычнага — гэта **ідэалагічна дэтэрмінаваныя напісанні**.

Правапісныя саветызмы і звязаныя з імі лексемы характарызуюцца наступнымі рысамі:

1) адсутнасць акання: *совет*, *большэвік*, у тым ліку ў абрэвіятурах: *комсомол*, замест *савет*, *бальшавік*, *камсамол*;
2) адсутнасць дзекання-цекання: ***Т**эрэхоўка* замест ***Ц**ерахóўка* або ***Ц**éрахаўка*;
3) графічнае афармленне абрэвіятур (найперш на стыку частак) не залежыць ад іх фанетычнай рэалізацыі: *Про**ф**інтэрн*, хоць узуальнае вымаўленне вылучанага спалучэння — [фы];
4) **іо**/**ыо**, **іа**/**ыа** замест **іё**/**ыё**, **ія**/**ыё** (неразвіццё ёта ў спалучэнні «**і** + галосны»): *п**іо**нер*, *соц**ыа**лізм*, ***Іо**сіф Вісар**ыо**навіч*;
5) спалучэнне «зычны + **й**» замест падоўжанага зычнага: *Іл**ь**іч* [л'й] замест *Ілліч* [л̄']:
6) **вл-** замест **ул-** (дазвол спалучэння «**в** + зычны» на пачатку слова): ***Вл**адзімір*, ***Вл**адзімірскі*, ***Вл**адзікаўказ* замест ***Ул**адзімір*, ***Ул**адзімірскі*, ***Ул**адзікаўказ*;
7) **тв-** замест **цв-** (адсутнасць пераходу [тв'] → [ц'в'], г. зн. адсутнасць асіміляцыі па мяккасці, на пачатку слова): ***Тв**ер* замест ***Цв**ер*;
8) **-дзе** замест **-дзэ** (неадлюстроўванне цвёрдага вымаўлення зацвярдзелай афрыкаты **дз**): *Орджонікі**дзе*** замест *Арджанікі**дзэ***.

Мяркуем, будзе лішнім нагадваць пра ўмовы, у якіх адбывалася рэформа 1933 г. «Хрушчоўская адліга» дазволіла змены ў правапісе ў бок «абеларушвання»: у рэдакцыі 1957—1959 гг. група саветызмаў ужо не вылучалася, а ўсе экс-саветызмы замацоўваліся ў нерусіфікаванай форме. Аднак некаторыя **ідэалагічна афарбаваныя лексемы** захавалі сваю графічную і граматычную «нерэгулярнасць». Відаць, для таго, каб закамуфляваць пэўную палітычную заангажаванасць, пад іх «падвярсталі» тыпалагічна блізкія, але ідэалагічна нейтральныя словы. Пры складанні слоўнікаў і энцыклапедый нерэгулярныя напісанні экстрапаляваліся на шырэйшы матэрыял, у выніку чаго кола такіх напісанняў — у параўнанні з пададзенымі ў кадыфікацыйных тэкстах — значна пашырылася.

На жаль, і аўтары Праекта не здолелі зусім адмовіцца ад традыцыйных для сучаснага беларускага правапісу ўласна саветызмаў і іх «суседзяў па арфаграмах», пакінуўшы «прававую базу» для нерэгулярных напісанняў.

### А. Спалучэнні «*й* + галосны»

У адрозненне ад лацініцы, у кірыліцы ёсць ётаваныя галосныя, якія ў становішчы на пачатку слова і пасля галосных абазначаюць адразу два гукі — [й] + адпаведны неётаваны галосны: **е** — [йэ], **ё** — [йо], **ю** — [йу], **я** — [йа]; у беларускай мове да ліку ётаваных літар таксама належыць **і** — [йі][36] . Руская мова паслядоўна выкарыстоўвае

[36] Напр., пасля галосных: *кра*[**йі**]*на*, *сло*[**йі**]*к*; на пачатку слова пад націскам: [**йі**]*нець*, [**йі**]*слач* (рака

ётаваныя галосныя для перадачы гукавога спалучэння «**й** + галосны» ва ўласнай лексіцы, затое ў запазычаннях сітуацыя іншая: вельмі часта на месцы чаканых ётаваных літар стыхійна замацаваліся напісанні:

— «**й** + неётаваная галосная»: **jo**gurt > ***йо**гурт*, **jo**ta > ***йо**т*, co**yo**te > *ко**йо**т*, pare**ja**sauros > *паре**йа**завр*, **Yo**nkers > ***Йо**нкерс* = ***Ио**нкерс*, АЛЕ **You**ng > ***Я**нг*;

— «**и** + неётаваная»: **yo**ldia > ***ио**льдия*, **io**d- [j] > ***ио**д* = ***йо**д*, **io**n [j] > ***ио**н*, **Jo**achim > ***Ио**ахим*, **J**ordaens > ***Ио**рданс*, **ju**d- > ***иу**дей*, АЛЕ ***ю**дофоб*;

— «**й** + ётаваная галосная»: do**ye**n > *дуа**йе**н*, *conve**ye**r* > *конве**йе**р*, Sequo**ya**h > *секво**йя***, Me**ye**r, Me**ie**r [majer] > *Ме**йе**р*, АЛЕ tra**ie**ctoria > *тра**е**ктория*;

— «**и** + ётаваная галосная»: ***Je**hovah* > ***ие**говист*, **Ju**nius > ***ию**нь*, **Ju**lius > ***ию**ль*, АЛЕ ***Ю**лианский календарь*.

Такое хаатычнае асваенне названых гукавых спалучэнняў у рускай мове ў нейкай ступені перанялі нармалізатары беларускага правапісу, хоць беларуская арфаграфія няўхільна эвалюцыянавала ад сляпога пераймання рускіх напісанняў у кірунку паслядоўнага ўжывання ў згаданых пазіцыях ётаваных галосных літар. У рэчышчы гэтай тэндэнцыі вытрымана і адпаведная арфаграма Праекта:

**Міністэрскі праект:** § 15.3. У сярэдзіне запазычаных слоў, у тым ліку ва ўласных назвах літара *й* пішацца <u>толькі перад зычнымі</u>: *дыза**й**н, Кланда**й**к, Дра**й**зер, А**й**ні, ла**й**нер, камба**й**н*, але: *фа**е**, Ма**я***.

У пачатку і ў сярэдзіне слоў гукавое спалучэнне «[й] + галосны» <u>перадаецца ётаванымі галоснымі</u>, як і ў словах уласнабеларускіх: ***Я**ганэсбург, **Я**кагама, **Е**мен, **е**менец, **ё**ркшырскі, ма**ё**р, ма**я**рат, ма**я**нэз, раён, Нью-**Ё**рк, **Ё**жэф*.

Такім чынам, аўтары Праекта нарэшце падпарадкавалі правілам і зрабілі сістэмным шэраг нерэгулярных напісанняў (якія аўтары Зводу-1959 пакідалі на зазубрыванне), бо іх графічнае афармленне было вынікам бяздумнага капіявання рускай графікі ды пярэчыла беларускай традыцыі ўжывання ётаваных галосных (гл. табліцу 12).

Здавалася б, прапанаваная ў Праекце дэрусіфікацыя мусіла б пайсці далей і нарэшце ўнармаваць напісанне тыпалагічна тоеснай групы слоў. Аж не! У якасці выключэнняў у Праекце знаходзім: ***Іо́**сіф, **Іо́**ў, **Іо́**на, **Іа**сафа́т* (§ 2.4), а таксама ***Іа**ан Багаслоў*, ***Іа**ган Себасцьян Бах* (§ 22.1), ***Іа**ан Хрысціцель* (§ 23.1), ***Ія**рданія* (§ 26).

Як бачым, забабоны савецкай эпохі аказаліся дарагія сэрцу аўтараў праекта беларускага правапісу 2006 года (праўда, падобныя напісанні ўзыходзяць, вядома ж, да ранейшай эпохі). Большасць пададзеных ілюстрацый (апроч *Іаган*) — усходнехрысціянскія формы біблейскіх назваў. Іх напісанне ў славянскіх мовах з кірылічнай асновай (у тым ліку і ў старарускай, і ў старабеларускай) было перадвызначана іх формай у грэчаскай мове, хоць усе яны — гебрайскага (старажытнаяўрэйскага) паходжання. На пачатку іх грэчаскіх формаў пішацца ёт (Ι ι), які — як ні банальна гучыць гэтае

**Í**слач). Праўда, літара **і** абазначае таксама неётаваны гук [і]: на пачатку слова не пад націскам: [**і**]*го́лка*, [**і**]*мпэ́т*, [**і**]*сці́*. Толькі ў некаторых іншамоўных уласных назвах (найперш у чэшскіх) пачатковы ёт перад **і** абазначаецца на пісьме: ***Йі**глава*, ***Йі**ндржых*, ***Йі**ржы*, ***Йі**тс*.

Табліца 12.

**Рэалізацыя зыходнага спалучэння «й + галосны» ў рускай і беларускай мовах**

| Зыходная форма | Сучасная руская форма: літары и/й + галосная | Беларускія формы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | РБС-1937: літары і/й + галосная або ётаваная літара | Звод-1959: літары і/й + галосная або ётаваная літара | СБМ: літары і/й + галосная або ётаваная літара | Праект: ётаваная літара |
| **je**suit- | ***ие**зуит* | ***іе**зуіт* | ***е**зуіт* | ***е**зуіт* | ? |
| **Ye**men | ***Йе**мен, **йе**менец* | — | ***Йе**мен* | ***Йе**мен, **йе**менец* | ***Е**мен, **е**менец* |
| **yo**g- | ***йо**г* | — | ***іо**г* | ***ё**г* | ? |
| **Jo**zef | ***Ио**жеф* | — | — | ***Іо**жэф* (БелЭн) | ***Ё**жэф* |
| **Yo**kohama | ***Ио**когама і **Йо**кохама* | — | ***Іа**кагама* | ***Йа**кагама* | ***Я**кагама* |
| **Yo**rkshire | ***йо**ркшир(ский)* | ***іо**ркшыр(скі)* | ***Іа**ркшыр, **іа**ркшырскі* | ***Йо**ркшыр, **йо**ркшыр(скі)* | ***ё**ркшырскі* |
| New **Yo**rk | *Нью-**Йо**рк* | *Нью-**Ё**рк* | *Нью-**Йо**рк* | *Нью-**Йо**рк* | *Нью-**Ё**рк* |
| **Jo**hannesburg | ***Йо**ханнесбург* | — | ***Іа**ганесбург* | ***Йа**ганесбург* | ***Я**ганэсбург* |
| **Йо**шкар-Ола | ***Йо**шкар-Ола* | — | ***Іа**шкар-Ала* | ***Йа**шкар-Ала* | ? |
| Ma**ia** | *Ма**йя*** | — | *Ма**я*** | *Ма**я*** (САУІ) | *Ма**я*** |
| ma**yo**nnaise | *ма**йо**нез* | — | *ма**я**нэз* | *ма**я**нэз* | *ма**я**нэз* |
| ma**jo**r | *ма**йо**р* | — | *ма**ё**р* | *ма**ё**р* | *ма**ё**р* |
| ma**jo**rat- | *ма**йо**рат* | — | *ма**я**рат* | *ма**я**рат* | *ма**я**рат* |
| ra**yo**n | *ра**йо**н* | *ра**ё**н* | *ра**ё**н* | *ра**ё**н* | *ра**ё**н* |
| fo**ye**r | *фо**йе*** | *фо**йэ*** | *фа**е*** | *фа**е*** | *фа**е*** |

**Тлумачэнне да табліцы**

Фонам пазначаны выпадкі перадачы спалучэння «**й** + галосны» праз ётаваны.

сцверджанне — абазначаў і абазначае гук [й]. Аднак пры транслітарацыі (палітарным пераносе з адной графічнай сістэмы ў другую) **й** быў перанесены ў царкоўнаславянскае і затым рускае пісьмо не як **й**, а як **і**, а ў выніку рэформы рускага правапісу 1917—1918 гг. **і** замянілі на **и**. Рэформа беларускай арфаграфіі 1933 г. увяла «калькаванае» афармленне адпаведных імёнаў, што мы ўжо адзначалі вышэй.

Каб даць больш сістэмнае ўяўленне пра гістарычны лёс пералічаных уласных назваў, мы склалі табліцу 13.

Асобна трэба сказаць пра імя *Іаган*. Гэта тое ж старазапаветнае імя **Yō**hānān (грэчаск. Joánnēs), якое з габрайскай мовы трапіла ў лаціну ў формах **Jo**hannes, **Jo**hannus. У выглядзе **Jo**hannes імя ўвайшло ў нямецкую ды некаторыя іншыя германскія мовы (адсюль **Jo**hannesburg, які ў праекце мае форму ***Я**ганэсбург*). Затым яно скарацілася да **Jo**hann з характэрным для германскіх моў націскам на першым складзе, што пабеларуску гучыць як ***Ё**ган*, прынамсі так у беларускім перакладзе кнігі *Ёгана* Вольф-

Табліца 13.

| Грэчаская форма | | Рускія формы | | Беларускія формы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Грэч./лац. напісанне | Спрошч. транскрыпцыя | Да рэформы[37] | Сучасн. форма | Цяпер | Праект | Некаторыя нар. формы | «Ідэальная» форма[38] |
| Ἰορδάνης/Jordánes | *Ёрда́нэс* | *Іорданія* | *Иордания* | *Іарданія* | *Іярданія* | рака *Ярдан(ь)* | *Ярданія* |
| Ἰωάννης/Joánnes | *Ёа́н̅эс* | *Іоаннъ* | *Иоанн* | *Іаан* | | *Ян*, *Іван*[39] | *Яан* |
| Ἰώβ/Jób | *Ёб*[40] | *Іовъ* | *Иов* | *Іоў* | | *Ёў*, *Ёва* | *Ёў* |
| Ἰωνα ς/Jonãs | *Ёна́с* | *Іона* | *Иона* | *Іона* | | *Ёна* | *Ёна* |
| Ἰωσήφ/Josḗph | *Ёсэ́ф* | *Іосифъ* | *Иосиф* | *Іосіф* | | *Язэп*[41], *Восіп*, *Ёсіп* | *Ёсіф* |
| Ἰωσαφατ/Josaphat | *Ёсафа́т* | *Іосафатъ* | *Иосафат* | *Іасафат* | | *Ясафат* | *Ясафат* |

ганга Гётэ «Фаўст» і ў паўтысячы інтэрнэтных спасылак. Дарэчы, таксама ад **Jo**hannes утварылася самая кароткая форма — Hans, той самы *Ганс*, якога мы ведаем як Хрысціяна Андэрсэна, а яшчэ як эпізадычнага героя безлічы кніг і фільмаў «пра вайну».

Напісанне *Іага́н* адлюстроўвае рускую форму XVIII—XIX стст. ***Іо**га́ннъ*/***Ио**га́нн*, якая замацавалася за «старымі» немцамі, г. зн. за імёнамі тых асобаў, што зрабіліся вядомымі ў рускамоўным свеце да XX ст., калі **Jo**hann стаў перадавацца значна бліжэй да сваёй арыгінальнай формы — *Йо́ганн*.

Можа, гэтаму пытанню мы не прысвяцілі б столькі месца, але ж (1) узнятая праблема закранае значна шырэйшае кола выпадкаў, чым гэта кадыфікавана ў Праекце, (2) у Праекце назіраецца рэвізія такіх напісанняў, (3) у Праекце ёсць ілюстрацыі, якія пярэчаць абвешчаным прынцыпам.

Крыху расшыфруем папярэдняе. Несумненна, у Праекце зроблены станоўчы крок да сістэмнасці, аднак праз мінімальную колькасць прыкладаў (толькі два: *фа**е***, *Ма**я***) застаецца няясным, ці прапаноўваецца скасаваць фактычна падвойнае напісанне ёта, замацаванае цяперашнім правапісам. Такое падваенне пярэчыць асноўнаму правілу — перадаваць падвойныя зычныя ў словах іншамоўнага паходжання праз адну літару (найперш у межах адной марфемы, не на марфемным стыку), асабліва ў тых выпадках, дзе падваення няма ў мове-крыніцы, а яно ўзнікла ў выніку спецыфічнага графічнага асваення ў рускай мове: напр., племя *ма**йя*** [ма**йй**а] < Ма**уа**. Такога тыпу афармленні антыправапісныя і антыарфаэпічныя, бо прадугледжваюць падвойнае адлюстраванне ёта і адпаведна — падоўжанае яго вымаўленне. А гэта катэгарычна

[37] Рускія дарэформавыя напісанні пералічаных імёнаў былі запазычаны з царкоўнаславянскай мовы.

[38] Пад «ідэальнай» формай маецца на ўвазе беларускае асваенне, якое адпавядае прынцыпу транскрыбавання формы мовы-крыніцы ўласнабеларускімі фанетычнымі сродкамі.

[39] Губны **в** развіўся на месцы губнога **о**.

[40] У 1 тысячагоддзі н. э. літара **β** змяніла сваё гукавое значэнне з [б] на [в].

[41] Паказальна, што форма *Язэ́п* бліжэйшая да арыгінальнай формы і націскам, і якасцю другога галоснага, чым *Іосіф*.

пярэчыць беларускай фанетыцы — падоўжаны ёт сустракаецца толькі на стыку слоў: *у наша**й** **Я**ны* [уна́ша**йй**а́ны]. Тым больш антысістэмна выглядае ў нашай мове літарнае спалучэнне **йе** на пачатку слова: ***Йе**лаўстан*, ***йе**лаўстанскі* (СБМ) ці ***йе**лаўстонскі* (БелЭн)[42] , бо прадугледжвае падоўжанае **йй** не ў інтэрвакальным становішчы, як звычайна ўжываюцца падоўжаныя (але не [й]), а ў абсалютным пачатку. (У беларускай лексіцы падоўжаныя на пачатку слова сустракаюцца толькі ў літаратурным ***зз**яць* і дыялектных ***лл**е* ‘лье’, ***лл**яны* ‘ільняны’.)

Калі б аўтары Праекта хацелі надаць сваім прапановам сістэмны характар і свой дакумент зрабіць максімальна поўным, то мусілі б **выправіць скажэнні** пры асваенні спалучэння «**й** + галосны» ў наступных пазіцыях і словах, усталяваўшы такім чынам **адзінае правіла** — простае і яснае (усе прыклады — з БелЭн):

1) на пачатку слова: не ~~***Іе**русалім*~~, а ***Е**русалім*; не ~~***Іе**рыхон*~~, ~~***іе**рыхонская*~~, а ***Е**рыхон*, ***е**рыхонская труба*; не ~~***Іе**льскі*~~, ~~***Іе**на*~~, ~~***Ію**да*~~, ~~***Ію**дль*~~, ~~***Ію**ська*~~, ~~***Ію**фе*~~, а ***Е**льскі*, ***Е**на*, ***Ё**да*, ***Ё**дль*, ***Ё**ська*, ***Ё**фе* або ***Ё**фэ*;
2) пасля галоснага ў сярэдзіне слова: не ~~*А**йу**нскі*~~, а *А**ю**нскі*;
3) пасля галоснага на канцы слова: не ~~*ма**йя***~~, ~~*папа**йя***~~, ~~*парано**йя***~~ (так у СБМ), а *ма**я***, *папа**я*** (papa**ya**), *парано**я*** (parano**ia**), як *Ма**я*** (імя), *Мала**я*** (Заходняя Малайзія), *секво**я***.

Гэтак можна было б пераадолець фрагментарнасць, урыўкавасць Праекта, палавіністасць прапанаваных у ім развязанняў.

### В. Выгнанне падоўжаных з традыцыйных імёнаў

У Праекце правапіс падоўжаных зычных не адрозніваецца ад цяперашніх правілаў, аднак звяртае на сябе ўвагу шэраг выключэнняў:

**Міністэрскі праект**: § 16.3. Ва ўласных назвах падоўжанае вымаўленне зычных адлюстроўваецца на пісьме: *Аўгі**нн**я, Аксі**нн**я, Ані**сс**я, Аўдо**цц**я, Ната**лл**я, Та**цц**яна, Усці**нн**я, Фядо**сс**я, Тра**цц**якоўка; Краснапо**лл**е, Зале**сс**е, Закарпа**цц**е* і інш., але: *І**ль**я, Емя**ль**ян, Ка**сь**ян, У**ль**ян, У**ль**яна, Ю**ль**ян, Ю**ль**яна, Тра**дзь**якоўскі* і ўсе вытворныя ад іх: *І**ль**ін, І**ль**іч, І**ль**інскі, І**ль**ічоўка, У**ль**янаў, У**ль**янаўск, у**ль**янаўскі* і інш.

Чым выклікана вывядзенне менавіта гэтых слоў у асобную групу, якая не падпарадкоўваецца аднаму з найбольш універсальных правілаў беларускай фанетыкі? Так, сярод прыведзеных выключэнняў — імёны іншамоўнага паходжання, аднак і сярод прыкладаў на падаўжэнне таксама пераважаюць імёны-запазычанні, хоць усе яны — і замацаваныя праз падоўжаны, і кадыфікаваныя праз «зычны + **й**» — традыцыйныя для беларускага іменаслову, трывала засвоеныя і глыбока асвоеныя. Так, большасць прыкладаў з падоўжанымі — на мяжы асновы і канчатка (*Аўгі**нн**-я, Усці**нн**-я, Фядо**сс**-я*), а большасць прыкладаў з **ь** — у сярэдзіне асновы слова (*Емя**ль**ян, Ка**сь**ян*). Аднак чым растлумачыць, што *Ната**лл**я* і *І**ль**я* маюць рознае напісанне, а значыць — розную ступень асвоенасці? Абодва ж імёны — старыя запазычанні, а этыма-

[42] Ва ўсіх даступных нам слоўніках апошні склад назвы Yellowstone транскрыбуецца як [-stoʊn].

лагічнае спалучэнне «**л** + **й**» (Nata**li**a, I**li**a) сустракаецца ў іх у адной і той жа пазіцыі — на стыку асновы і канчатка

Відаць, прычына ў тым, што імя *Ілья* насіў тата правадыра сусветнага пралетарыяту Уладзіміра *Ульянава*. Як мы паказалі вышэй, імя па бацьку *Ільіч* было выведзена ў лік выключэнняў яшчэ ў Пастанове СНК БССР 1933 г.: яно мела пэўнае «ідэйнае напаўненне», а чым больш «ідэйнае» слова, тым бліжэйшыя мусяць быць яго фанетычнае і графічнае абліччы да гучання і напісання ў рускай мове. Мо для таго, каб настальгія па нядаўняй мінуўшчыне не так кідалася ў вочы, да *Ільі* і *Ульяна/Юльяна* дадалі яшчэ менш частотных *Емяльяна* з *Касьянам*.

У САУІ, які *de facto* застаецца асноўным нарматыўным слоўнікам беларускіх імёнаў і выкарыстоўваецца ў працы загсаў ды іншых дзяржаўных устаноў, што займаюцца рэгістрацыяй насельніцтва і афармленнем пасведчанняў асобы, — зафіксаваны натуральныя беларускія формы — без ёта пасля зычнага: *І**лл**я*, *Амя**лл**ян*, *Мі**л(л)**ян*, *Ву**лл**ян*, *Ву**лл**яна*. Тут жа знаходзім сцягненыя формы (праз адзін зычны), таксама шырока распаўсюджаныя ў народнай мове: *Касян*, *У**л**яна*, а таксама *Ната**л**я*, *Тадо**с**я*, *Хвядо**с**я*, *Та**ц**яна*. (Ва ўкраінскай мове, дзе, як і ў беларускай, развіваюцца падоўжаныя зычныя, адзіная афіцыйная форма апошняга імя — сцягненая: *Те**т**яна*.)

Дарэчы, «палітычная нагружанасць» *Ільіча* абумоўлівала яшчэ адну асаблівасць яго напісання: за савецкіх часоў дасведчаныя рэдактары стараліся не пісаць яго вялікімі літарамі, інакш ІЛЬІЧ выклікаў асацыяцыю са словам ЛЬІЧ, што было на руку толькі ворагам савецкай улады...

Колькі заўваг пра вытворныя. Сярод ілюстрацый да параграфа 16.3 знаходзім: *Ільічоўка*. У Беларусі сапраўды ёсць населены пункт з такой назвай, аднак гэта перайменаваная ў 1964 г. вёска Старабабылле. (У тым годзе сотні беларускіх вёсак былі пазбаўлены сваіх гістарычных найменняў праз іх «немілагучнасць» або неадпаведнасць «ідэалагічным устаноўкам».) А ў Гомельскай вобласці ёсць аж тры паселішчы і адна вёска *Ільіч* (тры пункты ўзніклі ў 1920-я гг., адзін быў вёскаю Клёнкі[43]). Калі ўжо ўзнікла патрэба ў адпаведнай ілюстрацыі, то найлепш было б скарыстаць паліткарэктную (бо гістарычную — з XVI ст., а таму ідэалагічна бесстаронную) назву вёскі *Ільічы*, дарэчы, з той жа Гомельскай вобласці. Істотна, што ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці» Рапановіча адразу ж пасля афіцыйнай назвы ў дужках падаецца і яе рэальнае вымаўленне — праз падоўжаны **-лл-**: *І**лл**ічоўка*, а таксама *І**лл**іч*, *І**лл**ічы*[44]. Усе вёскі *Ільіч* і аднакарэнныя ў Мінскай вобласці таксама маюць дублетныя формы праз **-лл-**[45].

Нават у рускамоўным варыянце беларускія прозвішчы натуюцца ў адпаведнасці з народнымі формамі, без нехарактэрнага для беларускай вымовы спалучэння [л'й] (на пісьме **-ль-**)[46]: *И**лл**ющенко*, *И**л**юк*, *И**л**юкевич*, *И**л**юкович*, *И**л**юшенко*,

[43] Гарады і вёскі Беларусі. Гомельская вобласць / БелЭн. Кн. I, II. Мн., 2004, 2005.

[44] Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977. С. 171.

[45] Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Нарматыўны даведнік. Мінская вобласць. Мн., 2003.

[46] Прынятыя ў літаратурнай мове асабовыя формы дзеяслова *ліць* (***лью***, ***льеш*** і г. д.) пашыраны на меншай частцы беларускага этнаграфічнага абшару, большую частку займаюць гаворкі, у якіх бытуюць формы без [й]: ***лію***, ***ліеш***, ***ле́ю***, ***ле́еш***, а таксама ўжо ўзгаданыя ***ллю***, ***ллеш***.

*Илинич*[47]. Што да апошняга прозвішча, то яно мае слаўную гісторыю (*Іллінічы* — слынны магнацкі род, якому пачаткова належаў Мірскі замак) і традыцыйна ў беларускіх тэкстах перадаецца праз **-лл-**. Такое ж напісанне зацвердзіла рэдкалегія адпаведнага тома БелЭн, куды ўваходзіў і Аляксандр Іосіфавіч Падлужны[48]. Прызнаецца узуальнасць за формамі з **-лл-** і ў згаданым вышэй Рапановічавым слоўніку, навуковым рэдактарам якога выступіў Павел Паўлавіч Шуба. І Падлужнага, і Шубу А. Лукашанец называе аўтарамі Праекта.

Але дзіўная рэч: і сам А. Лукашанец, мабыць, не супраць формаў з падоўжанымі (прынамсі яны засталіся і ў перавыдадзеным пазалетась пад ягоным навуковым рэдактарствам САУІ), і Падлужны з Шубам уласным пяром бласлаўлялі форму *Ілліч* на красаванне ў нашай мове, а як дайшло да ўнармавання правапісу — засталіся вернымі запаветам *Ільіча*.

Асобнай рэмаркі заслугоўвае прозвішча *Ільінскі*. Вось яго беларусізаваць і сапраўды не варта, бо яно — рускае, дакладней, т. зв. «бацюшкоўскае». У сістэму рускіх прозвішчаў уваходзіць спецыфічная група прыметнікавых антрапонімаў, утвораных ад назваў цэркваў, дзе першыя носьбіты адпаведных прозвішчаў служылі святарамі ці іншымі духоўнымі[49] (зрэшты, часам такія прозвішчы маглі атрымліваць і прыгонныя царкоўных уладанняў). Адсюль павяліся *Анненские*, *Архангельские*, *Богородицкие*, *Богословские*, *Введенские*, *Вознесенские*, *Воскресенские*, *Никольские*, *Петропавловские*, *Покровские*, *Преображенские*, *Пятницкие*, *Рождественские*, *Спасские*, *Сретенские*, *Троицкие*, *Успенские*, а таксама *Ильинские*.

Як мы мелі магчымасць пераканацца вышэй, з аднаго боку, аўтары Праекта гатовыя зняважыць нізкачастотныя, вельмі спецыфічныя навуковыя тэрміны як бог чарапаху. З другога боку, «рэзапазычваюцца» ў чужой, супярэчнай самой прыродзе нашай мовы форме даўно асвоеныя, сапраўды традыцыйныя імёны, якія маюць у нас ледзь не тысячагадовую гісторыю, прайшлі разам з моваю шлях натуральнага развіцця і набылі адметныя нацыянальныя формы, імёны, ад якіх утварыліся назвы сотняў беларускіх вёсак, мястэчак, гарадоў, рэчак і азёраў, а таксама прозвішчы тысяч беларусаў. Мяркуем, наўмыснае ачужэнне і архаізацыя традыцыйнага іменаслову не на карысць і праваслаўнай царкве ў Беларусі.

### С. Перамога *-дзэ*: фіналь грузінскіх прозвішчаў падпарадкуецца агульнаму правілу

Асабліва радуе прапанова праекта, — праўда, яна не сфармулявана, а вынікае толькі з ілюстрацый, — фанетычна пісаць фіналь грузінскіх прозвішчаў на **-дзэ**: *Табідзэ*, *Брыгвадзэ*, а значыць і *Абашыдзэ*, *Гамкрэлідзэ*, *Кікабідзэ*, *Меладзэ*, *Шэварднадзэ* і да т. п.

[47] Номера телефонов Минской городской телефонной сети: Электронный каталог. 2003.

[48] Іллінічы // БелЭн. Т. 7. Мн., 1998. С. 197.

[49] У 1907 г. прозвішчы на **-ский** сярод духоўных Сімбірскай епархіі складалі 35%, затое сярод сялян Самайкінскай валасці Сімбірскай губерні — 0% (Система личных имён у народов мира. М., 1986. С. 265).

З 1930-х гг. грузінскія прозвішчы складалі выключэнне, відаць, таму, што на чале краіны стаў грузін, чые суродзічы, у тым ліку з прозвішчамі на **-дзэ**, займалі найвышэйшыя пасады ў Савецкай краіне: ***Орджонікідзе*** (нават не ***Арджанікідзе*** — на ўзор астатніх саветызмаў, такіх, як *большэвік*, *советы* ды інш., дзе ў якасці выключэння не праводзілася аканне), *Енукідзе*, *Геаргадзе*, *Дзацэнідзе*. Угнявіць «абраны народ» СССР няправільным напісаннем імёнаў яго сыноў тагачасныя кадыфікатары не насмеліліся, хоць фіналь прозвішчаў на **-дзе** рабілася амаграфічнаю (тоеснай паводле напісання) фіналі назоўнікаў у давальным ці месным склонах — як *Антарктыдзе*, *Галівудзе*, *Леанідзе*[50], *Сцепанідзе*. (Праўда, няясна, што будзе з негрузінскімі **-дзэ**, напрыклад, з японскім *камікадзэ*, які ў СБМ не прапісаны, а ў СІС і БелЭн — падаецца праз **-дзе**: *камікадзе*.)

А яшчэ — з 1933 да 1957 г. рабілася выключэнне для гордай каўказскай (у тым ліку і грузінскай) ракі ***Тэрэк***, якая чамусьці не прызнавала правілаў беларускай арфаграфіі і пісалася як ***Терэк*** з забароненым у беларускай мове «теканнем». У рэдакцыі 1957—1959 гг. праяву «культу асобы» ў мовазнаўстве «пераадолелі», абсалютна абеларусіўшы слова — ***Церак***: у першым складзе правялі цеканне, а ў другім — аканне, надаўшы назве рысы ўласнабеларускага або славянскага наймення, хоць імя гэтай ракі ніяк нельга падазраваць у славянскім паходжанні. Такім чынам, слова страціла сувязь са сваім зыходным гучаннем і стала абсалютна непазнавальным для тых, хто ведае толькі яе арыгінальную форму. Дарэчы, назвы горада *Тэрэк-Сай* (БелЭн, карта «Кыргызстан») кадыфікатары чамусьці беларусізаваць не сталі.

І пасля гэтага нехта адмаўляе праявы ў нашым правапісе палітычнай кан'юнктуры...

## III. 4. Вялікай літары — вялікую блытаніну

### Ні памяншэння колькасці выключэнняў, ні ўнармавання не адбылося

*Это всего лишь корректировка в соответствии с требованиями современной языковой практики, направленными на уменьшение количества исключений и ликвидацию существующего орфографического разнобоя в белорусскоязычных изданиях.*

А. Лукашанец[51]

Яшчэ ў першай палове гэтай публікацыі мы адзначалі гіпертрафію *главы* 6 «Правапіс вялікай і малой літар», што асабліва кідаецца ў вочы на фоне гіперлаканічнасці ўласна правапісных *глаў*.

Гэта па вызначэнні самая ідэалагізаваная частка Праекта, бо метафарычнасць вялікай літары (чым большая асоба ці з'ява — тым з большай літары мае пісацца яе імя) «спакушае» падначаленага заслужыцца перад начальнікам праз узвелічэнне назвы пасады апошняга. Таму і выказвалася думка, што ўся справа з новай рэдак-

[50] Параўн. з прозвішчам народнага паэта Грузіі Георгія *Леанідзэ*.

[51] Труд. 2006. 30 августа — 7 сентября.

цыяй правапісу задумлялася толькі для таго, каб узаконіць напісанне слова ***Прэзідэнт*** з вялікай літары (аднак мы схіляемся да іншага тлумачэння).

### А. Структура і вытокі *главы* 6

Пачынаецца *глава* з арфаграм, не сабраных у параграф, — мусіць, не знайшлі для такой структурнай адзінкі адпаведнай абагульняльнай назвы, бо сюды трапіў даволі разнастайны матэрыял, прысвечаны выбару рэгістра — вялікай ці малой літары — (a) на пачатку сказа, (b) на пачатку паэтычнага радка, (c) пасля знакаў прыпынку.

Далей справа структуравання пайшла гладчэй:

§ 22. Вялікая і малая літары ў асабовых назвах.
§ 23. Вялікая і малая літары ў назвах асоб, звязаных з рэлігіямі, назвах міфалагічных і казачных герояў.
§ 24. Вялікая літара ў геаграфічных і астранамічных назвах.
§ 25. Вялікая літара ў назвах органаў улады, арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў.
§ 26. Вялікая літара ў назвах асоб па пасадах, званнях, тытулах.
§ 27. Вялікая літара ў назвах дзяржаўных і нацыянальных сімвалаў, узнагарод, помнікаў, рэліквій, прэмій, ордэнаў, грамат, прызоў.
§ 28. Вялікая літара ў назвах дакументаў, іх зводаў, унікальных прадметаў, твораў.
§ 29. Вялікая літара ў назвах памятных і знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох.
§ 30. Вялікая літара ў назвах з двукоссем.

Вось класічны прыклад спробы ахапіць неахопнае, — нават павярхоўнага азнаямлення дастаткова, каб пераканацца ў тым, што ў Праекце пералічана **меншая палова** выпадкаў, калі ў карыстальніка будзе ўзнікаць праблема з выбарам рэгістра.

Узнікае сумнеў і ў сэнсоўнасці найперш тэматычнага падзелу матэрыялу — усё роўна засталіся не ахопленымі цэлыя пласты лексікі. Больш рацыянальна было б пакласці ў аснову групавання структурныя ўласцівасці моўных адзінак. Праўда, за тэматычны прынцып прамаўляе традыцыя і экстралінгвістычны момант.

Прыкладна тая ж карціна назіралася яшчэ ў Гротавым правапісе, на які раўняліся пазнейшыя рускія выданні, а ўжо ў іх падглядалі нашы нармалізатары:

96. <Прописная буква>
1. Первое слово строки…
2. Первое слово чужой рѣчи…
3. Каждое слово, начинающее стихъ.
4. Имена трехъ лицъ Божества и высшихъ существ, составляющихъ предметъ религіознаго почитанія христіанъ: ***Б**огъ*, ***Г**осподь*, ***Т**ворецъ*…; также слова: ***П**ровидѣніе*, ***П**ромыселъ*, ***Н**ебо*, ***Ц**ерковь* въ духовномъ смыслѣ.
5. Титла царствующаго въ Россіи Дома: ***Г**осударь **И**мператоръ*, ***Н**аслѣдникъ **Ц**есаревичъ*, ***И**хъ **И**мператорскія **В**еличества*.

…

8. Названія высшихъ государственныхъ и ученыхъ учрежденій, также различныхъ об-

ществъ...: *Правительствующій Сенатъ*, *Святѣйшій Синодъ*, *Государственный Совѣтъ*, *Государственный Контроль*, *Академия Наукъ*, *Императорская Публичная бібліотека*...

9. Нѣкоторыя названія праздниковъ, недѣль и дней, имѣющихъ особенное церковное значеніе: *Рождество Христово*, *Пасха*, *Благовѣщеніе*, *Великій постъ*, ... *Великій Четвергъ*...

На жаль, Праект пераняў і дух, і літару (ва ўсіх сэнсах) працытаванага выдання эпохі самадзяржаўя, праявіўшы правапісны валюнтарызм з кан'юнктурных меркаванняў. Асабліва гэта відавочна ў параграфах 23 і 26, прысвечаных уладам нябесным і зямным.

У Праекце не пашкадавалі месца на сакральныя імёны, значна перавысіўшы іх колькасць у параўнанні з Гротавым правапісам, створаным у краіне, дзе праваслаўе было дзяржаўнай рэлігіяй. Пры гэтым пераадольваюцца канфесійныя межы, праўда, у хрысціянскай тэрміналогіі выразна пераважае праваслаўная традыцыя:

> § 23.1. З вялікай літары пішуцца: асабовыя назвы вышэйшых божастваў (боставаў) у рэлігійных культах, а таксама ўсе словы ў спалучэннях, якія змяшчаюць гэтыя назвы: *Бог*, *Саваоф*, *Алах*, *Яхве*, *Шыва*, *Карма*, *Вішну; Госпад (Гасподзь)*, *Усявышні*, *Уладыка Нябесны*, *Усемагутны Бог*, *Святая Троіца*, *Бог Айцец*, *Бог Сын*, *Божы (Боскі) Сын*, *Бог Дух Святы*, *Святы Дух*, *Прасвятая Троіца*, *Божая (Боская) Маці (Мацер)*, *Прачыстая Уладычыца Нябесная*, *Прасвятая Дзева Марыя*, *Царыца Нябесная; Месія;*
> прыметнікі, утвораныя ад слова *Бог: Божы (Боскі) суд*, *Божы (Боскі) храм*, *Божая (Боская) міласць;*
> асабовыя імёны (і ўсе словы ў састаўных асабовых назвах, акрамя агульных назваў) заснавальнікаў рэлігійных вучэнняў, а таксама біблейскіх асоб (апосталаў, прарокаў, святых і інш.): ... *Святы Павел* (апостал), *Святыя Роўнаапостальныя Кірыл і Мяфодзій;*

Дагэтуль слова *святы* пісалася з вялікай літары толькі ў рэлігійных выданнях. У Праекце прапаноўваецца пашырыць такую практыку на свецкія тэксты. А ўжо назвы святаў адлюстроўваюць характэрную для нашай рэчаіснасці эклектыку:

> § 29.1. З вялікай літары пішуцца: ...
> аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах дзяржаўных, традыцыйных і рэлігійных свят, знамянальных дат: *Дзень Канстытуцыі*, *Дзень Перамогі (9 Мая)*, *Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі)*, *Новы год*, *Дзень жанчын (8 Сакавіка)*, *Свята працы (1 Мая)*, *Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі* (7 *Лістапада)*, *Нараджэнне Хрыста (Ражджаство Хрыстова)*, *Дзень памяці*, *Дзень беларускай навукі*, *Дзень ведаў*, *Ушэсце Гасподняе*, *Уваскрасенне Хрыстова*, *Вялікая субота*, *Таццянін дзень*, *Радаўніца*, *Вялікдзень*, *Каляды*, *Купалле*, *Дабравешчанне*, *Наўроз*, *Рамадан*...

Звяртае на сябе ўвагу штучнае ўтварэнне *Нараджэнне Хрыста* — вынік кантамінацыі каталіцкай і праваслаўнай назваў гэтага свята: *Божае Нараджэнне* і *Раство* (або *Раздво*) *Хрыстова*. Дарэчы, прапанаванае ў Праекце *Ражджаство* пярэчыць і беларускай народнай традыцыі, і самой прыродзе беларускай мовы.

## B. Арфаграфія і чынапаклонства

Пачнём з трывіяльнага. У беларускай мове назвы чалавека паводле яго занятку, прафесіі, пасады (як і паводле ўзросту, полу, расы, нацыянальнасці, сямейнага становішча, сацыяльнай ролі і г. д.) пішуцца з малой літары, бо гэта апелятывы — не ўласныя назвы: *Ясева матуля — мастачка. Універсітэцкая рада абрала новага рэктара.*

Але, як мы ўжо мелі магчымасць пераканацца на прыкладзе з Грота, існуе пэўная традыцыя парушаць гэтае правіла, калі гутарка ідзе пра раўнейшых за роўных — пра высокае начальства: маўляў, на тое начальства і высокае, каб пісацца з высокай, або вялікай, літары. Гэтак чынапаклонства, ігнаруючы і моўныя прынцыпы, і здаровую логіку, рэалізуецца ў выбары рэгістра:

> § 26. З вялікай літары пішуцца: словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь, Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, Міністр адукацыіі* <так!> *Рэспублікі Беларусь, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінска-Маладзечанскай мітраполіі і апостальскі адміністратар Пінскай дыятэзіі* <так!>, *Апостальскі Візітар* <так!>, *Генеральны Сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Генеральны Сакратар Савета Еўропы, Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі, Кароль Іярданіі, Каралева Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Імператар Японіі, Папа Рымскі, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, Далай-Лама. …*

Прапанова пісаць тытулы і пасады кіраўнікоў дзяржаў і найвышэйшых іерархаў з вялікай літары — вялікая навіна, прынамсі цяпер ***Папа Рымскі*** з вялікай літары рэгулярна афармляецца толькі ў каталіцкай літаратуры, ***Патрыярх*** ды ***Экзарх*** — найперш у праваслаўнай (хоць бывае, і дзяржаўныя вызначацца), а ***Далай-Ламу*** так не пішуць хоць бы таму, што не існуе ламаісцкіх ні кніжак, ні часопісаў па-беларуску. Што да свецкіх асобаў, то ні каралі, ні прэзідэнты, а тым больш міністры верхнім рэгістрам зазвычай не падаюцца. Крыху іншая справа з ***Генеральнымі Сакратарамі*** *ААН і Савета Еўропы*, якія прыйшлі ў нашу рэчаіснасць адносна нядаўна проста з англійскай мовы, пры гэтым захаваўшы вялікія літары арыгінала: UN **S**ecretary **G**eneral, The Council of Europe **S**ecretary **G**eneral. Вядома, на добры клёк, калі ўжо ёсць цвёрдае правіла пісаць падобныя назвы з малой літары, не варта рабіць выключэння ні для кога, — часы, калі галава дзяржавы лічыўся намеснікам Бога на зямлі (з усімі адпаведнымі), мінулі.

У гэтай жа арфаграме знаходзім агаворку:

> У неафіцыйным ужыванні словы *прэзідэнт*, *міністр*, *старшыня* пішуцца з малой літары: *Выступае прэзідэнт нашай краіны. На нарадзе прысутнічаў міністр.*

Во будзе работы вызначаць, дзе афіцыйнае ўжыванне, а дзе не. Можна прадбачыць, што, калі Праект усё ж такі прымуць, па рэдакцыях пракоціцца каманда: прэзідэнта з міністрамі ды кіраўнікамі ўсюды і заўсёды пісаць з вялікай — на ўсялякі выпадак. Прэцэдэнты ўжо ёсць.

Калі ў папярэдніх *главах* сапраўды адчуваецца імкненне спрасціць і універсалізаваць правапісныя нормы, як гэта і дэкларавалася (хоць лічыць вынік удалым ніяк не выпадае), то тут аўтары Праекта пайшлі шляхам фіксацыі напісанняў, якія склаліся стыхійна, а ў выпадках, калі існуе некалькі варыянтаў напісання, зрабілі выбар на карысць аднаго з іх. Аднак па вялікім рахунку гэта не ёсць задачаю арфаграфічнага зводу; галоўнае прызначэнне такога дакумента — сфармуляваць прынцыпы, вызначыць іх іерархію (хоць бы для сябе) і на іх аснове прапанаваць максімальна ёмістыя правілы, якія працавалі б калі не ва ўсіх, то ў пераважнай большасці выпадкаў.

Мяркуем, менавіта такі падыход найбольш апраўданы ў нашым становішчы, калі (a) назіраецца вялікая разбежнасць у адлюстраванні тыпалагічна блізкіх ці нават тоесных фактаў (як праяўляецца гэта ў Праекце, адлюстравана ў табліцы 14), (b) з'явілася вялікая колькасць моўных адзінак, не ахопленых унармаваннем. Праект улічвае толькі актуальныя для нашай рэчаіснасці палітычныя інстытуты, ігнаруючы вялізны сегмент штодзённасці, новыя рэаліі ды сітуацыі. Вось толькі некалькі прыкладаў, дзе назіраецца хістанне ў графічным афармленні, а Праект застаецца бескарысным для вырашэння праблемы, бо універсальных правілаў у ім няма, а прэцэдэнтныя напісанні не пакрываюць «праблемных» груп лексікі:

*__і__нтэрнэт* / *__І__нтэрнэт*; *__с__еціва* /*__С__еціва*;
*__і__нтэрнэт-выданне* / *__І__нтэрнэт-выданне* ці *__і__нтэрнэтвыданне* / *__І__нтэрнэтвыданне* (адказу на пытанне пра пісанне-непісанне тут злучка ў Праекце не знайсці);
гульня *«ў пікера»* / *«__У__ пікера»*;
камп'ютэрнае асяроддзе: *__Л__інукс* / *__«Л__інукс__»__* / *__«л__інукс»*, *__Ю__нікс* / *__«Ю__нікс__»__* / *__«ю__нікс__»__*;
*__т__эорыя __а__дноснасці* / *__Т__эорыя __а__дноснасці* / *__т__эорыя __А__дноснасці* / *__Т__эорыя __А__дноснасці*;
*__П__ершы __н__ацыянальны канал* / *__П__ершы __Н__ацыянальны канал* / *«__П__ершы __н__ацыянальны» канал* / *«__П__ершы __н__ацыянальны __к__анал»* (для развязання гэтага пытання прэцэдэнты *Волга-Данскі канал* (*глава* 4.5) і *Дняпроўска-Бугскі канал* (§ 24.1) наўрад ці прыдадуцца).

А якое правіла дазваляе ці забараняе напісанні *ЕўраФэст*, *КомпаС* (назвы праграм з нядзельнай «сеткі вяшчання» БТ)?

Сваім зместам *глава*, прысвечаная выбару рэгістра, звязана з правіламі ўжывання двукосся:

> Глава 19.2. У двукоссе бяруцца назвы: ... назвы <так!> марак машын, вытворчых вырабаў, ... назваў <так!> кандытарскіх, парфумерных вырабаў і пад.: *«Ніва», «Волга», «Мерседэс»* (аўтамабілі), *«ЯК», «Дуглас»* (самалёты), *«кацюша»* (гвардзейскі мінамёт), *«максім»* (кулямёт), *«зіг-заг»* (барана), *«Ласунак», «Мінскі грыльяж»* (цукеркі), *«Духмяны ландыш»* (духі) і інш.

І тут ужо ўзнікаюць новыя пытанні: чаму маркі аўтамабіляў і самалётаў пішуцца з вялікай літары, а маркі зброі — з малой? Чаго ж і барана — з малой літары, як мінамёт

Табліца 14.

| Паводле «англійскага» прынцыпу (**В**ялікая **В**ялікая…) | | Паводле «французскага» прынцыпу (**В**ялікая **м**алая…) |
|---|---|---|
| ***В**ярхоўны **С**авет (**П**арламент)* | АЛЕ | ***П**арламенцкая **а**самблея* |
| ***С**авет **М**іністраў* | АЛЕ | ***П**рэм'ер-**м**іністр* |
| ***К**анстытуцыйны **С**уд Рэспублікі Беларусь* | АЛЕ | ***М**іжнародны **с**уд ААН* |
| ***П**атрыяршы **Э**кзарх, **М**ітрапаліт Мінска-Маладзечанскай мітраполіі* | АЛЕ | ***а**постальскі **а**дміністратар Пінскай дыятэзіі* |
| ***Г**ерой **С**ацыялістычнай **П**рацы* | АЛЕ | ***С**вята **п**рацы* |
| ***Г**енеральны **С**акратар ААН* | | ***Г**енеральны **п**ракурор Рэспублікі Беларусь* |
| ***В**остраў **С**лёз* (мемарыял памяці «афганцаў» у Мінску) | АЛЕ | ***А**лея **п**амяці **в**оінаў-**і**нтэрнацыяналістаў* |

і кулямёт? Але ж сучасная барана — на колавым ходу, лічы, той жа аўтамабіль!

А калі супаставіць *главу* 19.2 з параграфам 22.2, то высветліцца, што і яснасці з напісаннем *кацюшы* няма: дык браць яе ў двукоссе ці не?

> § 22.2. Пішуцца з малой літары: агульныя назвы людзей, прадметаў, адзінак вымярэння фізічных з'яў, якія ўтварыліся на аснове асабовых і геаграфічных назваў: *донжуан (быў донжуанам), донкіхот (такі донкіхот), фрэнч, галіфэ, наган, маўзер, браўнінг, кацюша…*

І яшчэ. Чамусьці ў назве самалёта «ЯК» (*глава* 19.2) пішацца вялікая літара **К**, нібы гэта ініцыяльная абрэвіятура. Аднак «Як» — гэта скарот ад прозвішча ***Як**овлев*. Дарэчы, у БелЭн *Як-40* і пад. пішуцца без двукосся (арт. «Якаўлеў Аляксандр Сяргеевіч»).

## С. Паміж берагоў: выбар рэгістра ў састаўных назвах

Састаўныя (шматслоўныя) назвы выклікаюць асабліва вялікую складанасць пры выбары рэгістра для розных іх кампанентаў. Існуюць два асноўныя прынцыпы ўжывання вялікай літары ў састаўных імёнах, іх можна ўмоўна назваць «**англійскім**» (верхні рэгістр для ўсіх кампанентаў назвы) і «**французскім**» (верхні рэгістр толькі для першага кампанента).

Беларуская мова апынулася ў рэгіёне «панавання» «французскага» прынцыпу, інакш кажучы, усе суседнія мовы, у тым ліку руская і польская, прынялі гэты прынцып за аснову для выбару рэгістра ў састаўных назвах: першае слова пішацца з вялікай літары, што фармальна ўказвае на пачатак састаўной назвы, усе астатнія словы ў такім найменні пішуцца з малой літары: ***Б**ярэзінскі **б**іясферны запаведнік*, ***Н**овалукомская **д**зяржаўная **р**аённая электрастанцыя*. Крыху інакш выглядае справа, калі ў склад састаўной назвы ўваходзіць слова ці словазлучэнне, якое пішацца з вялікай літары: ***Д**зяржаўны **л**ітаратурны **м**емарыяльны **м**узей **Я**куба **К**оласа* (найменне ў

найменні), $^{a-}$*__Ж__ыллёвы __к__одэкс* $^{b-}$*__Р__эспублікі* $^{c-}$*__Б__еларусь*$^{-c-b-a}$ (тут наогул «матрункавая»[52] будова: кампанент *c* (Беларусь) у складзе кампанента *b* (Рэспубліка Беларусь), які ў сваю чаргу ўваходзіць у найменне дакумента *a*).

Аднак два фактары — эстралінгвістычны і ўплыў «англійскага» прынцыпу — няспынна ажыццяўляюць экспансію на свет уласных назваў, змяняючы ўяўленні носьбітаў аб правільным, на іх думку, выбары рэгістра.

«Англійскі», а дакладней ужо — «амерыканскі», уплыў — фактар непераадольнай сілы; асабліва моцны ён у такіх сферах, як рэклама і мастацтва. Пасярэднікам гэтага ўплыву выступае, вядома ж, руская мова, але чым больш адкрытым будзе рабіцца наш свет, тым часцей уплыў гэты будзе рэалізоўвацца наўпрост, а значыць — яшчэ больш магутна. Апошнім часам стала модным афармляць з вялікай літары нават кампаненты назваў твораў, што ў тэксце пішуцца ў двукоссі: *«__У__ __В__айны __Н__е __Ж__аночы __Т__вар»*, а таксама слоганы: *__К__аханне __З__ __П__ершай __Л__ыжкі*. Такому афармленню спрыяюць традыцыйныя найменні: *газета «__Н__аша __Н__іва»*. Гэтак, ад «французскага берагу» наша практыка адштурхнулася, а да «англійскага» так і не прыбілася.

Але ж толькі экстралінгвістычнымі меркаваннямі, якія ніяк не могуць рэалізоўвацца сістэмна з пункту гледжання мовы, можна растлумачыць «здраду» традыцыйнаму для беларускай мовы «французскаму» прынцыпу. Ды што казаць пра супярэчнасці ў напісанні розных назваў, калі ў Праекце ёсць выпадкі рознага афармлення адных і тых жа назваў. Вышэй мы падавалі цытату з § 26, дзе другія кампаненты найменняў *Нацыянальны __сход__* і *Палата __прадстаўнікоў__* пісаліся паводле асноўнага правіла — з малой літары, але ж у папярэдняй арфаграме знаходзім:

> § 25.1. З вялікай літары пішуцца: ... усе словы ў састаўных афіцыйных поўных уласных назвах вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, іншых краін і вышэйшых сусветных арганізацый: *Савет Рэспублікі Нацыянальнага __С__ходу Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны __С__ход (Парламент) Рэспублікі Беларусь, Палата __П__радстаўнікоў Нацыянальнага __С__ходу Рэспублікі Беларусь (ніжняя палата)*...

Дарэчы, гэтых саветаў, судоў, парламентаў у кожнай краіне мінімум па адным. А што рабіць з парламентамі і судамі аўтаномных і суверэнных утварэнняў у складзе унітарных, федэратыўных, канфедэратыўных, саюзных дзяржаў і садружнасцяў? Ці запамінай (а іх тысячы!), ці лезь у слоўнік, якога... няма, як і арфаэпічнага ды шэрагу іншых...

Цікава, што ў назве *Усекітайскі __С__ход __Н__ародных __П__радстаўнікоў*[53] апошняе слова, як і астатнія, пішацца з вялікай літары. Ці не значыць гэта, што беларускія *__прадстаўнікі__* менш прадстаўнічыя за кітайскіх? Зрэшты, так і ёсць, калі ўзяць пад увагу, што 110 членаў ПП рэпрэзентуюць менш за 10 мільёнаў грамадзян (1 член ад 90 тыс.), а 2970 членаў УСНП — больш за 1 мільярд 300 мільёнаў (1 Народны Прадстаўнік ад

[52] Бел. *Матрунка* — рус. *Матрёшка*.

[53] Паводле БелЭн: *Усекітайскі __с__ход __н__ародных __п__радстаўнікоў* (арт. «Кітай») — прыклад паслядоўнага ўжывання «французскага» прынцыпу.

480 тыс., цяпер ясна, чаму яны ***Народныя***, а нашы — так сабе). Розніца ў 5 з паловай разоў! Тут і вялікай літары замала.

Сярод ілюстрацый да *главы* 6 трапляюцца і яшчэ дзіўнейшыя выпадкі, калі вялікія і малыя літары ў састаўной назве чаргуюцца, напр.: *Нацыянальны **а**кадэмічны **В**ялікі **т**эатр **б**алета Рэспублікі Беларусь*. Калі ***в**ялікі* — гэта ганаровае званне, тады пісаць яго трэба з малой, як і ***а**кадэмічны*. Калі ж ***В**ялікі* — уласна імя тэатру[54], то яно мусіла б стаяць на пачатку ўсёй назвы, а ***н**ацыянальны* — у якасці ганаровага звання — на другой пазіцыі, натуральна, з малой літары: ***В**ялікі **н**ацыянальны **а**кадэмічны **т**эатр*...

Такім чынам, з 10-старонкавай *главы* атрымаўся структураваны, упарадкаваны збор прэцэдэнтаў (праўда, далёкі ад вычарпальнасці), нешта накшталт слоўнічка (толькі без алфавітнага парадку), але не інструкцыя, якой і мусіць быць правільна складзены кадыфікацыйны дакумент.

## Выпраўленні да 1-й часткі публікацыі (№1—2)

С. 50, табліца 4. Зняць радок «Жаліо-Кюры».

С. 57, канец пункта (d), пасля двукроп'я мусіць быць тэкст: лексема *афрыкандэр* > *афрыканд**а**р* пачынае асацыявацца з «дарам афрыканца».

[54] Пра тое, што імя тэатру — Вялікі, сведчыць хоць бы англійскі пераклад з рускай назвы: the National Academic Bolshoi Ballet Theatre…

## ⌘ МОВА

**З. Ф. САЎКА**

# Правілы левапісу,

## або Што нас чакае, калі новая рэдакцыя «Правілаў беларускага правапісу і пунктуацыі» стане афіцыйным дакументам*

## IV. АСТЭАПАРОЗ ФАРМУЛЁВАК І ДЫСТРАФІЯ ІЛЮСТРАЦЫЙ

*В редакции 1959 года что ни правило — то отсылка к какому-то параграфу. Новая редакция будет более удобна в пользовании. Да и некоторые примеры, которыми иллюстрируются правила редакции 1959 года, тоже устарели.*

В. Ивченков[1]

### IV.1. Косць і плоць

Сістэмнасць у будове арфаграм

Як немагчыма ўявіць здаровы арганізм без адзінства ды гармоніі косці і плоці, так немагчыма дасягнуць поспеху пры стварэнні правапіснага зводу без адзінства ды гармоніі фармулёўкі ды ілюстрацыйнага шэрагу (групы прыкладаў), з якіх складаецца арфаграма. Абодва гэтыя кампаненты мусяць адпавядаць пэўным патрабаванням:

---

* Заканчэнне. Пачатак у №№ 1—3.

Прынятыя скароты: **БелГрам** — Беларуская граматыка / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба. Ч. 1—2. Мн., 1985—1986; **БелСЭ** — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—12. Мн., 1969—1975; **БелЭн** — Беларуская энцыклапедыя. Т. 1—18. Мн., 1996—2004; **БРС-1** — Беларуска-рускі слоўнік / Рэд. К. К. Атраховіч (К. Крапіва). Выд. 1. М., 1962; **БРС-3** — тое самае. Выд. 3. Мн., 2003; **Звод-1959** — Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Рэд. К. К. Атрыховіч, П. Ф. Глебка. Мн., 1959; **РБС-1** — Русско-белорусский словарь / Пад рэд. Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі. Выд. 1. М., 1953; **САУІ-1** — Слоўнік асабовых уласных імён / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Уклад. М. Р. Суднік. Выд. 1. Мн., 1965; **САУІ-2** — тое самае. Выд. 2. Мн., 2005; **СБМ** — Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / АН БССР; Інстытут мовазнаўства; Пад рэд. М. В. Бірылы. Мн., 1987; **СІС** — А. М. Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў / БелЭн. Т. 1—2. Мн., 1999.

[1] Советская Белоруссия. 2006. 29 августа.

a) лагічнасць, празрыстасць, сістэмнасць арганізацыі і падачы;
b) рэпрэзентатыўнасць (ілюстрацыі павінны «пакрываць сабою» ўсе пералічаныя ў фармулёўцы пазіцыі);
c) максімальная адпаведнасць паміж фармулёўкай і ілюстрацыямі;
d) практычная прыдатнасць, актуальнасць, дыдактычнасць, адпаведнасць норме;
e) «беларусацэнтрызм»;
f) паліткарэктнасць;
g) «тэмпаральная гармонія» крыніц — збалансаванасць матэрыялу класічных і сучасных аўтараў (патрабаванне актуальна для цытат з літаратуры, якія выкарыстоўваюцца пераважна ў частцы «Пунктуацыя»).

На жаль, Праект не можа быць узорам для напісання кадыфікацыйных тэкстаў, што мы паспрабуем даказаць наступнымі прыкладамі.

## A. «Без надрадковага значка»

### Нястача логікі, яснасці і дакладнасці

Абмежаваная плошча часопіса і адсутнасць дазволу на публікаванне Праекта не даюць нам змясціць тэкст згаданага дакумента, аднак ніжэй мы ўсё ж такі дазволім сабе працытаваць цэлы параграф — каб не быць абвінавачанымі ў «падтасоўцы фактаў» і ў «адвольным выдзіранні з кантэксту»:

**§ 14. Нескладовае ў**

1. Нескладовае ў пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем пасля галосных.
Пры чаргаванні [у] з [ў]:
на пачатку слова (калі гэтае слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): *на **ў**весь дзень (ад **у**сіх)*, *моцны **ў**дар (ад **у**дару)*, *хацела **ў**зяць (хацеў **у**зяць)*, *сонца **ў**зімку (месяц **у**зімку)*, *крыкі «**ў**ра» (крык «**у**ра»)*, *для **ў**ніята (з **у**ніятам)*, *ва **ў**ніверсітэце (перад **у**ніверсітэтам)*, *на **ў**звей-вецер (сцяг **у**звіўся)*, *ледзьве **ў**чуў (раптам **у**чуў);*
на канцы склада: *па**ў**-за*, *ма**ў**-зер*, *ка**ў**-чук*, *а**ў**-кцыён*, *а**ў**-дыенцыя*, *а**ў**-дыякасета*, *а**ў**-ра*.
2. Гук [у] пад націскам не чаргуецца з [ў]: *да **ý**рны*, *Брэсцкая **ý**нія*, *піва **ý**жгарадскае*, *жанчыны **ý**льчы*, *групоўка **ý**льтра*, *норма і **ý**зус*, *насілі **ý**нты*, *чулася **ý**ханне*, *а**ý**л*, *ба**ý**л*, *а**ý**каць*, выклічнікі ***у** (**у**, нягоднікі!)*, ***у**х (**у**х ты!)*, ***у**й (**у**й, які смешны!).*
3. Гук [у] не чаргуецца з [ў] у запазычаных словах, якія канчаюцца на -***ум***, -***ус**:* *прэзіды**ум***, *кансілі**ум***, *рады**ус***, *стра**ус***, *со**ус*** і вытворных ад іх; а таксама ў словах *да**ун***, *р**а**унд*, *Бра**ун**.*
4. Гук [у] на пачатку ўласных назваў перадаецца вялікай літарай *У* без надрадковага значка: *ва **У**збекістан (для **ў**збекаў)*, *на **У**ральскіх гарах (на **ў**ральскіх дарогах)*, *ва **У**краіне (за **ў**краінцаў)*, *пасля **У**каза Прэзідэнта (падпісаны **ў**казы)*, імёны ***У**ладзімір*, ***У**ладзіслаў*, ***У**сяслаў.*
5. Пры чаргаванні [л] з [ў]: *да**ў***, *мы**ў***, *каза**ў***, *змо**ў**клі*, *во**ў**к*, *шо**ў**к*, *шчо**ў**к*, *по**ў**ны*, *ко**ў**зкі*, *маўля**ў***, *мо**ў**чкі*, *па**ў**прэд*, *па**ў**метра*, *бо**ў**таць*, але: *ко**л***, *во**л***, *анге**л***, *выстра**л***, *сканда**л***, *вэрха**л***, *па**л**ка*, *памы**л**ка*, *ся**л**ка*, *а**л**каголь*, *А**л**дан*, *А**л**жыр*, *А**л**банія*, *Во**л**га*, *Ва**л**дай*, *Ба**л**гарыя.*
6. Пры чаргаванні [в] з [ў]: *ла**ў**ка (ла**в**а)*, *кры**ў**да (кры**в**ы)*, *зно**ў**ку (но**в**ы)*, *а**ў**са (а**в**ёс)*,

*бацькаў (бацькавы), кроў (крыві), любоў (любавацца), кароў (карова), гатоў (гатовы), сталоў, дубоў, бацькоў, аўчына, маўр, аўторак, раўці, каўбой, аўгур, Саўмін, Аўстрыя, Аўдоцця, Аўрора, Каўказ, Боўш, Роўда, аўгіевы стайні*, але: *краіна **В**лахія, краіна **В**'етнам, рэчка **В**лтава, армія **В**'етконга, змаганне за **В**'енцьян.*

(Тут і далей усе вылучэнні тлустым і падкрэсліванні — нашы. — **З. С.**)

Сутнасць прапанаваных у гэтым параграфе напісанняў мы разгледзелі яшчэ ў 2-й частцы публікацыі, а тут сканцэнтруемся на праблемах з формаю выкладання, зместам ілюстрацый, адпаведнасцю паміж фармулёўкамі і ілюстрацыямі:

1) параграф называецца «Нескладовае *ў*», але значная яго частка прысвечана і правапісу **у** складовага (пункты 2—4), а ў пунктах 5 і 6 — таксама правапісу **л** і **в**;

2) у пункце 1 канстатуецца: «нескладовае *ў* пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем пасля галосных»; гэта можна зразумець як імпліцытнае ўказанне на тое, што ў астатніх пяці пунктах апісаны выпадкі ўжывання літары **ў** насуперак літаратурнаму вымаўленню;

3) другі абзац пункта 1 не мае выгляду закончанага сказа: «Пры чаргаванні [у] з [ў]: на пачатку слова...; на канцы склада...» — і ўсё, кропка. Таксама не ўяўляюць сабой сказаў фармулёўкі пунктаў 5 і 6;

4) самая дзіўная фармулёўка з усяго параграфа — у пункце 4: «Гук [у] на пачатку ўласных назваў перадаецца вялікай літарай *У* без надрадковага значка». Нагадаем аўтарам Праекта, што «*У* без надрадковага значка» дагэтуль называлася «літарай *У* складовае». Дарэчы, з фармулёўкі так і не зразумець, якім чынам на пачатку ўласных назваў перадаецца гук [ў]. Што да ілюстрацыйнага шэрагу, то ім прадстаўлены пераважна тыя выпадкі, дзе паводле правілаў літаратурнага вымаўлення мусіць быць [ў] (дык выяўляецца, наша здагадка пра «нелітаратурнае вымаўленне» ва ўсіх пунктах, апроч 1-га, прынамсі тут аказалася слушнай!): *ва **У**збекістан* [ва**ў**з'б'эк'істан], *на **У**ральскіх* [на**ў**рал'ск'іх] *гарах*, *ва **У**краіне* [ва**ў**крайін'э], *пасля **У**каза* [пас'л'а**ў**каза]. Што да імёнаў ***У**ладзімір*, ***У**ладзіслаў*, ***У**сяслаў*, то ў іх [у] можа пераходзіць у [ў], калі гэтыя імёны апынаюцца пасля галоснага: *пра* [ў]*ладзіміра*, *за* [ў]*ладзіслава*, *на* [ў]*сяслава*;

5) апеляцыя да паняцця «чаргаванне» ў пунктах 2 і 3 толькі заблытвае фармулёўку;

6) частка ілюстрацый да пунктаў 5 і 6 не адпавядае зместу фармулёвак:

— **ў** не чаргуецца з **л** у словах: *змоўклі*, *воўк*, *шоўк*, *шчоўк*, *коўзкі*, *моўчкі*, *боўтаць*;

— **ў** не чаргуецца з **в** у словах: *сталоў*, *дубоў*, *бацькоў*, *аўторак* (**ў** пішацца на месцы этымалагічнага **v**), *маўр, каўбой, аўгур, Аўстрыя, Аўдоцця, Аўрора, Каўказ, Боўш, Роўда, аўгіевы* (**ў** пішацца на месцы этымалагічнага **u**: грэчаск. ma**u**ros, анг. co**w**boy [aʊ], лац. a**u**gur, лац. A**u**stria, Аўдоцця < грэчаск. E**u**dokia, лац. A**u**rora, лац. Ca**u**casus, балцк. *Ba**u**šis, балцк. *Ra**u**da, грэчаск. A**u**ge(i)as);

7) чаргаванне **ў**||**в** у слове *любоў* «падсвечваецца» аднакаранёвай лексемай *любавацца* (пункт 6), але гэта фальшывае сведчанне, бо тут мае месца суфікс **-ава-** (< *-ova-), а лексема *любоў* утворана ад *любіць* з дапамогаю суфікса **-оў** (< *-ъvь); у якасці «падсветкі» карэктна было б выкарыстаць склонавую форму — *любові*.

Нярэдка прапанаваныя ў Праекце фармулёўкі не выконваюць сваёй асноўнай функцыі — не ўтрымліваюць яснай інструкцыі, як напісаць тое ці іншае слова, а абмяжоўваюцца канстатацыяй або папярэджаннем, напрыклад:

> § 33.2. Складаныя прыметнікі, у састаў якіх уваходзяць прыслоўі, не трэба блытаць са словазлучэннямі, якія складаюцца з прыслоўяў і прыметнікаў: *дыяметральна процілеглы (супрацьлеглы)*, *чыста беларускі*, *яскрава вызначаны*, *выключна дасканалы*, *асабліва адказны*, *колькасна акрэслены*, *рэзка адмоўны*, *кепска ўзараны*, *усенародна абраны*, *выпадкова сустрэты*, *своечасова прыняты*, *адносна спакойны*, *бясконца глыбокі*, *матэрыяльна зацікаўлены*, *грамадска небяспечны*.

З фармулёўкі так і не становіцца ясна, *якім чынам* не зблытаць А («складаныя прыметнікі, у састаў якіх уваходзяць прыслоўі») з Б («словазлучэнні, якія складаюцца з прыслоўяў і прыметнікаў»). І не дзіва, што самую «слабую» ілюстрацыю паставілі ў канец ілюстрацыйнага шэрагу — мо спадзяваліся: карыстальнік, пакуль дачытае да канца, ужо забудзецца пра змест фармулёўкі. Дык вось, лексема *грамадска* ні ў водным нарматыўным слоўніку не фіксуецца, а ў тэкстах яна сустракаецца толькі ў спалучэнні з прыметнікам: *грамадска значны*, *грамадска карысны*. Таму зусім незразумела: як словазлучэнні *грамадска небяспечны* ці, напрыклад, *сацыяльна запушчаны* не зблытаць са складанымі прыметнікамі?

Гэта сапраўды неўрэгуляванае месца беларускага правапісу. І не толькі беларускага — не развязана яно і ў рускай мове. Аднак практыка, насуперак асноўнаму правілу (не могуць асобна пісацца словы, якія самастойна не ўжываюцца), афармляе *грамадска* і падобныя «паўпрыслоўі» асобна, магчыма, таму, што яны ўваходзяць у склад, сфармулюем так, *шматлітарных* канструкцый, якія пры злітным напісанні ўспрымаюцца з цяжкасцю.

Трапляюцца ў Праекце і непатрэбныя арфаграмы, якія дублююць інфармацыю, што ўтрымліваецца ў іншых месцах дакумента:

> § 7.2. Калі першай часткай складаных слоў з'яўляецца аснова *велік-/вялік-*, то напісанне літар *е* або *я* залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы, то пішацца *е*, калі другі, то пішацца *я*: *в**е**лікаду́шны*, *в**е**лікару́скі*, *в**е**лікаму́чанік*, *в**е**лікасве́цкі*; *В**я**лікабрыта́нія*, *в**я**лікадзяржа́ўны*, *в**я**лікагало́вы*.

Як бачым, нічога новага ў гэтай арфаграме няма — яна цалкам адпавядае «правілу націску ў другой частцы», сфармуляванага ў астатніх арфаграмах, прысвечаных правапісу складаных слоў. На фоне ж аграмадных лакун у Праекце прысвячэнне цэлай арфаграмы дзесятку аднакаранёвых слоў, арфаграфія якіх укладаецца ў рэчышча агульнага правіла, — выглядае як марнатраўства. Складаецца ўражэнне: пра што ўзгадалі — пра тое напісалі.

А дзе прыклады, каб **е** аказвалася ў першым складзе перад націскам, напр.: *ус**ё**вед*, *ус**е**вед* ці *ус**я**вед*?

Толькі ўскладняюць разуменне фармулёвак апеляцыі да моўнай дыяхраніі, г. зн. да гістарычнага стану мовы, што праяўляецца ў фармулёўках накшталт:

> § 17.1. Мяккі знак пішацца пасля зычных *з, л, н, с, ц* (з мяккага *т*), *дз* (з мяккага *д*)...

> § 17.7. Мяккі знак не пішацца: пасля ... *ц* (не з *т* мяккага)...

Мяккіх **д** і **т** у сучаснай беларускай мове няма. Таму ясней і правільней з пункту гледжання методыкі было б згадваць пра мяккія **дз** і **ц**.

## В. Культура ілюстравання

### Рэпрэзентатыўнасць

У ідэале ўсе апісаныя ў фармулёўцы пазіцыі (або спалучэнні) мусяць адлюстроўвацца ў прыкладах і колькасць гэтых прыкладаў на кожную пазіцыю мае быць калі не аднолькаваю, то прынамсі сувымернаю. Паглядзім, як гэта патрабаванне рэалізуецца ў Праекце:

> § 4.4. Перадача на пісьме [э] ў іншых словах іншамоўнага паходжання ў ненаціскных складах асновы вызначаецца наступнымі правіламі ... пасля шыпячых, [р], [д], [т] і цвёрдага [ц] пішацца *э*: ***жэ**то́н*, ***Жэ**не́ва*, ***Жэ**ра́р*, ***жэ**лацін*, ***чэ**кме́нь*, ***рэ**спу́бліка*, ***рэ**фо́рма*, ***Рэ**ма́рк*; ***рэ**кла́ма*, ***рэ**а́ктар*, ***рэ**візія*, *аг**рэ**га́т*, ***рэ**жы́м*, ***рэ**ко́рд*, ***рэ**е́стр*, ***рэ**валю́цыя*, ***цэ**нтралі́зм*, ***цэ**віта*, ***дэ**та́ль*, *гар**дэ**ро́б*, ***Дэ**тро́йт*, ***Дэ**фо́*, ***дэ**лега́т*, ***дэ**манстра́цыя*, *о́р**дэ**н*, ***тэ**о́рыя*, ***тэ**а́тр*, ***тэ**легра́ф*, ***тэ**лефо́н*, *ве**тэ**ра́н*, *ка́**тэ**т*, ***тэ**рмо́метр*, ***тэ**ар**э́**ма*.

У табліцы 1 мы згрупавалі асобныя ілюстрацыі з працытаванай арфаграмы па спалучэннях і падлічылі колькасць прыкладаў на кожнае са спалучэнняў.

Табліца 1.

| Літары перад э | | Ілюстрацыі | Колькасць ілюстрацый |
|---|---|---|---|
| шыпячыя | ж | ***жэ**лацін*, ***Жэ**нева*, ***Жэ**рар*, ***жэ**тон* | 4 |
| | ш | — | 0 |
| | дж | — | 0 |
| | ч | ***чэ**кмень* | 1 |
| р | | *аг**рэ**гат*, ***рэ**актар*, ***рэ**валюцыя*, ***рэ**візія*, ***рэ**естр*, ***рэ**жым*, ***рэ**клама*, ***рэ**корд*, ***Рэ**марк*, ***рэ**спубліка*, ***рэ**форма*, *тэа**рэ**ма* | 12 |
| д | | *гар**дэ**роб*, ***дэ**легат*, ***дэ**манстрацыя*, ***дэ**таль*, ***Дэ**тройт*, ***Дэ**фо*, *ор**дэ**н* | 7 |
| т | | *ве**тэ**ран*, *ка**тэ**т*, ***тэ**атр*, ***тэ**леграф*, ***тэ**лефон*, ***тэ**орыя*, ***тэ**рмометр* | 7 |
| ц | | ***цэ**віта*, ***цэ**нтралізм* | 2 |

**Заўвага да табліцы**

Лексема *тэарэма* адначасова ілюструе і спалучэнне **тэ**.

Спалучэнні **шэ**, **джэ** не праілюстраваны наогул, а спалучэнні **рэ**, **дэ**, **тэ** асветлены без усякай меры. Але нават у межах ілюстрацый для спалучэння **рэ** (самы вялікі шэраг) не назіраецца балансу паводле становішча спалучэння ў слове:

— на пачатку слова: ***рэ**актар*, ***рэ**валюцыя*, ***рэ**візія*, ***рэ**естр*, ***рэ**жым*, ***рэ**клама*, ***рэ**корд*, ***Рэ**марк*, ***рэ**спубліка*, ***рэ**форма* — 10 ілюстрацый;

— у сярэдзіне слова: *аг**рэ**гат*, *тэа**рэ**ма* — 2 ілюстрацыі;

— на канцы слова — 0 ілюстрацый.

Калі ў аўтараў Праекта ўзніклі складанасці з падборам матэрыялу, прыкладам, на ненацiскное спалучэнне **рэ** ў канцы слова, то калі ласка:

*дэ-ю́**рэ***, *кура́**рэ***, *э́**рэ***, *су́к**рэ*** і *Су́к**рэ***, *Віто́**рэ***, *Гаспа́**рэ***, *І́м**рэ***, *Кно́**рэ***, *Ніе́д**рэ***, *О́м**рэ***, *Сальвато́**рэ***, *Та́мсаа**рэ***, *Хара́**рэ***, *Чэза́**рэ*** і г. д.

Дарэчы, нельга лічыць карэктнаю і саму фармулёўку, бо **э** пішацца яшчэ і пасля цвёрдага **дз**, што падмацоўваецца ілюстрацыйным матэрыялам і самога Праекта: *Табідзэ*, *Брыгвадзэ* (§ 3.2). Значыць, сфармуляванаму правілу падпарадкоўваюцца **ўсе** зацвярдзелыя, і таму больш эканомнаю і сістэмнаю была б фармулёўка «пасля зацвярдзелых і [д], [т]».

Як відаць з табліцы 1, у якасці ілюстрацыі на ненацiскное спалучэнне **чэ** аўтары Праекта знайшлі толькі малазразумелае слова *чэкмень*, аднак калі б яны перагарнулі хоць бы СБМ і БелЭн, то мелі б з чаго выбраць — нягледзячы на «арацыю»[2]:

*віялан**чэ**ліст*, *ду́**чэ***, *мер**чэ**нда́йзінг*, *чы**чэ**ро́не*, ***чэ**када́вец*, ***чэ**кіст*, ***чэ**ле́ста*, ***чэ**мпіё́н*, ***чэ**рке́с*, ***чэ**чэ́нец*; *Беатры́**чэ***, *Верса́**чэ***, *Ла́**чэ**нс*, *Ма́н**чэ**стэр*, *Міт**чэ**л*, *Нахі**чэ**ва́нь*, *Ро́**чэ**стэр*, *Рэ́й**чэ**л*, *Са́н**чэ**с*, ***Чэ**баксары*, ***Чэ**ба́н*, ***Чэ**джудо́*, ***Чэ**ка́*, ***Чэ**кана́ўскас*, ***Чэ**ке́ці*, ***Чэ**кіджа́н*, ***Чэ**кмо́нас*, ***Чэ**лента́на*, ***Чэ**ліні*, ***Чэ**ля́бінск*, ***Чэ**мульпо́*, ***Чэ**нду́*, ***Чэ**рапу́нджы*, ***Чэ**рке́заў*, ***Чэ**ры́та*, ***Чэ**сапікскі (заліў)*, ***Чэ**сме́нскі (бой)*, ***Чэ**чня́* і ***Чэ**чэ́нія*, *Э**чэ**ве́рыя*, *Э**чэ**гара́й-і-Эйсагірэ*.

Усе гэтыя словы засталіся без урэгулявання. Адсутнасць іх у Праекце можна было б трактаваць як захаванне ў дачыненні іх статус-кво. Але ж напісанне ***Ча**люскін* (§ 4.3) насуперак ***Чэ**люскін* і ***чэ**люскінец* у СБМ і БелЭн выклікае сумнеў у намеры аўтараў Праекта пакінуць усе **чэ** там, дзе яны пішуцца паводле цяперашніх устанаўленняў.

У разгледжаным выпадку максімальна выразна выяўляецца «страусавая палітыка» аўтараў Праекта, якія пастараліся «схаваць галаву ў пясок» у нязручных момантах — калі трэба было развязаць нявырашаныя праблемы беларускай арфаграфіі.

## Паўната і вычарпальнасць

Такі дакумент, як арфаграфічны збор, мусіць быць як мага паўнейшым і даваць адназначныя вычарпальныя адказы на максімальна шырокае кола правапісных пы-

[2] «База» ненацiскнога **чэ** звузілася з прычыны прапанаванай у Праекце «арацыі» (гл. 1-ую частку публікацыі): *пін**чэ**р* > *пін**ча**р*, *Тэт**чэ**р* > *Тэт**ча**р*.

танняў. Аднак Праект не адпавядае гэтым патрабаванням: з усёй гамы праблем выхопліваюцца асобныя, на якія аўтары дакумента, відаць, мелі адказы. Астатнія «балючыя кропкі» застаюцца па-за Праектам. Таксама ў некаторых арфаграмах увага канцэнтруецца выключна на тых момантах, якія змяніліся ў параўнанні з папярэднімі рэдакцыямі і праектамі правапісу або з ранейшай практыкай. Такім чынам, для Праекта характэрны **фрагментарнасць і кантрастыўнасць**.

Асабліва выразна гэта відаць на тым, як рэгулюецца ў Праекце перадача іншамоўнага спалучэння **іе**:

> § 2. **Літары *о*, *ё*.** ... 4. ... У слове *дыета* пішацца спалучэнне галосных *ые.* На стыку прыстаўкі і кораня захоўваецца *ыэ: дыэтан*, *дыэлектрык.*

І гэта ўсё! Няма ні правіла, ні абагульнення з іншымі выпадкамі асваення іншамоўных спалучэнняў «**і** + галосны», ні ілюстрацыйнага шэрагу — нічога... Проста «пішы *дыета* праз **ые**» — і будзе табе шчасце! Не кажучы ўжо, што ў слове *дыета* няма і быць не можа ні літары **о**, ні літары **ё**, правапісу якіх і прысвечаны параграф 2.

У сваіх інтэрв'ю праф. В. Іўчанкаў выпусціў нямала крытычных стрэл у бок рэдакцыі правапісу 1959 г., закідаючы ёй розныя недасканаласці. Рэзка крытыкаваныя прафесарам аўтары Звода-1959 прысвяцілі рэалізацыі спалучэння **іе** асобны параграф (§ 25), змясціўшы яго ў адпаведны раздзел, прысвечаны менавіта перадачы іншамоўных спалучэнняў «**і** + галосны», і знайшлі для ілюстрацыйнага шэрагу значна больш прыкладаў: *гіг**іе**на*, *кл**іе**нт*, *аўд**ые**нцыя*, *ар**ые**нтацыя*, *абітур**ые**нт*, *кл**іе**нтура.* А мы яшчэ дадалі б: *ар**ые**та*, *д**ые**з*, *кар**ые**с*, *каэфіц**ые**нт*, *пац**ые**нт*, *п**іе**тэт*, *рэкв**іе**м*, *рэцып**іе**нт*, *с**іе**ста*, *ф**іе**ста*; *Ар**ые**ль*, *Габр**ые**ль*, *Генр**ые**та*, *Дан**іе**ль*, *Тр**ые**ст.* Во якое войска! А ў Праекце пакінулі самотную *дыету* на загуменні «чужой» арфаграмы «адбівацца» за ўсе запазычанні з **іе**. Бо ж некалі ў ТСБМ напісалі *дыэта*[3], што ламала і практыку, і галоўны прынцып асваення спалучэння «**і** + галосны» ў сярэдзіне слова — зіянне (або зеўранне — «збег галосных») здымаецца праз развіццё ўстаўнога ёта.

Дарэчы, калі ўжо аўтары Праекта палічылі патрэбным выправіць непаслядоўнасці ў цяперашніх напісаннях, то варта было звярнуць увагу на лексему *спан**іе**ль* і асабовае імя *Мар**ые**та*, якія — насуперак правілу — пішуцца праз **э**: *спан**іэ**ль* (так у СБМ, а ў СІС сістэмна: *спан**іе**ль*), *Мар**ыэ**та* (САУІ). У апошнім выпадку мы бачым уплыў савецкіх рэалій: галоўнаю і адзінаю з вядомых Марыет Савецкага Саюза была пісьменніца *Мариэтта Шагинян*, якая асабліва вызначылася як аўтарка тэтралогіі (!) пра Леніна. У нарматыўным «Даведніку асабовых імён народаў РСФСР», рэкамендаваным Міністэрствам юстыцыі РСФСР «у якасці практычнага дапаможніка для работнікаў органаў запісу актаў грамадзянскага стану», як асноўная падаецца форма праз

[3] Магчыма, штуршком да афармлення *дыеты* праз **э** сталася наступная заўвага рускіх калег пра арфаэпію гэтага слова ў рускай жа мове: «В немногих случаях допустимо произношение [э] на месте орфографического *е* после гласных в первом предударном слоге; например, в словах *диетический*, *пиетет*» (Современный русский язык: Лексика и фразеология. Фонетика и орфоэпия. Графика и орфография. Словообразование. Морфология. Синтаксис / Под ред. Д. Э. Розенталя. М., 1984. С. 192).

**е** — *Мариетта*, а форме *Мариэтта* пакідаецца статус факультатыўнай[4]. Але Шагінян — мусіць, як член-карэспандэнт АН Армянскай ССР, герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Дзяржаўнай і Ленінскай прэмій, дый увогуле «жывая гісторыя» (жыла з 1888 да 1982 г.) — мела прывілей менавацца паводле «асаблівай» формы.

Па дарозе можна было б выправіць яшчэ адну памылку ў СБМ, дзе аднакаранёвыя *медыева́ль* і *медыявíст* (абодва ад франц. *médiév-*) пішуцца па-рознаму: трэба *медыевíст*, бо ў запазычаннях яканне рэалізуецца толькі ў якасці выключэння.

## Парадак

Пры складанні ілюстрацыйнага шэрагу трэба трымацца нейкага парадку, не абавязкова алфавітнага, аднак у карыстальніка мусіць складацца ўражанне «невыпадковасці» той ці іншай ілюстрацыі на пэўным месцы, упарадкаванасці афармлення, абгрунтаванасці менавіта такой структуры ілюстрацыйнага матэрыялу. У Праекце літаральна на кожным кроку бачым штосьці зусім процілеглае, напрыклад:

> § 17.5. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці *л* перад зычнымі: *пальцы*, *кольцы*, *відэльцы*, *сальца*, *вальцы*, *колькі*, *толькі*, *гульні*, *вельмі*, *Альф'еры*, *Мангальф'е*, *дар'яльскі* (Дар'ял), *венесуэльскі* (Венесуэла), *лепельскі* (Лепель), *лільскі* (Ліль), *бразільскі* (Бразілія);

(У канцы пункта стаць кропка з коскай, хоць далей з вялікай літары пачынаецца пункт 6, што таксама з'яўляецца закончаным паведамленнем, як і пункт 5. Такіх «апісак» у Праекце — безліч, таму не звяртаем на іх асаблівай увагі.)

У ілюстрацыйным шэрагу агульныя назоўнікі ідуць у наступным парадку (паводле пачатковай літары): ***п***.., ***к***.., ***в***.., ***с***.., зноў ***в***.., зноў ***к***.., ***т***.., *г*.., зноў ***в***.. . Чым выкліканы менавіта такі парадак падачы ілюстрацый? Можа, пазіцыяй **ль**? Праверым: ..***а****льц*.., ..***о****льц*.., ..*эльц*.., зноў ..***а****льц*.., ..***а****льц*.., ..***о****льк*.., ..***о****льк*.., ..***у****льн*.., ..***е****льм*.. . Такі ж хаос, як і пры праверцы на алфавітны парадак па першай літары.

Далей дзве ўласныя назвы: *Альф'еры, Мангальф'е* — у алфавітным парадку. З гэтай групкай было б усё добра, калі б яна (1) была больш прадстаўнічай, хоць бы 5—7 ілюстрацый, (2) аддзялялася ад папярэдняй і наступнай груп кропкай з коскай.

Апошняя група ілюстрацый — прыметнікі, утвораныя ад геаграфічных назваў. Праверым іх на алфавітны парадак па пачатковай літары: ***д***.., ***в***.., ***л***.., ***л***.., ***б***.. . Алфавітнага парадку не выходзіць. Праверым па пазіцыях **ль**: ..*яль*.., ..*эль*.., ..*ель*.., ..***і****ль*.., ..***і****ль*.. . Тое ж бязладдзе, праўда, ёсць падставы для аптымізму: абодва выпадкі ..***і****ль*.. сабраны разам. Зрэшты, калі паспрабаваць выступіць у ролі адваката, то можна пастарацца знайсці тлумачэнне такой паслядоўнасці — ілюстрацыі ў шэрагу размешчаны паводле фанемы перад **ль**: *дар'яльскі* [а], *венесуэльскі* — [э], *лепельскі* — [э], *лільскі* і *бразільскі* — [і]. Атрымалася! Хоць незразумела, чаму *лільскі* перад *бразільскі*. Мо таму, што да Ліля бліжэй, чым да Бразіліі? А калі сур'ёзна, размяшчаць матэрыял

[4] Справочник личных имен народов РСФСР / Под ред. А. В. Суперанской. Изд. 4. М., 1979. С. 582.

у правапісным зводзе паводле гукавога, а не літарнага складу — гэта парушэнне методыкі, бо арфаграфія (у адрозненне, прыкладам, ад арфаэпіі) аперуе найперш літарамі, а не гукамі.

У аснову падзелу геаграфічных назваў і вытворных ад іх слоў лагічна было б пакласці прынцып «беларускае~небеларускае». Тады выйшла б: *лепельскі* (Лепель), *бразільскі* (Бразілія), *венесуэльскі* (Венесуэла), *дар'яльскі* (Дар'ял), *лільскі* (Ліль). Беларуская назва толькі адна. Самае месца ўзбагаціць ілюстрацыйны шэраг практычна значнымі для карыстальніка — менавіта беларускімі — уласнымі назвамі і вытворнымі ад іх прыметнікамі, асабліва тымі парамі, дзе адбываюцца мены [л] || [л'], [л̄'] || [л']: ***вельскі*** (рака *Вялля*[5]), *засу**ль**скі* (вёска *Засу**лл**е*), *краснапо**ль**скі* (горад *Краснапо**лл**е*), *медзазо**ль**скі* (возера *Медзазо**л***), прозвішча *Міха**ль**скі* (імя *Міха**л***), *мядзе**ль**скі* (горад *Мядзе**л***), *навасе**ль**скі* (вёска Новае Сяло), *сако**ль**скі* (вёска *Сако**л***), *сві**ль**скі* (вёска *Сві**л**ы*), *у**ль**скі* (рака *У**л**а*).

## С. Аўтапярэчанні

У Праекце ёсць выпадкі, калі ілюстрацыі не пацвярджаюць, а супярэчаць фармулёўцы, напрыклад:

> § 27.1. З вялікай літары пішуцца: ... усе словы (<u>акрамя агульнай назвы</u>) у назвах дзяржаўных і нацыянальных ваенных і культурных рэліквій, помнікаў: ***С**цяг Перамогі*, ***К**рыж Ефрасінні Полацкай*, ***К**урган Славы*, ***К**урган Бессмяротнасці*, ***В**остраў Слёз*, ***П**омнік Перамогі*...

Усе ілюстрацыі маюць аднолькавую будову: «агульная назва + уласнае імя» і ва ўсіх іх аўтары Праекта, насуперак уласнай рэкамендацыі, праводзяць напісанне агульнай назвы з вялікай літары. А арфаграме адпавядалі б наступныя прыклады: ***в**ёска Каралёў Стан*, ***в**уліца Міколы Гусоўскага*, *горад Старыя Дарогі*...

> § 32.6. Асобна пішуцца словы ў геаграфічных уласных назвах, якія <u>з'яўляюцца словазлучэннем поўнага прыметніка і парадкавага лічэбніка з назоўнікам</u>: ***Стары Свержань***, ***Белы Мох***, ***Карнаты Дуб***, ***Вялікія Радванічы***, ***Старыя Дарогі***, ***Астрашыцкі Гарадок***, *Восьмая лінія (вуліца)*, *Першая пасялковая (вуліца)*, *Першы чыгуначны (завулак).*

Усе вылучаныя тлустым назвы з'яўляюцца словазлучэннямі прыметніка і назоўніка — без лічэбніка.

Пярэчанні могуць узнікаць таксама і паміж фармулёўкай адной арфаграмы і ілюстрацыйным матэрыялам з іншых арфаграм:

> § 7.5. ... Складанаскарочаныя словы пры напісанні звычайна разглядаюцца як **простыя словы з адным націскам**: *зямфо́нд, лясга́с, саляко́п, кулямёт.*

[5] Адсюль *зямля Завельская* («Хроніка Быхаўца»), возера *Завелле*, народная форма *В**я**лейка*. У літаратурнай мове замацавалася, на жаль, польская форма — ***Вілія*** (польск. Wilia).

Але ў главе 4.1 і параграфе 40.2 мы знаходзім цэлую групу складанаскарочаных слоў, якія супярэчаць вышэйпададзенаму правілу:

*Белгал**о**ўс**е**льбуд*, а не ~~*Белгал**а**ўс**я**льбу́д*~~  
*«Б**е**лкніга»*, а не *«~~Б**я**лкні́га~~»*  
*Б**е**лЭКСПА*, а не ~~*Б**я**лЭ́КСПА*~~  
*ва**е**нкам*, а не ~~*ва**я**нка́м*~~  
*Г**о**мс**е**льмаш*, а не ~~*Г**а**мс**я**льма́ш*~~  
*с**е**лькар*, а не ~~*с**я**лька́р*~~  
*с**е**льмаг*, а не ~~*с**я**льма́г*~~

Дадае пікантнасці той факт, што дзве з чатырох ілюстрацый да параграфа 7.5 — *салякоп* і *кулямёт* — не складанаскарочаныя, а складаныя словы, таму іх уключэнне ў згаданую арфаграму памылковае.

Ніжэй мы пабачым, як недакладная, нявывераная фармулёўка можа ператварыць правапісны звод у клубок загадак і праблем:

§ 7.1. У першай **частцы** складанага слова **літара *е* захоўваецца** незалежна ад таго, на якім складзе націск у другой частцы: ... *в**е**рхн**е**азёрны*, ... *з**е**мл**е**трасе́нне...*

І крыху ніжэй:

§ 7.5. Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах **пераходзіць у *я***, калі націск на першым складзе другой часткі складанага слова: *ба**я**здо́льны*, *зерн**я**ўбо́рачны*, *зерн**я**схо́вішча*, *земл**я**ро́б*, *жыцц**я**ра́дасны*, *крыв**я**тво́рны...*

Як відаць з ілюстрацый да параграфа 7.5, **я** ў першай частцы (часткі складаных слоў мы для нагляднасці падкрэслілі) усё ж такі бывае, і не так рэдка. А няправільнасць вынікла з таго, што ў фармулёўцы параграфа 7.1 мелася на ўвазе **не частка, а аснова**. Як вядома, **частка** складанага слова ўключае **аснову + злучальны галосны**. Напрыклад, слова *земляроб* складаецца з дзвюх частак: *земля-* і *-роб*, а ў першую частку ўваходзіць аснова *земл-* і злучальны галосны *-я-*. Прыняты ў кірыліцы спосаб перадачы мяккасці зычных (праз якасць наступнай галоснай літары) ускладняе падзел часткі на аснову і злучальны галосны, калі апошні ідзе пасля галоснага, напрыклад, у слове *баяздольны* першая частка *бая-* складаецца з асновы *бай-* (< *бой*) і злучальнага галоснага *-а-*.

Алею ў вогнішча непаразуменняў дадае яшчэ адна арфаграма з параграфа 7:

§ 7.4. У складаных словах злучальныя галосныя *о, ё* пішуцца толькі пад націскам, *а* – у любым ненаціскным складзе...

Але ж з ілюстрацый да параграфа 7.1 вынікае, што ў ненаціскных складах можа пісацца не толькі злучальны *-а-* (у тым ліку ў аблічччы літары *-я-*), але таксама злучальны [э], які пасля мяккіх абазначаецца літараю *-е-*. Застаецца толькі паціснуць плячыма...

## D. Мастацтва ілюстрацыі

### Ці не абышоўся б Праект без *Акакіевіча*?

Такі дакумент, як правапісны звод, мае на мэце максімальную прыдатнасць для карыстальніка. Ілюстрацыйны шэраг мусіць складацца з найбольш частотных для адпаведнай арфаграмы лексем. Калі ж карыстальнік не знаходзіць у дакуменце асноўных слоў, а сутыкаецца з рознымі дзівосамі, дык такі звод будзе для яго нечым кшталту займальнага паноптыкума, а ніяк не настольнаю кнігай.

> § 18.2. Пасля *г, к, х* і збегу зычных, акрамя *нц,* перад суфіксальным *-еў- (-ее-)* пішацца *і* (*ы*); *Георгіеў*, *Георгіевіч*, *Акакіевіч*, *Яўціхіеў*, *Яўціхіевіч*, *Іракліевіч*, *Яўлампіевіч*, *Ануфрыеў*, *Ануфрыевіч*, *Ануфрыеўка*, *Дзмітрыеў*, *Дзмітрыевіч*; але: *Вікенцьеў*, *Вікенцьевіч*, *Лаўрэнцьеў*, *Лаўрэнцьевіч*, *Кліменцьевіч* і інш.

Ці хто з вас, шаноўныя чытачы, ведае хоць аднаго рэальнага (а не літаратурнага) Акакія ці Акакіевіча? Упэўнены, што ніхто: час, калі дзяцей называлі выключна паводле праваслаўнага календара, святцаў, даўно мінуў. Ды і ў святцах выбар быў: на тыя самыя дні ў календары прыпадалі і дзесяткі больш звыклых імёнаў. У САУІ *Акакій* змешчаны ў раздзеле «Устарэлыя і новыя рэдкаўжывальныя імёны», — побач з *Асінкрытам* і *Бегуаем*, *Ванхіясам* і *Ексакустадзіянам*, *Елпідзіфорам* і *Параліпамянонам*, *Філакцімонам* і *Ялпідзіем*, а імя па бацьку *Акакіевіч* нават не згадваецца. Такі сумнеўны пі-ар гогалеўскага *Акакія Акакіевіча* ў Праекце наўрад ці адпавядае і іншаму патрабаванню да ілюстрацыйнага матэрыялу — «беларусацэнтрызму».

Не нашмат часцей за Акакіевічаў можна спаткаць у нашай краіне *Яўціхіевічаў*, *Іракліевічаў, Яўлампіевічаў.* І наогул форму імёнаў на **-ій**/**-ый** — хоць у шэрагу выпадкаў яна абвяшчаецца адзінаю афіцыйнаю (*Георгій*, а не *Георгі* і не *Георг*; *Дзмітрый*, а не *Дзмітры* і не *Зміцер*) — ніяк нельга прызнаць за ўласцівую беларускай мове. Што да імя *Ануфрый*, то яго традыцыйная беларуская форма істотна адрозніваецца ад прапанаванай — *Нупрэй*. І вёскі з назвай *Ануфрыеўка* ў Беларусі няма.

Зразумела, лексемай *Акакіевіч* аўтары Праекта хацелі праілюстраваць правапіс імя па бацьку ад імя на **-кій**, даць карыстальніку алгарытм, які мог бы ўжывацца ва ўсіх падобных выпадках. Але ж для дасягнення гэтай мэты можна было выкарыстаць менш «гаваркія» імёны: *Авер**кій***, *Ані**кій***, *Іса**кій***, *Леў**кій***, *Лу**кій***, *Мар**кій***, *Маўры**кій***, *Ні**кій***, *Патры**кій***. Мы далёкія ад маралізатарства і пурытанства, але ж калі ёсць магчымасць не смяшыць публікі, лепш гэтага не рабіць.

Тут мы выходзім на сумежныя аспекты: ілюстрацыйны матэрыял толькі тады будзе працаваць на карыстальніка, спрыяючы выкананню дыдактычнай функцыі, калі будзе адпавядаць іншым моўным нормам і ўсталяванням.

У параграфе 20.15 у якасці ілюстрацыі да правіла аб правапісе прыставак **раз-**/**рас-**, **уз-**/**ус-** фігуруюць словы *разжаць, узжучыць*, якіх няма ні ў водным нарматыўным слоўніку. Як жа аўтары Праекта могуць усталёўваюць адны правілы, уваходзячы ў канфлікт з іншымі?!

## Анахранізмы

Ілюстрацыі маюць утрымліваць або актуальную, або гістарычна значную інфармацыю. Але ў Праекце мы сутыкаемся з «феноменам павелічальнага шкла», якое ляжыць на шкале часу: падзеі і рэаліі Вялікай Айчыннай вайны ды колькіх наступных дзесяцігоддзяў выглядаюць гіпертрафавана, а астатніх часоў — на фоне гіпертрафаванага — мізэрна. Характэрная «затрымка ў часе» адчуваецца ва ўсім: і ў ілюстрацыях, і ў стылістыцы пісьма, і ў тоне апеляцыі да карыстальніка. Вось некалькі прыкладаў, што дэманструюць рэаліі пазаўчорашняга дня.

Недарагія духі *«Духмяны ландыш»* (глава 19.2) выраблялісі ў савецкія часы ў Рызе, лічыліся найлепшым рашэннем паводле крытэрыя цана~якасць. Добра, што абышлося без «Шыпра» і «Чырвонай Масквы» ды трайнога адэкалону.

Самалёт *«Дуглас»* (глава 19.2) вырабляла амерыканская кампанія The Douglas Aircraft Company, якая спыніла сваё існаванне роўна 40 (!) гадоў таму. Прадукцыя кампаніі стала вядомая ў СССР падчас ІІ сусветнай вайны; дзякуючы гэтаму, мусіць, і трапіў старэнькі *«Дуглас»* у новы рукапіс. З «авіяптушак» у Праекце фігуруе яшчэ «ЯК» (замест правільнага «Як»). Ні «Ту», ні «Боінг», ні іншыя сучасныя самалёты не згадваюцца.

Асабліва ярка праяўляюцца «радзімыя плямы» ад «папярэднікаў» Міністэрскага праекта — ад Звода-1959 і праекта Падлужнага — у групе абрэвіятур:

*ВГІК* (глава 4.3) расшыфроўваецца як *Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі*, хоць ужо 16 гадоў ён *Усерасійскі*...;

*КВ* («канверсуемая валюта», глава 4.2) — гэта абрэвіятура практычна не ўжываецца, а на пачатку 1990-х яна служыла эўфэмізмам для абазначэння заходніх грашовых знакаў, бо ў той час яшчэ лічыўся непрыстойным сам факт выкарыстання капіталістычных долараў, марак і розных там гульдэнаў;

*райана* (глава 4.1) — мінула ўжо нямала гадоў, як ***ра[йо]*нныя *а*ддзелы *н*ароднай *а*дукацыі** страцілі спалучэнне **айн**, пераназваўшыся ў ***ра*ённыя *а*ддзелы *а*дукацыі — раа**;

*селькар* (глава 4.1) — інстытут сельскіх карэспандэнтаў разам з інстытутамі рабочых і ваенных карэспандэнтаў (рабкораў і ваенкораў, а паводле Праекта — *рабкараў* і *ваенкараў*) знік са знікненнем сацыялістычнай ідэалогіі.

І ўжо зусім відавочна пераймаецца спадчына камуністычных часоў у наступным напісанні: *Дзень **К**астрычніцкай рэвалюцыі* (§ 29.1), але ***л**ютаўская рэвалюцыя* (§ 29.2)[6] — і гэта ў межах аднаго параграфа! Рэгістр літар у «месячных» прыметніках адразу паказвае, якая з гэтых гістарычных падзей бліжэйшая сэрцам аўтараў Праекта.

## Экзотыка

Увядзенне ў арфаграфічны звод слоў, якія адлюстроўваюць перыферыйныя рэаліі, характэрныя для іншых народаў і даўнейшых часоў, — ніяк не адпавядае вымогам практычнай прыдатнасці.

[6] Цікава, што ў Зводзе-1959: ***Л**ютаўская рэвалюцыя* (с. 84, § 172.5).

Вернемся да *чэкмяня* (гл. вышэй падраздзел IV.B пункт «Рэпрэзентатыўнасць») і паспрабуем спасцігнуць, чаму на ім і толькі на ім спыніўся выбар кадыфікатараў?

Паказальна, што ў ТСБМ гэта лексема падаецца без ілюстрацый з тэкстаў, гэта значыць, ніводнага выпадку ўжывання згаданага слова складальнікі слоўніка не знайшлі. І не дзіва, бо ў беларускай рэчаіснасці рэаліі *чэкмень* — няма. А ў ТСБМ слова трапіла з чатырохтомнага «Словаря русского языка» (М., 1985—1988. Изд. 3), на які «абапіраліся» ў сваёй працы складальнікі ТСБМ. Параўнайце:

**СРЯ:** ЧЕКМЕ́НЬ, -я́, *м.* Старинная мужская одежда кавказского типа — суконный полукафтан в талию со сборками сзади. *Кто же этот путник? русский? нет. На нем чекмень, простой бешмет.* Лермонтов. Измаил-бей.

**ТСБМ:** ЧЭКМЕ́НЬ, -мяня́, *м.* Старадаўняе верхняе мужчынскае адзенне каўказскага тыпу ў выглядзе паўкафтана, пашытага ў талію са зборкамі ззаду. [Канец артыкула]

Што да прычыны, чаму гэты факт глыбокай моўнай перыферыі трапіў у Праект, адказ просты — каўказскі *чэкмень* быў яшчэ ў Зводзе-1959, адкуль шчодра чэрпалі не толькі натхненне, але і ўсё астатняе яшчэ аўтары праекта Падлужнага, з якога генетычна выводзіцца Міністэрскі праект.

## Рудыменты савецкай эпохі

Некаторыя ілюстрацыі не маюць непасрэднай сувязі з савецкай мінуўшчынай, аднак іх рудыментарнасць выяўляецца пры разглядзе іх спалучальнасці і словаўжывальнай практыкі. Прыкладам, лексема *цэнтралізм* (§ 4.4) уваходзіла ў склад ідэалагемы савецкай эпохі — *дэмакратычны цэнтралізм*.

**ТСБМ:** ЦЭНТРАЛІ́ЗМ, -у *м.* Сістэма кіравання ці арганізацыі, пры якой мясцовыя органы падпарадкаваны цэнтральнай уладзе, цэнтру... ◊ **Дэмакратычны цэнтралізм** — кіруючы прынцып арганізацыйнай будовы КПСС і Камуністычных партый, а таксама органаў дзяржаўнай улады і грамадскіх арганізацый у СССР і сацыялістычных краінах...

Ні ў якіх іншых спалучэннях і значэннях у рэальных тэкстах згаданая лексема не выкарыстоўвалася і, як выглядае, не выкарыстоўваецца.

Нярэдка сустракаюцца ілюстрацыі-цытаты, зразумець змест якіх без экскурсу ў савецкую мінуўшчыну немагчыма:

Глава 15.5. ... *Нягледзячы на тое, што крыўда раз-пораз загаралася ў душы Кляновіча, яго цешылі перспектывы, што вось ён зоймецца даследаваннем глебаў; што будзе арганізоўваць севазвароты, адкрываць розныя курсы; што ён наладзіць справу ўпарадкавання гною; што ён едзе ў такую вобласць, дзе яшчэ не звялася мясцовая чырвоная парода кароў, аб якой Кляновіч даўно думае; што гэтую пароду няслушна закінулі; што ў свой час знаходзіліся і такія разумнікі, што ў мэтах падрыву прадукцыйнасці жывёлагадоўлі гэтую пароду назвалі «нацыяналістычнай».* (П. Пястрак).

І ўжо нават у бібліятэках спарахнела падшыўка той газеты, з якой узялі наступны сказ:

§ 50.18. ... *У тэлеграмах паведамлялася: ... ваенны пераварот у Грэцыі, ... рабочыя ў Францыі адмовіліся разгружаць судны з ваеннымі грузамі...* (З газет).

## Састарэлыя тэхналогіі

Толькі ўзмацняюць пачуццё, што Праект — гэта дакумент пазаўчорашняга дня, назвы прадметаў і працэсаў, звязаных са старымі, неактуальнымі тэхналогіямі, напрыклад:

*рэйсфедар* (§ 4.6, цяпер: *рэйсфедэр*) — «чарцёжны інструмент для правядзення ліній тушшу» (ТСБМ). Са з'яўленнем сучасных тэхналогій аператыўнага друку такія прылады, як *рэйсфедэр*, зніклі з канструктарскіх бюро, і маладое пакаленне нават слова такога не ведае;

*тэлеграфаваць* (§ 21.1) — з развіццём тэлефаніі, электроннай пошты, мабільнай сувязі, у тым ліку і праз спадарожнік, тэлеграф знікае з нашага жыцця.

## Нелітаратурныя граматычныя формы

Нярэдкае для Праекта выкарыстанне формаў, характэрных для народнай мовы, але не легітымізаваных у граматыцы мовы літаратурнай, — істотная метадычная памылка аўтараў дакумента. Нават аўтарытэт класікаў не можа апраўдаць ужывання наступных формаў у тэксце, які нясе найперш дыдактычную нагрузку:

Глава 15.6. ... *Цёмны бор, кусты, балоты, кучы лоз і дубняку, рэчкі, купіны, чароты, мора траў і хмызняку; мосцік, зложаны з бярвенняў, брод і грэбля кожны крок, на дарозе рад карэнняў, крыж, пахілены набок; пералескі, лес, паляна, старасвецкі дуб з жарлом, хвояветіч на кургане з чорным буславым гняздом; гразь, пяскі, лужок зялёны, шум крынічкі з-пад карча, шэлест лісцяў несканчоны, крык у небе крумкача; вербы, груша-сіраціна, нізкарослы цёмны гай...* (Я. Колас).

Прыгожыя радкі, якія мусяць застацца нязменнымі — як напісаў іх аўтар — у ягоных кнігах, аднак ніхто не змушае выкарыстоўваць гэты сказ як ілюстрацыю ў арфаграфічным зводзе. Сутнасць праблемы становіцца яснай, калі пазнаёміцца з наступным параграфам з акадэмічнай БелГрам:

§ 132. У творах мастацкай літаратуры і ў гутарковай мове адзначаецца ўжыванне форм тыпу *бруссі*, *бярвенні*, *валоссі*, *зуб'і*, *каменні*, *калоссі*, *карэнні*, *коллі*, *крыллі*, *лісці*, *паводдзі*, *пер'і*, *праменні* і некаторыя іншыя, якія па марфалагічнай структуры суадносяцца са зборнымі назоўнікамі *бруссе*, *бярвенне*, *валоссе*, *зуб'е*, *каменне* і г. д. і ўспрымаюцца як формы множнага ліку ад гэтых назоўнікаў...

У літаратурнай мове для абазначэння больш як аднаго прадмета ўжываецца форма множнага ліку: *брусы*, *бярвёны*, *валасы*, *зубы*, *камяні*, *каласы*, *калы*, *карані*, *павады*, *палазы*,

*пёры*, *прамяні*. Для выражэння множнасці як адзінага цэлага — формы *бруссе*, *валоссе*, *калоссе*, *лісце*, *колле* і г. д.[7]

Калі быць дакладным, гэту ілюстрацыю Міністэрскі праект «успадкаваў» ад праекта Падлужнага (§ 63), бо раздзел «Пунктуацыя» зазнаў мінімальныя змены, якія не закраналі сутнасных момантаў. Гэта і натуральна, калі ўлічыць адсутнасць пунктуацыйных навацый. Але ж звяртае на сябе ўвагу зусім іншая акалічнасць: адным з двух рэдактараў БелГрам быў сааўтар праекта Падлужнага — Павел Шуба, а адным з трох рэцэнзентаў — сааўтар абодвух праектаў Арнольд Міхневіч. Шкада, што ім не ўдалося дапільнаваць у арфаграфічным зводзе тых устанаўленняў, якія яны правялі і ўхвалілі ў зводзе граматычным.

Каб у чытача не склалася ўражанне, што мы падалі адзіны на ўвесь Праект прыклад граматычнай разбежнасці, прывядзем яшчэ адну ілюстрацыю:

> § 50.2. ... *Люблю твае, Нарач, затокі і тоні, як вецер густыя туманы развеіць ці снежная пена па хвалях зазвоніць.* (М. Танк).

Каб давесці нелітаратурнасць формы *развеіць* нам без патрэбы акадэмічная граматыка — дастаткова любога школьнага падручніка, у якім паведамляецца: дзеясловы I спражэння на **-яць** (*разве**яць***) у форме 3-й асобы множнага ліку маюць канчатак **-е** (*разве**е***). Памылка вынікла, відаць, з уплыву на мову славутага паэта дыялектных асаблівасцяў. Але гэта наўрад ці можа служыць апраўданнем для тых, хто безаглядна ўставіў нелітаратурнае напісанне ў праект дакумента, галоўнае прызначэнне якога — акрэсліваць і ўмацоўваць літаратурную норму.

## Е. Беларусь і беларускасць

Кадыфікацыйны дакумент мусіць утрымліваць інфармацыю, найперш скіраваную на факты менавіта беларускай паўсядзённасці і гісторыі. Такую скіраванасць мы назвалі «беларусацэнтрызмам». На жаль, у Праекце гэты прынцып часта саступае месца «савета-» і «расіяцэнтрызму».

Вось бы павучыцца нашым нармалізатарам хоць бы ў аўтара слоўніка літары «яць» у рускай мове (быў і такі!), дзе мы знайшлі наступную фармулёўку з адпаведнай ілюстрацыяй:

> Нарѣчіе «нѣкогда» пишется черезъ ѣ, когда означает *когда-то*, *въ былое время*, напр. Вильна была нѣкогда столицею Литвы[8].

І гэта дапусцілі ўлады краіны, што гадамі ваявала з Вялікім княствам Літоўскім,

[7] БелГрам. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. С. 63—64.

[8] Ганъ, И. К. Полный словарь буквы ѣ: Собраніе всѣхъ словъ русскаго языка, коренныхъ и производныхъ, которыя пишутся черезъ ѣ. Вильна, 1887. С. 3.

улады, ніяк не зацікаўленыя ў падтрыманні «літоўскага» патрыятызму! Упэўнены: калі б такая ілюстрацыя нейкім чынам і пракралася ў Праект, яе на этапе падрыхтоўкі дакумента да выдання, несумненна, скрэсліла б рука цэнзара: у сённяшняй незалежнай Беларусі баяцца звярнуцца да ўласных рэалій.

Вось у якасці прыкладу **О-** на пачатку ўласных назваў бачым *Орск* — назву заштатнага горада ў Арэнбургскай вобласці Расіі. Няўжо не лепш было б паставіць у ілюстрацыйны шэраг дзесяцімільённую ***О****саку*, універсытэцкі ***О****стын* (дзе, дарэчы, доўгі час выкладаў вядомы амерыканскі беларусазнавец доктар Курт Вулхайзер). Відаць, аўтары Праекта доўга не мучыліся: або разгарнулі СБМ на літару **О** і знайшлі толькі далёкі, мала каму ў Беларусі вядомы *Орск*, або проста скарысталі Звод-1959 — там *Орск* таксама ёсць, затое няма больш актуальных уласных назваў на пачатковы **О-**. А можна было б прапісаць уласнабеларускія назовы на **О-**, каб замацаваць іх правільнае напісанне, бо іх афармленне на пісьме можа выклікаць складанасці: вёска ***О****паль* Іванаўскага раёна, рака, возера, паселішча ды дзве вёскі ***О****баль* на Віцебшчыне, рака ***О****льса* (прыток Бярэзіны) і гурт *«Стары* ***О****льса»*, возера і вёска ***О****лтуш* у Маларыцкім раёне і г. д. А з асобаў: савецкі, але не прапагандысцкі ***О****йстрах*, іншаземцы ***О****лдрыдж*, ***О****м*, ***О****руэл*, ***О****ўэн*, беларускі шляхецкі род ***О****сцікаў*.

Пярэчаць «беларусацэнтрызму» і рэаліі з паходжання беларускія, але ў небеларускай форме. Прыкладам, назва вёскі *Налібакі* замацавана ў такой форме і ў БелЭн, і ў нарматыўным даведніку «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь», а форма *Налібóкі*, відаць, узніклая пад уплывам польскай акцэнтуацыі, у наш час падтрымліваецца рускім напісаннем і растыражавана ў тапоніме *Налíб****о****цкая пушча*.

Русізмаў у Праекце не вельмі шмат (гл. табліцу 2), але сам факт іх наяўнасці, вядома ж, не сведчыць пра беларускасць ілюстрацыйнага матэрыялу:

Як нястачу «беларусацэнтрызму» мы схільны інтэрпрэтаваць няўвагу да новых фактаў беларускай рэчаіснасці, у тым ліку да з'яўлення новай лексікі, не інспіраванага вонкавымі фактарамі (напрыклад, тэхнічным прагрэсам), а як вынік самаразвіцця мовы.

У Прадмове да «летняга» варыянта Праекта (маецца на ўвазе варыянт на момант лета 2006 г.), каб абгрунтаваць патрэбу выдання новага звода, яго аўтары адзначаюць: «Істотна абнавіўся слоўнікавы склад беларускай мовы». Але ж якраз новай лексікі ў Праекце — вобмаль. Зрэшты, ігнараванне лексічнага ўзбагачэння мовы было ўласціва і праекту Падлужнага. Гэта і не дзіва, калі ўчытацца ў прадмову рэдагаванага А. Падлужным 3-га выдання БРС (2003) — своеасаблівы маніфест тых, хто акурат абнаўлення слоўнікавага складу беларускай мовы заўважаць не хоча:

> За гэты перыяд <апошнія дзесяцігоддзі> праявілася тэндэнцыя замены рада лексем, якія шырока ўжываліся да канца 1980-х гадоў, іншымі лексемамі і толькі таму, што яны менш падобныя на адпаведныя лексемы рускай мовы. Так, *выстаўка* заменена *выставай*, *вечарынка — вечарынай*, *мерапрыемства — імпрэзай*, *чайнік — імбрыкам*, *крэсла — фатэлем*, *мінчане — мінчукамі*, *экзэмпляры — асобнікамі* або *паасобнікамі*, *гродзенцы — гарадзенцамі*, *Брэст — Бярэсцем* ці *Берасцем*, *пасол — амбасадарам* і да т. п.
>
> Аўтары, якія рыхтавалі Слоўнік да друку, як правіла, падобныя лексічныя дуплеты ў яго

Табліца 2.

| Месца ў Праекце | Русізмы з Праекта | Правільныя адпаведнікі |
|---|---|---|
| § 20.11 | ***с**экранізаваць* (фанетычны русізм, гл. каментарый 2) | [***з**экранізаваць*] |
| § 21.14 | *дождж**ык** – дождж**ыка*** (граматычны русізм) | *дождж**ыку*** (СБМ) |
| § 21.22 | *семянны* | 1. *насе́нны* (фонд); 2. *се́мявы* (залоза) (РБС) |
| § 22.1 | *анюціны вочкі* | *браткі* (РБС) |
| § 22.1 | *іван-чай* | *скрыпень* (РБС) |
| § 22.2 | *шамяк**ін** суд* (словаўтваральны русізм) | *шамяк**аў** суд* (РБС), бо Шамяка — мужчына |
| § 23.1 | *тытан* – <u>багатыр</u> (семантычны русізм) | *волат*, асілак (РБС) |
| § 23.1 | ***Іі**сус Хрыстос* (арфаграфічны русізм, гл. каментарый 1) | ***І**сус Хрыстос* (БелЭн) |
| § 23.1 | *Таптыгін* (пра мядзведзя) | у беларускіх казках гэты звер так не называецца |
| § 23.1, двойчы | *Тро**і**ца* (фанетычны русізм) | *Тро**й**ца* (СБМ) |
| § 40.4 | *(мыльны) пузыр* | *бурбалка* (РБС) |
| глава 8.3 | *паджары*[9] | *хударлявы*, *сухарлявы* (РБС) |
| глава 19.2 | *калгас «Рассвет»* | *«Світанак»* або *«Світанне»* (калі такі ёсць) |
| глава 21.13 | *будучнасць* (словаўтваральны русізм: па мадэлі ўзор руск. *будущность*) | *будучыня* |
| глава 21.13 | *…«малы Лондан» … налічвае <u>не менш шасці</u> мільёнаў жыхароў* (сінтаксічны русізм, гл. каментарый 3) | *не менш за шэсць, не менш як шэсць* |

**Каментары да табліцы**

1. Звяртае на сябе ўвагу новае для беларускай мовы напісанне імя ***Іі**сус*. У грэчаскай форме Ἰησους літара **І** абазначае ёт, таму ў лаціне **I**esus, **J**esus[10]. Такім чынам, транслітарацыя праз падвойнае **Іі-** ([ійі]) ніяк не набліжае беларускае вымаўленне гэтага імя да грэчаскага прататыпа, бо прапаноўвае вымаўляць лішні [і-]. Тым больш бессэнсоўным выглядае падваенне **Іі-** на фоне першаснай формы імя Хрыста — арамейск. Ješua. Відаць, аўтарам праекта не даюць спакою рэфарматарскія лаўры маскоўскага патрыярха Нікана[11], які ў сярэдзіне XVII ст. правёў у Расіі рэформу праваслаўнай абраднасці (сярод іншага, замену традыцыйнага напісання Исусъ на Іисусъ), што прывяло да «расколу» і ўзнікнення стараабрадніцтва.
2. Афармленне праз **с-** пачаткова — у першых выданнях РБС і БРС — набылі словы ***с**эканоміць*, ***с**эканомлены*, аднак у наступныя выданні згаданых слоўнікаў былі ўнесены адпаведныя карэктывы: ***з**эканоміць*, ***з**эканомлены*.
3. Не варта ўключаць у дакумент, разлічаны на доўгатэрміновае выкарыстанне, неканстантныя звесткі (звесткі, якія падлягаюць зменам); гэта шкодзіць інфармацыйнай, пазнаваўчай функцыі тэксту (цяпер насельніцтва «малога Лондана» складае больш за 7 мільёнаў жыхароў). Дарэчы, згаданы сказ належыць пяру К. Крапівы і «паходзіць» са Звода-1959 (с. 111, § 238).

[9] Магчыма, маецца на ўвазе форма загаднага ладу дзеяслова *паджэрці*. Але і ў такім выпадку словаформу *паджары* наўрад ці варта змяшчаць у афіцыйным дакуменце, якім прэтэндуе стаць Праект.

[10] Літары **i** і **j** былі разведзены толькі ў сярэдневяковай лаціне, а ў антычнай лаціне яны лічыліся графічнымі варыянтамі адной літары. Тое ж можна сказаць і пра літары **u** і **v**. Таму напісанні **I**esus і **J**esus, no**vv**m і no**uu**m з пункту гледжання фанетыкі — тоесныя. Такім чынам, гукавое значэнне літар **i**, **u** ў антычнай лаціне залежала ад пазіцыі.

[11] Той самы патрыярх Нікан благаславіў цара Аляксея Міхайлавіча на вайну супраць Рэчы Паспалітай у 1654 г.

не ўключалі, бо іх ужыванне відавочна звязана толькі з пэўнай групай карыстальнікаў літаратурнай мовы і яны нічым не адрозніваюцца ад дзесяцігоддзямі замацаваных лексем (с. 5).

Няма ні ў БРС-3, ні ў Міністэрскім праекце такіх агульнаўжывальных слоў, як: *адмысловец*, *вернік*, *выступоўца*, *вядоўца*, *галадоўнік*, *заўзятар*, *запрашальнік*, *кіроўца*, *ліставацца*, *месціч*, *насамрэч*, *незалежніцтва*, *пахаджанін*, *пражыткавы* (мінімум), *прымач*, *спадар*, *спадарыня*, *травень*, *хмарачос*, *хохлік*, хоць яны ўжо актыўна ўжываюцца і ў дзяржаўных СМІ, і ў кнігах дзяржаўных ведавецтваў.

Аглядкай на «старэйшага брата» прасякнуты ўвесь Праект, што вынікае нават з фармулёвак арфаграм:

§ 12.1. У асобных словах адбылося спрашчэнне груп зычных: спалучэнні *здн*, *згн*, *лнц*, *стн*, *скн*, *сльн*, *спн*, *стл*, *рдн*, *рдц* сталі вымаўляцца як *зн*, *сн*, *сл*, *рн*, *рц*, што і адлюстроўваецца на пісьме: ... *лнц* – *нц*: *сонца*, *сонечны*, *Сонцаў* (параўн.: *сланечнік*)...

Спалучэння **лнц** у слове *сонца* і вытворных ад яго не можа сустракацца нават тэарэтычна — пры пабудове словаўтваральнага ланцуга, а падаваць у якасці падмацавання лексему *сланечнік* — некарэктна, бо (1) гэта паланізм; (2) [л] не сутыкаецца з [н], а аддзяляецца ад яго галосным [а]; [ц] перайшоў у [ч] і аддзяляецца ад **н** беглым [’э]. Таму пры ўсім жаданні **лнц** з **л..н..ч** не «зляпіць» ніяк.

У такіх месцах Праект асабліва яскрава выяўляе сваю метадалагічную сутнасць — інструкцыя «Як пісаць па-беларуску, калі ўжо ўмееш па-руску», свой латэнтны «русацэнтрызм». Усе пералічаныя ў гэтым пункце з’явы аб’ектыўна падштурхоўваюць карыстальніка да думкі пра другаснасць беларускага правапісу (у дачыненні рускага) і беларускай мовы наогул.

## F. Паліткарэктнасць

На жаль, у Праекце ёсць праблемы і з паліткарэктнасцю. Магчыма, справа ў тым, што такое паняцце ўвайшло ў нашу рэчаіснасць зусім нядаўна, замяніўшы сабою савецкую палітычную цэнзуру. Але як бы хто ні ставіўся да патрабаванняў паліткарэктнасці, застаецца толькі іх выконваць. Прыкладам, непрымальнае для нашых афрыканскіх братоў словазлучэнне *Чорная Афрыка* (§ 24.1) мае паліткарэктны англійскі адпаведнік: Sub-Saharan Africa, які ў беларускіх тэкстах перакладаецца як *Афрыка на поўдзень ад Сахары*[12].

Не спрыяе захаванню паліткарэктнасці ў поліканфесійным грамадстве і «прамоцыя» праваслаўя, бо праваслаўныя рэаліі сустракаюцца значна часцей за тэрміналогію ўсіх іншых дэнамінацый і культаў разам узятых (пры гэтым у Праекце прапаноўваецца шэраг навацый):

і спрыяў знішчэнню беларускага насельніцтва, забяспечваючы рускае войска не толькі грашыма (10 тыс. руб. — вельмі салідная на той час сума), фуражом і транспартам, але і зброяй, зробленай у царкоўных уладаннях (Русское православие: Вехи истории. М., 1989. С. 203).

[12] Прыклад ужывання: Даклад аб чалавечым развіцці 2004 / Праграма развіцця ААН. Мн., 2004.

*ан**г**ел* (у СБМ ёсць толькі форма *ан**ё**л*)
*Іісус Хрыстос*
*Мінскі кафедральны сабор*
*Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі*
*Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі*
*Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі*
*Прасвятая Дзева Марыя*
*Прасвятая Тро**і**ца*
*Прачыстая Уладычыца Нябесная*
*Ражджаство Хрыстова* (лексемы *Ражджаство* няма ні ў водным акадэмічным слоўніку)
*Святыя Роўнаапостальныя Кірыл і Мяфодзій*
*Уваскр**асе**нне Хрыстова* (у СБМ і ТСБМ лексемы *ўваскр**асе**нне* няма, а ёсць *уваскр**ашэ́**нне* і *ўваскрэ́**се**нне*.)
*Уладыка Нябесны*
*Ушэсце Гасподняе*
*Царыца Нябесная*

## G. Жывыя і мёртвыя

### Доля аўтараў і цытат з іх твораў

Недастатковую ўвагу да раздзела «Пунктуацыя» (такую няўвагу яшчэ на пачатку публікацыі мы патлумачылі адсутнасцю навацый у гэтым раздзеле) нам хацелася б кампенсаваць больш падрабязным аналізам ілюстрацыйнага матэрыялу.

Правапісны і пунктуацыйны звод — гэта выдатная магчымасць падаць цэласную карціну развіцця нацыянальнай літаратуры, яе сённяшняга дня. Такі дакумент мусіць быць хрэстаматыяй цытат — максімальна разнастайных, мастацкіх, па-майстэрску выпісаных, проста ўзорных. З гэтых цытат на вачах чытача-карыстальніка тчэцца палатно мінуўшчыны і цяперcalled народа, яго натура, яго бачанне сябе і свету.

А замест такога інтэграванага, шматфункцыянальнага тэксту — у аблічы Праекта карыстальнік можа атрымаць хрэстаматыю беларускай

Табліца 3. **Рэйтынг аўтараў (крыніц) цытат**[13]

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Колас Я. | **164/27/31** |
| 2. | Шамякін І. | **39/2/6** |
| 3. | Брыль Я. | **35/6/1** |
| 4. | Мележ І. | **30/6/4** |
| 5. | Купала Я. | **28/3/8** |
| 6. | Чорны К. | **25/9/8** |
| 7. | Крапіва К. | **23/4/5** |
| 8. | Быкаў В. | **21** |
| 9. | Лынькоў М. | **17/3/4** |
| 10. | Сачанка Б. | **17** |
| 11. | Пястрак П. | **16/1/7** |
| 12. | Панчанка П. | **15/0/1** |
| 13. | Броўка П. | **14/4/0** |
| 14. | Хадкевіч Т. | **13/3/0** |
| 15. | Далідовіч Г. | **12** |
| 16. | Бядуля З. | **10/6/0** |
| 17. | Гілевіч Н. | **10** |
| 18. | Навуменка І. | **10/2/0** |
| 19. | Танк М. | **10/1/1** |
| 20. | Трус П. | **10/2/2** |
| 21. | Багдановіч М. | **9/1/0** |
| 22. | Вольскі В. | **8/1/0** |
| 23. | Грахоўскі С. | **8/1/0** |
| 24. | Прыказкі | **8** |
| 25. | Глебка П. | **7** |
| 26. | Караткевіч У. | **7** |
| 27. | Куляшоў А. | **7/0/2** |
| 28. | Сіпакоў Я. | **6** |
| 29. | Скрыган Я. | **6/1/0** |
| 30. | Васілевіч А. | **5** |
| 31. | Лупсякоў М. | **5** |
| 32. | Маўр Я. | **5/2/1** |
| 33. | Чарнышэвіч А. | **5/1/0** |
| 34. | Янішчыц Я. | **5** |
| 35. | Бачыла А. | **4/0/1** |
| 36. | Галавач П. | **4/2/0** |
| 37. | Гартны Ц. | **4/2/1** |

[13] Улічаныя толькі падпісаныя цытаты. Лічба абазначае колькасць цытат у Праекце, другая і трэцяя лічбы, пасля дробу, — колькасць «супадзенняў» з цытатамі з кнігі Л. І. Бурака «Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы» (Мн.: Выдавецтва БДУ, 1980) і з цытатамі са Звода-1959.

| | | |
|---|---|---|
| 38. | Зарэцкі М. | **4/3/0** |
| 39. | Кулакоўскі А. | **4/1/0** |
| 40. | Машара М. | **4/2/0** |
| 41. | Паслядовіч М. | **4/2/1** |
| 42. | Пташнікаў І. | **4** |
| 43. | Самуйлёнак Э. | **4** |
| 44. | Асіпенка А. | **3** |
| 45. | Астрэйка А. | **3/1/0** |
| 46. | БелСЭ | **3** |
| 47. | Грамовіч І. | **3/3/0** |
| 48. | Звонак А. | **3/1/0** |
| 49. | Краўчанка У. | **3** |
| 50. | «ЛіМ» | **3/1/0** |
| 51. | Мікуліч Б. | **3/2/0** |
| 52. | Пальчэўскі А. | **3** |
| 53. | Русак А. | **3/1/0** |
| 54. | Сабаленка Р. | **3/2/0** |
| 55. | Якімовіч А. | **3** |
| 56. | Адамчык В. | **2** |
| 57. | Баранавых С. | **2/1/0** |
| 58. | Бялевіч А. | **2/1/1** |
| 59. | Валасевіч Э. | **2/0/2** |
| 60. | Вярцінскі А. | **2** |
| 61. | Гамолка М. | **2** |
| 62. | Гурскі І. | **2/2/0** |
| 63. | Ермаловіч М. | **2** |
| 64. | З газет | **2** |
| 65. | «Звязда» | **2** |
| 66. | Зуёнак В. | **2** |
| 67. | Карамазаў І. | **2** |
| 68. | Карпаў У. | **2** |
| 69. | Пушча Я. | **2** |
| 70. | Янкоўскі Ф. | **2** |
| 71. | Агняцвет Э. | **1** |
| 72. | Адамовіч А. | **1** |
| 73. | Александровіч С. | **1** |
| 74. | Астапенка А. | **1** |
| 75. | Аўрамчык М. | **1** |
| 76. | Бажко А. | **1** |
| 77. | Бел. мова. Энц-дыя | **1** |
| 78. | Бондар Т. | **1** |
| 79. | Буйло К. | **1** |
| 80. | Бураўкін Г. | **1** |
| 81. | Ваданосаў М. | **1** |
| 82. | Васілеўская Г. | **1** |
| 83. | Васілеўскі А. | **1** |

савецкай літаратуры, нібы да 1917-га і пасля 1991-га ні беларусаў, ні пісьменства ў іх не было. Мы прааналізавалі «асабовы склад» аўтараў цытат паводле крытэрыя «жыве~не жыве» (гл. дыяграмы 1 і 2).

Дыяграма 1. **Долі аўтараў цытат**




Дыяграма 2. **Долі цытат жывых і нежывых аўтараў**




**Заўвага да дыяграм 1 і 2.**

«Невядомыя» асобы — аўтары, пра якіх не ўдалося знайсці біяграфічных звестак.

Як відаць з дыяграм 1 і 2, нашы сучаснікі радкамі са сваіх твораў амаль не прадстаўлены.

Мы не закраналі б гэтай далікатнай тэмы (нават дзеля навуковай дакладнасці і вычарпальнасці!), калі б не здагадваліся, што за выбарам на карысць нежывых стаіць пэўная матывацыя. Насмелімся дапусціць, што аўтарам Праекту цытаваць нежывых было спакайней, бяспечней...

У Праект не трапілі цытаты з аўтараў, народжа-

ных пасля II сусветнай вайны. Няма такіх вядомых імёнаў, як Уладзімір Арлоў, Адам Глобус, Вольга Іпатава, Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Юры Станкевіч, Анатоль Сыс, Андрэй Федарэнка ды інш.

На такім фоне выглядае цалкам натуральна, што слаба рэпрэзентаваны пісьменнікі, чыя ацэнка рэчаіснасці не заўсёды супадала з меркаваннямі ва ўладных кабінетах. Аднак «нязручныя» аўтары ўсё ж такі ёсць — гэта народныя пісьменнік і паэт Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч. Ёсць — у мізэрных дозах — таксама народны паэт Генадзь Бураўкін, а таксама Сяргей Законнікаў і Анатоль Вярцінскі. А вось народнага паэта Рыгора Барадуліна няма зусім.

Сярод аўтараў цытат няма імён класікаў беларускай літаратуры Наталлі Арсенневай і Ларысы Геніюш, наогул няма ніводнага «неправеранага» аўтара, **нікога, хто не фігураваў бы ў савецкіх выданнях**. Так аказаўся праігнараваным цэлы пласт беларускага пісьменства — літаратура замежжа: Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Рыгор Крушына, Уладзімір Клішэвіч ды інш.

Самае дзіўнае: у кола аўтараў цытат не ўключылі нават пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў XIX — пачатку XX стагоддзя: Кастуся Каліноўскага, Вінцэнта Дунін-Марцінкевіча (у Праекце ён названы *Вікенціем*), Францішка Багушэвіча, Цёткі, Ядвігіна Ш. Засталася без увагі творчасць і ўжо даўно рэабілітаваных уладамі, але, відаць, не рэабілітаваных аўтарамі Праекта Уладзіміра Дубоўкі, Вацлава Ластоўскага, Станіслава Шушкевіча, Андрэя Мрыя, Уладзіміра Жылкі ды шмат каго іншага.

Пры гэтым непамерна раздзьмуты «ўдзел» Якуба Коласа (больш за 1/5 усіх цытат!), што штучна збядняе палітру беларускай літаратуры. Прычына павышанай «каласістасці» Праекта хаваецца ў яго вытоку — у Зводзе-1959, рэдактары якога — Кандрат Крапіва і Пятро Глебка — не пашкадавалі месца, каб ушанаваць нядаўна спачылага (у 1956 г.) старэйшага таварыша[14]. Іншая справа — наш час,

| | | |
|---|---|---|
| 84. | Галіноўская Н. | **1** |
| 85. | Гарэцкі М. | **1** |
| 86. | Дайнека Л. | **1** |
| 87. | Дзяменцьеў І. | **1** |
| 88. | Законнікаў С. | **1** |
| 89. | Зарыцкі А. | **1** |
| 90. | Ігнаценка Р. | **1** |
| 91. | Каваленка В. | **1** |
| 92. | Каваль В. | **1/1/0** |
| 93. | Капыловіч І. | **1** |
| 94. | Карпюк А. | **1** |
| 95. | Кірэенка К. | **1** |
| 96. | Ліпскі У. | **1** |
| 97. | Лужанін М. | **1** |
| 98. | Майхровіч С. | **1** |
| 99. | Макаёнак А. | **1** |
| 100. | Макаль П. | **1** |
| 101. | «Маладосць» | **1** |
| 102. | Марціновіч А. | **1** |
| 103. | Мачульскі Р. | **1** |
| 104. | Місько П. | **1** |
| 105. | Народнае | **1** |
| 106. | Новікаў І. | **1** |
| 107. | «Полымя» | **1** |
| 108. | Правасуд У. | **1** |
| 109. | Прыходзька П. | **1** |
| 110. | Пшыркоў Ю. | **1** |
| 111. | Рамановіч Я. | **1** |
| 112. | Рылько І. | **1** |
| 113. | Свяцкі А. | **1** |
| 114. | Ставер А. | **1** |
| 115. | Ус А. | **1** |
| 116. | Хадыка У. | **1/1/0** |
| 117. | Хведаровіч М. | **1** |
| 118. | Чыгрынаў І. | **1** |
| 119. | Чэрня Х. | **1** |
| 120. | Шахавец У. | **1** |
| 121. | Шкірманкоў Ф. | **1** |

**Усяго 762/115/87 цытат**

[14] «Арганізацыя і першыя крокі працы па ўдакладненню і ўдасканаленню існуючых правапісных норм звязаны з імем народнага паэта Беларусі акадэміка Якуба Коласа, які на працягу некалькіх год узначальваў арфаграфічную камісію і ўнёс вялікі ўклад у вырашэнне многіх прынцыпова важных пытанняў беларускага правапісу» (Звод-1959. С. 4).

пачатак XXI стагоддзя. За мінулыя паўвека напісана больш беларускіх кніжак, чым ад стварэння свету і аж да года 1959-га. Зрэшты, пра другаснасць ілюстрацыйнага матэрыялу, асабліва ў раздзеле «Пунктуацыя», мы пагаворым ніжэй.

З іншага боку, сярод аўтараў цытат-ілюстрацый ёсць «невядомыя» асобы, без чыіх радкоў Праект толькі выйграў бы. Напрыклад, мы знаходзім сказ аўтарства некага *І. Дзяменцьева*:

> § 21.14. … *Іншы раз рэкі двух розных басейнаў бяруць пачатак з аднаго і таго ж балота (напрыклад, рэкі Лучэса і Аршыца паміж Віцебскам і Оршай).*

Афармленне праз **э** – замест чаканага **о**: *Лучоса* — вынік няведання зыходнай, беларускай формы і знаёмства з назваю ракі праз рускую мову — *Лучеса*, адкуль, мабыць, і «вывелася» памылковае напісанне. Аднак паставіць гэта ў віну І. Дзяменцьеву ніяк не выпадае, бо гэтыя радкі належаць прэзідэнту Геаграфічнага таварыства Беларусі прафесару геаграфіі Васілю Аляксеевічу Дзяменцьеву. Настойлівыя пошукі прывялі нас да крыніцы цытаты — «Прырода Беларусі (фізіка-геаграфічны агляд)» (Мн., 1959. С. 92). У іншых беларускамоўных кніжных публікацыях, падпісаных згаданым імем, фігуруе правільная форма. Улічваючы, што Васіль Андрэевіч нарадзіўся, вучыўся і фармаваўся як навуковец у Расіі, лагічна будзе меркаваць, што свае тэксты ён пісаў па-руску. Таму памылковае **э** варта залічыць на рахунак рэдактара і карэктара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, якое рыхтавала да друку названую кнігу.

Аўтары Праекта не толькі зблыталі ініцыял аўтара, але і скарацілі цытаваны сказ удвая. А ў такіх выпадках прынята рабіць пазнаку, напрыклад: «(паводле В. Дзяменцьева)».

Апроч пісьменнікаў і навукоўцаў, у Праекце «паўдзельнічалі» перыядычныя і два энцыклапедычныя выданні: «Беларуская мова» і БелСЭ. Яшчэ ў 1996 г. пачалося і ўжо тры гады таму скончылася выданне 18-томнай БелЭн, а Праект усё спасылаецца на састарэлую — ва ўсіх адносінах — БелСЭ. Сярод цытат з перыёдыкі фігуруе безаблічнае «З газет», у той жа час не прыцягнуты матэрыял ніводнага недзяржаўнага выдання, хоць сярод апошніх ёсць і літаратурныя.

## IV.2. Пасланне з сацыялістычнага пазаўчора

Ілюстрацыйны матэрыял праз прызму статыстыкі

### A. «Вернасць традыцыям» ці плагіят?

У прадмове да трэцяга варыянта праекта Падлужнага (2004) паведамлялася, што:

> Часовы навуковы калектыў … падрыхтаваў праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»… (с. 3).

Кантэкст не падказвае, у якім значэнні ўжыта слова «рэдакцыя», таму яго можна інтэрпрэтаваць двума спосабамі: 1) выпраўлены з улікам навацый Звод-1959; 2) зусім

новы дакумент з улікам навацый, колькасць і якасць якіх, аднак, не дае падстаў гаварыць пра рэформу мовы.

У выніку ж атрымалася нешта сярэдняе: праект Падлужнага даволі далёка «адарваўся» ад свайго прататыпа, але ж і зусім новым дакументам назваць яго не выпадае. З пераходам нарматворчай ініцыятывы ў рукі Міністэрства асветы дакумент зазнае далейшыя змены, асабліва ў арфаграфічнай частцы і ў галіне арганізацыі

Табліца 4.

| Л. Бурак. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы | Праект |
|---|---|
| **§ 11. Знакі прыпынку пры сцвярджальных, сцвярджальна-пабуджальных, пытальных і адмоўных словах** | **§ 47. Коска <u>пасля</u> сцвярджальных, адмоўных і пытальных слоў** |
| 1. Сцвярджальныя словы *так*, *але*, *ага*, сцвярджальна-пабуджальныя словы *ну*, *што ж*, *як жа*, пытальныя словы *што*, *як*, адмоўнае слова *не* і інш., якія знаходзяцца ў пачатку сказа, звычайна аддзяляюцца пры дапамозе коскі: … <u>*Што, грыбоў яшчэ няма?* (Я. Колас).</u><br>**Заўвага**. Калі такія словы спалучаюцца з узмацняльнымі часціцамі, то яны аддзяляюцца коскай разам з імі, напр.: *…* <u>*Ой не, пакідаць таварыша ў бядзе нельга* (Я. Маўр).</u> … | 1. Коскай выдзяляюцца сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя словы ў пачатку сказа, калі яны цесна звязаны са сказам, які раскрывае, канкрэтызуе іх сэнс: *так, але, ага, ну, што ж, як жа, не, што, як* і інш. Напрыклад: … <u>*Што, грыбоў яшчэ няма?* (Я. Колас).</u><br>Калі пры такіх словах стаяць узмацняльныя часціцы, то коскай яны аддзяляюцца разам. Напрыклад: <u>*Ой не, пакідаць таварышаў бядзе нельга.* (Я. Маўр).</u> … |
| 3. Калі сцвярджальныя, сцвярджальна-пабуджальныя, пытальныя і адмоўныя словы знаходзяцца ў сярэдзіне простага сказа, то яны выдзяляюцца коскамі з абодвух бакоў: … <u>*Не загасне, не, ніколі светач праўды на зямлі* (М. Машара).</u> … <u>*Работа, што ж, у лес не пабяжыць* (Ц.Гартны).</u> … | 3. Сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя словы ў сярэдзіне сказа выдзяляюцца коскамі з абодвух бакоў.<br>Напрыклад: <u>*Не загасне, не, ніколі светач праўды на зямлі.* (М. Машара).</u><br><u>*Работа, што ж, у лес не пабяжыць.* (Ц. Гартны).</u> |
| 4. Калі сцвярджальныя, сцвярджальна-пабуджальныя, пытальныя і адмоўныя словы знаходзяцца ў канцы сказа, то перад імі ставіцца коска, а пасля іх — той знак прыпынку, які патрабуецца зместам і інтанацыяй усяго сказа: … <u>*Цяпер ты пойдзеш спаць, так?* (І. Мележ).</u> <u>*Я цяжкасцей не баюся, не!* (І. Грамовіч).</u> | 4. У канцы сказа перад сцвярджальнымі, адмоўнымі і пытальнымі словамі ставіцца коска, а пасля — знак прыпынку ў адпаведнасці з агульнымі правіламі. Напрыклад: <u>*Я цяжкасцей не баюся, не!* (І. Грамовіч).</u><br><u>*Цяпер ты пойдзеш спаць, так?* (І. Мележ).</u> |
| § 11.1. … Калі ўказаныя словы ўжываюцца ў ролі асобных нячленных сказаў, то пасля іх ставяцца знакі прыпынку, якія патрабуюцца зместам і інтанацыяй гэтых сказаў: … <u>*«Ты мяне слухаеш?» — «Ага»* (Я. Колас).</u> … (С. 102—103) | **Глава 9. Кропка.** 7. Кропка ставіцца пасля сцвярджальных ці адмоўных слоў-сказаў *так, не* і іх сінонімаў *(ага, але, эге, ну, добра* і інш.) пры адсутнасці клічнай або пытальнай інтанацыі. Напрыклад: … <u>*«Ты мяне слухаеш?» — «Ага».* (Я. Колас).</u> |

**Заўвага да табліцы.**

Параграф 47 Праекта мае некарэктную назву, бо ў ім рэгулюецца пастаноўка коскі не толькі **пасля**, але і **перад** сцвярджальнымі, адмоўнымі і пытальнымі словамі.

Табліца 5. **Рэйтынг ужытых слоў**

| | |
|---|---|
| *вайна*, *ваенны*, *воін* | **25** |
| *шчасце* і вытворныя | **20** |
| *дзед* (з іх *дзед Талаш* | **18** 3) |
| *смех* | **12** |
| *стрэлі* аднакаранёвыя | **12** |
| *партызан(скі)* | **9** |
| *каса*, *касіць* | **8** |
| *Прэзідэнт*, *прэзідэнт* | **8** |
| *радасць* і вытворныя | **8** |
| *Расія*, *расійскі* | **7** |
| *Волга*, *волжскі* | **6** |
| *калгас* і вытворныя | **6** |
| *конь* | **6** |
| *Полацк* і вытворныя (з іх Сімяон, Ефрасіння — па **1** р.) | **6** |
| *бульба* і вытворныя | **5** |
| *Скарына* | **5** |
| *смерць* | **5** |
| *трактар(ны)* | **5** |
| *аўтамат(ны)* | **4** |
| *гітлеравец*, *гітлераўскі* | **4** |
| *плач* | **4** |
| *вораг*, *варожы* | **3** |
| *Масква*, *маскоўскі* | **3** |
| *фашызм*, *фашыст*, *фашысцкі* | **3** |
| *фронт* | **3** |
| *рускі* (з іх **1** р. у назве *Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае*) | **3** |
| *княжыць*, *князь*, *княства* (апроч ВКЛ) | **3** |
| *кулямёт* | **3** |
| *Амерыка* (абодва разы — у складзе *ЗША*) | **2** |
| *бабка* | **2** |
| *Вялікае Княства Літоўскае* | **2** |
| *інтэрнацыяналіст*, *інтэрнацыянальны* | **2** |

матэрыялу, што дало нам падставы гаварыць пра яго як пра новы твор — Міністэрскі праект. І ён таксама перажыў ужо некалькі стадый выпраўлення: нам вядомы прынамсі тры варыянты — «веснавы», «летні» і «восеньскі» 2006 года. «Дапрацоўка» пунктуацыйнай часткі праявілася, сярод іншага, у цэнзураванні: прыкладам, у «восеньскім» варыянце Праекта колькасць цытат з Быкава скарацілася ў параўнанні з «летнім» амаль на трацiну (з 30 да 21).

**Ці можна назваць самастойнай такую працу:**

1) якая і структурна, і сутнасна пераймае Звод-1959, створаны на ўзор **рускага** арфаграфічнага звода?

**Звод-1959. Прадмова:** Каб зрабіць больш лёгкім засваенне «Правіл», аўтары іх імкнуліся захаваць тэкстуальную блізкасць да «Правил русской орфографии и пунктуации» ў тых раздзелах, дзе адрозненне не выклікаецца нацыянальнай спецыфікай беларускай мовы (злітнае і раздзельнае напісанне, ужыванне вялікай літары, правілы пераносу слоў, пунктуацыя) (с. 4).

2) якая «пазычае» з іншых правапісна-пунктуацыйных дакументаў цэлыя абзацы, не мяняючы ў іх ні коскі? Так сталася з пунктам 8 главы 12, які проста слова ў слова паўтарае пункт 8 параграфа 4 кнігі Леаніда Бурака «Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы».

3) ілюстрацыі да якой на 11% (87 цытат) складаюцца з матэрыялу да Звода-1959, на 15% (115) — з кнігі Л. Бурака (гл. табліцы 3 і 4; са «зводаўскіх» і «буракоўскіх» цытат «перакрываюцца» толькі 5)? Відаць, пры жаданні можна было б знайсці і іншыя «крыніцы натхнення» аўтараў Праекта для астатняй долі ілюстрацый.

Пры гэтым не можа не здзіўляць вольнасць абыходжання з ілюстрацыйным матэрыялам: у Праекце пры цытаванні могуць змяняцца граматычныя формы, словы, абсякацца сказы; некаторыя «іменныя» ў прататыпе 1959 года ілюстрацыі — у Праекце робяцца «ананімнымі» (напрыклад, у главе 9.1).

Заяўленая аўтарамі Праекта мадэрнізацыя ў шэрагу выпадкаў зводзіцца да мінімальнай замены:

**Звод-1959:** § 217. ...*Слаўся, наша сталіца Масква!* (Броўка).

**Праект:** Глава 11.1. ... *Слаўся, наша сталіца Мінск!* – указанне на крыніцу цытаты абачліва знята.

Яшчэ адзін прыклад. Пададзены крыху вышэй фрагмент Праекта (§ 17.5, гл. у гэтай публікацыі падраздзел IV.1.B пункт «Парадак») — у параўнанні з прататыпам (Звод-1959, § 87.1) — «асучасніўся» наступным чынам: з яго проста зніклі дзве ілюстрацыі — *камсамольцы* і *ліверпульскі*.

Застаецца толькі павіншаваць аўтараў Праекта з бліскуча зробленай, сапраўды наватарскай працай.

Табліца 5. *Заканчэнне*

| | |
|---|---|
| *кажух* | **2** |
| *камісар(ыят)* | **2** |
| *лапці* | **2** |
| *Рагвалод* | **2** |
| *Савецкі Саюз* | **2** |
| *гармата, гарматны* | **2** |
| *брыгадзір* | **1** |
| *камбрыг* | **1** |
| *Літоўская метрыка* | **1** |
| *Літоўскі статут* | **1** |
| *Вільня* затое *вільнюскі* | **0**, **1** |
| *Грунвальд* | **0** |
| *Будны, Гусоўскі, Цяпінскі* | **0** |
| *Альгерд, Вітаўт, Гедымін, Жыгімонт, Кейстут, Сапега* | **0** |
| *дзіда, кап'ё, лук, меч, страла, суліца* | **0** |
| *баярын, баярства, шляхта, шляхціч* | **0** |
| *аўтобус, тралейбус, трамвай* | **0** |
| *дыск, інтэрнэт, камп'ютэр/камп'ютар, сайт, сервер/сэрвер, Сеціва, сканер, файл, фолдэр/фолдар* | **0** |

## B. «Гітлеравец за ім — тр-тр з аўтамата»[15]

Са старонак Праекта Беларусь паўстае ў аблічч *дзеда Талаша* — *партызана-калгасніка* ў *лапцях* і *кажусе*, са *стрэльбаю* ў адной руцэ і *касою* — у другой (гл. табліцу 5). Гэта Беларусь нарадзілася ў 1917 годзе, і час для яе спыніўся да з'яўлення аўтобусаў і тралейбусаў, да эпохі камп'ютэраў і інтэрнэту. Беларусь-Талаш няспынна вядзе барацьбу з *фашыстамі*, перамагае іх, але ніяк не пераможа. Дзесьці глыбока ў свядомасці Беларусі-Талаша жыве, як цьмяны ўспамін, згадка, што былі да яго Рагвалод, Ефрасіння, *Вялікае **К**няства Літоўскае*[16]. Але ж больш нічога ўзгадаць Талаш не можа... Дый чаго корпацца ў памяці, калі ёсць *Расія*, *Волга*, *Масква*. Вось яно — *шчасце*!

Ідэолагі Краіны Саветаў надалі кожнай савецкай рэспубліцы пэўную функцыю, рысу, якою яна мела ганарыцца: Беларусь была рэспублікай-партызанкай, Узбекістан — рэспублікай-бавоўнаробкай, Украіна — жытніцаю, Грузія — проста сонечнаю, адна Расія была ўсім — «матухнаю»... Эксплуатацыя «раскручанага брэнду» савецкай эпохі — партызанства; абсалютызацыя адзінай гістарычнай падзеі, Вялікай Айчыннай вайны, коштам забыцця папярэдняга гістарычнага досведу; ігнараванне рэалій сучаснага жыцця — усё гэта робіць ілюстрацыйную частку Праекта прымітыўна-кан'юнктурнай.

І калі ілюстрацыйны матэрыял Звода-1959 выглядае мадэрнова — для свайго часу, то той жа матэрыял у Праекце-2006 уяўляецца пасланнем з далёкай сацыялістычнай мінуўшчыны — нашчадкам, якія жывуць ужо пры камунізме.

[15] Цытата з І. Мележа, глава 17.3.

[16] Цяпер правільным лічыцца крыху іншае напісанне: *Вялікае **к**няства Літоўскае*.

# V. ПАНОПТЫКУМ

На заканчэнне публікацыі мы вырашылі сабраць у адзін раздзел тыя моманты, што не клаліся ў тэматычныя раздзелы.

## V.1. Створанае быць парушаным

### Правапіс прыстаўных галосных

У Праекце паўтараецца традыцыйнае правіла:

> § 8.1. Прыстаўная галосная *і* пішацца:
>
> у пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай *м*: ***і**мшара*, ***і**мчаць*, ***і**мгла*, ***і**мгненне*, ***і**мклівы* ...у пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першымі *р*, *л*, калі слова з такімі спалучэннямі зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знака прыпынку ці папярэдняга слова, што канчаецца на зычную: ***і**ржа*, ***і**ржаць*, ***і**рдзенне*, ***і**рваць*, ***і**ржышча*; ***і**лгун*, ***і**льдзіна*... Калі слова з такім пачатковым спалучэннем зычных стаіць пасля слова, якое канчаецца на галосную і пасля яго няма знака прыпынку, то прыстаўная літара *і* не пішацца, напрыклад: *Не чакай, што ржа з гадамі паесць ланцугі...* (Я. Купала). *Люблю я прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора ржаных каласоў...* (Я. Колас)....
>
> 3. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя літары *і* і *а* перад *р*, *л*, *м* не пішуцца: *заржавець*, *заржаць*, *зардзецца*, *замглёны*, *замшэлы*...

Дактары настойліва раяць не есці пасля 7-й гадзіны вечара, бо гэта шкодна для здароўя, аднак большасць людзей ігнаруе гэтую рэкамендацыю. Гэтак усе, хто прафесійна піша па-беларуску, ведаюць працытаванае правіла, аднак закон аналогіі, пурыстычныя меркаванні, мо яшчэ нешта штурхаюць чалавека на тое, каб захоўваць прыстаўны незалежна ад таго, ёсць галосны перад прыстаўкаю ці няма.

Такая практыка знайшла замацаванне ў асноўных нарматыўных слоўніках — СБМ і ТСБМ:

> *да**і**лгацца*, *да**і**мчацца*, *да**і**мчаць*, *за**і**льсніцца*, *за**і**мглелы*, *за**і**мглёны*, *за**і**мгліць*, *за**і**мчацца*, *за**і**мчаць*, *за**і**мшэлы*, *за**і**мшэць*, *за**і**рдзецца*, *за**і**рдзець*, *за**і**ржавелы*, *за**і**ржавець*, *за**і**ржаўлены*, *за**і**ржаць*, *па**і**мжыць*, *па**і**мжэць*, *па**і**мчацца*, *па**і**мчаць*.

Паказальна, што падобныя формы мы сустракаем, напрыклад, у Вячаслава Адамчыка, Васіля Быкава, Змітрака Бядулі, Леаніда Дайнекі, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Кулакоўскага, Міхася Лынькова, Паўла Місько, Макара Паслядовіча, Івана Пташнікава, Эдуарда Самуйлёнка, Кузьмы Чорнага, Алеся Якімовіча, цытаты з твораў якіх сталі ілюстрацыямі Праекта. Выходзіць, аўтары дакумента, з аднаго боку, лічаць мову гэтых пісьменнікаў вартаю таго, каб падаваць яе ў Праекце; з другога — пэўныя арфаграфічныя моманты ў іх мове для аўтараў Праекта — непрымальныя.

Загад (а арфаграма — гэта загад) мусіць быць выканальным. Таму перш як пры-

маць катэгарычныя правілы, добра было б узважыць, наколькі жыццёвымі яны будуць. А рыгарыстычныя, максімалісцкія загады, якія не маюць шанцаў быць выкананымі, **не ўмацоўваюць правапіснай дысцыпліны**, а наадварот — **расхістваюць яе**.

Тут жа хацелася б пацікавіцца ў аўтараў Праекта, ці будзе трактавацца як прыстаўны **і** ў слове *імша*. Зразумела, у правапісных дакументах і падручніках па арфаграфіі савецкіх часоў гэтай лексемы быць не магло.

## V.2. Хірургія тупым скальпелем

### -нь- перад -ск- у «кітайскіх» прыметніках

*... ликвидировано непонятное исключение, когда мягкий знак писался в относительных прилагательных китайского происхождения:* тяньшаньскі <так!>, *но* любанскі. *Теперь все эти прилагательные будут писаться без мягкого знака.*

В. Ивченков[17]

***«Звязда»:*** *Яшчэ пытанні ад чытачоў. Райцэнтр афіцыйна называецца* Мядзел, *а раён —* МядзелЬскі. *Альбо: райцэнтр —* ЛюбанЬ, *а раён —* Любанскі... *Логіку тут адшукаць надзвычай складана! Чакаюцца ў гэтых (і падобных) прыкладах якія-небудзь змены?*

***А. Лукашанец:*** *У дадзеным выпадку ў новай рэдакцыі Правіл уносяцца пэўныя карэктывы, каб зняць падобнага роду неадпаведнасці. У прыватнасці, прапануецца наступная фармулёўка:* Мяккі знак не пішацца ў прыметніках з суфіксам *-ск-*, утвораных ад назоўнікаў на *-нь*. *І гэтае правіла пашыраецца на прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў на -нь іншамоўнага паходжання. Значыць, будзе:* Любанскі[18].

Здавалася б, сапраўды, як добра, што нарэшце прыметнікі ад кітайскіх назваў не будуць складаць выключэння:

§ 17.7. Мяккі знак не пішацца: ... у прыметніках з суфіксам *-ск-*, утвораных ад назоўнікаў на *-нь: ко**н**скі* (ко**нь**), *астраха**н**скі* (Астраха**нь**), *люба**н**скі* (Люба**нь**), *плзе**н**скі* (Плзе**нь**), *каньчу**н**скі* (Ча**нь**-Чу**нь**), *цяньша**н**скі* (Ця**нь**-Ша**нь**).

Але выключэнні ўсё роўна застаюцца, і не нейкая ўсходняя экзотыка, а самыя беларускія лексемы:

[17] Комсомольская правда в Белоруссии. 2006. 29 августа.

[18] Звязда. 2006. 2 верасня.

§ 17.6. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці *н*: … перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўласных назвах, утвораных ад назваў месяцаў, якія канчаюцца мяккім *н: студзеньскі*, *чэрвеньскі*, *ліпеньскі*, *снежаньскі*; а таксама *Чэрвеньскі раён*, *Ліпеньская школа*…

Як ні дзіўна, але ў Праекце не знайшлося месца пералічыць усе выключэнні: *восеньскі*, *жнівеньскі*, а таксама *травеньскі* ад не зусім узаконенай, але узуальнай назвы месяца *травень*. Калі ж мы сягнем вокам за межы літаратурнай нормы, аказваецца, спалучэнне «**-нь-** + **-ск-**» даволі пашыранае ў народнай мове, а форма ***коньскі*** знаёмая ці не палове Беларусі[19].

Што да кітайскай мовы, то ў ёй гукі, якія ў нас — следам за рускай мовай[20] — передаюцца літарамі **н** і **нь**, — не пара па цвёрдасці~мяккасці, а *зусім розныя* гукі, як, прыкладам, беларускія **к** і **м** у словах *сок* і *сом*. Таму і лацініцай[21] яны перадаюцца па-рознаму: **н** — **ng**, **нь** — **n**. Таму паміж кітайскімі, скажам, *ха**н*** (ha**ng**) і *ха**нь*** (ha**n**), *ша**н*** (sha**ng**) і *ша**нь*** (sha**n**) яшчэ менш агульнага, чым паміж беларускімі *кон* і *ко**нь***, *графі**н*** і *графі**нь*** (форма Р. мн. ад *графіня*).

Кітайская фанетыка настолькі адрозніваецца ад нашай, а сродкі яе адлюстравання ў нашай мове настолькі абмежаваныя, што лінгвісты стараюцца выкарыстаць любую магчымасць чым дакладней перадаць гукі кітайскай анамастыкі. Таму для кітайскіх назваў зроблена некалькі выключэнняў:

1) выкарыстанне літары **э** не абмяжоўваецца выпадкамі на пачатку слова і пасля галосных, дазваляецца нават забароненае ў беларускай мове (апроч выклічнікаў) спалучэнне **хэ**: ***Хэ**ган*, ***Хэ**й**хэ***, ***Хэ**фэй*;
2) для перадачы «паўзвонкіх» зычных[22] дазваляюцца літарныя спалучэнні «глухая афрыката + звонкі фрыкатыўны» — **цз** і **чж**: *Гуан**чж**оў*, *Ян**цз**ы*, у тым ліку ў Праекце: ***Цз**ян Гуанцы*[23] (§ 22.1);
3) дазвол забароненага ў беларускай мове (апроч выклічнікаў, гукаперайманняў і вытворных) спалучэння **фы**: *Чы**фы**н*;
4) дазвол напісання мяккага знака паміж аднолькавымі зычнымі: *На**нь**нін*;
5) адсутнасць устаўнога ёта (пераходу **іа** → **ія**): *С**іа**нь*, ды некаторыя інш.

На фоне такога асцярожнага, нават далікатнага стаўлення да фактаў кітайскай мовы — па сутнасці неабгрунтаваная навацыя выглядае грубым аперацыйным умяшаннем без надзеі на выжыванне пацыента, бо рэжуць тупым скальпелем высакамернасці і недасведчанасці (больш наглядна з наступствамі такога ўмяшання можна

[19] Лексічны атлас беларускіх народных гаворак / АНБ; Інстытут мовазнаўства. Т. I. Раслінны і жывёльны свет. Мн., 1993. С. 112, 113; Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік / НАНБ; Інстытут мовазнаўства. Мн, 1999. С. 166.

[20] У рускай мове выкарыстоўваецца адмысловая *сістэма Паладзія* — стандартная транскрыпцыя кітайскіх назваў рускай кірыліцай.

[21] У лацінаграфічных мовах з 1979 г. выкарыстоўваецца *сістэма піньін* (pinyin), прынятая Міжнароднай арганізацыяй стандартызацыі (ISO).

[22] Не звонкія і не глухія.

[23] Часцей *Цзян Гуан-цы*.

Табліца 6.

| Уласная назва (пвд БелЭн) | Прыметнік ад уласнай назвы | |
|---|---|---|
| | Цяпер (пвд БелЭн і СБМ) | Праект |
| *Сычуа**нь*** (правінцыя, 110 млн чал.) | *сычуа**нь**скі* | *сычуа**н**скі* |
| *Тайва**нь*** (востраў, 22 млн чал.) | *тайва**нь**скі* | *тайва**н**скі* |
| *Танша**нь*** (горад, 2 млн чал.) | *танша**нь**скі* | *танша**н**скі* |
| *Уха**нь*** (горад, 5 млн чал.) | *уха**нь**скі* | *уха**н**скі* |
| *Хайна**нь*** (востраў, праліў) | *хайна**нь**скі* | *хайна**н**скі* |
| *Цзі**нь*** (дзяржава, дынастыя) | *цзі**нь**скі* | *цзі**н**скі* |
| *Чанчу**нь*** (горад, 3 млн чал.) | *чанчу**нь**скі* | *чанчу**н**скі* |

пазнаёміцца пры дапамозе табліцы 6). І калі ўжо шукаць рэальныя пагрозы захаванню самабытнасці беларускай мовы, то ніяк не ў спалучэнні **-ньск-**, якое мы сустракаем і ў дыялектнай, і ў літаратурнай беларушчыне.

Дарэчы, скасаванне асобнага правіла для прыметнікаў ад кітайскіх назваў спародзіць аманімічныя пары, напрыклад:

| Цяпер | | | | Праект |
|---|---|---|---|---|
| *ха**н**скі* | ← | *ха**н*** | → | *ха**н**скі* |
| *ха**нь**скі* | ← | *Ха**нь*** ‘імператарская дынастыя’ | → | *ха**н**скі* |
| *мі**н**скі* | ← | *Мі**н**ск* | → | *мі**н**скі* |
| *мі**нь**скі* | ← | *мі**нь*** (дыялект) | → | *мі**н**скі* |

Уявіце сабе: *мінскі дыялект кітайскай мовы*!

І яшчэ праблемка. Прыметнік *цяньшанскі* ўтвораны ад *Цянь-Шань*, а таму мае пісацца праз злучок. Адпаведнае правіла ёсць і ў Праекце:

> § 33.3. Пішуцца праз злучок складаныя прыметнікі: утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *вакуум-насосны*, *генерал-губернатарскі*, *унтэр-афіцэрскі*, *ліберал-дэмакратычны*, *давыд-гарадоцкі*, *санкт-пецярбургскі*...

Мо такая прыкрасць і не здарылася б, калі б рука, што пісала параграф 17, перагарнула Праект да параграфа 33... Хоць быў адпаведны прыклад і значна бліжэй — у параграфе 21.23: *нью-ёркскі*.

А можа прапанова скасаваць мяккі знак між **н** і **ск** задумана для таго, каб не вывадзіць у выключэнне прозвішча рускага падарожніка *Сямёнава-Цян-Шанскага*? Дык ён і так пішацца — без **ь** (БелЭн), бо прыйшоў да нас як ужо славянская рэалія.

## V.3. Левая рука ня ведае, што робіць правая

### Супярэчнасці і разбежнасці ў межах Праекта

Крыху вышэй (падраздзел IV.1.С. «Аўтапярэчанні») мы паказалі выпадкі, калі ў межах адной арфаграмы не стыкуюцца фармулёўка і ілюстрацыйны шэраг. Але ў Праекце бываюць сітуацыі, калі ў супярэчнасць уваходзяць арфаграма і яе «выкананне» ў іншай частцы Праекта.

Такія «недапасаванасці» ўзніклі, мабыць, таму, што кожны аўтар Праекта адказваў за сваю дзялянку, мала зважаючы на напісанае калегамі. А кіраўнік працоўнага калектыву не ўзяў на сябе цяжару агульнай рэдактуры або выканаў свае абавязкі больш чым павярхоўна. Магчыма, ён спадзяваўся, што на стадыі абмеркавання выправіць нехта з рэцэнзентаў (як бачым, у нашым выпадку так і выходзіць), на стадыі зацвярджэння ніхто і чытаць не будзе, на стадыі падрыхтоўкі зацверджанага ўжо дакумента да друку «дачысцяць» рэдактары выдавецтва... Але ж дзе нянек многа, там дзіця бязнога.

### А. Складаныя словы

*Упростится и правописание сложных слов. Например, вместо «процідзеянне» естественнее звучит «працідзеянне», вместо «мовазнаўства» — «мавазнаўства».*

В. Ивченков[24]

У другой частцы публікацыі (гл. №3 за г. г.) мы падрабязна разгледзелі прапановы Праекта, сярод іншага, значна расшырыць аканне і яканне ў першай частцы складаных слоў, але гэтае рашэнне ў шэрагу выпадкаў засталося нерэалізаваным (гл. табліцу 7).

Табліца 7. **Разбежнасці паміж устанаўленнямі і практыкай Праекта ў складаных словах**

| Цяпер (пвд СБМ) | У тэксце Праекта | Мусіць быць пвд Праекта |
|---|---|---|
| в**о**даправодны | в**а**даправодны (§ 33.1) | в**о**даправодны |
| заходн**я**дзвінскі (БелЭн) | правабярэжназаходн**е**бугскі (§ 33.1) | правабярэжназаходн**я**бугскі |
| м**о**вазнаўства | м**о**вазнаўства (главы 17.1, 19.3) | м**а**вазнаўства |
| м**о**цнадзеючы | м**о**цнадзеючы (§ 33.1) | м**а**цнадзеючы |
| пр**о**цілеглы | пр**о**цілеглы (§ 33.2) | пр**а**цілеглы |
| прыр**о**дазнаўства | прыр**о**дазнаўства (§ 11.3) | прыр**а**дазнаўства |
| ус**ё**магутны | ус**е**магутны (§ 23.1) | ус**ё**магутны (?) |
| цв**е**рдапаліўны | цв**ё**рдапаліўны (§ 33.1) | цв**е**рдапаліўны |

[24] Советская Белоруссия. 2006 года. 29 августа.

Дарэчы, у якасці зыходнага для слова *моцнадзеючы* падаецца словазлучэнне *моцна дзей**нічаць***, што не адпавядае рэчаіснасці, бо ў *моцнадзеючы* няма суфікса **-ніч-**, таму дадзенае слова ўтворана ад *дзеяць*.

## B. Абрэвіятуры

У Зводзе-1959 замацоўваўся відавочна «русацэнтрычны» пасаж:

**Звод-1959:** § 135. Заўвага. У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў пад націскам можа аднаўляцца этымалагічнае **о**, якога ў поўным слове не бывае, напрыклад: *рай**ко**м* (раённы к**а**мітэт), *нар**ко**м* (народны к**а**місар), *сель**ко**р* (сельскі к**а**рэспандэнт), *пар**то**рг* (партыйны **а**рганізатар) і інш.

Але ж практыка 1990-х — 2000-х гг. беларусізавала форму гэтых слоў — прынамсі тых з іх, якія не страцілі сваёй актуальнасці. Трэба аддаць належнае аўтарам Праекта: яны прыслухаліся да узусу і ўвялі ў свой дакумент адпаведную арфаграму:

**Праект:** Глава 4.1: У абрэвіятурах скарочаныя часткі пішуцца так, як у адпаведных поўных словах: *г**а**рсавет* (*г**а**радскі*), *пр**а**фсаюз* (*пр**а**фесійны*), … *пр**а**мкамбінат* (*пр**а**мысловы*), … *Цэнтрвыбарк**а**м* (*цэнтральны выбарчы к**а**мітэт*), *пр**а**фк**а**м* (*пр**а**фсаюзны к**а**мітэт*), *ваенк**а**м* (*ваенны к**а**мітэт*), *гарвыканкам* (*г**а**радскі выканаўчы к**а**мітэт*), *сельк**а**р* (*сельскі к**а**рэспандэнт*), *юнк**а**р* (*юны к**а**рэспандэнт*), *член-к**а**р.* (*член-к**а**рэспандэнт*)[25], *лінк**а**р* (*лінейны к**а**рабель*), … *газпр**а**м* (*газавая пр**а**мысловасць*)…[26]

І нягледзячы на такое рашэнне, у параграфе 30 сустракаем: *Полацкі завод «Пр**о**мmашрамонт»* замест чаканага *«Пр**а**ммашрамонт»* (*пр**а**мысловы*, *машына*, *рамонт*).

## C. «Арацыя»

Пра пашырэнне акання на ненаціскныя фіналі запазычанняў **-эль**, **-эр** мы падрабязна пісалі ў першай частцы публікацыі (гл. №1—2 за г. г.). Але ў іншых частках Праекта «арацыя» ў большасці выпадкаў праведзена не была:

**§ 22.1:** *Джон Ноэль*[27] замест чаканага *Но**а**ль* (праўда, у такім выпадку ўзнікла б аманімія з іншымі прозвішчамі напрыклад, *Артура Но**а**ль* (Arturo Noal) — аргенцінскі акцёр).

[25] *Член-кар.* — не абрэвіятура (= складанаскарочанае слова), а скарачэнне, што не тое самае.

[26] Праўда, узнікае сумненне, ці мела сэнс уключаць у Праект гістарызмы *селькар* і *юнкар*, а таксама ці варта беларусізаваць русізм *лінкор*, які для сухаземнай Беларусі назаўсёды застанецца замежнай рэаліяй.

[27] Мы знайшлі двух Джонаў Ноэляў: 1) John B. L. Noel — брытанскі афіцэр, у 1913 г. першым зрабіў спробу ўзысці на Эверэст; 2) Philip John Noel-Baker — брытанскі барон, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру за 1959 г. Калі быць дакладным, згаданае прозвішча трэба перадаваць як *Ноўэл*.

**§ 44.18:** *старшы унтэр Шранк* замест *унт***а***р.*
**§ 50.4:** *генерал-фельдмаршал Модэль* замест чаканага — у адпаведнасці з «арацыяй» — *Мод***а***ль*.

## D. Яканне

Як несумненна станоўчы момант Праекта хацелася б адзначыць падпарадкаванне яканню некаторых лічэбнікаў, што дагэтуль складаюць выключэнне (на актуальнасць гэтай праблемы ўказваў, прыкладам, брытанскі беларусіст Пітэр Мэё яшчэ ў 1977 г.[28] ). Праўда, сфармулявана адпаведная арфаграма надзвычай дзівачна:

> § 6.1. Галосныя *е, ё* ў першым складзе перад націскам абазначаюцца на пісьме літарай *я*: ... *дзéвяць – дз***я***вя́ты*, *дзéсяць – дз***я***ся́ты*, *с***е***м – с***я***мна́ццаць*, *вóс***е***м – вас***я***мна́ццаць...*

(1. Галосных *гукаў* **е**, **ё** не існуе. 2. Калі меліся на ўвазе *літары* **е**, **ё**, то навошта было іх называць *галоснымі*. 3. Літары могуць нешта абазначаць выключна на пісьме, бо літары — гэта графічная з’ява і па-за пісьмом не існуюць. 4. Але адны літары не могуць абазначацца другімі літарамі, іншымі словамі, выраз «Літара А абазначаецца літарай В» пазбаўлены сэнсу.)

Гэта правіла не вытрымліваецца ў 5 (!) іншых месцах Праекта. Каб не пачуць закідаў, што мы перабольшваем маштабы парушэння, працытуем усе гэтыя выпадкі (ніжэй знак націску наш — **З. С.**):

> § 17.4. Мяккі знак пішацца: ... у складаных лічэбніках *пяцьдз***е***ся́т...*

> § 34.1. Пішуцца разам: складаныя колькасныя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з’яўляецца *-дз***е***ся́т...*; складаныя парадкавыя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з’яўляецца *-дз***е***сяты...*: *пяцідз***е***ся́ты...*

> § 34.2. Асобна пішуцца састаўныя колькасныя, парадкавыя і дробавыя лічэбнікі: ... *пяць дз***е***ся́тых...*

> § 43.1. ... *За дваром, на бярозах, была пасека – больш за дз***е***ся́так ліпавых вулляў.* (М. Лупсякоў).

> Глава 17.1. ... *Шэ́сцьдзесят і пяцьдз***е***ся́т – сто дзесяць.*

Такое нядбайства магло вынікнуць толькі з прычыны «неўтаямнічанасці» адных членаў працоўнага калектыву ў планы і рашэнні другіх на фоне адсутнасці агульнай каардынацыі.

[28] Mayo, P. J. Byelorussian Orthography: from the 1933 Reform to the Present Day // The Journal of Byelorussian Studies. 1978. Vol. IV. No. 2. P. 25—47. P. 46—47.

## E. Varia

1. У Праекце — насуперак цяперашняму правілу — не прадугледжваецца захаванне зыходнага **-о** перад галоснымі на канцы слова: *Барне**а*** (замест *Барне**о***), *Більба**а*** (замест *Більба**о***), *Мантэвідэ**а*** (замест *Мантэвідэ**о***). Але ў параграфе 22.1 «Вялікая і малая літары ў асабовых назвах» сустракаем *Та**о** Юаньмінь*.

2. «Вернасць традыцыям», г. зн. часам сляпое перайманне рэдакцыі 1957—1959 гг., падвяло стваральнікаў Праекта ў наступным выпадку:

> Глава I. Правапіс галосных. § 5.2. ... Літара *о* захоўваецца, калі першай часткай складанага слова з'яўляюцца *слова*-, *вока*-, *што*-: ... *штодзённы*, *штоме́сяц*, <u>*штокольвек*</u>, *штого́д*.

Аўтар гэтых радкоў проста акуратна перапісаў ілюстрацыю *штоко́львек* са Зводу-1959, дзе яна ў такім выглядзе і фігуравала. А вось на 37 старонак ніжэй (сапраўды далёка!) чытаем:

> Глава 7. Правілы напісання разам, праз злучок і асобна. § 36.3. Пішуцца праз злучок: ... словы з прыстаўкамі *абы*-, суфіксамі або постфіксамі -*небудзь*, -*колечы* (-*кольвечы*, -<u>*кольвек*</u>)...

Несумненна, постфікс у слове *што-**кольвек*** мусіць пісацца з займеннікамі праз злучок, як і іншыя падобныя постфіксы.

3. Як мы паказалі ў другой частцы публікацыі (гл. № 3 за г. г., раздзел III.2. «Недарэабілітаваная літара: **э** ў запазычаннях будзе пісацца часцей»), Праект прадугледжвае больш паслядоўнае захаванне зыходнай цвёрдасці зычных перад літарай **э**. Але да такога павароту, мусіць, не ўсе складальнікі дакумента былі гатовыя. Аўтар главы 6 правёў гэта рашэнне ў сваім тэксце:

> Глава 6. Правапіс вялікай і малой літар. § 22. Вялікая і малая літары ў асабовых назвах. ... 1. З вялікай літары пішуцца: ... пачатковыя часткі <u>*Сэнт*</u>-, <u>*Сэн*</u>- ... у іншамоўных асабовых імёнах, якія пішуцца асобна, разам або далучаюцца да іх праз злучок ... : <u>*Сэнт*</u>-*Беў*, <u>*Сэн*</u>-*Жуст*...

А вось для аўтара главы 7 засталася незаўважанай агулам уласцівая дакумента тэндэнцыя да напісання **э** ў загаданай пазіцыі:

> Глава 7. Правілы напісання разам, праз злучок і асобна. § 32. Складаныя назоўнікі. ... 3. Пішуцца праз злучок: ... іншамоўныя ўласныя назвы асоб і геаграфічных аб'ектаў з пачатковымі часткамі ... <u>*Сен*</u>-, <u>*Сент*</u>-: ... <u>*Сен*</u>-*Санс*, <u>*Сент*</u>-*Бёў*...

Найбольш уражвае, што двума рознымі спосабамі пішацца нават тое ж самае слова — прозвішча французскага крытыка XIX ст. Saint-Beuve, да таго ж па-рознаму перадаецца не толькі першая, але і другая частка: ***Беў*** і ***Бёў***, дзе ў арыгінале гучыць галосны [œ] — вузкі агублены **э**. Для гэтага гука ў беларускай мове могуць быць два

прыблізныя адпаведнікі — **э** або **ё**. Такім чынам, гэта прозвішча павінна пісацца *Сэнт-Бэў* або *Сэнт-Бёў* (а як менавіта — гэта і мусяць вызначаць беларускія мовазнаўцы).

## V.4. «Напішы так — не ведаю як!»

Апеляцыя да слоўнікаў і даведнікаў, якіх не існуе

Думаецца, арфаграфічны звод — гэта якраз тое месца, дзе павінны прысутнічаць усе правілы і ўсе выключэнні з іх. Праект жа ў пэўных месцах больш падобны не да дасведчанага дарадцы, а да малаадукаванага дыспетчара: нас адсылаюць да слоўнікаў. А слоўнікі не могуць даць цэласнага ўяўлення пра колькасны склад і характар усёй групы выключэнняў. Дый са слоўнікамі ў нас сітуацыя фатальная: якаснай лексікаграфічнай прадукцыі амаль няма, а выдадзеныя дзесяцігоддзі назад акадэмічныя слоўнікі і даведнікі ўжо, на жаль, ніяк не выпадае назваць сучаснымі.

Герой адной казкі час ад часу дае загады: «Зрабі то, не ведаю што», «Прынясі то, не ведаю што». Да яго прыпадабняюцца і аўтары Праекта ў такіх, напрыклад, арфаграмах:

> § 4.5. У запазычаных словах напісанне *э* і *а* пасля іншых зычных [не зацвярдзелыя і не *д*, *т*] рэгулюецца слоўнікам: *панэль*, але *шынéль*, *сэ́нсарны*[29], але *сектáнцкі*, *Зэ́льва*, але *Зéўс*.

(Дарэчы, у прыкладах няма ніводнага выпадку з **а**.)

> § 11.6. *Дз, ц* пішуцца ў некаторых словах, правапіс якіх вызначаецца ў слоўнікавым парадку: *мун**дз**ір*, *гетэра**дз**ін*, ***дз**юна*, ***дз**юшэс*, *бар**дз**юр*, *ар**ц**ель*, *ар**ц**ішок*, ***ц**ір*, ***ц**ітр*, *э**ц**юд*, ***ц**юль*, *на**ц**юрморт*, *увер**ц**юра*, *нак**ц**юрн*, ***ц**юркскі*, ***ц**юльпан*, *каран**ц**ін*, *ла**ц**інскі* (але: *латынь*).

Правапіс **ц** у лексеме *ар**ц**ішок* праверыць зусім няма па чым, бо ва ўсіх слоўніках яна пішацца праз **т**: *ар**ты**шок*. Навошта аўтарам Праекта спатрэбілася рэвізаваць усталяванае, адпаведнае асноўнаму правілу напісанне? А мо проста забыліся праверыць па слоўніках, да якіх адсылаюць нас?

> § 16.2. У словах іншамоўнага паходжання і вытворных ад іх падвоеныя літары звычайна не пішуцца: *гра**м**атыка*, *гру**п**а*, *ка**л**ектыў*, *ка**л**екцыя*, *су**м**а*, *ка**р**эспандэнт*, *ка**с**а*, *ка**с**ір*, *тэ**р**ыторыя; А**л**а*, *Ва**с**а*, *Ге**н**адзь*, *І**н**а*, *Но**н**а*, *І**п**аліт*, *Кіры**л***, *Адэ**с**а*, *Кальку**т**а*, *Маро**к**а*, *Ні**ц**а*, *пі**ц**а*, *са**м**іт*, але: *бо**нн**а*, *до**нн**а*, *ду**рр**а* (расліна), *ма**нн**а*, *па**нн**а*, *ва**нн**а*; *Га**нн**а*, *Жа**нн**а*, *Ме**кк**а* і інш. Напісанне такіх слоў вызначаецца па слоўніках.

Калі ўжо мы пабачылі сярод выключэнняў лексему *ду**рр**а*, то мусім адзначыць: у арабскай мове, адкуль яна паходзіць, вымаўляецца не з падоўжаным **р**. Падвойнае

[29] У СБМ і ТСБМ іншы націск: *сенсорны*.

напісанне ўзнікла ў рускай мове, каб развесці з руск. *ду**р**а* ‘дурніца’, у абгрунтаванасці чаго *ўжо* можна сумнявацца. А тым больш дзіўна выглядае такое напісанне ў беларускай мове, бо, як адзначаецца ў цытаваным параграфе 16.2, «у словах іншамоўнага паходжання ... **падвоеныя літары звычайна не пішуцца**», тым больш што лексема *дура* не мае ў нас значэння ‘дурніца’, а ўсяго толькі ‘іспанская манета’ (< ісп. du**r**o).

*Дурра* — не адзіны выпадак ужывання дыферэнцыйнага прынцыпу арфаграфіі ў рускай мове, такія ж прэцэдэнты назіраем мы і ў беларускай — у СІС: *карэ**т**а* (экіпаж) і *карэ**тт**а* (паўзун) — абодва ад італ. care**tt**a. Зрэшты, і напісанне *Жа**нн**а*, відаць, прадыктавана імкненнем пазбегчы амаграфіі з *жа**н**а* ‘жонка’. Наколькі апраўдана такая практыка — асобная гутарка.

> Глава 4.3. Напісанне няўласнабеларускіх (запазычаных) абрэвіятур вызначаецца слоўнікам...

Мяркуем, акурат тут слоўнік быў бы нават лішні, бо «няўласнабеларускія (запазычаныя)», іншымі словамі — неасвоеныя, абрэвіятуры мусяць пісацца так, як пішуцца ў мове-крыніцы.

Параграф 20 паставіў абсалютны рэкорд па колькасці адсылак да слоўнікаў.

> § 20.6. Спрэчныя выпадкі напісання прыставак *су-* і *са-* вызначаюцца ў слоўнікавым парадку. ... 8. У значнай колькасці выпадкаў [слоў-тэрмінаў іншамоўнага паходжання] літары не падвойваюцца, бо слова ўспрымаецца як невытворнае ў беларускай мове: *і**н**авацыя*, *і**р**ыгацыя*, *і**р**эальны*, *і**м**іграцыя*, *а**к**амадацыя*, *ка**р**эляцыя*, *а**п**ерцэпцыя*, *ды**с**ідэнт*, *і**м**артэль*, *а**н**ігіляцыя*, *і**н**ервацыя*, *а**к**орд*, *ка**р**эспандэнт.* Напісанне такіх слоў-тэрмінаў вызначаецца па слоўніку. ... 11. Калі пасля прыстаўкі *з-* ідзе няётаваная галосная, то напісанне *з* ці *с* вызначаецца па слоўніку: ***з**араць*, ***з**арыентаваць*, ***з**ыначыць*, ***з**ымправізаваць*, ***з**эканоміць*, ***з**эканомлены*, ***с**ахвоціцца*, ***с**ыграць*, ***с**ымшыць*, ***с**ыскаць*, ***с**экранізаваць*.

Слоў *сахвоціцца*, *сымшыць* і *сэкранізаваць* мы не знайшлі ні ў водным слоўніку.

> § 21.23. Суфіксы *-ск-* і *-ств-* пішуцца: ... У некаторых выпадках, якія вызначаюцца па слоўніку, чаргаванне [г]-[ж], [х]-[ш] адсутнічае: *Бу**г** – бу**г**скі*, *Гаа**г**а – гаа**г**скі*, *Катан**г**а — катан**г**скі*, *каза**х** – каза**х**скі*, *Цюры**х** – цюры**х**скі*, *Караба**х** – караба**х**скі*, *фела**х** – фела**х**скі*, *ша**х** – ша**х**скі*, *ніў**х** – ніў**х**скі*, *Пецярбур**г** – пецярбур**г**скі*...

Не паглыбляючыся ў фанетычныя асаблівасці слоў, утвораных з дапамогаю суфіксаў **-ск-** і **-ств-**, заўважым толькі, што чаргавання гукаў [г] || [ж] у пералічаных словах не можа быць па вызначэнні, бо звонкія перад глухім **с** суфіксаў **-ск-** і **-ств-** таксама аглушаюцца. А ў ілюстрацыі *Пецярбург* [-бурх] — *пецярбургскі* [-бурск’і] наогул маем чаргаванне [х] || ∅ [30].

Але скончым мы гэты падраздзел прыкладам таго, як адсыланне да слоўніка можа толькі ўвесці ў зман:

[30] Знак ∅ абазначае «нуль гуку».

§ 10.2. Правапіс уласнабеларускіх і запазычаных слоў, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца слоўнікамі: *футбол*, *баскетбол*, *вакзал*, *айсберг*, *струбцына*, *экзамен*, *афшор*.

У ілюстрацыйным шэрагу няма ніводнай уласнабеларускай лексемы. А што да англіцызма off-shore, то ён сапраўды выклікае цяжкасці пры афармленні па-беларуску, праўда, не з прычыны літары **ф**, — а што яшчэ можна напісаць замест яе? Яна ж хоць і глухая, але ў беларускай фанетычнай сістэме няпарная і з **в** не чаргуецца!

Як рэкамендуецца ў Праекце, звяртаемся да слоўніка. Адзіным агульным (нетэрміналагічным) лексікаграфічным выданнем, дзе мы знайшлі гэтае слова, быў СІС. У томе 1-м чытаем:

АФ-ШО́Р (англ. off shore = *літар*. удалечыні ад берага) — від кампаніі, якая створана або зарэгістравана на тэрыторыі замежнай, галоўным чынам невялікай дзяржавы, і карыстаецца падатковымі льготамі.

А пацікавімся тым жа словам і ў 2-м томе:

ОФ-ШО́Р (англ. off-shore, ад off = па-за + shore = бераг) — *экан*. цэнтр сумеснага прадпрымальніцтва, які прадастаўляе льготны рэжым толькі для фінансава-крэдытных аперацый з замежнымі партнёрамі і ў замежнай валюце.

Такім чынам, да ўжо кадыфікаваных «Слоўнікам іншамоўных слоў» дзвюх формаў (праз **а** і праз **о**) Праект дадаў трэцюю — без злучка, канчаткова заблытаўшы і сябе, і карыстальніка.

## V.5. Няспраўджаныя надзеі

«Звязда» не спяшаецца выходзіць на «Праектныя магутнасці»

*Газета «Звязда», якую лічу найаўтарытэтнейшай беларускамоўнай газетай, неаднаразова прысвячала свае матэрыялы гэтай дыскусіі. Скажу больш. Калі мы ліквідоўвалі рознага тыпу выключэнні ці нешта змянялі, то абавязкова звяралі свае дзеянні з ... традыцыяй газеты «Звязда». Вы памянялі апошнім часам маўленчую практыку.*

В. Іўчанкаў[31]

Прэзентуючы Праект, яго аўтары і «прамотары» падкрэслівалі, што прапановы, выкладзеныя ў дакуменце, ужо прайшлі выпрабаванне часам і знаёмыя карыстальнікам са старонак «Звязды» — галоўнага беларускамоўнага (але не заўсёды беларус-

[31] Звязда. 2006. 29 жніўня.

кага) друкаванага органа БССР, а цяпер ужо і РБ. За сваю гісторыю газета не раз рабілася пляцоўкаю для моўных экспэрыментаў улад:

> У канцы лістапада 1939 году аддзел культуры ЦК КП(б)Б склікаў нараду, на якую былі запрошаныя філёлягі Інстытуту літаратуры й мовы Акадэміі Навук, пісьменьнікі, прадстаўнікі Наркамасьветы й Выдавецтва. Нарада, згодна запросінаў, павінна была «выказацца ў паўстаўшых праблемах беларускай мовы й правапісу»..., каб узаконіць навуковым аўтарытэтам Інстытуту тыя зьмены ў правапісе, якія [сакратар Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Грэкава і сакратар ЦК КП(б)Б Папкоў] ужо загадалі ўвесьці ў практыку газэты «Звязда». Папкоў — замену «е» на «і» ў слове «Менск», якое «Звязда» так ужо й набірае; бо, паводле яго, гэта ймя аднае з рэспубліканскіх сталіцаў «нашае краіны», і яно ўсюды павінна пісацца аднолькава; і напісаньне слова «вобласць» без прыстаўнога «в», зь ім гэтае слова «рэжа вуха», як бы яно — ад «вобла»...
>
> Грэкава ... загадала ўнесьці ў правапіс дзьве зробленыя ёю «папраўкі» ў лёзунг «Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!» Па-першае, слова «злучайцеся» замяніць на «еднайцеся», бо вось яна як сакратар ЦК часта падпісвае «дырэктывы» калгасам, што ўжо пара пачынаць «злучную кампанію для ската»; таму заклік «злучайцеся!» у дачыненьні да пралетарыяту «неяк нядобра гучыць». Па-другое, у слове «яднайцеся» пачатнае «я», хоць і стаіць у першым складзе перад націскам, павінна пісацца праз «е», бо могуць быць выпадкі, тлумачыла Грэкава, калі слова гэтае пры пісьме ці друку трэба пераносіць і тады пры падзеле яго можа выйсьці «яд-». Для палітычнага лёзунгу гэта недапушчальнае і ЦК партыі на гэта ня можа згадзіцца[32].

Каб выявіць, у якой ступені пераможныя рэляцыі адпавядаюць рэчаіснасці, мы прааналізавалі некалькі нумароў «Звязды» за мінулы ды бягучы гады і выбралі выпадкі, дзе праяўляюцца (або не праяўляюцца) чаканыя навацыі (гл. табліцу 8).

Як вынікае з табліцы 8, у абсалютнай большасці выпадкаў нават «стабільныя» (г. зн. не змененыя з часоў праекта Падлужнага) прапановы часцей не выконваюцца, чым выконваюцца. Найбольш паслядоўна праводзіцца вялікая літара ў слове ***П****рэзідэнт* і літара **ў** у лексеме ***ў****ніверсітэт* пасля галосных, але нават разрэкламаваная «арацыя» рэалізоўваецца толькі ў найбольш частотных агульных назвах, а ва ўласных назвах не праводзіцца ўвогуле.

Дарэчы, апошнімі гадамі ў «Звяздзе» вельмі выразна праявілася новая, асабліва для дзяржаўных выданняў, тэндэнцыя падаваць у арыгінальнай, лацінічнай, форме назвы заходніх СМІ, фірмаў ды іх прадуктаў, акцый і мерапрыемстваў: «Antalya Cup», Die Presse, EuroPol GAZ s. a., Financial Times, La Stampa, Microsoft Office System, Pipeline Company SA, Windows Vista; у гэтай кампаніі апынулася нават агульная назва — weekend. Такім чынам звяздоўцы здымаюць з сябе і цяжар асваення, і адказнасць за магчымыя памылкі. Гэта і не дзіўна, калі ўлічыць, што яны не атрымалі ад афіцыйнай навукі выразных інструкцый (сучаснага правапіснага звода, даведніка па практычнай транскрыпцыі), *як* гэта рабіць.

[32] Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі: Дасьледаваньні, артыкулы, успаміны. Беласток—Вільня—Менск, 1993. С. 136—137.

Табліца 8. **Рэалізацыя прапаноў Праекта ў практыцы газеты «Звязда»**

| Газета «Звязда» | | Праект | Цяпер |
|---|---|---|---|
| **Дата нумара** | **Напісанне** | **або паводле Праекта** | **(пвд СБМ)** |
| | Правапіс складаных слоў | | |
| 16.08.06 | *м**о**таблок* | *м**а**таблок* | *м**о**таблок* |
| 18.11.06 | *н**о**вамодны* | *н**а**вамодны* | *н**а**вамодны* |
| 17.11.06 | *раб**о**тадаўцы* | *раб**а**тадаўцы* | *раб**о**тадаўцы* |
| 6.09.06 | «*Сп**о**ртэкспа*» | *спарткомплекс* | ?[33] |
| | Правапіс фінальнага **-эр** → **-ар** | | |
| 27.10.06 | *альма-мат**э**р* | *альма-мат**а**р* | *альма-мат**э**р* |
| 6.09.06 | *аўтсайд**а**р* | *аўтсайд**а**р* | *аўтсайд**э**р* |
| 16.02.07 | *генд**э**рны* | *генд**а**рны* (?)[34] | *генд**э**рны* |
| 27.10.06, 16.02.07 | *камп'ют**а**р*, *камп'ют**а**рны* | *камп'ют**а**р*, *камп'ют**а**рны* (?) | *камп'ют**э**р*, *камп'ют**э**рны* |
| 16.08.06, 20.10.06, 16.02.07 | *лід**а**р*, *лід**а**рства* | *лід**а**р*, *лід**а**рства* (?) | *лід**э**р*, *лід**э**рства* |
| 16.08.06 | *правайд**а**р* | *правайд**а**р* | *правайд**э**р* |
| 16.08.06 | *тэнд**а**р* | *тэнд**а**р* | *тэнд**э**р* |
| 18.08.06 | *Бакст**э**р* | *Бакст**а**р* | *Бакст**э**р* |
| 16.02.07 | *Верд**э**р* | *Верд**а**р* | *Верд**э**р* |
| 21.11.06 | *Кісіндж**э**р*[35] | *Кісіндж**а**р* | *Кісіндж**э**р* |
| 19.08.06, 12.01.07 | *Манчэст**а**р*, *Манчэстэр* | *Манчэст**а**р* | *Манчэст**э**р* |
| 16.02.07 | «*Рэйндж**э**рс*» | «*Рэйндж**а**рс*» | «*Рэйндж**э**рс*» |
| 17.11.06 | *Цітэр* | *Тыт**а**р* | *Тыт**э**р* |
| | Правядзенне якання ў лічэбніках і вытворных ад іх | | |
| 16.02.07 | *дз**е**вятка* | *дз**я**вятка* | *дз**е**вятка* |
| 18.08.06 | *дз**е**вяты* | *дз**я**вяты* | *дз**е**вяты* |
| 21.11.06, 16.02.07 | *дз**е**сятак* | *дз**я**сятка* | *дз**е**сятка* |
| 19.08.06, 18.11.06 | *пяцьдз**е**сят* | *пяцьдз**я**сят* | *пяцьдз**е**сят* |
| 17.11.06 | *с**е**мнаццаць* | *с**я**мнаццаць* | *с**е**мнаццаць* |
| | Перадача спалучэнні «**й** + галосны» ў запазычаннях | | |
| 16.08.06 | ***Йе**нс* | ***Е**нс* | ***Йе**нс* |
| 17.11.06 | ***Йо**рк* | ***Ё**рк* | ***Йо**рк* |
| 18.08.06, 20.10.06 | *Нью-**Йо**рк* | *Нью-**Ё**рк* | *Нью-**Йо**рк* |

[33] Тут і ніжэй у гэтай калонцы пытальнік абазначае, што адпаведнага слова ў нарматыўных слоўніках няма.

[34] З фармулёўкі адпаведнай арфаграмы Праекта няясна, ці ёй падпарадкоўваюцца і вытворныя.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Правапіс **у**/**ў** пасля галосных у запазычаннях на пачатку слова | | | |
| 28.07.06, 18.08.06 | дзяржаўнага **у**ніверсітэта | дзяржаўнага **ў**ніверсітэта | дзяржаўнага **у**ніверсітэта |
| 18.11.06 | заходнія **ў**ніверсітэты | заходнія **ў**ніверсітэты | заходнія **у**ніверсітэты |
| 27.10.06 | камунальнага **ў**нітарнага | камунальнага **ў**нітарнага | камунальнага **у**нітарнага |
| Правапіс **у**/**ў** пасля галосных у запазычаннях у сярэдзіне і на канцы слова | | | |
| 12.01.07 | да**ў**ніверсітэцкі | да**ў**ніверсітэцкі | да**у**ніверсітэцкі |
| 3.11.06, 16.02.07 | но**у**тбук, но**ў**тбук | но**ў**тбук | ? |
| 16.08.06 | но**ў**-ха**у** | но**ў**-ха**ў** | ? |
| 12.01.07 | ра**ў**нд | ра**у**нд | ра**у**нд |
| 18.08.06 | сярэдне**у**ніверсітэцкі | сярэдне**ў**ніверсітэцкі | сярэдне**у**ніверсітэцкі |
| 2.11.06, 17.11.06 | шо**у** | шо**ў** | шо**у** |
| 05.09.06 | шо**у**мен | шо**ў**мен | шо**у**мен |
| 21.07.06 | Разенба**у**м | Разенба**ў**м | шлагба**у**м |
| Захаванне цвёрдасці зычных у запазычаннях | | | |
| 18.11.06 | дыспанс**э**р | дыспанс**э**р | дыспанс**е**р |
| 16.08.06, 13.01.07 | мен**е**дж**ар**[36] | мен**э**дж**а**р | мен**е**дж**э**р |
| 27.10.06, 18.11.06 | мен**е**джмент | мен**э**джмент | мен**е**джмент |
| 18.08.06, 16.02.07 | с**э**кс(уальны) | ? | с**е**кс(уальны) |
| 16.08.06, 16.02.07 | аграс**э**рвіс | с**э**рвіс | с**е**рвіс |
| 16.02.07 | экз**э**мпляр | экз**э**мпляр | экз**е**мпляр |
| 17.11.06 | Майсурадз**е** | Майсурадз**э** | Майсурадз**е** |
| 21.07.06 | Меладз**е** | Меладз**э** | Меладз**е** |
| Рэалізацыя этымалагічнага спалучэння «зычны + **й**» у традацыйных імёнах | | | |
| 13.01.07 | І**лл**я, І**лья** | І**ль**я | І**лл**я, І**ль**я |
| Перадача канцавога спалучэння «галосны + **о**» | | | |
| 20.10.06, 2.11.06 | тры**о** | тры**а** | тры**о** |
| 25.07.06 | Гаўды**ё** | Гаўды**а** | Гаўды**о** |
| 30.08.06 | Ры**о**-дэ-Жан**е**йра | Ры**а**-дэ-Жан**э**йра | Ры**о**-дэ-Жан**е**йра |
| 16.02.07 | Токі**о** | Токі**а** | Токі**о** |
| 13.01.07 | Фабі**а** | Фабі**а** | Фабі**о** |
| Ужыванне вялікай літары | | | |
| 16.02.07 | **к**іраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта | **К**іраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта | ? |
| 16.02.07 | **м**іністр эканомікі | **М**іністр эканомікі | **м**іністр эканомікі |
| 16.02.07 | **П**рэзідэнт | **П**рэзідэнт | **п**рэзідэнт |
| 16.02.07 | **п**рэм'ер-**м**іністр | **П**рэм'ер-**м**іністр | |

**Тлумачэнне да табліцы**

Фонам пазначаюцца выпадкі адпаведнасці паміж напісаннем у газеце і арфаграмай Праекта.

[35] У арыгінале памылкова: *Кісенджэр*.

## V.6. Візітар Карбузье зрабіў сальта-мартале́

Бліц-выпраўленне рэдактарскіх і карэктарскіх памылак

*... жывучасць і нежывучасць мовы, шырыня яе выкарыстання зусім не залежыць ад правапісу.*

А. Падлужны[37]

*Толькі строгае адзінства правапісных нормаў можа забяспечыць беларускай мове выкарыстанне ў тых ці іншых сферах жыцця. Калі будзе існаваць такі разнабой, то гэта можа паставіць пад пагрозу выжыванне беларускай мовы.*

А. Лукашанец[38]

Яскрава сведчыць пра ступень падрыхтаванасці дакумента яго нявычытанасць, інакш кажучы, колькасць і якасць рэдактарска-карэктарскіх памылак ды хібаў. Вышэй, цягам усяго тэксту, мы адзначалі выпадкі памылковага напісання тых ці іншых фармулёвак і ілюстрацый Праекта. Дакумент, які яшчэ ў сярэдзіне верасня 2006 г. яго аўтары меліся падаць на зацвярджэнне кіраўніку дзяржавы, у кастрычніку быў недарыхтаваны, сыры нават з «тэхнічнага» пункту гледжання.

Ніжэй мы падаем прыклады памылковых напісанняў:

**§ 3.2:** лексема *сальта-мартале́* мае дзіўны для запазычання з італьянскай націск, у СБМ і СІС — *са́льта-марта́ле.*

**§ 3.2:** у тым жа пункце тая ж самая праблема з назваю краіны *Каба-Вэрдэ́*, у БелЭн — *Каба-Ве́рдэ.*

**§ 6.1:** у аднаскладовым слове пастаўлены націск: *дзе́нь.*

**§ 13.3:** «у беларускіх уласных назвах ... *Ларыво́н, Ляво́н, Лявó́нчанка, Лявó́наўка, Радзіво́н, Радзіво́наў...*» — імёны *Ларыво́н, Лявó́н, Радзіво́н* маюць не беларускае, а грэчаскае паходжанне.

**§ 13.4:** *обер* — такога слова ў вядомых нам слоўніках мы не знайшлі, а частка *обер-* уваходзіць у склад слоў *обер-лейтэнант*, *обер-паліцмайстар* і пад.

**§ 13.4:** *Оскар* — у САУІ-1 і САУІ-2 мы знаходзім толькі імя *Аска́р*. Гэта асабліва бянтэжыць, калі ўлічыць, што навуковы рэдактар САУІ-2 А. Лукашанец адначасова з'яўляецца і сааўтарам Праекта. Магчыма, у Праекце мелася на ўвазе назва ўзнагароды Амерыканскай кінаакадэміі, тады яе трэба было браць у двукоссе: *«Оскар»*.

**§ 22.2:** прозвішча французскага архітэктара *Карбюзье* падаецца ў памылковай форме *Карбузье*, хоць крыху вышэй (§ 18.1) знаходзім правільнае напісанне.

**§ 23.1:** *Карма* — згадваецца сярод найменняў бога/багоў: *Бог, Саваоф, Алах, Яхве, Шыва, Карма, Вішну.* Аднак *Карма* — гэта не бог/боства, а паняцце, таму мусіць пісацца з

[36] Рэалізуецца «арацыя».

[37] ЛіМ. 2004. 12 сакавіка.

малой літары і заняць месца сярод агульных, а не ўласных назваў.

**§ 21.15:** *кісцень — кісценя*, трэба *кісцяня* (так у СБМ), на ўзор *шпень — шпяня*.

**§ 23.2:** *«бог цемры Вельзевул»* — паводле ўяўленняў хрысціян як монатэістаў (у адрозненне яд язычнікаў, політэістаў), Бог — адзін, а Вельзевула называюць *князем* або *анёлам цемры*.

**§ 26:** у слове *візітар* прапусцілі цэлы склад, трэба *візі**тат**ар* < лац. visit**at**or.

**§ 26:** формы *дыя**т**эзія* не існуе, а ёсць *дыя**ц**эзія* 'біскупства' < лац. dioe**c**esia з грэчаск. dioícēsis 'домакіраванне'.

**§ 31.1:** «Пішуцца разам: складанаскарочаныя словы ...: *мікракосм*» — гэта не складанаскарочанае, а складанае слова, бо частка *-косм* — не скарачэнне ад Космас, а форма без фіналі *-ас* (этымалагічна *-os*); большасць грэцызмаў і лацінізмаў мужчынскага роду ўжываецца ў беларускай мове без фіналяў: *епіскап* (< episcop-**os**), *статут* (< statut-**us**), *Геракл* (< Heracl-**es**) і г. д.

**§ 32.3:** «Пішуцца праз злучок: ... састаўныя прозвішчы, імёны і назвы геаграфічных аб'ектаў: ... *Адам-Ганоры Міцкевіч*...» — адзіны вядомы нам *Адам Ганоры* меў прозвішча *Кіркор* — знакаміты беларуска-польскі гісторык і краязнавец. Што да Міцкевіча — ён быў проста Адам. Што да злучка паміж *Адамам* і *Ганорыем* (ці *Ганорым*?) — то ён не патрэбны, як у падвойных і патройных імёнах іншых прадстаўнікоў шляхты Рэчы Паспалітай: *Міхал Клеафас Агінскі*, *Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі*, *Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка*, *Мікалай Крыштоф Радзівіл*, *Ян Караль Хадкевіч*.

**§ 35.4:** «Пішуцца разам прыслоўі, якія ўтвораны ў выніку спалучэння: ... прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў і іншых часцін мовы ...: *паволі, падрад, падчас, пакрысе*...» — рускаму прыслоўю *подряд* у беларускай мове адпавядаюць наступныя словы: 1. запар, засаб; прытном, спрытна; 2. агулам, без разбору (пвд РБС).

**§ 37.1:** «*Не* пішацца разам: ... з прыметнікамі ...: *неабгрунтаваны*...» — лексема *абгрунтаваны* з'яўляецца не прыметнікам, а дзеепрыметнікам.

«Наяўнасць паясняльных слоў, як правіла, не ўплывае на напісанне разам *не* з прыметнікамі: *незнаёмы нам аўтар, невядомыя навуцы факты, незразумелыя вучню словы*...» — лексемы *незнаёмы*, *невядомы, незразумелы* сапраўды з'яўляюцца прыметнікамі, аднак паходжаннем з дзеепрыметнікаў, на што ўказваюць характэрныя суфіксы *-ом-/-ём-*, *-л-*; факт узнікнення пры іх залежных слоў, выражаных іменнымі часцінамі мовы, сведчыць па іх пэўную кантэкстуальную прэдыкатыўнасць, інакш кажучы, у такім кантэксце яны хутчэй паводзяцца як дзеепрыметнікі, а не як прыметнікі. Таму пададзеныя ілюстрацыі нельга лічыць удалымі.

«*Не* пішацца разам: ... з дзеепрыметнікамі, пры якіх адсутнічаюць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне: *неспрыяльнае* (надвор'е), *неабсяжны* (прастор), ... *няўлоўны* (гук), *нястрымны* (смех), ... *няпоўнае* (вядро), *няспелы* (яблык), *нясмелае* (дзіця)...» — усе пералічаныя лексемы з'яўляюцца не дзеепрыметнікамі, а прыметнікамі; два апошнія, *няспелы* і *нясмелы*, гістарычна былі дзеепрыметнікамі, аднак на сённяшні дзень імі не з'яўляюцца.

**§ 38.5:** «*Пазбіраць іх* [людзей] *толькі трэба* **<,>** *ды на добрую дарогу наставіць, ды даць ім добрага камандзіра.* (Я. Колас)» — мы даставілі адсутную ў Праекце кос-

ку пры аднародных частках састаўнога дзеяслоўнага выказніка: ⊖**,** ды ⊖, ды ⊖.

**Глава 4.1:** «*Цэнтрвыбаркам* (*цэнтральны выбарчы камітэт*)» — 1) павінна быць адпаведнасць паміж рэгістрамі ў словах ***Ц****энтрвыбаркам* і ***Ц****энтральны*; 2) замест *Цэнтральны выбарчы камітэт* трэба: *Цэнтральная выбарчая камісія*.
«*ваенкам* (*ваенны камітэт*)» — трэба: *камісар* (пвд ТСБМ).

**Глава 4.2:** «*ЗШБ* (Злучаныя Штаты Бразіліі)» — сучасная назва краіны: Федэратыўная Рэспубліка Бразілія.

**Глава 4.3:** *БелЭКСПА* — неабгрунтаванае напісанне вялікімі літарамі (падкрэслена), бо гэта скарачэнне ад *экспазіцыя*, *экспанаваць*; таму мае быць: *БелЭкспа*.

**Глава 4.4:** «У некаторых абрэвіятурах напісанне можа не адлюстроўваць натуральнае вымаўленне: *ТЮГ* — Тэатр юнага гледача (вымаўляецца [ц’у**г**])» — не паглыбляючыся ў пытанне, наколькі абгрунтавана менавіта такое прачытанне згаданай абрэвіятуры, адзначым толькі, што ў беларускай мове гук [г] на канцы слоў існаваць не можа, бо пераходзіць у парны глухі — [х]: [ц’у**х**].

**Глава 19:** форма мн. ліку Р. скл. *аэрапарт**оў*** — памылковая, для запазычанняў увогуле характэрна меншая рухомасць націску ў склонавых формах, таму і ў СБМ — *аэрапорт**аў***.

**Глава 17.6:** «*у полымі напалм**а***» — трэба: *напалм**у*** (пвд СМБ).

**Глава 21.8:** форма мн. ліку Т. скл. *паклажамі* — паводле СБМ, лексема *паклажа* фактычна належыць да групы singularia tantum (г. зн. ужываецца толькі ў адзіночным ліку).

# ПАДВОДЗЯЧЫ РЫСУ

## Экспрэс-ацэнка

### Арганізацыйны аспект

Каб наша ацэнка Праекта ў названым аспекце абапіралася на бесстароннія крытэрыі, выпрацаваныя трэцім бокам, звернемся да супастаўлення дакумента з «некаторымі агульнымі параметрамі, якія з’яўляюцца істотнымі падчас рэфармавання розных моў»[39] (гл. табліцу 9).

### Зместавы аспект

А тут ахарактарызуем дакумент праз яго адпаведнасць мэтам (гл. табліцу 10), маніфеставаным самімі аўтарамі Праекта ў шматлікіх інтэрв’ю. Мы стараліся пазнаёміць чытача з гэтымі мэтамі, змяшчаючы адпаведныя фрагменты з інтэрв’ю ў якасці эпіграфаў да асобных раздзелаў гэтай публікацыі.

[38] Наша Ніва. 2006. 1 верасня.

[39] Запрудскі, Сяргей. Правапісныя рэформы ў славянскіх літаратурных мовах у XX стагоддзі: Даклад на

Табліца 9.

| | Параметр | Каментарый |
|---|---|---|
| 1. | Абумоўленасць рэформы рэальнымі недахопамі функцыянавання правапісу ў грамадстве. | Неабходнасць змен усведамляецца большасцю актыўных носьбітаў мовы. |
| 2. | Час увядзення рэформы. | Вельмі неспрыяльны час для функцыянавання беларускай мовы. |
| 3. | Форма ўвасаблення прынятых змен. | Праект выдання «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». |
| 4. | Пераемнасць прынятых моўных навацый з вынікамі папярэдніх абмеркаванняў. | Абмеркаванне мела закрыты характар, таму пра ступень пераемнасці прапаноў адносна вынікаў папярэдняй дыскусіі можна меркаваць толькі паводле другаснай інфармацыі. |
| 5. | Вырашэнне ў працэсе моўнага рэфармавання непасрэдна не звязаных з функцыянаваннем правапісу задач (ідэалагічных, палітычных, нацыянальных, рэлігійных і інш.). | Несумненна, акцыя мае на мэце вырашэнне не толькі моўных задач. Ад далейшых каментарыяў на гэты конт мы ўстрымаемся. |
| 6. | Уплыў на змест рэформы сітуацыйных чыннікаў. | Дастаткова заўважны, найперш у сувязі з пп. 2 і 5. |
| 7. | Кола ўдзельнікаў працэсу. | Адносна вузкае: некаторыя супрацоўнікі сістэмы адукацыі (найперш выкладчыкі і метадысты беларускай мовы) і беларускамоўных выданняў. |
| 8. | Аўтарства тэксту, што ўвасабляе сабой рэформу. | У рыхтаванні тэксту прымалі ўдзел прыкладна 10 чалавек. |
| 9. | Наяўнасць падчас правядзення рэформы якіх-небудзь адхіленняў ад працэдуры, якая можа разглядацца як усталяваная. | Найгрубейшае парушэнне працэдуры — канфідэнцыйны характар абмеркавання: тэкст Праекта не быў надрукаваны для публічнага азнаямлення; кола людзей, якія мелі магчымасць пазнаёміцца з тэкстам шчыльна кантралявалася кіраўніцтвам аўтарскага калектыву. |
| 10. | Ступень вастрыні процістаяння «кансерватыўнага» і «рэфарматарскага» лагераў. | Нешматлікія газетныя рэцэнзіі востра крытыкавалі «папярэдняка» Міністэрскага праекта — першую рэдакцыю праекта Падлужнага. Сутнасны бок Міністэрскага праекта крытыкуецца толькі намі, бо шырэйшае грамадства не ведае зместу Праекта. |
| 11. | Блізкія і доўгачасовыя наступствы прыняцця рэформы. | Блізкія наступствы: мяркуецца зніжэнне колькасці абітурыентаў, якія пажадаюць здаваць тэст па беларускай мове. У выніку чакаецца зніжэнне цікавасці да названай дысцыпліны з боку школьніцтва. Доўгачасовыя наступствы: ускладненне выкарыстання беларускай мовы ў навукова-тэхнічнай сферы. |

Табліца 10.

| Мэта Праекта | Ці дасягнута мэта | Каментарый |
|---|---|---|
| Удакладненне правапісу | Не | У Праекце яшчэ больш лакун, памылак і супярэчнасцяў, чым у Зводзе-1959. |
| Абнаўленне ўсяго арфаграфічна-пунктуацыйнага звода | Не | Праект рэпрэзентуе той жа ўзровень развіцця беларускай мовазнаўчай думкі, што і Звод-1959, бо ў асноўным з'яўляецца кампіляцыяй самога Звода-1959 і некаторых іншых даведнікаў савецкага часу. |
| Спрашчэнне правапісу | Часткова | Пэўныя змены на карысць спрашчэння правапісу з лішкам «кампенсуюцца» новымі ўскладненнямі. Некаторыя спрашчэнні змяншаюць сэнсаадрозныя ўласцівасці пісьма. |

## Дэміургі і герастраты

*Я лично считаю, что если ты не знаешь, не понимаешь, не объясняешься, не изъясняешься, не пишешь на белорусском языке, то ты не белорус.*

А. Лукашенко[40]

За дзесяцігоддзе працы над дакументам у топку Праекта дзяржава ўкінула немалыя бюджэтныя сродкі, і цяпер кіраўніцтва Праекта мусіць здаваць справу перад фундатарам: чаму паравоз так і не ператварыўся ў лакаматыў ды так і не дасягнуў канцавога пункту? Аднак часам лепш згадзіцца са стратаю і не есці купленага за вялікія грошы, але нясвежага пірага, чым атруціцца ім.

У часы зняверання і расчараванняў цяжка быць дэміургам, але можна не быць герастратам.

## Перш як паставіць кропку

*Кансерватызм у правапісе значна лепшы, чым частыя рэформы.*

А. Падлужны[41]

За найлепшы вынік публікавання наступнага тэксту была б **канчатковая адмова ад любых змен у правапісе да моманту вяртання беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай**.

*Аўтар шчыра дзякуе Юрасю Бушлякову, Уладзімеру Вайсману, Пятру Садоўскаму, Міхасю Скоблу ды Ілоне Урбановіч-Саўцы за дапамогу ў рыхтаванні публікацыі*

XII Міжнародным з'ездзе славістаў. Мн., 1998. С. 3.

[40] БелТА. 2006. 23 лістапада.

[41] Наша слова. 1992. 16 снежня.